# Białoruskie Towarzystwo Historyczne






**Skład:** Adam Pawłowski
**Korekta:** Witalis Łuba
**Wydawca:** Białoruskie Towarzystwo Historyczne
**Adres redakcji:** 15-449 Białystok, ul. Proletariacka 11, tel. 85 744 61 11
**E-mail:** ebma@interia.pl
**Strona internetowa:** http://bzh.kamunikat.org
**Nakład:** 500 egz.

Zrealizowano:
— dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji,
— przy pomocy finansowej Urzędu Marszałkowskiego Województwa Podlaskiego


Ministerstwo
Spraw Wewnętrznych
i Administracji




*Na okładce* (I strona): Беларуская паштоўка „Беларускі нацыянальны штандар” (1919),
(IV strona): Нацыянальныя сцягі на вуліцах Менска ў жніўні 2020 г.

# Spis treści

## artykuły



## In memoriam

## Contents

# academic papers

**Наталля Сліж**
(Гродна)

# Падаткі і іх збор у Гародні ў XVI-XVII стст.[1]

Эканоміцы гарадоў цяпер надаецца не так шмат увагі, асабліва калі гэта датычыцца канкрэтнага горада. Адсутнасць вялікага комплексу падатковых дакументаў за XVI-XVII стст. значна ўскладняе гэту справу, што было адзначана польскім даследчыкам Пшэмыславам Баровікам. Больш дакументаў захавалася за XVIII стагоддзе[2]. У гістарыяграфіі таксама звярталася ўвага на скарачэнне даходаў горада ў сувязі з наступам шляхты і духавенства на яго тэрыторыі[3].

Вывучэнне эканамічнай сітуацыі ў гарадах застаецца актуальным і сёння. Яна паказвае ўзровень развіцця горада, яго становішча ў краіне ў параўнанні з іншымі гарадамі. Дадзены артыкул прысвечаны падаткам і іх збору ў XVI-XVII стст. У працы звяртаецца ўвага на наступныя аспекты: падаткі горада, іх выплаты, вызваленне ад падаткаў, судовыя справы з-за падаткаў. Даследаванне базуецца на інвентарах Гародні, квітах аб атрыманні падаткаў, судовых справах. Аднак усе крыніцы носяць фрагментарны характар. Фінансавыя дакументы горада не захаваліся, хаця яны вяліся бурмістрамі. Ускладняе даследаванне адсутнасць значнай часткі архіва скарбу ВКЛ за XVI-XVII стст. Так, земскі падскарбі ВКЛ Яраш Валовіч падаў сведчанне ў Метрыку ВКЛ, што скарбовыя квіты згарэлі 26 верасня 1606 года, калі ён ехаў з Навагародка ў Гародню. Па дарозе Валовіч спыніўся ў маёнтку Жалудок Яна Францковіча, у доме гасцінным жыда. Будынак загарэўся, а Валовіч ледзь выскачыў з яго. Сярод іншага згінулі рэчы на 2 вазах, квіты на суму 50 000 злотых,

1 Даследаванне выканана дзякуючы навуковай стажыроўцы пры Універсітэце ў Беластоку па праграме „Салідарны з Беларуссю”.

2 P. Borowik, *Źródła do budżetu miasta stołecznego Jego Królewskiej Mości Grodna w II połowie XVII i w XVIII wieku*, [w:] *Repatriacje i migracje ludności pogranicza w XX wieku. Stan badań oraz źródła do dziejów pogranicza polsko-litewsko-białoruskiego*, red. M. Kietliński, W. Śleszyński, Białystok 2004, s. 166-172.

3 С. Щербаков, *Из истории города Гродно*, „Доповіді та повідомлення”, 1957, вип. 7, ч. 2, с. 83-85; той жа, *Шляхетськiй наступ на міста Західної Білорусії в першій половині XVII ст. і криза цехового ремесла*, „Навукові записки Львівского державного університета імені Івана Франка”, 1957, т. XLIII: Питання історії СРСР, вип. 7, с. 92-111.

скарбовыя дакументы і іншае[4]. Таксама не захаваліся фінансавыя рэестры за гэты час. Рэгулярныя дакументы з'яўляюцца толькі з XVIII ст.

*Падаткі горада згодна з рэвізіямі*. Наданне гораду магдэбургскага права цалкам змяніла сістэму падаткаабкладання, што спрыяла развіццю рамяства і гандлю. На горад накладаліся рознага віду падаткі ў XVI-XVII стст. Часам былі падаткі ў сувязі з надзвычайнымі сітуацыямі. Зборы выплачваліся з самога горада і прыналежных да яго вёсак. Мяшчане былі выключаны з сістэмы дзяржаўнага кіравання і рашэнні па эканамічных пытаннях належалі шляхце[5]. На соймах прымаліся рашэнні пра ўсе віды падаткаў.

Важнае значэнне для горада мела правядзенне валочнай памеры 1558-1561 гг. Былі вымераны пляцы на кожнай вуліцы, а таксама ў гарадскіх вёсках. На правым беразе Нёмана знаходзіліся рынак і 543 пляцы (агульна 2440/6 ½ прута). З іх 421 пляц прыходзілася на мяшчан, замкавых рамеснікаў і жыдоў. За Нёманам гарадскіх пляцоў было 173 (1500 прутоў). Паводле памеры першы раз выбіраў чынш у 1560 годзе войт Павел Міцкевіч. Да горада адносіліся сёлы Манчын (49 валок[6]), Грандзічы (40 валок), Перахрыставічы (8 сярэдніх валок), Дзегцяры (4 валокі), Хадарова ці Каханова (30 валок), Панямунь (6 валок), Алішковічы (2 ½ валокі), Адамовічы (30 валок), Карлава (17 валок), Баранавічы (30 валок), Каўбасіна (33 валокі), Гнойніца (18 валок), Малахавічы (16 валок), Альшанка (44 валокі), Гібулічы (24 валокі), Цвіклічы (17 валок), Палаткова (11 валок), Тарусовічы (10 валок)[7]. Чынш даваўся

4 Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (далей: НГАБ), КМФ-18, спр. 288, арк. 655-655 адв.

5 Пра сістэму падаткаў у ВКЛ гл.: М. В. Довнар-Запольский, *Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах*, т. 1, Киев 1901, с. 363-798; A. Filipczak-Kocur, *Z dziejów litewskiego skarbu nadwornego za Zygmunta III Wazy*, [w:] *Między Wschodem a Zachodem. Rzeczpospolita XVI-XVIII w.*, Warszawa 1993, s. 77-86; taż, *Skarbowość Rzeczypospolitej 1587-1648. Projekty - ustawy - realizacja*, Warszawa 2006; У. Падалінскі, *Ухваленне падаткаў на вальных соймах Рэчы Паспалітай як фактар палітычнай барацьбы (1593-1598 гг.)*, „Сацыяльна-эканамічныя і прававыя даследаванні", 2009, № 3, с. 157-176; Л. Жеребцова, *Структура таможенной системы Великого Княжества Литовского в конце XV — середине XVI вв.*, „Ukraina Lithuanica", 2009, т. 1, с. 144-161; А. Ціла, *Скарб Вялікага Княства Літоўскага падчас Дваццацігадовай вайны (1648—1667 гг.)*, пераклад з літоўскай мовы А. Мікуса, Смаленск 2015.

6 У дужках падаем валокі, пра якія адзначаны сярэднія, сенажаці і іншыя не ўваходзяць у лічбу.

7 Усё вёскі знаходзіліся недалёка ад Гародні. Шэраг з іх існуе і цяпер. Апісанне гарадскіх вёсак гл.: P. Borowik, *Jurydyki miasta Grodna w XV-XVIII wieku. Stanowy podział nieruchomości*, Supraśl 2005, s. 257-289.

з кожнай валокі па 40 грошаў. Усе мяшчане павінны былі выплачваць падводны падатак[8] войту і месцкаму пісару. Каморнікі, якія жылі ў горадзе, але не мелі сваіх дамоў у скарб уносілі за кожны год па 2 грошы. Разнікі давалі ад мернай бочкі, як гэта вызначана ў статуце вялікага князя. Млыны былі аддадзены ў арэнду гарадзенскім жыдам Якубу Яўлевічу і Стасько Хаймовічу на тры гады, ад 1560 і да 1563 гг. З іх выплачвалася ў скарб 62 капы спраўцу двароў каралеўскіх Себасцяну Дыбоўскаму. Млыны на той час патрабавалі рамонту. Маставое арандаваў староста Леў Міхайлавіч за 55 коп, а з 1562 г. — 70. Саладоўні трымалі ў арэндзе жыды — берасцейскі Якуб Яўлевіч і гарадзенскі Машко Хаймовіч. Кожны год павінны яны плаціць па 150 коп, але з-за пошасці былі страты і яны былі вызвалены на год ад выплат. Арэнда пачыналася з 1560 года. За два гады сума склала 200 коп. Гарадскія бровары мяшчане ўзялі ў арэнду і абавязаны былі даваць 30 коп і болей[9].

Згодна з інвентаром Гарадзенскага староства 1578 года агульная тэрыторыя горада складала 323,159 лана. З іх браўся падатак 236 коп і 17 грошаў. Разам з гарэлачным чыншам (50 коп) сума выплат складала 286 коп 17 грошаў 5 пенязей. Акрамя таго з корчмаў плацілі 120 коп. У розных мяшчанскіх вёсках каля Гародні былі вызвалены ад выплат: Жмойцкі (8 валок), Андрэй Война (2 валокі), блонскі і ваўкініцкі староста Каспер Кладзінскі (21 валока), кухмістр ВКЛ Мікалай Сапега (11 валок), Гатоўскі (4 валокі), Мікашэвіч[10] (2 валокі), Жалігоўскі[11] (5 валок), Андрэй Квач (6 валок), Іван Тарасовіч (5 валок), на мерніцтва (3 валокі)[12]. Усе пералічаныя асобы, акрамя мяшчан А. Квача і І. Тарасовіча былі шляхтай.

Рэвізію ў Гарадзенскім старостве ў 1639 годзе праводзілі ўпіцкі маршалак Крыштаф Белазор і Тамаш Піўніцкі. Уладзіслаў Ваза выдаў ім адпаведную інструкцыю. Сярод іншага адзначалася, што ў Гародні гарэлачная арэнда павінна быць як у іншых гарадах. Таксама зборы

[8] Падатак з падвод (падводны падатак) плацілі практычна ўсе гарады. Напрыклад, парадак выплаты падводнага Менску быў падрабязна апісаны ў лісце Жыгімонта Аўгуста 1558 г. НГАБ, КМФ-18, спр. 285, арк. 16-17.

[9] Lietuvos valstybės istorijos archyvas, (далей: LVIA), f. 1274, ap. 1, b. 61, l. 96; Vilniaus universiteto biblioteka, f. 4-A 1475, l. 37-38; Archiwum Główne Akt Dawnych (далей: AGAD), Archiwum Radziwiłłów (dalej: AR), dz XVIII, sygn. 318, k. 49-52; *Писцовая книга Гродненской экономии* (далей: *ПКГЭ*), ч. 2, Вильна 1882, с. 55-56, 64, 67-96, 118.

[10] Верагодна гарадзенскі шляхціч Міклашэвіч Кміт.

[11] Верагодна гарадзенскі шляхціч Жалігоўскі Якуб.

[12] AGAD, Archiwum Skarbu Koronnego, dz. LVI, G 8, k. 2, 18v. Пры пераліку прозвішчаў асоб, якія вызвалены ад падаткаў імёны згадваліся не ва ўсіх выпадках.

з млыноў, перавозаў і капшчызна павінны ісці на пажытак скарбу. Адносна мяшчан адзначалася спраўдзіць выплату чыншаў з гарадскіх вёсак[13].

Пасля правядзення рэвізіі мяшчане выклікалі ў суд рэвізораў Крыштафа Белазора, Тамаша Піўніцкага і Паўла Срэдзінскага, пісара скарбовага ВКЛ, бо сцвярджалі аб супраціўленні мяшчан пастановам сойма і зневажэнні рэвізораў, свавольстве ў выплатах і інш. Спрэчным пунктам сталі гарадскія вёскі і выплаты з іх падаткаў. Яны былі рэвізорамі аднесены да староства, адпаведна мяшчане прызнаны як свавольныя і неплацельшчыкі падаткаў. Мяшчане пацвердзілі свае маёмасныя правы прывілеямі 1502 і 1633 гг. Рэвізоры на суд не з'явіліся. Горад захавалі ў правах згодна з магдэбургскім правам (1639)[14]. Па сутнасці статус горада павінен быў быць вядомы рэвізорам. Не выключаем сітуацыю, што ім было загадана так правесці рэвізію, каб мяшчане сталі сялянамі і атрымаць грошы ў скарб. Калі б мяшчане не падалі адпаведную скаргу, то гэта магло ўжо захавацца на доўга.

У 1650 годзе была праведзена чарговая рэвізія Гарадзенскага староства. Сярод іншага ўвага была звернута на горад. Было адзначана, што згодна з прывілеем Жыгімонта Аўгуста 1571 года мяшчан вызвалілі ад выплаты чыншу з валок, талок, прутовых. У выніку грошы не паступалі ў скрыню магістрата каля 90 год. За гэты час магла быць немалая сума, за якую можна было зрабіць мост праз Нёман. Яго не было ўжо як 18 год. У дакуменце было заўважана, што магістрат больш займаўся сваімі справамі, чым грамадскімі. Пры гэтым да горада адносіліся вёскі, з якіх таксама мог ісці даход. Яны сфарміраваліся дзякуючы пацвярджэнню куплі мяшчан зямлі ў Гарадзенскім павеце ў перыяд Казіміра Ягелончыка (1502). Прывілей 1561 года ўсталёўваў з валокі 40 грошаў чыншу, якія не плаціліся. Мяшчане не змаглі дацьураднікам тлумачэнне дадзенай фінансавай сітуацыі[15].

У дакуменце была прыведзена інфармацыя з валочнай памеры 1558 года адносна пляцоў і прутоў. У горадзе налічвалася 543 пляцоў і 2442 6 ½ прутоў. З іх плябанскіх 37 пляцоў (прутоў 124 ½), шляхецкіх 41 пляц (прутоў 352), волпенскіх 15 вольных пляцоў (47 ½ прутоў), 1 царкоўны пляц (5 прутоў), 1 пляц жыдоўскі на школу (1 прут). На горад прыходзілася 448 пляцы (2920 / 6 ½ прутоў). У сувязі з фундацыямі касцёлаў — езуіцкі калегіум са школай на Рынку, брыгіцкі кляштар

[13] *ПКГЭ*, ч. 2, Вильна 1882, с. 169-172.
[14] НГАБ, КМФ-18, спр. 319, арк. 586 адв.-588 адв.
[15] НГАБ, ф. 1882, воп. 1, спр. 1, арк. 710 адв.

з касцёлам на вул. Азёрскай[16], кляштар бернардынак на вул. Маставой і кляштар бернардынцаў на Панямуні[17], кляштар дамініканцаў на вул. Віленскай са шпіталем[18] — адышло ад горада 198 пляцоў. Пад гарадской юрыдыкай засталося 250 пляцоў. З іх плацілі па старому звычаю толькі падводныя грошы — па 2 грошы з пляца. Агульна гэта склала — 8 коп 20 грошаў.

Усяго налічвалася 400 валок пры горадзе паводле памеры 1558 года. Да горада адносіліся сёлы Манчын (49 валок), Грандзічы (40 валок), Алешковічы (2 ½ валокі), Перахрыставічы (8 валок), Дзегцяры (4 валокі), Хадарова ці Каханова (30 валок), Панямунь (6 валок), Адамовічы (30 ½ валокі[19]), Карлава (17 валок), Баранавічы (30 валок), Каўбасіна (33 валок), Гнойніца (18 валок), Малахавічы (16 валок), Альшанка (44 валокі), Гібулічы (24 валокі), Цвіклічы (18 валок[20]), Палаткова (8 валок[21]), Тарусовічы (10 ½ валокі[22]), Сухое Сяло (13 валок[23]).

З гэтых валок былі вызвалены ад выплат наступныя. Атрымалі прывілеі езуіты на 2 ½ валокі ў Каўбасіне па прывілею Уладзіслава Вазы (1639) згодна з фундацыяй мечніка ВКЛ Крыштафа Халецкага і яго жонкі Леаноры, у Панямуні 6 валок па прывілею Уладзіслава Вазы (1643), пляц на прадмесці ў канцы вуліцы Плутніцкай над Нёманам і ровам, да яго 12 моргаў, сенажаць пры Азёрскай пушчы за Верцялішкамі (1643), у Малахавічах 4 валокі падараныя Янам Эйсімонтам і Барбарай Камароўскай і пацверджана Уладзіславам Вазам (1645) разам з правам на пляцах на Рынку, дзе знаходзілася рэзідэнцыя езуітаў, студэнцкая бурса, дамы рамеснікаў. Усё было зацверджана па канстытуцыі сойма 1647 года. У Сухім Сяле 4 валокі прыходзіліся гарадзенскаму войту, 10 валок у Альшанцы мелі цэрквы, 6 валок у Адамавічах адышлі праз замену. Брыгіткі атрымалі вызваленне для 30 валок у Хадарове (1646), гарадскіх пляцоў, якія набыў для іх Весялоўскі, свірана ў Мастах, пляцу з цагельняй недалёка ад Нёмана, цагельні каля Рову, Мёлаў, 2 сажалак, 2 пустак на Звярынцу. Дамінікане ў Каўбасіне атрымалі вызваленне

[16] Гарадзенскія брыгіткі атрымалі вызваленне ад падаткаў па канстытуцыі сойма 1647 г. Volumina Legum (далей: VL), t. IV, Petersburg 1860, s. 58.

[17] У дакуменце напісана кляштар бернардынцаў на Панямуні. На той час кляштар быў на ўскрайку горада і межаваў з Панямунню.

[18] Дамініканцы былі вызвалены ад падаткаў па канстытуцыі сойма 1635 г. VL, t. III, s. 421.

[19] У надрукаванай валочнай памеры 30 валок.

[20] У надрукаванай валочнай памеры 17 валок.

[21] У надрукаванай валочнай памеры 11 валок.

[22] У надрукаванай валочнай памеры 10 валок.

[23] У валочнай памеры не згадваецца як гарадское сяло.

на 11 ½ валокі ад гарадзенскага старосты Сапегі (1635). Усяго адышло ад горада 93 валокі, на пляцы засталося 307.

З валок мяшчане павінны былі плаціць па 40 грошаў з валокі, а падводных з валокі па 3 грошы, што разам складала 220 коп і 1 грош. Пры валоках мелася 335 моргаў і 6 прутоў. У адпаведнасці з колькасцю моргаў былі прызначаны выплаты з Грандзічаў — 1 капа і 50 грошаў, з Дзегцяроў — 24 грошы і 5 пенязей, з Перахрыставічаў — 1 капа, 44 грошы і 2 пенязі, з Гнойніцы — 22 грошы, з Адамовічаў — 9 грошаў, з 88 розных ворных моргаў каля Гародні (па 2 грошы з морга) і з 51 ворнага морга (па 1 грошу з морга), з 51 пустога морга (па 5 пенязей з морга) — 4 капы, з 35 моргаў за Нёманам, з 17 моргаў засценка пры гарадскім выгане каля дарогі да Лабна над Нёманам, і сенажаці — 3 капы і 37 грошаў. Падводных плаціць з 193 моргаў, з морга па 4 пенязі, было прызначана агулам 1 капа, 17 грошаў і 2 пенязі.

Сто трыццаць рамеснікаў, 20 мядовых корчмаў, 80 піўных выплачвалі па 1 грошу, што разам складала 4 капы і 30 грошаў, а капшчызна з піўных і мядовых корчмаў за год — 100 коп, гарэлачная капшчызна — 50, перавоз на Нёмане пры горадзе — 400 коп.

З Занёманскай часткі горада падводнае не плацілі, толькі з прутоў, агульна — 3 капы, 30 грошаў і 4 пенязі. Ад выплат былі вызвалены шляхецкія пляцы і кляштар францысканцаў. Усяго з горада мяшчане павінны былі выдаваць 399 коп, 15 грошаў і 3 1/3 пенязі гарадзенскаму эканому і атрымліваць на гэта квіты.

Такім чынам, інвентар 1650 года паказвае змяншэнне тэрыторыі, якая падпарадкоўвалася гораду, што пагаршала яго эканамічную сітуацыю. Шляхта купляла пляцы і атрымлівала вызваленне ад падаткаў. Тое ж адбывалася з тэрыторыямі, якія набываліся для кляштараў[24]. Гэта змяншала тэрыторыю падуладную гораду, а значыць цяжар падаткаў павялічваўся на мяшчан.

Фінансавая сітуацыя ў горадзе значна пагоршылася пасля вайны 1654-1667 гг. Гэта адзначалі ў 1670 годзе камісары — віленскі схаластык, сакратар ЯКМ Аляксандр Катовіч і сакратар ЯКМ Крыштаф Вадзінскі, якія праводзілі агляд горада. У дакуменце згадвалася пра рэалізацыю правоў мяшчан згодна з прывілеем 1496 года. Магістрат выбіраў падаткі і перадаваў іх у скарб. Склад солі існаваў з 1576 года. Ніхто не меў права праехаць з соллю без дазволу бурмістраў і рады. Па пастановах шляхта і духавенства павінны плаціць падаткі. Па рэвізіі

[24] С. Щербаков, *Из истории города Гродно*, с. 83-85; той жа, *Шляхетській наступ на міста Західної Білорусії в першій половині XVII ст. і криза цехового ремесла,* с. 98-99.

1650 года Рылаўцы былі вернуты да горада. З арэнды мяшчане павінны плаціць 750 злотых. На перавозе з іх плата не бралася. Пералічвалася колькасць валок у гарадскіх вёсках Грандзічы ці Манчын 89 валок, Перахрыставічы ці Капліца 8 валок, Дзегцяры 4 валокі, Алікшковічы ці Лапенкі 3 валокі, Адамавічы 17 валок, Карлава ці Міцкевічы 30 валок, Малахавічы 44 валокі, Баранавічы 16 валок, Альшанка 24 валокі, Гібулічы 17 валок, Палаткова 4 валокі, усяго 284 валокі. Магістрату забаранялася аддаляць валокі і прадаваць гарадскія камяніцы пад пагрозай спагнання 3000 талераў на карысць скарбу. З-за свайго ўбоства горад дазволіў 114 валокі выкарыстоўваць іншым асобам, засеяў 116 валок, а пуставала 56 валок. Сума чыншу з горада прызначалася: 250 злотых на выпраўленне эканамічнай сітуацыі, капшчызна — 70 злотых, а вызваленне ад гарэлкі, якое было дадзена 16 ліпеня 1659 года, дзейнічала яшчэ 4 гады[25].

Наступная рэвізія была праведзена ў 1680 годзе. У ёй таксама адзначалася не толькі стан горада на той час, але і падаткі[26]. Згодна з ранейшымі прывілеямі горад павінен быў выплачваць 50 коп падводных. З кожнай валокі даваўся чынш 40 грошаў. У сувязі з вайной Гародня была раней вызвалена ад гарэлачнага чыншу — 50 коп, а зараз ён прызначаўся на адбудову ратушы. Адзначалася, што затрымка яе будаўніцтва была звязана не толькі з ваеннымі стратамі, але таксама з ухіленнем мяшчан ад выплаты падаткаў. У сувязі з чым усталёўвалася сума на ратушу — 4800 злотых і парадак яе збору. Грошы абавязалі сабраць пад пакараннем у суме 1000 коп. Магістрату забаранялася прадаваць гарадскія пляцы пад пакараннем 3000 цвёрдых талераў.

Быў прыведзены спіс гарадскіх вёсак з валокамі: Грандзічы ці Манчын (89 валок)[27], Перахрыставічы (8 валок), Дзегцяры (4 валокі), Алішковічы ці Лапенкі (3 валокі), Адамовічы (30 валок), Карлава ці Міцкевіч (17 валок), Баранавічы (30 валок), Малахавічы (16 валок), Альшанка (44 валокі), Цвіклічы (17 валок), Палаткова (4 валок), Сухое Сяло (9 валок). Усяго налічвалася 295 валок. З іх па ранейшаму плацілі па 40 грошаў ці 50 польскіх грошаў, а ў пераліку на добрую манету 2 злотых і 25 грошаў, а агульная сума з горада — 491 злоты і 20 грошаў, а ў пераліку на добрую манету 835 злотых і 25 грошаў. Акрамя таго, мяшчане плацілі капшчызну 100 коп ці 250 злотых (сума павінна быць павялічана, калі колькасць корчмаў у горадзе перавысіць 100), гарэлачны чынш 50 коп ці 150 злотых. Разам ад горада павінна было ісці ў скарб 1335 злотых 25 грошаў, а да гэтага яшчэ 1300 злотых за арэнду перавозу на Нёмане.

[25] LVIA, f. 110, ap. 1, b. 1.

У 1708 годзе была праведзена чарговая інвентарызацыя Гарадзенскага староства. Адносна горада была змешчана наступная інфармацыя. Пасля Паўночнай вайны ён быў спустошаны. Мяшчане плацілі чынш з падводнымі 262 злотых, капшчызны 50 коп ці 125 злотых, 900 злотых за арэнду перавозу праз Нёман. Сума была зменшана ў сувязі з пагаршэннем эканамічнага стану[28]. Згодна з інвентаром 1712 года выплаты ішлі з гарадскіх вёсак 419 злотых, 16 грошаў і 6 шэлегаў, капшчызна 187 злотых і 15 грошаў, з арэнды парому 1000 злотых[29].

Згодна з рэестрам выбрання чыншу за 1714 год прыводзілася колькасць валок і сума падаткаў: Грандзічы (89 валок; 204 злотых, 21 грош і 12 пенязей), Цвіклічы (17 валок; 56 злотых і 20 грошаў), Капліца ці Перахрыставічы (8 валок; 26 злотых 20 грошаў), Гібулічы (24 валокі; 80 злотых), Дзегцяры (4 валокі; 13 злотых і 10 грошаў), Алішковічы ці Лапенкі (3 валокі), Адамовічы (30 валок; 37 злотых і 15 грошаў), Карлава ці Міцкевічы (17 валок; 33 злотых і 10 грошаў), Баранавічы (30 валок; 80 злотых), Малахавічы (34 валокі; 100 злотых), Альшанка (44 валокі; 113 злотых і 10 грошаў), Палаткова (8 валок; 1 злоты, 3 грошы, 6 пенязей), Сухое Сяло (9 валок; 30 злотых). Усяго выплата склала 840 злотых і 25 грошаў. Пры гэтым былі адзначаны вызваленыя валокі кляштараў і шляхты[30].

Яшчэ адзін дакумент, спасылаючыся на прывілеі, акцэнтуе ўвагу на эканамічных стратах горада. У ім адзначалася пра змяншэнне колькасці гарадскіх выганаў, валок у гарадскіх вёсках[31].

Згаданыя дакументы прадстаўляюць эканамічныя тэндэнцыі ў змене горада. Праз фундацыі і куплі бачна як змяншылася тэрыторыя гарадской юрыдыкі. Таксама адмоўным чынам паўплывалі на стан горада ваенныя дзеянні. Акрамя таго, дакументы паказваюць змену ў падатках за вызначаны перыяд. Таксама перыядычна пасля атрымання магдэбургскага права мяшчанам спрабавалі вярнуць былыя падаткі і вярнуць да стану сялян. Зразумела, што гэта рабілася для атрымання

[26] Ossolineum, rkps. 5620, s. 33-69; *ПКГЭ*, ч. 2, Вильна 1882, с. 179-200; Г. Брэгер, *Дакументы сведчаць,* [у:] *Памяць. Гродна*, Мінск 1999, с. 84-95.

[27] Раней у Манчыне было 49 валок, у Грандзічах — 40 валок.

[28] LVIA, f. 11, ap. 1, b. 1378, (SA 11290), l. 1-5v.

[29] Г. Брэгер, *Дакументы сведчаць*, с. 103-105.

[30] LVIA, f. 110, ap. 1, b. 198.

[31] Дакумент надрукаваны, але няма даты, таксама не згадваецца прычына з'яўлення дакумента. Паводле прыведзенай інфармацыі яго можна датаваць другой паловай XVIII ст. *Wiadomość osiadłości miasta stolicznego JK Mości Grodno obapoł rzeki Niemna, tak co do obrębu siedliska, gruntow i wsiow, iako też co do własności rządu i pożytkow uprzywilejowanych z strony miasta*.

дадатковых грошай у скарб. Шляхта і духавенства атрымлівала эканамічныя ільготы, а цяжар выплат перакладаўся на гарады. Такім чынам ствараўся дысбаланс у эканамічнай сістэме краіны.

*Выплаты падаткаў. Рэестры па зборы падаткаў.* Сумы выплат падаткаў за кожны год не захаваліся. У сувязі з гэтым эканамічны стан горада на працягу XVI-XVII стст. прааналізаваць не падаецца магчымым. Збор падаткаў патрабаваў фіксацыі ў дакументах. Для гэтага з горада прызначаліся спецыяльныя асобы. Яны перадавалі грошы прадстаўніку ад шляхты, які збіраў грошы з усяго павета, а ён — падскарбію. Усё гэта фіксавалася адпаведнымі дакументамі: квітамі аб атрыманні грошай, рэестрамі па зборы падаткаў. Увесь працэс адбываўся пад кантролем старосты.

У 1578 годзе Гародня выплаціла падатак, у тым ліку з валок і продажу гарэлкі, 286 коп 17 грошаў і 5 пенязей[32]. Гарадзенскі падстароста Мікалай Рабей Гнайніцкі быў паборцам з Гарадзенскага павета ў 1593 і 1595 гг. Ён збіраў падаткі з купцоў, пагалоўшчыну з жыдоў, і чопавае[33], а таксама зборы з віна, піва, гарэлкі. На момант складання дакумента Гнайніцкі не дадаў у скарб 49 грошаў. Ён абавязаўся кампенсаваць за свой кошт, калі не збярэ падаткі (1597)[34].

Квіты аб атрыманні падаткаў не так часта сустракаюцца. Напрыклад, Мацей Волак вызнаў, што атрымаў чыншавыя грошы за 1605 год, 50 коп і 2 грошы, па загадзе падскарбія ВКЛ і новагародскага ваяводы Фёдара Скуміна Тышкевіча[35] ад гарадзенскіх бурмістраў праз Станіслава Неапаліту (1606)[36].

Часам падатковыя грошы ішлі на неабходныя мясцовыя разлікі. Так, новагародскі ваявода Фёдар Скумін Тышкевіч у лісце да мяшчан

[32] AGAD, Archiwum Zamoyskich, sygn. 2932, k. 1.

[33] Чопавае — падатак з вырабу і продажу моцных напіткаў у Польшчы і ВКЛ.

[34] НГАБ, ф. 1755, воп. 1, спр. 15, арк. 376 адв.-378.

[35] Фёдар Скумін Тышкевіч неаднаразова выступае ў дакументах як гарадзенскі староста, але гэту пасаду займаў Ян Клюкоўскі. Аднак да гарадзенскіх спраў ён меў непасрэднае дачыненне як староста Гарадзенскай эканоміі з 1589 г. Дакумент на арэнду Гарадзенскага староства ў 1600 г. падрабязна прадстаўляе яго абавязкі. Акрамя таго, Тышкевіч фінансавыя справы вёў як падскарбі ВКЛ. НГАБ, КМФ-18, спр. 85, арк. 84 адв.-86 адв.; *Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego. Spisy. Województwo Trockie XIV-XVIII wiek*, pod red. A. Rachuby, opr. H. Lulewicz, A. Rachuba, P.P. Romaniuk, A. Haratym, przy współpr. A. Macuka i J. Aniszczanki, Warszawa 2009, s. 337; A. Šałanda, *Sąd grodzki grodzieński za czasów Wazów (1587-1668): stan badań i źródła*, „Rocznik Lituanistyczny", 2017, nr 3, s. 49-53, 61, 64.

[36] Lietuvos mokslų akademijos Vrublevskių biblioteka (далей: LMAVB RS), f. 16-207, l. 28.

загадваў заплаціць з чыншу бягучага, 1604 года, за працу ў Ласосне млынару Адаму Гаўловічу 15 коп літоўскіх грошаў (спусціў стаў), грабару Яну Малышэўскаму — 5 коп (засыпаў грэблю)[37].

Падаткі маглі прызначацца на мясцовыя патрэбы. Па канстытуцыі 1647 года павінны былі пабудаваць мураваны мост пад Гародняй, але рашэнне так і не было выканана. Па настойванні павятовых ураднікаў і па згодзе ўсіх саслоўяў для наступных выгод вырашана пабудаваць мураваны мост і правесці ваду ў горадзе. На гэта прызначаліся падаткі з павета, горада, маёмасці духоўных і свецкіх асоб — шэлежнае і чопавае за тры гады. Падскарбію ВКЛ Гедыёну Міхаілу Трызне было даручана пільнаванне справы[38].

Перыядычна скарб меў праблемы са своечасовай выплатай падаткаў, і гэта датычылася не толькі Гародні. 21 лістапада 1592 года земскі падскарбі ВКЛ Дзмітры Халецкі накіраваў ліст войту Паўлу Сколку, бурмістрам, лаўнікам, радцам і мяшчанам Гародні з нагадваннем выплаціць чынш і даходы з горада як за мінулыя гады, так і за 1592 год на свята Трох каралёў. Унізе дакумента было дапісана аб выплатах за выраб гарэлкі, мёду[39]. У 1594 годзе справа паміж Д. Халецкім і магістратам разглядалася ў Трыбунале ВКЛ. Але выкананне рашэння было спынена, бо парушала нормы справаводства[40].

Рэестры па зборы падаткаў з'яўляюцца важнымі крыніцамі па фінансавай сітуацыі ў горадзе. Акрамя таго, яны прыводзяць звесткі па рамесніках, колькасці дамоў і інш. На сённяшні дзень намі выяўлена толькі 5 такіх дакументаў за 1579, 1601, 1609, 1612, 1615 гг.

Згодна з соймавай пастановай 1577 года[41] справаздачу аб выплаце сярэбшчыны і збораў з Гародні праз упіцкага старосту Івана Зарэцкага прадставіў земскаму падскарбію Лаўрыну Войне месцкі пісар Войцех Пескі ў 1579 годзе [гл. дадатак 1]. Паводле яе выплаты былі наступныя: з 18 рынкавых дамоў — па 8 грошаў, з 184 вулічных дамоў — па 4, а з 34 халуп — па 2, з піўных 76 карчом і 5 мядовых — па 10, ад 130 рамеснікаў — па 5, ад 42 таварышаў — па 1, ад 35 купцоў — па 3, ад 17 жабракоў і гультаёў — па 8, ад рыбалова — 4, з гарадскіх валок 269 і ½ — па 12. Разам склала 98 коп і 49 грошаў. Справаздачу па рамесніках і купцах гарадзенскага замку, а таксама жыдоўскія падаткі прадстаўляў

37 LMAVB RS, f. 16-207, l. 22.
38 VL, t. V, s. 400.
39 LMAVB RS, f. 16-207, l. 11.
40 Дакладныя абставіны справы ў дакуменце не прыведзены. НГАБ, ф. 1755, воп. 1, спр. 13, арк. 471 адв-473.
41 VL, t. II, s. 176-181.

староста. На той час Г. Хадкевіч памёр і гэта павінны былі выканаць яго нашчадкі. Акрамя таго, частка грошай не дайшла з прычыны пажару на тэрыторыі гарадскіх вёсак (33 1/6 валокі, па 12 грошаў з кожнай, усяго 6 коп і 38 грошаў). Аб гэтым сведчыў ліст рэвізора Фёдара Кунцэвіча. Не было выплачана з 3 пустых рынкавых дамоў, 23 вызваленых вулічных дамоў, з дома войта і 3 яго карчом, 1 дома, які належаў цэху, 2 корчмаў шпіталя, 5 вольных шляхецкіх дамоў, 10 вольных валок цэркваў, 8 вольных валок для вайсковай службы Л. Войны, 19 валок Ганны Масальскай. Шляхта не захацела даваць сярэбшчыну з 40 валок: Каспер Кладзінскі (3 валокі), Матыс Падоскі і Беняш Млынскі (21 валока), Макар Курч (2 валокі), нашчадкі нябожчыка Івана Макаровіча (6 валок), Якуб Жалігоўскі (5 валок), Сямён Валовіч (1 валока), Андрэй Эйсімант (2 валокі). Акрамя таго гарадзенскія мяшчане не выплацілі сярэбшчыну за 1573, 1575, 1576 гады[42].

Ян Боўфал праз свайго брата Пятра прадставіў справаздачу па зборы падаткаў з павета і горада перад падскарбіем ВКЛ Андрэем Завішам у 1601 годзе[43]. З горада браўся ланавы і шосавы падаткі. З дамоў браліся наступныя зборы: з 48 рынкавых прывілеяваных па 16 грошаў, 12 рынкавых непрывілеяваных па 10 грошаў, з 73 дамоў па 8 грошаў, з 85 дамоў па 6 грошаў, з 624 вулічных непрывілеяваных па 8 грошаў, з 1375 дамоў па 4 грошы, з 2 убогіх дамоў па 3 грошы, з 507 халуп па 2 грошы, з 27 гарадскіх агароднікаў па 2 грошы, з 771,5 агароднікаў і незабудаваных пляцоў па 1 грошу.

Прыводзіўся спіс рамеснікаў з выплатай падаткаў. Плацілі 38 пекарак па 1 злотым, 48 пекарак па 15 грошаў, сельская пекарка 8 грошаў, 28 разнікоў па 1 злотым, 27 разнікоў па 15 грошаў, 2 аптэкары па 3 злотых, аптэкар і цырульнік па 1 злотым, 10 краўцоў па 1 злотым, 8 краўцоў па 15 грошаў, 3 кушняры па 1 злотым, 5 кушняроў па 15 грошаў, злотнік 2 злотых, 2 злотнікі па 1 злотым, 3 мечнікі і 4 кавалі па 1 злотым, 12 кавалёў па 15 грошаў, 30 шаўцоў па 1 злотым, 5 шаўцоў па 15 грошаў, 20 гарбароў па 1 злотым, 3 гарбары па 15 грошаў, 15 саленнікаў па 1 злотым, 3 саленнікі па 15 грошаў, 2 крамнікі і 14 купцоў па 1 злотым, 14 купцоў па 12 грошаў, 3 купцы па 8 грошаў, 16 розных рамеснікаў па 1 злотым, 166 рамеснікаў па 15 грошаў, 12 рамеснікаў па 10 грошаў, 33 рамеснікі па 8 грошаў, 27 рамеснікаў па 6 грошаў, 13 рамеснікаў па 5 грошаў, 52 рамеснікаў па 4 грошы, 1 дудар па 1 злотым, 4 дудары па 15 грошаў, 50 рыбаловаў па 8 грошаў, 46 каморнікаў па 6 грошаў, 41 каморнік па 2 грошы, рускі поп па 1 злотым.

[42] LMAVB RS, f. 16-207, l. 8-8v.
[43] НГАБ, ф. 1755, воп. 1, спр. 23, арк. 337 адв.-339.

У 1609 годзе рэестр збораў шосавага і ланавага з Гародні быў складзены гарадзенскім земскім пісарам Стэфанам Няшкоўскім[44]. Гарадзенскі харужы Якуб Кунцэвіч даручыў сабраць падаткі згодна з пастановай варшаўскага сойма[45]. Зборам займаўся Вінцэнт Швайцэр. На той час гарадскіх валок налічвалася 398 ½ 2/3. З іх прыходзілася „рускім папам" (5 валок), Прачысценскай царкве (10 валок); трымалі на земскай службе жонка вышаградскага кашталяна Каспера Кладзінскага — Ганна Масальская (21 ½ валокі), Мірэўскі (2 валокі), Андрэй Квач (6 валок), берасцейскі кашталян Сокал Война (5 1/3 валокі), крайчы ВКЛ, гарадзенскі староста Андрэй Война (12 валок у Хадарове і 4 у Дзегцярах), лоўчы ВКЛ Мікалай Нарушэвіч (8 валок у Грандзічах), кухмістр ВКЛ Мікалай Сапега (11 ½ валокі). Шляхта свае падаткі плаціла асобна. Акрамя таго выплаты не рабіліся з 2-х Кудаеўскіх валок з-за вялікага збяднення, 3-х валок Вінцэнта Швайцэра і 22 валок пагарэльцаў. Сярод апошніх згадваліся Ян Мерэеўскі (4 ½ валокі), Андрэй Мечнік (3 ½ валокі), жонка Івана Тарасовіча Агнешка Мацееўна (14 валок). З прычыны пабіцця градам у 1608 годзе не быў выдадзены збор за 1609 год. З 21 ½ 1/3 валок і 12 сельскіх рамеснікаў было агульна сабрана 2,12 злотых.

Усяго ў горадзе налічвалася 264 дамоў. З 19 дамоў на Рынку (1 згарэў А. Мацееўны, вызвалены ад падаткаў) плацілі па 16 грошаў, агульна — 9,18 злотых. З 245 вулічных дамоў і незабудаваных пляцоў 7 даўно пагарэлі, а з 16 пустых 10 атрымалі вызваленне ад выплат па прычыне пажару. Сярод іх 3 дамы Яна Мерэеўскага, 2 дамы Андрэя Мечніка, 5 дамоў А. Мацееўны. Акрамя таго было 16 пустых халуп, дзе жылі ўбогія. З 15 выкупленых дамоў шляхтай падаткі не плацілі, яшчэ 2 дамы былі вызвалены. Такім чынам былі сабраны грошы з 143 вулічных дамоў па 8 грошаў (агульна 38,4 злотых), з 18 дамоў на прадмесці па 4 грошы (агульна 2,15 злотых), з 14 убогіх халуп па 28 грошаў, а Лукаш Ейсімант з 7 халуп асобна плаціў.

Асобна збіраліся грошы з рамеснікаў: з 8 разнікоў па 30 грошаў (разам 8 злотых), з 4 аптэк па 45 грошаў (разам 4,15 злотых), а аптэкар Ян (Мерэеўскі) не плаціў з-за пажару, а з беднага аптэкара 15 грошаў, з цырульніка 2 злотых, з беднага цырульніка 1 злоты, з 6 краўцоў па 30 грошаў (разам 6 злотых), з 2 бедных краўцоў па 15 грошаў (разам 1 злоты), з кушняра 30 грошаў (разам 1 злоты), з убогага кушняра 15 грошаў, з 13 шаўцоў па 30 грошаў (разам 13 злотых), з 2 убогіх шаўцоў па 15 грошаў (разам 1 злоты), з убогага злотніка 1 злоты, з 2 кавалёў

44 LMAVB RS, f. 16-207, l. 31-32.
45 VL, t. II, s. 475-478.

па 30 грошаў (разам 3 злотых), з катляра 1 злоты, з 3 мечнікаў па 30 грошаў (разам 3 злотых), 4-ы мечнік Андрэй вызвалены ад выплат з-за пажару, з 4 рымараў па 30 грошаў (разам 4 злотых), з убогага рымара 15 грошаў, з 19 пекараў па 30 грошаў (разам 19 злотых), з 10 убогіх па 15 грошаў (разам 5 злотых), з бондара 30 грошаў, з убогага бондара 15 грошаў (разам з бондараў 1,15 злотых), з пастрыгача 1 злоты, 17 гарбароў па 30 грошаў (разам 17 злотых), з мылавара 1 злоты, а другі мылавар кінуў рамяство, з ткача 1 злоты, з 4 шапнікаў па 30 грошаў (разам 4 злотых), з 2 убогіх шапнікаў па 15 грошаў (разам 1 злоты), з 3 муляраў па 30 грошаў (разам 3 злотых), са стальмаха 1 злоты, з 12 купцоў па 30 грошаў (разам 12 злотых), з 3 убогіх купцоў па 15 грошаў (разам 1,15 злоты). Агульная сума склала 323 злотых і 12 грошаў.

Дадзены рэестр збораў з'яўляецца каштоўнай крыніцай па колькасці дамоў, а таксама па колькасці рамеснікаў. Пры зборы падаткаў бачна дыферэнцыяцыя выплат па месцы знаходжання дома: на Рынку, на вуліцы, на прадмесці. Самымі беднымі лічыліся халупы. Агульная колькасць рамеснікаў склала 113 асоб, а купцоў — 15. Найбольшая лічба прыходзілася на пекараў — 29. Падаткі браліся ў адпаведнасці з заможнасцю.

Дзякуючы спісу падаткаў можна прадставіць пералік прафесій і лічбу асоб, якія імі займаліся: разнікі (8), аптэкары (4), цырульнікі (2), краўцы (8), кушняры (2), шаўцы (15), злотнік, кавалі (2), катляр, мечнікі (4), рымары (5), пекары (29), бондары (2), пастрыгач, гарбары (17), мылавар, ткач, шапнікі (6), муляры (3), стальмах.

Яшчэ адзін рэестр са зборам ланавага і шосавага падатку паходзіць з 1612 года Ён быў прадстаўлены падскарбію земскаму ВКЛ Ярашу Валовічу гарадзенскім падсудкам Янам Боўфалам праз сябра Габрыэля Катлубая[46].

З горада браліся наступныя зборы. З дамоў выплачвалі з 47 рынкавых прывілеяваных па 16 грошаў, 243 рынкавых непрывілеяваных па 6 грошаў, з 1379 вулічных непрывілеяваных па 4 грошы, з 669 вулічных прывілеяваных дамоў і рынкавых па 8 грошаў, з 6 убогіх дамоў па 3 грошы, з 624 халуп па 2 грошы.

Прыводзіўся спіс рамеснікаў з выплатай падаткаў. Плацілі 55 пекарак па 15 грошаў, бедная пекарка па 12 грошаў, сельская пекарка 8 грошаў, 3 пекаркі па 6 грошаў, 24 разнікі па 1 злотым, 36 разнікоў па 15 грошаў, бедны разнік 12 грошаў, 2 аптэкары па 3 злотых, цырульнік 1 злоты, бедны аптэкар 15 грошаў, 10 краўцоў па 1 злотым, 6 краўцоў

[46] НГАБ, ф. 1755, воп. 1, спр. 23, арк. 339-341 адв.

па 15 грошаў, 3 кушняры па 1 злотым, 2 кушняры па 15 грошаў, 26 шаўцоў па 1 злотым, 13 шаўцоў па 15 грошаў, бедны шавец 12 грошаў, другі бедны шавец 8 грошаў, 3 кавалі па 1 злотым, 46 кавалёў па 15 грошаў, 2 кавалі па 12 грошаў, бедны каваль 8 грошаў, злотнік 2 злотых, 80 розных рамеснікаў па 1 злотым, 144 рамеснікаў па 15 грошаў, 2 рамеснікаў па 12 грошаў, 14 рамеснікаў па 10 грошаў, 20 рамеснікаў па 8 грошаў, 27 рамеснікаў па 6 грошаў, 101 рамеснік па 4 грошы, 26 купцоў па 1 злотым, 48 купцоў па 15 грошаў, 12 купцоў па 12 грошаў, 1 купец 10 грошаў, 2 дудары па 15 грошаў, 13 рыбаловаў па 15 грошаў, 51 рыбалоў па 6 грошаў, 60 каморнікаў па 6 грошаў, 8 каморнікаў 3 грошы, 3 каморнікі па 2,5 гроша, 4 каморнікі па 2 грошы. У спісе адсутнічалі асобна гарбары, саленнікі, крамнікі.

У 1615 годзе гарадзенскаму паборцу Яну Кампу перадалі грошы з горада пісар Грыгоры Варабеевіч і Андрэй Чарніцкі за бягучы год. З 16 рынкавых дамоў плацілі па 32 грошаў, з 111 вулічных дамоў па 16 грошаў, з 18 убогіх дамоў па 8 грошаў, а з яшчэ бяднейшых па 4 грошы. Асобна плацілі падаткі рамеснікі: 9 разнікоў па 2 злотых, 2 аптэкары па 4 злотых, 2 убогія аптэкары па 1,15 і 0,5 злотых, адзін убогі аптэкар — 1 злоты, 2 краўцы — 2 злотых, 2 кушняры — 2 злотых, 8 шаўцоў — 2 злотых, 1 убогі шавец — 1 злоты, 1 злотнік — 1 злоты, 2 кавалі — 2 злотых, 4 мечнікі — 2 злотых, 2 катляры — 2 злотых, убогі 1 злоты, 8 пекараў — 1 злоты, ад пастрыгача і бондара па 2 злотых, 8 гарбароў — 2 злотых, мылавар — 2 злотых, 3 шапнікі — 2 злотых, ткач — 2 злотых, каваль — 2 злотых, 10 перакупаў — 2 злотых. З-за пажару не дадалі ад аднаго рынкавага дому, пагарэлі 25 рамеснікаў: 12 гарбароў, 9 пякарак, мылавар, латуншчык, 2 убогія гарбары[47].

Пра збор шэлежнага падатку адзначалася ў магістрацкіх кнігах 19 мая 1673 года. На сойме 1673 года ў Варшаве ўхвалілі збор падаткаў. Магістрат даручыў выкананне радцам Марціну Шаматуле Сапінскаму і Якубу Шараўскаму, лаўніку Марціну Макоўскаму, сіндыку Стэфану Каленкевічу. Паводле канстытуцыі сойма павінны зрабіць рэвізію шынкоў. Для правядзення рэвізіі абралі радцу Войцеха Пятровіча, лаўніка Лявона Ласкевіча, радзецкага пісара Казіміра Мікалаевіча. Таксама павінны спісаць вольных людзей, месца іх пражывання, а звесткі аддаць павятоваму паборцу[48]. Прынятае ў магістраце рашэнне адпавядала соймавым пастановам, якія ўсталявалі цэлы шэраг падаткаў. Павысілі мытавыя зборы на тавары ў ВКЛ. Было загадана правесці

[47] LMAVB RS, f. 16-207, l. 33-34.
[48] НГАБ, ф. 1800, воп. 1, спр. 1, арк. 259.

перапіс корчмаў па гарадах і мястэчках для далейшага збору падаткаў з іх. У сувязі з вайной і пажарам 1672 года[49], які канчаткова зруйнаваў горад за тры гады шэлежны і мытны зборы ішлі на карысць горада для яго адбудавання. Асобна збіраўся падатак з усіх саслоўяў, у тым ліку з мяшчан. Былі ўсталяваны памеры акцыз на ўсе віды тавараў[50].

У 1675 годзе каптуровы суд прыняў пастанову адносна падаткаў у горадзе. Усе шынкі ў шляхецкіх, жыдоўскіх дамах, гарадскіх павінны плаціць: з гарца піва — 3 грошы, гарца мёду — 14 грошаў, кварты гарэлкі — 14 грошаў, гарца віна — 8 злотых, сталовага — 6 злотых, лікёру — 5 злотых, французскага лікёру — 4 злотых. Гарцы і кварты павінны быць вымераны. Магістрат павінен кантраляваць гандаль жытам, мець акаваную бочку на ланцугу пры ратушы, таксама карэц — палова бочкі, гарцы 36; палова карца — 18 гарцаў[51].

З фрагментарных звестак пра выплаты сустракаецца наступнае. З ардынацыі Гарадзенскай эканоміі 1688 года вынікае, што чатыры гарадскія вёскі на той час не выплацілі чынш. Адміністратару даручалася атрымаць выплаты[52]. Гарадзенскі гараднічы Караль Гумоўскі выдаў рэшту чыншу з горада за 1687 і 1688 гг. 141 злотых (1692)[53].

Рэестры падаткаў хоць захаваліся адзінкава, але важныя для ўяўлення эканамічнай сітуацыі ў горадзе. Цікавым прадстаўляецца спіс рамеснікаў. Канечне, істотная розніца адчуваецца ў становішчы горада ў розныя стагоддзі і пасля вайны 1654-1667 гг.

*Выплаты на шпіталь*. Сярод іншага горад і мяшчане павінны былі выдаткоўваць на каталіцкі шпіталь Св. Духа, хаця ў горадзе існаваў яшчэ праваслаўны шпіталь пры Прачысценскай царкве, заснаваны Жыгімонтам Аўгустам у 1565 годзе[54]. Акрамя таго, па ўніверсале падскарбія ВКЛ Дзмітрыя Халецкага гарадзенскія мяшчане абавязаны былі па даўнім звычаі даваць з валок калядныя на пробаства (26 лютага 1590 г.)[55].

Выплаты на шпіталь Св. Духа рабіліся мяшчанамі нерэгулярна. Жыгімонт Ваза накіраваў лістураднікам і мяшчанам Гародні ў сувязі

49 Спіс згарэлых дамоў гл.: НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 2, арк. 310.

50 VL, t. V, s. 84-85, 91, 100-104.

51 НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 2, арк. 408.

52 Archiwum Narodowe w Krakowie, Archiwum Sanguszków, 187, k. 506.

53 LVIA, f. 110, ap.1, b. 4, l. 1v.

54 Н. Сліж, *З гісторыі Прачысценскай царквы ў Гародні. XVI-XVIII ст.*, [у:] *Гарадзенскі палімпсест XII-XX стст. Матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі (Гародня, 7 лістапада 2008 г.),* пад рэд. А. Ф. Смаленчука, Н. У. Сліж, Гародня — Беласток 2008, с. 72, 87-90.

55 LVIA, f. 694, ap. 1, b. 3269, l. 30v.

з тым, што атрымаў інфармацыю ад падскарбія земскага Фёдара Скуміна Тышкевіча, што ўжо некалькі год грошы на шпіталь не плаціліся. Было загадана даваць выплаты з кожнай валокі і трымаць у парадку шпіталь. Падкаморыю дазвалялася прымаць меры супраць парушальнікаў (1591)[56]. Але праблема паўтарылася ў 1631 годзе. Жыгімонт Ваза загадаў гарадзенскім ураднікам разлічыцца з прытулкам[57]. Аднак наступныя судовыя працэсы сведчаць пра пазыкі мяшчан.

Маршалак ВКЛ і гарадзенскі эканом Крыштаф Весялоўскі, гарадзенскі пробашч Францыск Далмат Ісайкоўскі ініцыявалі шэраг спраў па прычыне нявыплаты грошай шпіталю Св. Духа (1637). Па прысудзе радца Войцех Весянеўскі і яго жонка Ганна Сетніцкая павінны былі выплаціць 90 коп літоўскіх грошаў і 300 злотых (пазыкі з 1625 г.), радца Ян Цвікля і яго дзеці Лукаш і Кацярына, народжаныя ў шлюбе з Альжбетай Боршчанкай — 550 злотых (пазыкі з 1624 г.), Ян Каланкоўскі і яго жонка Агнешка Весянеўская — 80 коп і 24 грошы і 300 злотых (пазыкі з 1625 г.), Ганус Фандэберк і яго жонка Марына Сямёнаўна — 14 коп (пазыкі з 1625 г.), горад — 140 коп. Міхаіл Кроснеўскі і яго жонка Юстына Янаўна Мерэеўшчанка былі вызвалены ад выплаты. Юстына выклікалася як спадчынніца Францa Мерэеўскага і яго жонкі Кацярыны Давідовічаўны з-за сумы 300 злотых (1624). Але грошы была вінна Кацярына Давідовічаўна з першым мужам Андрэем Чэрвінскім, а Мерэеўскі быў яе другім мужам. Грошы былі аддадзены Керштыновай, а яна пазычыла жыду пад заклад срэбра. Пасля ён выкупіў яго і 300 злотых перадаў Смяроўскаму і Габрыэлю Варабеевічу. А яны павінны былі аддаць шпіталю. У выніку аказалася, што шпіталю грошы не дайшлі. А пазыка Керштыновай перайшла на спадчыннікаў Дароту Любоцянку і Каспера Шчасновіча. Рэгіна Ілкевічоўна, жонка Станіслава Мерэеўскага, прадставіла квіт аб выплаце на шпіталь 793 злотых, 1 грош і 4 пенязей, а таксама перадачы 96 бочак жыта. Таму ад судовай справы была вызвалена[58].

Супраць радцы Яна Цвікліча, яго памерлай жонкі Альжбеты Боршчанкі і дзяцей справа працягвалася ў 1639 і 1640 гг. Сума была ўскладзена на дом Цвікліча. Пазыкі шпіталю жонкі Г. Фандэнберка Марыны Сямёнаўны на 1640 год склалі ўжо 1100 злотых. Мікалай Кандзіда Вішнявецкі, умацаваны ад пробашча як правізара шпіталя Св. Духа Ф. Ісайкоўскага, пратэставаў аб тым, што грошы не былі апраўлены на яе

[56] LMAVB RS, f. 16-207, l. 10.
[57] НГАБ, КМФ-18, спр. 213, арк. 23 адв.
[58] LVIA, f. 694, ap. 1, b. 3839, l. 17v-21v.

дом. На 1642 г. радца Войцех Весянеўскі і яго жонка Ганна Сетніцкая не выплацілі 216 злотых з 1637 года. Валоку ў Сухім Сяле ўзялі пад заставу гэтых грошай ва ўдавы. Тэрмін выкупу далі год і 6 тыдняў[59].

Сам шпіталь быў зацікаўлены ў грошах, бо займаўся ліхвярствам. Правізары шпіталя — крайчы ВКЛ і гарадзенскі эканом Міхаіл Гедыён Трызна і гарадзенскі пробашч Францыск Далмат Ісайкоўскі выдалі на школу і на збор гарадзенскіх жыдоў 938 злотых. Гэту суму яны атрымалі пад заставу жыдоўскай школы і рухомых і нерухомых рэчаў збору. Жыды былі абавязаны аддаваць працэнт ад кожных 100 злотых — 8 злотых (1640)[60]. Таксама шпіталь займаўся гандлем. Аб гэтым сведчыць аповед шпітальнага шафара і радцы Станіслава Бельскага. Ён вызнаў на ўрадзе, што даў пану Чэрніцкаму на віціну шпітальнага жыта 240 бочак. Засталося ў клеці яшчэ 30 бочак жыта і 60 гароху. А 96 бочак жыта з Гарадніцы прадаў па капе грошаў літоўскіх (1640). Праз пару дзён С. Бельскі сведчыў пра продаж 5 бочак жыта па капе без 4 грошай[61].

*Вызваленне ад падаткаў.* Ад падаткаў мяшчане атрымлівалі вызваленне з-за надзвычайных сітуацый: пажар, пошасць, вайна. Найбольш часта сустракаюцца вызваленні ў выпадку пажару. Аднак вызвалялі на падставе агляду ўраднікаў, а пасля выдаваўся адпаведны ліст манарха. Дакументы ўлічваліся пры зборы падаткаў.

Бона Сфорца дазволіла гарадзенскаму мешчаніну Фенку не плаціць падаткі два гады з-за таго, што згарэў яго дом (1554)[62]. Пажар быў у горадзе ў 1572 г. Аб гэтым сведчылі Паны-Рада, якія ў той час знаходзіліся ў Гародні. У сувязі з гэтым жыды Насан Маеровіч і Шмойла Мардухаевіч Гамшэй атрымалі вызваленне ад падаткаў на тры гады (1576)[63].

Станіславу Мішковічу Грандзе далі вызваленне ад павіннасцей з-за пажару на чатыры гады (1579). У яго згарэлі дом і фальварак у Грандзічах на 6 валоках у 1575 годзе[64]. Па гэтай жа прычыне не плаціў падаткі Эразм Гранда (1585)[65]. Быў накіраваны ліст да эканома каралеўскіх двароў Стэфана Беляўскага, да войта, рады Гародні, каб з гарадзенскага бурмістра Шымана Гранды, у якога згарэў дом, чатыры гады не бралі чынш з 6,5 валок у Грандзічах, выплат з дому і дазволілі вольны шынк (1585)[66].

59 НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 18 адв.-19, 44 адв., 45 адв., 72 73 адв.
60 НГАБ, ф. 1755, воп. 1, спр. 37, арк. 161-162 адв.
61 НГАБ, ф. 1755, воп. 1, спр. 37, арк. 48 адв., 50.
62 НГАБ, КМФ-18, спр. 36, арк. 44 адв.
63 НГАБ, КМФ-18, спр. 63, арк. 56.
64 НГАБ, КМФ-18, спр. 64, арк. 8-8 адв.
65 *Lietuvos Metrika*, kn. 71 (1585-1586): Užrašymų knyga 71, parengė D. Antanavičius, Vilnius 2008, p. 46.
66 НГАБ, КМФ-18, спр. 74, арк. 51 адв.

Вызваленне на чатыры гады ад падаткаў з дому і 4,5 валокі ў Малахавічах атрымаў аптэкар Ян Мерэеўскі. У 1606 годзе падчас побыту ў земскага падскарбія ВКЛ Яраша Валовіча, гетмана ВКЛ і жамойцкага старосты Яна Караля Хадкевіча загарэўся дом Валовіча. А ад яго агонь перакінуўся на дом Яна. Выпадак быў пацверджаны рэляцыяй. Таксама атрымаў такі ж ліст мечнік Андрэй Сетніцкі на дом у Гародні і 3,5 валокі ў Грандзічах (1606)[67]. Звесткі пра пажар пацвярджае ліст Хадкевіча жонцы, які быў напісаны з Гародні 26 сакавіка 1606 года. У ім з жалем паведамлялася, што ў пажары загінулі асабістыя рэчы і здабытыя харугвы. Апошніх было выратавана 30, але і яны былі пашкоджаны. Усяго страты было на 5000 злотых[68].

Па просьбе магістрата і Яраша Валовіча быў пададзены ліст з просьбай вызваліць ад падаткаў на чатыры гады купца Івана (Яна) Тарасовіча. Згарэў яго дом на Падоле з рухомымі рэчамі, грошамі і таварам (1607)[69]. Павел Самуэлевіч падаў ліст аб стратах з-за пажару і быў вызвалены на чатыры гады ад падаткаў (1615). Пажар у той год закрануў яшчэ дамы жыдоў[70].

20 верасня 1618 года згарэлі дамы ў Гародні ў Гарвара Харытонавіча, удавы Настассі Лукоўскай, Філона Подберэша, аб чым сведчыў рэвізор, гарадзенскі падсудак Ян Боўфал. Чатыры гады яны мелі права не плаціць чопавае, капшчызну на піва, гарэлку і мёд, бо гэта накладалася на маёмасць, але выплаты мыта з тавараў захоўваліся (1619)[71].

Станіслаў Радзішэўскі, купец, быў вызвалены ад падводнага, чопавага, гандлёвых збораў мыта, капшчызны, жаўнерскіх пастояў, чыншаў у сувязі з пажарам, які адбыўся 9 жніўня 1624 года. А 10 жніўня 1625 года ў горадзе згарэла дзевяць дамоў. Іх уладальнікі (прозвішчы ў дакуменце не названы) таксама атрымалі вызваленне (1626)[72].

Гарадзенскі енерал Аляксандр Сарока па просьбе магістрата правёў агляд згарэлых дамоў у Гародні 13 мая 1672 г. Ён налічыў 10 гарадскіх дамоў, а розных — 27[73]. Гарадзенскія бурмістры і радцы, а таксама

67 НГАБ, КМФ-18, спр. 86, арк. 627-627 адв.

68 *Korrespondencye Jana Karola Chodkiewicza poprzedzone opisem rękopismów z archiwum radziwiłłowskiego, znajdujących się w Bibliotece Ordynacyi Krasińskich połączonej z Muzeum Konstantego Świdzińskiego*, oprac. W. Chomętowski, t. 1, Warszawa 1875, s. 35-37.

69 НГАБ, КМФ-18, спр. 89, арк. 23.

70 НГАБ, КМФ-18, спр. 91, арк. 322 адв., 335.

71 НГАБ, КМФ-18, спр. 93, арк. 185-185 адв.

72 НГАБ, КМФ-18, спр. 99, арк. 162-163 адв.

73 LMAVB RS, f. 16-207, l. 63.

енерал Крыштаф Яшкоўскі сведчылі пра спаленні гаспадарак мяшчан у Міткевічах — Паўла Міткевіча, яго роднага брата Марціна Міткевіча, суседа Пятра Алешкі (Алешкевіча). Гэта стала прычынай просьбы аб вызваленні плаціць падводныя і капшчызну (1683)[74].

Часам гарадзенская шляхта падтрымлівала пагарэльцаў. У соймікавай інструкцыі 1646 года сярод іншага ёсць просьба дазволіць свабодна браць дрэва з пушчы мяшчанам, чые дамы пагарэлі[75].

У сувязі руйнаваннем у выніку вайны ў 1661 годзе Гародня, як і іншыя гарады, была вызвалена на чатыры гады ад падаткаў, акрамя мытнага і чопавага збораў. Наступствы вайны былі адчувальнымі для горада нават у 1673 годзе. Па прычыне эканамічнага заняпаду Гародні і прызнання яе месцам для соймаў, горад вызваляўся на тры гады ад чопагава для адбудовы[76]. Міхал Карыбут Вішнявецкі выдаў асобны прывілей Гародні і мяшчанам на вызваленне ад падаткаў на чатыры гады ў сувязі з вайной (1672)[77].

Аднак праз некаторы перыяд пасля вызвалення горада ад падаткаў Ян Казімір накіраваў магістрату даволі жорсткі ліст. У ім адзначалася пра невыкананне магістратам сваіх абавязкаў. Горад ператварыўся з хрысціянскага ў жыдоўскі. Жыдам аддалі даходы з фальваркаў, важніцы, крам, брукавага і падаткі. Не было зроблена аднаўлення горада, ратушы і гадзінніка, але таксама не даваліся выплаты на ратушу і абвядзенне муроў вакол горада і пастаноўку брам. Загадвалася вярнуць усё да падпарадкавання гораду (1688)[78]. З дакумента вынікае, што вызваленне ад падаткаў не было выкарыстана адпаведна. Гэта прагучала ў пастанове сойма 1690 года. Сярод іншага згадвалася, што неабходна выявіць, у каго засталіся грошы, якія былі прызначаны з падаткаў на будаўніцтва ратушы. З гэтых сродкаў павінны былі пабудаваць ратушу[79].

Дадаткова адзначым, што асобнае вызваленне ад гарадской юрысдыкцыі атрымлівалі пляцы, якія былі выкуплены для заснавання каталіцкіх кляштараў. У соймікавай інструкцыі 1646 года была адпаведная просьба аб фундацыях Весялоўскіх брыгіцкага кляштара, езуіцкай рэзідэнцыі, дамініканскага кляштара[80]. Пасля гэта было зацверджана

[74] LVIA, f. 110, ap. 1, b. 192.
[75] Biblioteka Naukowa Polskiej Akademii Umiejętności i Polskiej Akademii Nauk w Krakowie (далей: Biblioteka PAN i PAU), rkps 365, k. 152v.
[76] VL, t. IV, s. 385-386; t. V, s. 67, 91.
[77] Гродзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей, 15111/6.
[78] LMAVB RS, f. 16-207, l. 81.
[79] VL, t. V, s. 399.
[80] Biblioteka PAN i PAU, rkps 365, k. 151v-152.

ўжо звязаная абавязацельствамі па гэтых пытаннях і не можа ахвяраваць сваім прэстыжам, у прыватнасці, *перад англійскім пралетарыятам (sic!).* Што датычыць Беларусі, заявіў Іофэ зусім цынічна, то, „калі Польшча хоча, яны (савецкі бок — Р. Л.) могуць паклапаціцца наконт таго, каб дэлегацыя беларускага ўрада дапоўніла цяперашнюю расійска-ўкраінскую дэлегацыю. Аднак ён мяркуе, што для Польшчы выгадней, каб такой дэлегацыі не было і каб не было мандатаў ад Беларусі”[31]. Відаць, гэты аргумент пераканаў Домбскага, і ён згадзіўся перайсці да абмеркавання пытання аб лініі мяжы, якую нележала зафіксаваць у прэлімінарнай дамове. Тут і была прадстаўлена лінія, вызначаная Радай абароны дзяржавы 11 верасня, лінія, якая аддавала Польшчы чыгунку Роўна — Лунінец — Баранавічы, а разам з ёю — і заходнюю частку Беларусі. Іофэ спрабаваў аспрэчваць прапанаваную лінію як не адпавядаючую этнаграфічнаму прынцыпу, але атрымаў у адказ: або гэтая мяжа, або сапраўдная незалежнасць усёй Беларусі і вывад савецкіх войск за яе ўсходнюю мяжу[32], а польскіх адпаведна — за лінію Керзана.

Гэты эпізод перагавораў, даўно вядомы ў польскай гістарыяграфіі з польскіх крыніц, цяпер можна пацвердзіць і савецкімі дакументальнымі крыніцамі. Ён адлюстраваны ў адным з лістоў Чарвякова з Рыгі, апублікаваных яшчэ ў 1991 г.[33], і да гэтага часу не публікаваным тэлеграфным паведамленні Іофэ Чычэрыну, з копіямі Леніну, Троцкаму, Крэсцінскаму, аб яго сакрэтнай гутарцы з Домбскім. Адпаведна яго паведамленню, адпраўленаму ўначы 2 кастрычніка, Домбскі заявіў, што калі РСФСР не згодзіцца перадаць Польшчы чыгунку Роўна — Сарны — Лунінец — Баранавічы — Ліда, „то застаецца для дыскусіі яшчэ толькі адна прапанова: устанаўленне ўсходняй мяжы Беларусі і заходняй [яе граніцы], прыблізна па лініі Керзана, вывад намі і палякамі сваіх войск на 25 вёрст [ад гэтых граніц] і самавызначэнне Беларусі, гэта значыць, стварэнне буферу паміж намі і Польшчай”[34]. Іофэ запрошваў указанняў.

Палітбюро ў той жа дзень абмеркавала польскія патрабаванні і дало згоду на першую альтэрнатыву — саступку на карысць Польшчы

[31] Там жа, s. 106.
[32] J. Dąbski, *Pokój ryski. Wspomnienia, pertraktacje,* s. 108.
[33] *Знешняя палітыка Беларусі: Зб. дак. і матэрыялаў,* т. 1: *(1917-1922 гг.),* Мінск 1997, с. 202.
[34] Российский государственный архив социально-политической истории (далей: РГАСПИ), ф. 5, оп. 1, д. 2001, л. 65.

жаданай ёю чыгункі з ахоўнай тэрыторыяй на ўсход ад яе, але з умовай, што дамова будзе падпісаная як найхутчэй, прыкладна праз тры дні. 3 кастрычніка Чычэрын падрыхтаваў Іофэ адпаведную дырэктыву[35]. Не паспеў, аднак, ён адправіць яе, як Іофэ прыслаў чарговае паведамленне аб новай таемнай сустрэчы з Домбскім, якая адбылася ўвечары 2 кастрычніка. На яе Домбскі прыйшоў з новымі, павялічанымі патрабаваннямі, прынятымі на пасяджэнні польскай дэлегацыі, абмеркаваўшай вынікі першай таемнай сустрэчы кіраўнікоў дэлегацыі[36]. Цяпер польскі бок патрабаваў у працяг паласы тэрыторыі, прылягаўшай з усходу да чыгункі Лунінец — Баранавічы — Ліда, новы абшар зямлі, які прасціраўся на паўночны ўсход такім чынам, што ён выводзіў Польшчу да мяжы з Латвіяй і цалкам аддзяляў РСФСР ад Літвы ў яе межах 1920 г. За гэта з польскага боку выказвалася згода ўключыць у дамову палажэнне аб прызнанні незалежнасці Украіны і Беларусі[37]. Новыя тэрытарыяльныя патрабаванні, нават кампенсаваныя саступкамі па ўкраінскім і беларускім пытаннях, былі адчувальным ударам па эканамічных і палітычных інтарэсах РСФСР — таму, перш за ўсё, што ўскладнялі сувязь РСФСР з яе патэнцыяльным саюзнікам у барацьбе супраць Версаля, найважнейным эканамічным партнёрам — з Германіяй.

Якой жа была рэакцыя з савецкага боку? Страх бальшавіцкага кіраўніцтва перад польскай палітыкай „буферызму", як яна называлася на тагачасным савецкім жаргоне, быў не меншы за страх перад перспектывай зімовай ваеннай кампаніі на два франты. Таму па прапанове Леніна Палітбюро ЦК РКП(б) прыняло і гэтыя патрабаванні пры ўмове, што дамова будзе заключаная без прамаруджвання[38]. Пасля некаторай валтузні вакол артыкулаў матэрыяльнага характару 12 кастрычніка дамова аб перамір'і і прэлімінарным міры была падпісана. Пры яе ратыфікацыі УЦВК РСФСР 23 кастрычніка Чычэрын прама называў тэрытарыяльныя саступкі з боку Савецкай Расіі цаной за адмову Польшчы „от политики буферализма, от создания буфералистских государств"[39]. Гэта азначала, што РСФСР і Польшча сышліся на канцэпцыі падзелу Беларусі і Украіны, якую заўсёды адстойвала польская

[35] *Владимир Ильич Ленин. Неизвестные документы. 1891-1922*, Москва 1999, с. 396-397.

[36] J. Dąbski, *Pokój ryski. Wspomnienia, pertraktacje,* s. 110.

[37] *Владимир Ильич Ленин. Неизвестные документы. 1891-1922*, с. 397-398.

[38] Там жа, с. 398-399.

[39] *Польско-советская война 1919-1920. (Ранее не опубликованные док. и материалы)*, ч. 2, с. 97, 98, 103.

эндэцыя, адхіліўшы варыянт іх існавання ў ролі палітычных буфераў паміж Савецкай Расіяй і Польшчай. Хоць адхілілі яны гэты варыянт і па розных матывах, але і супадзенне было відавочнае: ні бальшавікоў, ні эндэкаў не задавальняла перспектыва ўладкавання геапалітычнай прасторы былой Рэчы Паспалітай на аснове федэрацыі яе народаў.

Такім чынам, можна сцвярджаць, што пасля вымушанага пераходу РСФСР да мірных перагавораў савецкай Беларусі ў яе палітыцы была адведзена функцыя карты ў дыпламатычнай гульні, прыдатнай для выкарыстання ў залежнасці ад сітуацыі. Атрымаўшы яе, савецкі ўрад, з аднаго боку, набыў сродак палітычнага гандлю ў адносінах з Варшавай, які дазваляў яму быць цвёрдым на ўкраінскім участку лініі фронту і саступлівым на беларускім участку, а з другога боку — ён займеў аргумент для адхілення патрабавання ўрада БНР аб удзеле ў мірнай канферэнцыі, у выглядзе спасылкі на тое, што ёсць іншы беларускі ўрад — савецкі. Такой картай Беларусь павінна была застацца і пасля яе падзелу, хоць і з іншым прызначэннем. А з якім — гэта можна зразумець, учытваючыся ў неаднаразовыя выказванні Леніна па гэтым пытанні падчас польска-савецкіх мірных перагавораў. Ён прызнаваў, што ад пачатку канфлікту савецкі ўрад збіраўся вырашыць яго шляхам барацьбы ўнутры Польшчы, што азначала перадачу ёй той часткі беларускай зямлі, на якую Польшча прэтэндавала. Пры гэтым ён абапіраўся на вопыт Брэсцкага міру, які пераўтварыў беларускіх і ўкраінскіх сялян на акупіраванай Германіяй тэрыторыі ў саюзнікаў савецкай улады. „Польскім памешчыкам і капіталістам чужых зямель не ўтрымаць”[40], яны зноў вернуцца да Савецкай Расіі — быў перакананы савецкі кіраўнік. Не ігнаруючы іншыя прычыны саступлівасці савецкага ўрада на перагаворах аб міры, такія, як набліжэнне чарговай галоднай зімы, неабходнасць зняць пагрозу з боку Врангеля, засеўшага ў Крыме, як антысавецкія выступленні сялян ледзь не па ўсёй Расіі — гэту прычыну неабходна прызнаць адной з важнейшых. Яна тлумачыць, чаму так лёгка савецкі ўрад саступаў Польшчы адну паласу беларускай зямлі за другой. Падкрэслім, што гэты фактар, „уманціраваны” ў перспектыву вымушанага пераходу Савецкай Расіі да мірнай палітыкі, імгненна і відавочна пераважыў рызыку абясцэньвання пастулата аб праве нацый на самавызначэнне з ідэалагічнага арсенала бальшавікоў, як і рызыку выклікаць расчараванне сярод беларускіх (і ўкраінскіх таксама) нацыянал-камуністаў і пэўныя ўскладненні ў адносінах з імі.

40 В. И. Ленин, *Полн. собр. соч.*, т. 41, с. 139, 320.

Але ўлік і гэтага фактару яшчэ не дае дастатковай яснасці аб прычынах адхілення савецкім урадам прапановы польскага боку аб вывадзе з этнічнай тэрыторыі Беларусі польскіх і савецкіх войск і звязанай з гэтым перспектывы яе самавызначэння ў новай сітуацыі. Неабходна ўлічваць яшчэ адну, якая хавалася за катэгарычным адхіленнем Масквой польскай прапановы. Гэтай прычынай была неаднаразова выяўленая няўпэўненасць савецкіх вярхоў і рэгіянальнага іх прадстаўніцтва ў трываласці савецкай улады ў Беларусі. Абмяжуемся тут спасылкай на тую параду, якую мінскія камуністы атрымалі ў ЦК РКП(б) у лістападзе 1920 г., калі звярнуліся туды за дазволам склікаць з'езд саветаў Беларусі, каб правесці на ім легітымізацыю органаў савецкай улады ў краіне. „Калі ж няма ўпэўненасці, што на з'езд ад уездаў пройдуць па-савецку настроеныя элементы, — раілі ў „Цэнтры" — то неабходна выкарыстаць масы чырвонаармейцаў, каб атрымаць большасць на з'ездзе і правесці нашы рэзалюцыі"[41]. А няўпэўненасць стварала якраз пазіцыя сялянства, якое падчас нядаўніх ваенных дзеянняў абумоўлівала сваю згоду дапамагаць Чырвонай Арміі гарантаваннем перспектывы, што Беларусь будзе мець сваю мясцовую, беларускую ўладу. Вышэй мы ілюстравалі гэту пазіцыю спасылкай на пытанні наконт пасляваеннага палітычнага ўладкавання Беларусі, якія прагучалі на сходзе сялянскіх дэпутатаў Камаровіцкай воласці. Але неабходна падкрэсліць: гэтыя пытанні былі тыповымі для сітуацыі, што склалася на той час у краіне. Так, у Мінскім павеце арганізатары валасных рэўкамаў сабралі цэлы іх спіс і рабілі на іх аснове характэрнае заключэнне: „Насельніцтва некаторых валасцей, даведаўшыся аб самавызначэнні Беларусі, не хоча прызнаваць ніякай улады, акрамя неіснуючага ўрада „незалежнай Беларусі", і адносіцца вельмі варожа да арганізуемых валрэўкамаў, заяўляючы, што рэўкамы трэба выбіраць, а не прызначаць з Масквы"[42].

Адзначаная намі няўпэўненасць кіруючых вярхоў наконт трываласці савецкай улады ў Беларусі цалкам сумяшчаецца з высокай ацэнкай антыпольскага патэнцыялу беларускага сялянства, якую выказваў Ленін („вздуют поляков и без Будённого"). Неабходна разумець, што гэтыя ацэнкі адносяцца да розных сітуацый. Адна справа, калі беларускі селянін сутыкаўся з польскай акупацыйнай уладай, з-за якой „выглядваў" памешчык, страціўшы тут нядаўна сваю зямлю, і зусім іншая, калі гэты селянін спадзяваўся на ўсталяванне ў Беларусі ўлады „са сваіх людзей", якая не дазволіць яго крыўдзіць. А „ўлада са сваіх

41 НАРБ, ф. 4 п, воп. 1, спр. 109, л. 33.
42 НАРБ, ф. 8, воп. 1, спр. 1, л. 81а.

людзей” — гэта не Мяснікоў з Кнорыным. Таму менталітэт бальшавіцкага кіраўніцтва, якое сутыкнулася з альтэрнатывай „дзяліць Беларусь з Польшчай ці аддаць яе цалкам самім беларусам”, прадыктаваў яму выбар першай альтэрнатывы.

У межах гэтага артыкула застаецца заўважыць, што ўвесь час, пакуль ішлі польска-савецкія перагаворы, якія так моцна паўплывалі на лёс Беларусі і, у прыватнасці, на яе савецкую квазідзяржаўнасць, за плячыма іх удзельнікаў нябачна знаходзіўся ўрад БНР — патэнцыяльнай буфернай рэспублікі, якая якраз і з’яўлялася носьбітам альтэрнатывы польска-савецкаму падзелу Беларусі. Ва ўмовах, якія на той момант склаліся, шанцы на рэалізацыю гэтай альтэрнатывы былі невялікія (хоць наколькі невялікія, неабходна вывучаць асобна). Не здолеўшы ўратаваць Беларусь ад падзелу, урад БНР, аднак, уратаваў беларускую савецкую квазідзяржаву, ствараючы ўмовы для яе аднаўлення ў той адзінай ролі, якая была для яе магчымай, — у ролі інструмента савецкай палітыкі. Гэты інструмент, аднак, быў дастаткова значным, каб пагадзіцца на яго трансфармацыю з органа ваеннага кіраўніцтва часткай беларускай тэрыторыі ў форму нацыянальнай аўтаноміі[43]. Разам з гэтым давялося адкласці на 10 год масавую калектывізацыю сялянства, за якую літбелаўскія бальшавікі заўзята браліся яшчэ перад польскай акупацыяй. Характэрна, што меўшае адпаведны сэнс рашэнне аб надзяленні сялян памешчыцкай зямлёю было прынятае на тым жа Другім з’ездзе Саветаў Беларусі ў сярэдзіне снежня 1920 г., які юрыдычна афарміў адраджэнне Беларускай савецкай рэспублікі, рэаніміраваўшы канстытуцыю 1919 г. і дапоўніўшы яе палажэннямі аб органах улады.

Вяртаючыся на завяршэнне да загалоўка артыкула, паспрабуем даць ацэнку Рыжскага дагавора ў больш шырокім кантэксце гісторыі Беларусі і іншых народаў былой Рэчы Паспалітай. Пры аглядзе значэння дагавора ў такім кантэксце не ўзнікае сумненняў, што яно было неаднолькавым для народаў гэтага рэгіёна. Тая ацэнка Рыжскага трактату, якая была выказана яшчэ ў час яго заключэння беларускімі публіцыстамі і паэтамі, як акта падзелу Беларусі, учыненага «чужаніцамі», як трагедыі беларускага народа, з перспектывы часу выглядае цалкам слушнай. Народ, які ў сваім гістарычным развіцці выйшаў у стадыю стварэння нацыянальнай дзяржавы і пачаў яе тварэнне, не знайшоў у сабе сіл, каб не дапусціць трагедыі падзелу. У Рызе беларускі народ стаў

[43] Р. Лазько, *Польска-савецкія мірныя перагаворы 1920 г. і лёс Беларусі*, «Беларускі гістарычны часопіс», 2010, № 12, с. 5-12.

ахвярай *змовы* двух сваіх суседзяў — адроджанай Польскай дзяржавы і Савецкай Расіі, якія вялі барацьбу за кантроль над геапалітычнай прасторай былой Рэчы Паспалітай, намерваючыся пераўтварыць яе ў зыходную пазіцыю для рэалізацыі уласных геапалітычных планаў. Для абодвух праціўнікаў беларускі дзяржаватворчы рух быў толькі інструментам рэалізацыі гэтых планаў.

Гэта ацэнка Рыжскага дагавора як змовы двух буйнейшых суседзяў Беларусі, накіраванай супраць беларускага народа, абапіраецца на ўказаную намі і адкінутую альтэрнатыву падзелу. Шукаючы яе, неабходна было дакладна вызначыць той гістарычны перыяд, калі такая альтэрнатыва сапраўды існавала, бо ў той пераломны час сусветнай гісторыі сітуацыя мянялася хутка і адпаведна хутка складваліся новыя ўмовы гістарычнага развіцця Беларусі і ўсходнееўрапейскага рэгіёна ў цэлым. Адна сітуацыя існавала на мяжы 1918-1919 гг., калі абодва суседзі Беларусі ўцягваліся ва ўзброеную барацьбу паміж сабой, іншая — падчас паходу Чырвонай Арміі на Варшаву, да так званага «цуду на Вісле», і зусім іншая — восенню 1920 г., калі ўзброеная барацьба двух праціўнікаў змянілася іх дыпламатычнай барацьбой. На працягу 1919-1920 гг. праціўнікі неаднойчы адхілялі варыянты кампраміснага і менш цынічнага выражэння сваёй тэрытарыяльнай спрэчкі. Амаль пасля двух гадоў крывавай барацьбы падзел адбыўся. Беларускі народ, будучы адной з тых сіл, што прымусіла абодвух «чужаніц» сесці за стол перагавораў, здолеў ўратаваць для сябе толькі савецкую квазідзяржаву на частцы тэрыторыі Мінскай губерні, і каля 10 гадоў часу для больш-менш спакойнага свайго развіцця.

Трагедыя падзелу затрымала завяршэнне працэсу фарміравання беларускай нацыі — усіх яе кампанентаў, прычым, магчыма, у найбольшай ступені — яе свядомаснага кампанента. Нават пасля завяршэння Другой сусветнай вайны яшчэ доўга беларусы з даваеннай БССР будуць успрымаць сваіх суайчыннікаў з даваеннай Заходняй Беларусі як «заходнікаў», а тыя іх — як «васточнікаў», знаходзячы для гэтых акрэсленняў шмат аргументаў — не толькі геаграфічных, і нават не іх у першую чаргу.

Разам з тым, ацэньваючы акт падзелу як фактар, што аслабляў патэнцыял беларускай нацыі, стрымліваў яе развіццё, нельга не ўлічваць, як мінімум, адзін яго кампанент, які ў нейкай ступені змяншаў негатыўны ўплыў гэтага фактару. Гаворка ідзе аб з’яўленні на кароткі час, не больш чым на дзесяцігоддзе, феномена беларускага «П’емонта» на тэрыторыі савецкай Беларусі. Яго стварала палітыка савецкага кіраўніцтва, накіраваная на тое, каб «расшыць» польскую дзяржаву па «нацыянальных швах», гэта значыць, выкарыстаць дзеля яе асаблення

нацыянальныя рухі падзеленых народаў. Прыклад паспяховага нацыянальнага развіцця «савецкіх» беларусаў павінен быў стаць прыцягальным для беларусаў з Заходняй Беларусі. Такая ж роля адводзілася і ўкраінскаму нацыянальнаму руху.

З часу заключэння польска-савецкага дагавора аб ненападзенні ў 1932 г. (а фактычна — з часу яго падрыхтоўкі) мы бачым зусім іншую сітуацыю — паралельную барацьбу двух дыктатарскіх рэжымаў — бальшавіцкага і санацыйнага — супраць беларускага руху ва ўсіх яго праяўленнях.

Гаворачы аб значэнні Рыжскага трактату для гісторыі ўкраінскага народа, неабходна прыняць да ўвагі больш значны патэнцыял Украіны, назапашаны да моманту яе падзелу — дэмаграфічны, эканамічны, культурны — і больш высокі ў параўнанні з Беларуссю ўзровень мадэрнізаванасці тых яе раёнаў (хоць і неаднолькава высокі), якія «выпалі» з Аўстрыйскай імперыі ў перыяд яе распаду восенню 1918 г. Заходнія ўкраінцы, што пачалі свой шлях да мадэрновай нацыі ў межах імперыі Габсбургаў, мелі значны вопыт самаарганізацыі ў выглядзе ўдзелу ў кааператыўным руху, у дзейнасці органаў мясцовага самакіравання. Яны некаторы час карысталіся ўсеагульным выбарчым правам, мелі свае палітычныя партыі. Выдатнае значэнне мела існаванне такога буйнога культурнага цэнтра (хоць і рэальна дуалістычнага) як Львоў, іншых украінскіх асяродкаў у Галіцыі і за мяжой. Усходнегаліцыйскі ўкраінскі «П'емонт», існаваўшы яшчэ да 1918 г., выконваў сваю мабілізуючую ролю і пасля 1921 г. Гэты патэнцыял дазволіў украінскаму этнасу з меншымі стратамі перажыць траўму падзелу, і забяспечыць большую яго ўстойлівасць адносна палітыкі дэнацыяналізацыі, якую ўласцівымі ім метадамі праводзілі абодва антыўкраінскія рэжымы — бальшавіцкі і санацыйны.

Сваё адметнае значэнне Рыжскі трактат меў і для літоўскага народа. Устаноўленая ў Рызе польска-савецкая граніца, зафіксаваўшы перадачу ў склад Польшчы шырокай паласы беларускай зямлі, «адгарадзіла» Літоўскую Рэспубліку ад яе кан'юнктурнага саюзніка ў барацьбе супраць польскай экспансіі — Савецкай Расіі. Акрамя таго, адно з палажэнняў трактату забараніла савецкаму ўраду ўмешвацца ў справы тэрыторый, што засталіся на захад ад гэтай граніцы, пазбавіўшы Літву легальных падстаў у сваім канфлікце з Польшчай апеліраваць да былога гаспадара гэтых тэрыторый — да Расіі. Сухі юрыдычны сэнс гэтага палажэння ахопліваў і тыя раёны Гарадзеншчыны, якія савецкі ўрад перадаў Літоўскай Рэспубліцы за некалькі тыдняў да другога абвяшчэння Беларускай Савецкай Рэспублікі, спакусіўшы гэтым Літву падтрымаць паход Чырвонай Арміі на Варшаву. Праз некалькі месяцаў, забяспечыўшы сябе з усходу Рыжскім дагаворам, Варшава, асабіста

кіраўнік Польскай Рэспублікі Юзаф Пілсудскі, арганізавалі свой паход на Вільню і адабралі Віленшчыну ў Літвы. Абвостраны гэтай акцыяй польска-літоўскі канфлікт застаўся закансерваваным амаль на два дзесяцігоддзі як траўма нацыянальнай свядомасці літоўцаў, цягнуўся ён і далей, і невядома, ці залагоджаны цалкам да сёння.

Ацэньваючы значэнне Рыжскага трактата для гісторыі Літвы, неабходна ўлічваць і факт перадачы Віленшчыны ў склад Літоўскай Рэспублікі сталінскім кіраўніцтвам СССР пасля ліквідацыі гэтага трактату, праведзенай у выніку змовы Сталіна і Гітлера восенню 1939 г. Сталінскім кіраўніцтвам быў зроблены жэст, прызначаны на тое, каб аблегчыць літоўцам прыняцце запланаванай у Крамлі ліквідацыі іх дзяржавы шляхам уключэння яе ў склад СССР. Такім чынам, мы бачым тут ланцуг несправядлівасцей і бяспраўя. Рыжскі дагавор, рассекшы беларускі край папалам, заблакіраваў савецка-літоўскі дагавор 1920 г., падпісаны без уліку інтарэсаў беларускага народа, а разам з тым, яго ліквідацыя праз 19 год, дазволіўшая літоўцам атрымаць Віленшчыну, прыкрывае іншае бяспраўе: «упіхванне» Літвы ў склад СССР. Так, можна згадзіцца са сцвярджэннем польскіх гісторыкаў аб тым, што Рыжскі дагавор адтэрмінаваў на 20 год саветызацыю Літвы, а разам з ёю, як можна меркаваць, і іншых прыбалтыйскіх рэспублік. Але зноў жа тут узнікае тое ж пытанне аб страчанай альтэрнатыве рыжскаму падзелу.

Адказ на гэта патынне неабходна пачаць з канстатацыі таго факта, што Рыжскі дагавор завяршыў вайну паміж дзяржавамі, якія з'яўляліся антаганістычнымі элементамі ў міжнароднай сістэме, будаўніцтва якой на той момант не было завершана. Гэтыя дзве акалічнасці — роля Польшчы і Савецкай Расіі (пазней СССР) у міжнароднай сістэме, якую будуць называць Версальскай, і незавершанасць яе будаўніцтва, а затым і ўскраінны ў межах сістэмы характар польска-савецкага канфлікту, што было адной з прычын яе слабасці, абумовілі значэнне Рыжскага дагавора для гісторыі Еўропы, — перш за ўсё для яе ўсходнеўрапейскай часткі. Рыжскі дагавор садзейнічаў стабілізацыі Версальскай сістэмы, але яго стабілізуючы патэнцыял не меў доўгатэрміновага характару і быў абмежаваны трываласцю сістэмы ў цэлым, якая, як і кожная іншая сістэма, залежыць ад суадносін, дынамікі патэнцыялаў яе цэнтраімклівых і цэнтрабежных элементаў. Можна згадзіцца з ацэнкай Рыжскага дагавора як ахоўнага бар'ера для Цэнтральна-Усходняй Еўропы, за якім і Польшча, і краіны Прыбалтыкі, іншыя краіны, атрымалі магчымасць заняцца будаўніцтвам нацыянальных дзяржаў, стварылі асновы грамадзянскай супольнасці. Але гэты аспект Рыжскага дагавора не варта перабольшваць. Неабходна мець на ўвазе альтэрнатыўныя варыянты

расійска-польскага замірэння, меўшыя, праўда, розныя шансы на рэалізацыю. Варыянт са стварэннем паміж Савецкай Расіяй і Польшчай паласы «буферных» нацыянальных дзяржаў, які «усплываў» у ходзе рыжскіх перагавораў у выглядзе прапановы кіраўніка польскай дэлегацыі Яна Домбскага, быў мала рэальным — яго катэгарычна не жадала Масква і не адстойвала Варшава. Але варыянт, які знайшоў адлюстраванне ў вядомай ноце Керзана (дзяржаўная мяжа на ўсходзе больш-менш супадае з этнічнай польска-беларускай мяжой), пры ўмове яго прыняцця Польшчай, меў сур'ёзныя шансы на рэалізацыю. Так, калі ацэньваць яго ў межах польскай палітычнай ідэалогіі таго часу, то мы знойдзем у ім істотную слабасць, бо гэты варыянт пакідаў Вільню і эвентуальна Усходнюю Галіцыю па-за граніцамі Польскай дзяржавы. Але калі глядзець на гэтую «слабасць» праз прызму пазнейшых падзей, праз прызму самога лёсу Польскай Рэспублікі, то ці не стала б гэта «слабасць» хутчэй моцным элементам пасляваеннага ўладкавання адроджанай польскай дзяржавы? Відавочна, што гэты варыянт забяспечваў большую аднароднасць яе этнічнага складу, большую сацыянальную ўстойлівасць, ствараў бы менш падстаў для ўмяшання ва ўнутранае жыццё краіны з-за ўсходняй мяжы з мэтаю «распароць» польскую дзяржаву па нацыянальных швах. І што яшчэ немалаважна — устанаўленне польскай усходняй граніцы адпаведна з лініяй, прапанаванай у ноце Керзана, было б *агульным праектам дзяржаў-пераможцаў і Польшчы, накіраваным на ўладкаванне Усходняй Еўропы*, што, несумненна, аблегчыла б яе абарону супраць дзяржаў-рэвізіяністаў, да якіх належалі абодва вялікія суседзі Польшчы — Германія і СССР. Згодны, гэта меркаванне можа быць аспрэчана са спасылкай на негатоўнасць польскага грамадства прыняць варыянт, які пакідаў і Літву, і ўсходнеславянскія тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай па-за межамі адроджанай Польскай дзяржавы. Але якую пазіцыю па гэтым пытанні заняла сама Польская дзяржава, яе ўлады і палітычныя эліты? Яны прапагандавалі анахранічную ідэю ўключэння ў склад Польскай Рэспублікі ці злучэння з ёю ў іншай форме «ўсходніх крэсаў» былой Рэчы Паспалітай «абодвух народаў», насуперак ідэі нацыянальна-дзяржаўнага самавызначэння ўсіх народаў-заснавальнікаў былой федэратыўнай поліэтнічнай дзяржавы. Згодны і з тым, што аптымальнага варыянта дзяржаўнага размежавання Польскай Рэспублікі з яе ўсходнімі суседзямі не было. Але з існаваўшых альтэрнатыўных варыянтаў у выніку *польска-бальшавіцкай змовы ў Рызе* быў рэалізаваны найгоршы, як ні прыкра будзе гэта прызнаць. *І гэты варыянт быў прадыктаваны страхам* — з боку бальшавіцкай Расіі гэта быў страх перад чарговай

галоднай зімой, а з боку Польшчы — перад самой пасляваеннай імперыялістычнай Расіяй.

Можам зразумець тых аўтараў, каго сёння, праз сто з лішкам гадоў пасля заключэння Рыжскага дагавора, пазбаўляе душэўнага камфорту яго інтэпрэтацыя як прычыны трагедыі беларускага і ўкраінскага народаў, каму прыемней гаварыць толькі аб яго прагрэсіўным змесце — аб тым, што дагавор ўратаваў немалую колькасць беларусаў і ўкраінцаў ад сталінскіх рэпрэсій[44]. Гэта праўда, хоць пры гэтым дагавор не ўратаваў беларускую адукацыю і беларускую царкву ў Заходняй Беларусі. Але гаворка зараз не аб гэтым. Не трэба падмяняць пытанні адно другім. Тут мы ставім пытанне пра тое, што *быў адкінуты іншы варыянт мірнага дагавора*, які, вельмі верагодна, меў шанс прынцыпова змяніць як сітуацыю Беларусі і Украіны, так і ў цэлым сітуацыю ва Усходняй Еўропе. Відавочна, што гэты варыянт мог быць рэалізаваны толькі на аснове супрацоўніцтва Польскай Рэспублікі з БНР і УНР, а не супраць іх. Вось жа савецкі расійскі урад прывёў за стол перагавораў сваю марыянетку — Савецкую Украіну, але УНР там не было, як не было і БНР. Чаму? І гэта пры тым, што восенню 1920 г. Савецкая Расія знаходзілася ў слабейшай пазіцыі, чым Польшча. Несумненна, гэта пытанне патрабуе далейшага вывучэнная. Але на іншае пытанне адказ можа быць дадзены ўжо сёння — на пытанне аб тым, які патэнцыял у Версальскай (ці Версальска-Рыжскай) сістэме меў польска-савецкі мірны дагавор, падпісаны ў Рызе — цэнтрабежны ці цэнтраімклівы, разбуральны ці стваральны? Ёсць падставы сцвяржаць, што ён стаў адной з пляцовак для супрацоўніцтва праціўнікаў Версальскай сістэмы, стаў мінай, закладзенай пад яе, адной з такіх, якія выбухнуць у Еўропе праз 19 год. І ў значнай ступені гэта яго роля вызначалася тым, што ён быў заключаны насуперак жыццёвым інтарэсам беларускага і ўкраінскага народаў.

**Summary**

**The 1921 Treaty of Riga: consequences for Belarus and Eastern Europe.**

After analyzing various sources on the problem, the author came to the conclusion that the actual Polish-Bolshevik conspiracy in Riga rejected the way of resolving the Polish-Soviet conflict through a plan alternative to the division of Belarus and Ukraine, in the form of a buffer Belarusian republic. The variant adapted in the peace treaty became one of the platforms for cooperation between the opponents of the Versailles system — Soviet Russia (USSR) and Germany.

44 A. Nowak, *Ryga: interpretacje i konsekwencje w polityce międzynarodowej*, [w:] *Zapomniany pokój. Traktat ryski. Interpretacje i kontrowersje 90 lat później*, red. S. Dębski, Warszawa 2013, s. 131-162.

**Keywords:** Polish-Soviet war, Belarus, the 1921 treaty of Riga, separation, rejected alternative, centrifugal elements of the Versailles system.

**Streszczenie**

**Pokojowy traktat ryski z 1921 roku: następstwa dla Białorusi i Europy Wschodniej**

Po przeanalizowaniu różnorodnych źródeł autor doszedł do wniosku, że w rezultacie faktycznego spisku polsko-bolszewickiego w Rydze odrzucony został alternatywny wobec podziału Białorusi i Ukrainy wariant rozwiązania polsko-sowieckiego konfliktu w formie uznania buforowej Republiki Białoruskiej. Zawarty w traktacie pokojowym wariant stał się jedną z platform współpracy przeciwników systemu wersalskiego — Rosji Sowieckiej (ZSRS) i Niemiec.

**Słowa kluczowe:** wojna polsko-sowiecka, Białoruś, traktat ryski, podział, odrzucona alternatywa, element odśrodkowy systemu wersalskiego.

**Ryhor Łaźko** – emerytowany profesor Uniwersytetu Państwowego w Homlu, były kierownik Katedry Historii Powszechnej. Autor kilkunastu prac dotyczących międzynarodowego położenia Białorusi i Polski w latach 1918–1939.

**Віталь Гарматны**
(Мінск)

# Арганізацыя супрацьпажарнай аховы ў палескай вёсцы ў 1921-1939 гг.

**Сацыяльна-эканамічнае становішча Палесся ў міжваенны перыяд і праблема пажарнай бяспекі.** Пасля заключэння Рыжскага міру ад 18 сакавіка 1921 года тэрыторыя Брэстчыны ўвайшла ў склад міжваеннай Польшчы і на большасці гэтых зямель было створана Палескае ваяводства з рэзідэнцыяй спачатку ў Пінску, але якраз у жніўні 1921 года тут адбыўся вялікі пажар, у выніку якога згарэла трэцяя частка будынкаў, таму ваяводскую сядзібу тэрмінова перанеслі ў Брэст-над-Бугам[1]. Па тэрыторыі гэта была самая буйная адміністратыўна-тэрытарыяльная адзінка (магчыма нават і па ўсёй тагачаснай Еўропе, па памерах ваяводства можна параўнаць напрыклад з Бельгіяй), але адначасова па ацэнках сучаснікаў найменш развітая ў сацыяльна-эканамічным плане і з найменшай гушчынёй насельніцтва (каля 34 чалавек на кв. км.)[2]. Сярод асаблівых звычаяў палешукоў, якія моцна здзіўлялі даследчыкаў, можна адзначыць спальванне лясоў на ўчастку, які планаваўся пад земляробства, што было раней распаўсюджана ў надзвычай даўнія часы[3].

Дамінуючую частку мясцовага насельніцтва складала сялянства, у асноўным далёка не самае багатае і граматнае, акрамя таго на вёсцы з даўняга часу захоўваўся невысокі ўзровень санітарыі ў асабістых гаспадарках (напрыклад яшчэ сустракаліся выпадкі размяшчэння свойскай жывёлы праз сценку ў жылым памяшканні), што адначасова са слаба развітай транспартнай сеткай і неспрыяльнымі прыроднымі ўмовамі прыводзіла да фактычнай замкнутасці, ізаляванасці ад свету ў цэлым і засяроджанасці палешукоў амаль выключна на інтарэсах уласнай мясцовасці. У многім гэта абумовіла захаванне тут шэрагу даўніх спецыфічных праблем, якія перашкаджалі павышэнню эканамічнага дабрабыту сялянства, так напрыклад з-за паўсюднага малазямелля

1 *Największe pożary w Polsce i na świecie*, https://www.ekologia.pl/srodowisko/specjalne/najwieksze-pozary-w-polsce-i-na-swiecie,16873.html [доступ: 02.05.2022].

2 P. Chichoracki, *Województwo poleskie 1921-1939. Z dziejów politycznych*, Łomianki 2014, s. 15.

3 J. Tomaszewski, *Z dziejów Polesia, 1921-1939: zarys stosunków społeczno-ekonomicznych*, Warszawa 1963, s. 116.

хаты і гаспадарчыя пабудовы ў палескіх вёсках стаялі даволі шчыльна, што акрамя частых канфліктаў адносна права ўласнасці зямельных уладанняў, часцяком прыводзіла да таго, што пад час пажараў многія вёскі згаралі цалкам ад аднаго краю да другога.

Па ўспамінах сведак, напрыклад, у прыватнасці ў гміны Круговічы Лунінецкага павета хаты размяшчаліся часта зусім на адлегласці 1,5 м (ледзьве не выцягнутай рукі): стрэхі напускаліся недзе на 0,7 м, плюс паміж імі пакідаўся прагал да 0,1 м. Рабілася страха звычайна з куля — спецыяльна адабранай і выцягнутай адмысловым чынам абмалочаных каласоў жытняй саломы (у вёсках, наваколле якіх было больш забалочаным, стрэхі рабілі з чароту)[4]. Выгадна адрозніваліся на гэтым фоне хаты заробкавых рээмігрантаў з ЗША, якія звычайна пакрывалі стрэхі бляхай, а з часам салома засталася толькі на стрэхах гаспадарчых пабудоў[5].

Да асноўных прычын пажараў можна аднесці наступныя — неасцярожнасць пры паленні цыгарэт і распальванні агню, няспраўнасці пячнога абсталявання, шкодная звычка спальвання вясной старой травы[6], маланкі і на жаль наўмысныя падпалы з-за зайздрасці ад чужога багацця („пусціць пад страху суседа чырвонага пеўня"), незадаволенасці работнікаў памерам атрыманай аплаты, псіхічнага захворвання (піраманія), з мэтай схаваць сляды іншага злачынства (напрыклад забойства) альбо нават падпалы ўласнай маёмасці з мэтай атрымання страхоўкі. Колькасць падпалаў у Польшчы сістэматычна расла: так, у 1923 г. іх зафіксавана 1603, у 1924 г. — 1689, у 1925 г. — 2007, у 1926 г. — 2218, у 1927 г. — 2094, у 1928 г. — 2352, у 1929 г. — 2521, у 1935 г. — 3104, а ў 1937 г. аж 4889 (звесткі не ахопліваюць Познаньскае ваяводства)[7].

Пры расследаванні выпадкаў пажараў звярталася ўвага на важнасць аператыўнага прыбыцця на месца здарэння супрацоўнікаў паліцыі. Вялікае значэнне надавалася абследаванню месца пажару і ваколіц. Перш за ўсё неабходна было прыкласці намаганні, каб знайсці крыніцу пажару, асабліва рэшткі запалаў, доўгія свечкі ў саломе і падобныя доказы злачынства. Шукалі таксама сляды выкарыстання лёгкаўзгаральных

4 А. В. Трафімчык, *Пажары ў палескіх вёсках (1920-1939)*, «Białoruskie Zeszyty Historyczne», 2012, № 38, с. 175.

5 J. Tomaszewski, *Z dziejów Polesia, 1921-1939*, s. 113-114.

6 Такі звычай на жаль захаваўся на беларускай вёсцы да сённяшняга часу, напрыклад у сакавіку 2022 г. з-за гэтага па віне суседа згарэў хлеў майго дзеданябожчыка ў вёсцы Чарневічы Драгічынскага раёна Брэсцкай вобласці, што і паслужыла штуршком для напісання дадзенага артыкула.

7 *W Polsce odrodzonej*, https://www.gov.pl/web/kgpsp/w-polsce-odrodzonej [доступ: 02.05.2022].

вадкасцей, а летам і лінзаў, якія маглі выклікаць пажар, факусіруючы сонечныя прамяні. Паліцыя звяртала ўвагу на сляды вадкасцей, з дапамогай якіх падпальвалі расколіны ў падмурках, пакінутыя фрагменты падлогі і іншыя месцы, якія ацалелі пад час гарэння, а таксама правяраўся пах прадметаў, знойдзеных у агні. Захаваныя пасля агню прадметы клалі ў ваду, каб праверыць, ці насычаныя яны тлушчам, альбо награвалі, каб лепш адчуць пах гаручай вадкасці, потым іх захоўвалі ў шчыльна закрытых шкляных пасудзінах. Нямецкі хімічны рэактыў радакрыт (*rhodocrit*) з гэтай мэтай шырока выкарыстоўваўся ў многіх следчых кабінетах. Прадметы, пакрытыя газай або іншымі лёгкаўзгаральнымі рэчывамі, пасыпаныя радакрытам, чырванелі праз некалькі гадзін, што дазваляла выявіць нават невялікую колькасць гаручага рэчыва.

Паліцыянты правяралі, ці не было наўмысна адчыненых вокнаў і дзвярэй, моцна гарачых печаў і неабгрунтаванага звалу гаручых матэрыялаў каля печаў. Пры расследаванні паліцыя высвятляла прыкметы падпальшчыкаў, для пошуку выкарыстоўваліся службовыя сабакі. Пры абследаванні месцаў пажару рабіліся эскізы будынкаў і фотадакументы. Падчас допыту сведак фіксавалася ці ведаюць яны час пажару і якія ў іх на той час алібі. Паводле паліцэйскай практыкі было ўсталявана, што маладыя і нявопытныя падпальшчыкі часта знаходзіліся сярод людзей, якія непасрэдна назіралі за агнём. У кішэнях падпальшчыкаў часцяком захоўваліся рэшткі запалаў і іншыя прадметы, якія выкарыстоўваліся для падпалаў. Такім чынам вызначалася, хто непасрэдна знаходзіўся на месцы пажару, і непаўналетнія часцей за ўсё абшукваліся. У крамах правяралі, хто купляў нядаўна рэчы, якімі можна лёгка падпаліць.

Падпалы з мэтаю атрымання ў выніку страхоўкі сталі звыклымі ў міжваенны перыяд, і таму былі ўведзены працэдуры для паляпшэння іх выяўлення. Паліцыянты, якія прыбывалі на месца пажару, павінны былі вызначыць уладальніка маёмасці і суму страхоўкі. Абуральныя адрозненні паміж страхавой сумай і рэальным коштам страчанай маёмасці дазвалялі падазраваць, што гэта быў наўмысны падпал. Праведзеныя мерапрыемствы таксама былі накіраваны на вызначэнне матэрыяльнага стану пацярпелага, і ў прыватнасці, ці меў ён пазыкі. Таксама паліцыя правярала, ці былі да пажару вывезены з будынку каштоўныя рэчы, а дзеці адпраўлены да сваякоў. Для выключэння версіі аб бяспечным падпале вызначаўся час ад страхавання да даты пажару і ці не павышаўся страхавы тарыф незадоўга да пажару.

Тагачасная паліцэйская прэса і перш за ўсё штотыднёвік „На варце" („Na posterunku", 1920-1939) змяшчаў шэраг артыкулаў, прысвечаных гэтай тэме. Напрыклад, у артыкуле „Страхавыя падпалы і як з імі

змагацца” (№ 46 за 1939 г.) указвалася на выпадкі нядбайнага агляду следчымі месца падпалу, занадта паспешлівыя высновы, прытрымліванне раней прынятай версіі і заўчаснае спыненне следчага працэсу.

Пры падпалах злачынцы звычайна выкарыстоўвалі для падпалу лёгкаўзгаральныя вадкасці — газа (керасін), бензін і спірт. Вядомыя выпадкі выкарыстання так званых квактух, гэта значыць некалькіх згорнутых і насычаных газай анучак і факелаў. Добра падрыхтаваная квактуха магла тлець нават да 45 хвілін, а потым імгненна загаралася як полымя. Напрыклад, у лістападзе 1935 г. два маладыя хлопцы з вёскі Беражцы (зараз Беразцы) Столінскага павета аказаліся выканаўцамі падпалу, які хутка перакінуўся ў велізарны пажар. За тры дні пажар ахапіў дзясяткі гектараў, у выніку сучаснікі яго называлі самым вялікім пажарам на той час у Еўропе. Агонь прайшоў на паўночны захад ад Беражцоў па рацэ Прыпяць і ахапіў тэрыторыю шырынёй 10 км і даўжынёй амаль 30 км. Было спалена некалькі тысяч стагоў сена, што было адной з асноўных крыніц даходу для многіх жыхароў навакольных вёсак[8]. На дадзены пажар накладаліся спецыфічныя асаблівасці прыродных умоў Палесся — для прыезджых журналістаў было дзівосным бачыць палаючыя тарфяныя балоты, якія ў заключэнні зрабілі выснову, што пажар ледзьве не наблізіўся да самога Пінска, які мог бы быць ізноў істотна спалены[9].

Акрамя таго, напрыклад, яўрэям па суботах наогул забаранялася працаваць, таму больш багатыя з іх прасілі за невялікую плату суседскіх хрысціянскіх дзяцей запаліць замест іх запалкі, а бяднейшыя трымалі з вечара пятніцы палаючыя вуглі ў вёдрах і побач лучыну, што было надзвычай вогненебяспечна. З-за гэтага напрыклад летам 1937 г. у Кобрыне згарэла хата, дзе здымала пакой бедная яўрэйская сям’я[10].

Шырока выкарыстоўвалі пажары ў сваёй падпольнай дзейнасці і барацьбе супраць польскіх улад камуністы, так, за рэзкую „антыкамуністычную прапаганду” ў 1925 г. была спалена сядзіба праваслаўнага святара гміны Бездзеж Драгічынскага павета[11]. У цэлым у некаторых палескіх вёсках на той час праблема падпалаў сядзіб заможных гаспадароў і асаднікаў стаяла настолькі востра, што нават ствараліся сялянскія

8 T. Sawicki, *Pożary i podpalenia w międzywojniu*, https://www.ppoz.pl/czytelnia/historia-i-tradycje/Pozary-i-podpalenia-w-miedzywojniu/idn:1230 [доступ: 02.05.2022].

9 J. Tomaszewski, *Z dziejów Polesia, 1921-1939.*

10 В. Сарычев, *Комасация*, https://vb.by/society/history/ komasacziya.html [доступ: 01.05.2022].

11 В. А. Полуян, И. В. Полуян, *Революционное и национально-освободительное движение в Западной Белоруссии в 1920-1939 гг.*, Минск 1962, с. 79.

патрулі, якія па чарзе ноччу сумесна з паліцыяй абыходзілі вёску для таго, каб не дапусціць новых падпалаў, ад якіх маглі б згарэць усе[12].

Найбольш вялікае шкадаванне канешне выклікаюць пажары, спрычыненыя небяспечнымі дзіцячымі забаўкамі, здараліся таксама і выпадкі, калі дзеці проста не хацелі ісці ў школу і спадзяваліся з дапамогай невялікага пажару сарваць у выніку вучэбны дзень[13]. Напрыклад, 27 мая 1937 года ў Дзяніскавічах Лунінецкага павета малалетні сын Паўла Барташа гуляўся з запалкамі ў сваім гумне і выклікаў узгаранне, у выніку якога агонь хутка перакінуўся на пабудовы суседзяў — братоў Лявона, Данілы і Пятра Калужаў. Згарэлі не толькі гумны і хлявы ўсіх чатырох гаспадароў, але і цялушка, конь, гаспадарчыя прылады працы на агульную суму 6725 злотых.

Яшчэ больш жахлівы выпадак зафіксаваны ў суседняй вёсцы Лактышы. Каля поўначы 12 ліпеня 1937 года з нейкай прычыны ўзнік пажар у гаспадарчых будынках, якія засталіся пасля памерлага Цімоха Сергіені. Агонь хутка распаўсюдзіўся на суседнія будынкі і ахапіў 49 гаспадарак, у якіх налічвалася шмат свіней. Сялянскія страты папярэдне ацэньваліся ў 15-20 тысяч злотых[14].

Канешне ўсе страты можна аднавіць, акрамя чалавечых жыццяў. Чалавечыя страты здараліся на жаль таксама даволі часта, напрыклад, як паведамляла газета „Католік" („Katolik", 1937, R. 71, nr 248, s. 5), „23 кастрычніка (1937 г.) выбухнуў пажар у вёсцы Шэні, аддаленай на 6 км ад Пружан. З павады моцнага ветру цягам некалькі хвілін полымя ахапіла 60 гаспадарак. Агонь пераносіўся з хаты на хату са страшнай хуткасцю. Жывымі згарэлі дзіця і маці, якая пасняшалася, каб ураваць дзіця, аднак ужо не здолела. Абвугленыя парэшткі дзіцяці былі знойдзеныя пад заваламі каля печы, апалены торс маці ляжаў на ўваходзе да гэтага пакою.

Акрамя таго, у шматлікіх месцах бачныя абвугленыя парэшткі кароў, коней, авечак і свіней. У некаторых гаспадарках застаўся спаленым увесь інвентар. Адзін (вясковец) напрыклад згубіў у агні 2 кані, 3 каровы, свіней, авец і хатнюю птушку. Другі — гаспадарчыя прылады на возе, якія ён меў намер выратаваць, але шалёная стыхія не дала яму выехаць з двара.

12 Дзяржаўны архіў Брэсцкай вобласці, ф. 1, воп. 9, спр. 1789, арк. 53зв.: Сообщения и донесения полесского воеводы, поветовых старост, следственных органов и др. о подготовке Коммунистической партии к вооруженному восстанию, пересылке оружия, устройстве стачек и по др. вопросам.

13 T. Sawicki, *Pożary i podpalenia w międzywojniu.*

14 А. В. Трафімчык, *Пажары ў палескіх вёсках (1920-1939)*, «Białoruskie Zeszyty Historyczne», 2012, № 38, с. 175.

Цудам ацалеў адзіны дом у самай сярэдзіне пажару. Дом той пакрыты быў чарапіцаю. Аднак усё роўна згарэў мураваны дом, які быў крыты саломаю.

Страты дасягаюць каля 250 тысяч зл.”[15].

**Стварэнне і дзейнасць Саюза пажарнай аховы.** Такім чынам, справа супрацьпажарнай бяспекі патрабавала ад польскіх улад сістэмнага падыходу і тэрміновага вырашэння. З гэтай мэтай 8-9 верасня 1921 года ў Варшаве адбыўся Першы агульнадзяржаўны з’езд дэлегатаў пажарнай аховы Польшчы, дзе было прынята рашэнне аб стварэнні Галоўнага саюза пажарнай аховы (Związek Straży Pożarnych), на які ўскладаліся абавязкі па агульнай каардынацыі супрацьпажарнай дзейнасці і стварэння шырокай уніфікаванай сеткі мясцовых аддзелаў. Мэтай з’езда было абвешчана „арганізацыйнае аб’яднанне супрацьпажарнай дзейнасці ў імя вялікай ідэі непарыўнасці ўваскрэслай Радзімы і аб’яднання ўсіх духоўных і фізічных сіл нацыі ў момант яе будаўніцтва”. Вялікай праблемай было і існаванне самага разнастайнага абмундзіравання тагачасных пажарных і прывядзення яго да адзінага стандарта[16]. Першым старшынёй Галоўнага саюза быў абраны беларус, ураджэнец вёскі Ярашоўка на Навагрудчыне Баляслаў Хоміч. З 1921 года ў сувязі з вострым недахопам пажарных спецыялістаў пачалі арганізоўвацца штогадовыя інструкцыйныя курсы, дарэчы ў выніку на 1929 год арганізацыя курсаў у Навагрудскім і Палескім ваяводствах была прызнана адной з лепшых у краіне[17].

Па ўсёй тагачаснай Польшчы і ў тым ліку на Палессі пачалі актыўна тэрмінова стварацца аддзелы Саюза пажарнай аховы, але гэтая справа часцяком сустракалася з рознага роду перашкодамі і праблемамі, патрабавала шмат фінансаў, каштоўнага абсталявання, прафесійных кадраў і проста часу. На пачатку 1920-х гг. Міністэрства ўнутраных спраў выдала цыркуляр, згодна якога мясцовыя органы ўлады абавязваліся сачыць за выкананнем правіл пажарнай бяспекі, а грамадзянскае насельніцтва ў кожнай гаспадарцы было абавязана не толькі быць падрыхтаваным да магчымага пажару і мець у наяўнасці абавязковы інвентар (бочкі з вадой і вёдры, пясок, сякеры, рыдлёўкі, багры і іншае), але таксама

15 *Smiertanosny pažar u Šeniach 1937 roku*, https://pruzana.wordpress.com/2020/08/09/smiertanosny-pazar-u-seniach-1937-roku/amp/ [доступ: 2.05.2022].

16 *W Polsce odrodzonej*, https://www.gov.pl/web/kgpsp/w-polsce-odrodzonej [доступ: 02.05.2022].

17 *Веды аб тым, як папярэдзіць узнікненне пажараў і як тушыць іх, назапашваліся стагоддзямі. Гісторыя пажарнай службы Беларусі і Навагрудчыны*, https://novgazeta.by/news/obshhestvo/z-gistoryi-pazharnay-sluzhby-belarusi-i/ [доступ: 01.05.2022].

ў выпадку пажару павінна было прадстаўляць пажарным коней і неадкладна прымаць актыўны ўдзел у яго тушэнні. Такі крок шмат у чым быў звязаны з невялікай колькасцю існуючых каманд і відавочным недахопам пажарных спецыялістаў living рознага ўзроўню.

У параўнанні з іншымі рэгіёнамі Польшчы стварэнне аддзелаў пажарнай аховы на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў першай палове 1920-х гг. спачатку не выклікала зацікаўленасці з боку мясцовага насельніцтва — так на 1925 год ва ўсім Палескім ваяводстве было створана ўсяго 45 аддзелаў, для параўнання ў Віленскім — 50, а Навагрудскім — 82[18]. З другой паловы 1920-х гг. пад націскам дзяржаўнай адміністрацыі пачалося стварэнне разгалінаванай ваяводскай і павятовай структуры пажарнай аховы: у 1930 годзе ў Палескім ваяводстве налічвалася ўжо 310 аддзелаў і з цягам часу аддзелы пажарнай аховы існавалі ў кожнай гміне і нават па некалькі ў самых буйных яе вёсках (звычайна памер адказнасці пажарнай аховы асобнай грамады складаў 5 кіламетраў наваколля). У якасці арганізатараў такіх станцый звычайна выступалі настаўнікі, паліцэйскія альбо мужчыны, якія вярнуліся з войска, вакол якіх паступова групаваліся іх прыхільнікі і памочнікі. Да 1934 года па ўсёй Польшчы колькасць аддзелаў перавысіла 11 тысяч (каля 500 тысяч членаў)[19]. Усяго на 1939 год у Палескім ваяводстве налічвалася 445 пунктаў пажарнай аховы, у складзе якіх налічвалася 8 тысяч членаў, 2 гарадскія і прамысловыя пункты аховы, на балансе станцый мелася 22 аўтамабілі, 41 мотапомпа і 488 шлангаў. На адзін пункт пажарнай аховы на Палессі прыходзілася ў сярэднім 82 кв. км. адказнасці, што было значна вышэй агульнапольскага паказчыка ў 27,9[20].

Пажарныя станцыі былі звычайна абсталяваны досыць проста (на воз усталёўвалі бочкі з вадой і ручныя помпы), таму дзейнасці пажарнай каманды звычайна было недастаткова для змагання з сур'ёзнымі пажарамі нават у суседняй вёсцы. У сувязі з гэтым вялікая ўвага польскімі ўладамі надавалася перш за ўсё супрацьпажарнай бяспецы. Забяспечваўся строгі кантроль канструкцый печаў і комінаў, праводзілася адпаведнае інфармаванне, пад час якога пажарныя і прадстаўнікі ўлады гутарылі з людзьмі, прымянялі заахвочванні і штрафы. У газетах прадпісваліся правілы, як належыць будаваць хату і печ у ёй, своечасова чысціць і бяліць коміны — звычайна гэта адбывалася двойчы на

18 W. Śleszyński, *Województwo Poleskie*, Kraków 2014, s. 261.

19 А. М. Вабішчэвіч, *Нацыянальна-культурнае жыццё Заходняй Беларусі (1921-1939 гг.)*, Брэст 2008, с. 162.

20 *Mały rocznik statystyczny*, Warszawa 1939, s. 315.

год: перад Раством Хрыстовым і на Вялікдзень[21]. З мэтай далейшай дапамогі пацярпелым ад магчымага пажару сялянам прапаноўвалася добраахвотна застрахаваць свае сядзібы[22].

Неад’емнай часткай Саюза пажарнай аховы з’яўлялася Добраахвотная пажарная ахова, дружыны якой масава ствараліся ў гарадах і мястэчках. Непасрэдным яе кіраўніком з’яўляўся начальнік, у выпадку адсутнасці — яго намеснік. Асноўнай задачай мясцовага грамадства ў справе супрацьпажарнай аховы з’яўлялася арганізацыя са свайго ліку і матэрыяльнае ўтрыманне добраахвотнай пажарнай аховы, правядзенне курсаў па павышэнні кваліфікацыі, арганізацыя для сваіх членаў спецыяльных секцый, бібліятэк, кас узаемадапамогі і гэтак далей. Кожны аддзел пажарнай аховы павінен быў мець свой сцяг, а таксама выкарыстоўваць у сваёй дзейнасці пячатку, карпаратыўныя сімвалы і ўніформу.

Члены грамадства дзяліліся на актыўных (плацілі штогадовыя ўнёскі ў памеры 0,50 злотага ў год, непасрэдна прымалі ўдзел у працы аховы), падтрымліваючых (толькі плацілі ўнёскі ў памеры 2 злотых) і ганаровых (прымаліся ў склад грамадства за заслугі, унёскаў не плацілі). У грамадства мог уступіць кожны грамадзянін Польшчы ўзростам не менш 18 гадоў і са станоўчай характарыстыкай. Згодна статуту членам пажарнай аховы мог быць і няпоўнагадовы пры ўмове добрага стану здароўя і пісьмовай згоды бацькоў[23].

Кіраўніцтва грамадскай пажарнай аховай ажыццяўляў агульны сход, управа і начальнік пажарнай аховы. У перапынках паміж сходамі непасрэдным кіраўніцтвам займалася ўправа, якая складалася са старшыні, начальніка аховы і 3-6 членаў тэрмінам паўнамоцтваў на тры гады. Калі ўправа парушала Статут (напрыклад няправільна вяла фінансава-гаспадарчую дзейнасць, альбо яе дзейнасць уступала ў супярэчнасць з заканадаўствам), то яна магла быць распушчана. Бюджэт грамады складаўся з членскіх унёскаў, добраахотных плацяжоў, субсідый з боку мясцовых улад згодна дзейснаму заканадаўству на мэты пажарнай бяспекі і прыбыткі ад праводзімых мерапрыемстваў.

Начальнік Добраахвотнай пажарнай аховы непасрэдна кіраваў тушэннем пажараў і падтрымкай дысцыпліны сярод сваіх падначаленых, меў у дапамогу камандзіраў узводаў. У залежнасці ад колькасці

21 W. Śleszyński, *Województwo Poleskie*, s. 168.

22 А. В. Трафімчык, *Пажары ў палескіх вёсках (1920-1939)*, «Białoruskie Zeszyty Historyczne», 2012, № 38, с. 180.

23 В. Крищенко, *Огнеборцы из Полесского воеводства*, «Архівы і справаводства», 2020, № 4, с. 106-107.

і забеспячэння інвентаром, ахова складалася з аднаго або некалькіх узводаў або спецыяльных дружын. Узвод павінен быў налічваць не менш за 16 чалавек[24].

Разгледзім напрыклад гадавую справаздачу дзейнасці грамады вёскі Макраны Брэсцкага павета з 1 красавіка 1934 г. па 1 красавіка 1935 г. У складзе пажарнай аховы налічвалася 28 актыўных членаў і 22 прыхільнікі. За справаздачны год узвод быў павялічаны з 12 да 22 чалавек, налічвалася 2 афіцэры, 15 шэраговых. Вялася актыўная дзейнасць у сферы прафесійнай падрыхтоўкі: праведзена 19 вучэнняў у памеры 38 гадзін, прачытана 20 гадзін лекцый, члены грамадства прымалі ўдзел у вучэбных дзённых і начных трывогах, адным манёўры. Члены дружыны пастаянна трэніраваліся, здавалі нарматывы па стральбе, скоках, бегу, кіданні гранаты і гэтак далей. У 1934 г. была аказана дапамога ў тушэнні трох пажараў, у тушэнні якіх прынялі ўдзел 17 пажарных, якія пры гэтым праехалі туды і назад 13 кіламетраў.

Нельга таксама абмінуць увагай і фінансавую справаздачу. Прыбыткі грамадства складалі: членскія ўнёскі — 25 злотых, падтрымка гміны — 52 злотых, прыбыткі ад мерапрыемстваў — 20 злотых і іншае. Агульная сума прыбыткаў ацэньвалася ў 122 злотых, якія былі патрачаны наступным чынам: унёскі ў Саюз пажарнай аховы Польшчы — 5 злотых, закупка і тэхнічнае абслугоўванне супрацьпажарнага абсталявання, транспартнага сродку і абмундзіравання — 44,5 злотых, расходы на арганізацыю мерапрыемстваў — 5 злотых і іншае. Згодна інвентарнаму вопісу па стане на 1 красавіка 1935 г. мелася абсталяванне і абмудзіраванне коштам 921 злотых. У распараджэнні грамадства ўтрымліваліся драўлянае дэпо даўжынёй 8 і шырынёю 5 метраў, 1 лесвіца, 1 пажарны рукаў, 5 бочкавозаў, 4 багры, 1 сякера і іншае. Сярод абмундзіравання налічваліся: 1 каска, 12 рамянёў, 25 брызентавых мундзіраў і шапак[25].

**Заканадаўчая база дзейнасці пажарнай аховы.** Пры аналізе заканадаўчай базы арганізацыі супрацьпажарнай аховы міжваеннага перыяду неабходна перш за ўсё ўзгадаць Распараджэнне Прэзідэнта Польшчы Ігнацы Масціцкага ад 16 лютага 1928 г. аб правілах будаўніцтва і размяшчэння жыллёвых пабудоў. Вышэйзгаданы нарматыўны акт размяжоўваў патрабаванні да вогнетрывалых і невогнетрывалых будынкаў, а таксама дакладна вызначаў патрабаванні да комінаў, камінаў, печаў,

24 *Добраахвотная пажарная ахова ў Глыбокім у 1920-1930-я гг.*, http://glubmusej.by/be/nasha-spadchyna/gistoryya-glybochchyny/dobraakhvotnaya-pazharnaya-akhova-glybokim-u-1920-1930-ya-gg [доступ: 01.05.2022].

25 В. Крищенко, *Огнеборцы из Полесского воеводства*, «Архівы і справаводства», 2020, № 4, с. 107-109.

даху, усталёўваў памеры максімальнай вышыні комінаў, мінімальнай адлегласці паміж будынкамі, мінімальнай шырыні праезду ў двор і нават мінімальнай шырыні ўваходных варот[26].

Важнай вехай у дзейнасці пажарнай каманды таго часу з'яўляецца закон ад 13 сакавіка 1934 г. аб ахове ад пажараў і іншых бедстваў, які стаў галоўным рэгулюючым актам у дадзенай сферы і істотна ўзмацніў ролю Пажарнага саюза[27]. 14 студзеня 1935 г. Распараджэннем міністра ўнутраных спраў зацверджаны ўзорны Статут добраахвотных пажарных службаў[28]. Паводле Статута члены Добраахвотнага пажарнага таварыства бралі на сябе наступныя абавязкі:

— падпарадкоўвацца загадам і пастановам начальніка або яго намесніка;

— прымаць актыўны ўдзел у навучанні і знаёміцца з абавязковымі інструкцыямі і правіламі;

— у выпадку аварыі па сігнале прыбываць неадкладна ў пэўнае месца збору ў адпаведным абмундзіраванні і не пакідаць прызначанага памяшкання без дазволу непасрэднага начальніка;

— выкарыстоўваць выдадзеную ім форму, узбраенне і рыштунак Аховы выключна ў службовых мэтах.

Пажарная ахова павінна была аказваць неадкладную дапамогу на тэрыторыі яе адказнасці пры ўзнікненні пажару або іншых стыхій, у выпадку супрацьпаветраных і супрацьгазавых нападаў, па даручэнні ўлад пры ўсялякай іншай неабходнасці[29].

Адносна палажэнняў, якія датычыліся папярэджання пажараў, то тут неабходна назваць распараджэнне міністра ўнутраных спраў 1938 г., у якім меўся пункт аб прадухіленні ўзнікнення і распаўсюджвання пажараў у будынках, але гэта былі агульныя правілы, не задавальняючыя нават часткова праблемы прафілактыкі. Распараджэнне адрознівала віды пажарнай аховы: добраахвотную, прымусовую, прафесійную і прыватную. Прафесійная ахова была абавязковай для горада з больш за 40 тысяч жыхарамі, адпаведна добраахвотныя дружыны дзейнічалі

[26] *Rozporządzenie Prezydenta Rzeczypospolitej z dnia 16 lutego 1928 r. o prawie budowlanym i zabudowie osiedli*, «Dziennik Ustaw Rzeczypospolitej Polskiej», 1928, nr 23, poz. 202.

[27] J. Popis, *Historia pożarnictwa w Polsce*, «Kultura Bezpieczństwa. Nauka — Praktyka — Refleksje», 2013, nr 14, s. 153-172, Kultura_Bezpieczenstwa_Nauka_Praktyka_Refleksje-r2013-t-n14-s153-172.pdf (muzhp.pl) [доступ: 01.05.2022].

[28] *Rozporządzenie Ministra Spraw Wewnętrznych z dnia 14 stycznia 1935 r. o statucie wzorowym ochotniczych straży pożarnych*, https://sip.lex.pl/akty-prawne/dzudziennik-ustaw/statut-wzorowy-ochotniczych-strazy-pozarnych-16835707 [доступ: 01.05.2022].

ў гмінах з менш чым 40 тысяч насельніцтва. У гмінах з менш чым 40 тысяч жыхароў, дзе не было добраахвотнай ці прафесійнай супрацьпажарнай аховы ці іх сілы былі недастатковымі, ствaралася прымусовая ахова. Прыватная ахова ствaралася і падтрымлівалася прадпрыемствамі, установамі і арганізацыямі, у якіх працавала вялікая колькасць работнікаў, альбо якія з-за сваёй дзейнасці патэнцыйна падвяргаліся пажарам. Тут варта таксама ўзгадаць пастанову міністра ўнутраных спраў ад 1937 г., якая вызначала месцазнаходжанне, колькасць і забеспячэнне ваяводскай і павятовых службаў супрацьпажарнай аховы[30].

У Крымінальным кодэксе ад 11 ліпеня 1932 г. пажарам прысвечаны артыкул 215, згодна якому адказнасць ускладалася не толькі на тых, хто ўжо стаў прычынай пажару, але і на тых, хто выклікаў яго небяспеку. У адным палажэнні былі прапісаны дзве магчымыя формы злачынства. Такім чынам, кодэкс пашырыў пакаранне на дзеянні, якія папярэднічалі ўзнікненню пажару. За наўмыснае грэбаванне пажарнай бяспекай прадугледжвалася пазбаўленне волі ад 6 месяцаў да 15 гадоў, а за ненаўмыснае прычыненне гэтай небяспекі — ад тыдня да года або штраф ад 100 да 1 000 000 злотых. Падрыхтоўка да здзяйснення гэтага злачынства каралася ад 6 месяцаў да 5 гадоў зняволення. Тое ж самае было і з дасягненнем спробы яго здзяйснення. Узнікненне пажару і яго небяспека пераследаваліся па службовых абавязках, а яго наўмысная форма разглядалася як злачынства[31].

**Сацыяльныя функцыі пажарнай аховы.** Аддзелы Саюза пажарнай аховы адыгрывалі важную ролю ў грамадска-палітычным і нацыянальна-культурным жыцці Палесся міжваеннага часу, перш за ўсё дзякуючы арганізацыі тэатральных прадстаўленняў, рознага роду спаборніцтваў і ўрачыстасцей. У цэлым пажарныя дружыны акрамя прафілактыкі пажараў і арганізацыі сялянскай узаемадапамогі, разглядаліся польскімі ўладамі як важныя метады ажыццяўлення ў Заходняй Беларусі нацыянальна-культурнай палітыкі і выхавання ў выніку мясцовых сялян у якасці свядомых грамадзян Польшчы, здаваліся даволі перспектыўнымі, бо не насіла выразна палітычнага характару і таму не выклікалі адразу непрыняцця сярод вяскоўцаў[32].

У многіх мястэчках і вёсках аддзелы пажарнай аховы ствараліся пасля забароны там гурткоў Таварыства беларускай школы і іншых

29 *Statut Stowarzyszenia Ochotniczej Straży Pożarnej*, Warszawa 1935, s. 22.

30 J. Popis, *Historia pożarnictwa w Polsce*, «Kultura Bezpieczństwa. Nauka — Praktyka — Refleksje», 2013, nr 14, s. 153-172, Kultura_Bezpieczenstwa_Nauka_Praktyka_Refleksje-r2013-t-n14-s153-172.pdf (muzhp.pl) [доступ: 01.05.2022].

31 T. Sawicki, *Pożary i podpalenia w międzywojniu.*

32 W. Śleszyński, *Województwo Poleskie*, s. 261.

беларускіх нацыянальна-культурных арганізацый, часцяком пераймалі іх функцыі. У будынках пажарнай аховы на рэгулярнай аснове наладжваліся гулянні моладзі, тэатральныя пастаноўкі, дзейнічалі бібліятэкі і аматарскія хары, нярэдка паказвалі кіно ці сумесна слухалі радыёперадачы. Так, у кінатэатры „Пажарнік” („Strażak”) у Століне, калектыўным уладальнікам якога быў мясцовы аддзел пажарнай аховы, два разы на тыдзень дэманстраваліся кінастужкі. Усяго па ўсёй Польшчы на 1938 год пры станцыях пажарнай аховы налічвалася 2500 дамоў культуры, 700 бібліятэк, 1500 ансамбляў і 1000 аркестраў[33]. У выніку культурна-асветніцкая праца аддзелаў пажарнай аховы разглядалася польскімі ўладамі як сродак адцягнення мясцовага насельніцтва ад уплыву „антыдзяржаўных арганізацый”[34].

Цікавым фактам у дзейнасці пажарных таварыстваў у Польшчы міжваеннага часу стала наяўнасць у іх складзе жаночых (самарыцянскіх) дружын, для арганізацыі якіх у 1930 г. прынята спецыяльнае распараджэнне. Жаночыя дружыны досыць хутка набылі папулярнасць, а ў 1931 г. зацверджаны Статут для жаночых аддзелаў і пачала дзейнічаць спецыяльная камісія па справах жаночай пажарнай службы. Мэтай стварэння падобных арганізацый было правядзенне спецыяльных даступных для жанчын работ, якія былі прадугледжаны Статутам Добраахвотнага пажарнага таварыства, перш за ўсё, зразумела, аказанне медыцынскай дапамогі пацярпелым пад час пажару. На Брэстчыне напрыклад такая арганізацыя існавала ў гміне Маларыта і вяла даволі актыўную дзейнасць[35].

У склад дружыны маглі ўваходзіць дзяўчаты старэйшыя за 17 гадоў. Перш чым прыступіць да працы, яны вывучалі правілы гігіены, грамадзянскую абарону, асновы першай медыцынскай дапамогі. Члены жаночай пажарнай дружыны насілі спецыяльную форму, якая складалася з цёмна-сіняй блузкі з адкладным каўняром, што зашпільваўся на шыі, такога ж колеру спадніцы і чорных споднікаў, якія зашпіляліся пад каленам, і скуранога пояса шырынёй у 3-4 см. Самарыцянкі насілі баскскі берэт, на левым баку якога быў прымацаваны значок жаночай добраахвотнай пажарнай дружыны. У якасці верхняга адзення служыў плашч колеру марэнга з поясам шырынёй 4 см[36]. Нават адзін від такой маляўнічай формы ў многім часцяком выклікаў у равесніц захапленне

33 *W Polsce odrodzonej*, https://www.gov.pl/web/kgpsp/w-polsce-odrodzonej [доступ: 02.05.2022].

34 А. М. Вабішчэвіч, *Нацыянальна-культурнае жыццё Заходняй Беларусі*, с. 162.

35 В. Крищенко, *Огнеборцы из Полесского воеводства*, «Архівы і справаводства», 2020, № 4, с. 109.

і адначасова зайздрасць, што ў выніку таксама магло паслужыць стымулам для ўступлення ў арганізацыю.


**Summary**

**Organization of Fire Prevention in the Villages of the Polesie Region in 1921-1939**

Fire prevention in the villages of the Polesie Region remained a major problem throughout the whole of the interwar period because of: very dense settlement patterns of Polesie Region villages, poorly developed road network, low material and cultural standards of the local population. Fires were common and resulted in huge material losses, not infrequently people were killed in them.

In order to raise the level of fire safety Polish authorities started forming firefighting teams recruited from locals. The situation was not improved by lack of specialist equipment and trained personnel. Apart from engaging local population to fight fires and organize preventive actions, membership of local peasants in firefighting teams drew them into pro-state activities and minimalized the influence of leftist organizations and it also integrated local people with the Polish state and socialization.



**Keywords:** fire, firefighting team, prevention, insurance.



**Streszczenie**

**Organizacja bezpieczeństwa pożarowego na wsi poleskiej w latach 1921-1939**

Z powodu nadzwyczaj ciasnej zabudowy wsi poleskich w okresie międzywojennym, słabo rozwiniętej sieci dróg, niskiego poziomu życia materialnego i kulturalnego miejscowej ludności chłopskiej problem bezpieczeństwa przeciwpożarowego na wsi cały czas pozostawał aktualny. Pożary wybuchały często i przyczyniały wielkich strat materialnych, nierzadko ginęli ludzie.

W celu podniesienia poziomu bezpieczeństwa pożarowego władze polskie przystąpiły do tworzenia drużyn straży pożarnej z miejscowej ludności. Sytuację komplikował brak specjalistycznego sprzętu i wykwalifikowanych kadr. Oprócz zaangażowania ludności wiejskiej do walki z pożarami i prowadzenia akcji profilaktycznych, członkostwo w straży pożarnej włączało chłopstwo w działalność prorządową i przeciwdziałało wpływom organizacji lewicowych, integrowało miejscową ludność z państwem polskim i służyło dalszej jej socjalizacji.



**Słowa kluczowe**: pożar, straż pożarna, profilaktyka, ubezpieczenia.



**Witał Harmatny** — kandydat nauk historycznych, naczelnik Wydziału Pracy Wychowawczej Prywatnego Instytutu Zarządzania i Przedsiębiorczości w Mńsku. Zainteresowania badawcze: polityka rolna władz polskich na obszarze Zachodniej Białorusi w latach 1921-1939, społeczno-polityczny i gospodarczy rozwój województwa poleskiego.


[36] *Добраахвотная пажарная ахова ў Глыбокім у 1920-1930-я гг.*, http://glubmusej.by/be/nasha-spadchyna/gistoryya-glybochchyny/dobraakhvotnaya-pazharnaya-akhova-glybokim-u-1920-1930-ya-gg [доступ: 01.05.2022].

**Дзмітрый Крывашэй**
(Мінск)

# Дзяржаўныя прэміі як частка культурнай палітыкі ў БССР

Дзяржаўныя прэміі займаюць асаблівае месца ў сістэме ўзнагарод. Яны выконваюць некалькі важных функцый. У адрозненні ад сферы дакладных навук, дзе ў большасці выпадкаў можна вызначыць эканамічны эфект пэўнай распрацоўкі, міжнародны ўзровень вынікаў даследавання, у сферы культуры можна гаварыць хутчэй аб сацыяльным і ідэалагічным эфекце. Такім чынам, Дзяржаўныя прэміі ў галіне культуры як ніякія іншыя адлюстроўваюць ідэалогію эпохі, канкрэтны гістарычны час.

Гісторыя прысуджэння прэмій дзеячам культуры на нацыянальным узроўні бярэ свой пачатак у канцы XIX ст. Напрыклад, у галіне літаратуры гэта Грыбаедаўская прэмія (Расія, 1878), прэмія Рамбера (Швейцарыя, 1898), Ганкураўская прэмія (Францыя, 1903), Народная прэмія Шылера (Германія, 1905), прэмія Фастэнрата (Іспанія, 1909), Пулітцэраўская прэмія (ЗША, 1903).

У СССР першай прэміяй для дзеячаў культуры стала Прэмія імя Сталіна (Сталінская прэмія), заснаваная ў 1939 годзе[1]. За ўвесь час існавання прэміі (да 1952 г.) яе лаўрэатамі сталі 36 дзеячаў культуры і мастацтва БССР[2]. Пазней, у 1956 годзе, была заснавана Ленінская прэмія СССР, а ў 1966 годзе — Дзяржаўная прэмія СССР. Лаўрэатамі Ленінскай прэміі сталі восем дзеячаў культуры Беларусі[3]. Дзяржаўная прэмія СССР у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры была прысуджана 36 прадстаўнікам Беларусі[4].

[1] *Об учреждении премии и стипендии имени Сталина*, Постановление СНК СССР от 20 декабря 1939 г., „Правда”, 21.12.1939.

[2] Падлічана па: *Сталинская премия в области литературы и искусства*, https://ru.wikipedia.org/wiki/Сталинская_премия_в_области_литературы_и_искусства [доступ: 15.07.2021].

[3] Падлічана па: *Лауреаты Ленинской премии*, https://ru.wikipedia.org/wiki/Лауреаты_Ленинской_премии [доступ: 15.07.2021].

[4] Падлічана па: *Лауреаты Государственной премии СССР в области литературы, искусства и архитектуры*, https://ru.wikipedia.org/wiki/Лауреаты_Государственной_премии_СССР_в_области_литературы_искусства_и_архитектуры [доступ: 15.07.2021].

Першымі рэспубліканскімі прэміямі сталі заснаваныя ў 1957 годзе літаратурныя прэміі імя Янкі Купалы і імя Якуба Коласа[5]. За перыяд 1957-1965 гг. прэміі прысуджаліся пяць разоў (у 1959, 1962, двойчы ў 1964 г.[6], 1965). Лаўрэатамі сталі 16 творцаў.

У 1965 г. статус згаданых прэмій быў павышаны. Пастановай Урада рэспублікі былі заснаваны Дзяржаўныя прэміі БССР за выдатныя творы літаратуры, мастацтва і выканальніцкага майстэрства агульнай колькасцю шэсць адзінак: за творы прозы і літаратуразнаўчыя работы — прэмія імя Якуба Коласа; за творы паэзіі і драматургіі — прэмія імя Янкі Купалы; за творы жывапісу, скульптуры, графікі, манументальна-дэкаратыўнага і прыкладнога мастацтва — адна прэмія; за музычныя творы вялікіх і малых форм, а таксама выдатную канцэртна-выканаўчую дзейнасць — адна прэмія; за работы рэжысёраў, дырыжораў, балетмайстраў, хормайстраў, артыстаў і мастакоў у пастаноўках фільмаў і спектакляў — дзве прэміі. Гэтыя прэміі маглі таксама ўручацца за даследчыя і крытычныя работы ў згаданых галінах культуры. Памер адной прэміі складаў 2500 рублёў[7], з 1989 года — 5 тысяч[8]. Асобам, якія былі адзначаны Дзяржаўнай прэміяй Беларускай ССР, прысвойвалася званне „Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларускай ССР", уручаўся Дыплом і Ганаровы знак.

За 1965-1991 гг. палажэнне аб Дзяржаўных прэміях неаднаразова мянялася. У 1967 годзе да згаданых шасці прэмій дабавілася сёмая — за работы ў галіне журналістыкі (імя Панцеляймона Мікалаевіча Лепяшынскага)[9], а ў 1968 годзе — прэмія за выдатныя работы ў галіне

[5] *Аб устанаўленні прэміі імя Янкі Купалы і імя Якуба Коласа*, Пастанова Савета Міністраў БССР ад 21 снежня 1957, № 751, „Збор законаў, Указаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, пастаноў і распараджэнняў Савета Міністраў Беларускай ССР", 1957, № 12, арт. 290.

[6] Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (далей: НАРБ), ф. 7, воп. 5, спр. 855, арк. 203: Распоряжение Совета Министров БССР от 21 мая 1964 г. № 622р; НАРБ, ф. 7, воп. 5, спр. 893, арк. 205: *О присуждении литературных премий*, Распоряжение Совета Министров БССР от 30 декабря 1964 г., № 1867р.

[7] *Аб устанаўленні Дзяржаўных прэмій БССР за выдатныя творы літаратуры, мастацтва і выканальніцкае майстэрства*: Пастанова Савета Міністраў БССР ад 18 лістапада 1965 г., № 540, „Збор законаў, Указаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, пастаноў і распараджэнняў Савета Міністраў Беларускай ССР", 1965, № 36, арт. 423.

[8] *Палажэнне аб Дзяржаўных прэміях Беларускай ССР у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры*: зацверджана пастановай ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР ад 27 лістапада 1989 г., № 305 „Збор законаў, Указаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, пастаноў і распараджэнняў Савета Міністраў Беларускай ССР", 1989, № 36, арт. 398.

[9] *Пытанні Дзяржаўных прэмій БССР,* Пастанова Савета Міністраў БССР ад 19 мая 1967 г., № 177, „Збор законаў, Указаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета

архітэктуры[10]. Пастановай 1968 года было ўдакладнена, што „Дзяржаўныя прэміі БССР могуць прысуджацца таксама за даследчыя і крытычныя работы ў галіне выяўленчага, музычнага, тэатральнага мастацтва, кінематаграфіі, журналістыкі і архітэктуры"[11]. У 1971 годзе да існаваўшых на той момант васьмі прэмій дадалася дзявятая — за выдатныя і найбольш таленавітыя высокаідэйныя творы літаратуры і мастацтва для дзяцей[12]. У 1989 годзе была заснавана дзясятая прэмія — імя Кастуся Каліноўскага — за творы ў галіне мастацкай публіцыстыкі (літаратура, мастацтва)[13].

Цікава прасачыць змены фармуліровак, за што прысуджаліся прэміі. Адпаведна Палажэнню 1965 года, Дзяржаўныя прэміі БССР прысуджаліся штогод за „выдатныя творы і работы ў галіне літаратуры і мастацтва, якія садзейнічаюць камуністычнаму выхаванню працоўных, адпавядаюць прынцыпам сацыялістычнага рэалізму і атрымалі шырокае грамадскае прызнанне"[14]. У Палажэнні 1971 года[15] замест прыметніка „выдатныя" з'явіліся словы „высокаідэйныя і высокамастацкія". Змена фармуліроўкі не была выпадковай.

У студзені 1969 года пад грыфам „зусім сакрэтна" была прынята пастанова сакратарыята ЦК КПСС „Аб павышэнні адказнасці кіраўнікоў

Беларускай ССР, пастаноў і распараджэнняў Савета Міністраў Беларускай ССР", 1967, № 17, арт. 248.

10 *Аб устанаўленні Дзяржаўнай прэміі БССР за выдатныя работы ў галіне архітэктуры,* Пастанова Савета Міністраў БССР ад 28 чэрвеня 1968 г., № 190 „Збор законаў, Указаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, пастаноў і распараджэнняў Савета Міністраў Беларускай ССР", 1968, № 21, арт. 307.

11 *Аб дзяржаўных прэміях БССР,* Пастанова ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР ад 8 ліпеня 1968 г., № 201 „Збор законаў, Указаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, пастаноў і распараджэнняў Савета Міністраў Беларускай ССР", 1968, № 21, арт. 306.

12 *Аб Дзяржаўных прэміях БССР,* Пастанова ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР ад 7 мая 1971 г., № 160 „Збор законаў, Указаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, пастаноў і распараджэнняў Савета Міністраў Беларускай ССР", 1971, № 15, арт. 211.

13 *Палажэнне аб Дзяржаўных прэміях Беларускай ССР у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры*: зацверджана пастановай ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР ад 27 лістапада 1989 г., № 305.

14 *Палажэнне аб Дзяржаўных прэміях Беларускай ССР*: зацверджана пастановай Савета Міністраў БССР ад 18 лістапада 1965 г., № 540, „Збор законаў, Указаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, пастаноў і распараджэнняў Савета Міністраў Беларускай ССР", 1965, № 36, арт. 423.

15 *Палажэнне аб Дзяржаўных прэміях БССР*: зацверджана пастановай ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР ад 27 мая 1971 г., № 160 „Збор законаў, Указаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, пастаноў і распараджэнняў Савета Міністраў Беларускай ССР", 1971, № 15, арт. 211.

органаў друку, радыё, тэлебачання, кінематаграфіі, устаноў культуры і мастацтва за ідэйна-палітычны ўзровень матэрыялаў, якія друкуюцца, і рэпертуару”[16]. Яна абавязвала работнікаў друку, дзеячаў літаратуры і мастацтва больш востра, з класавых, партыйных пазіцый выступаць супраць любых праяў буржуазнай ідэалогіі, актыўна і ўмела прапагандаваць камуністычныя ідэалы, перавагі сацыялізму, савецкага ладу жыцця. У пастанове адзначалася, што „асобныя аўтары, рэжысёры і пастаноўшчыкі адыходзяць ад класавых крытэрыяў пры ацэнцы і асвятленні складаных грамадска-палітычных праблем, фактаў і падзей, а часам становяцца носьбітамі поглядаў, чужых ідэалогіі сацыялістычнага грамадства. Маюцца спробы аднабакова, суб’ектывісцкі ацаніць важныя перыяды гісторыі партыі і дзяржавы”.

Найбольш прыдатнай формай для рэалізацыі адзначаных у пастанове задач была публіцыстыка, якая трывалае месца заняла ў перыядычным друку, кіно, тэлебачанні і радыё. Для такіх твораў яшчэ ў 1967 годзе была заснавана асобная Дзяржаўная прэмія — імя П. Лепяшынскага.

Не дзіўна, што творы-лаўрэаты ў гэтай намінацыі вызначаліся ідэалагізаванасцю, тэндэнцыйнасцю, вялікай доляй суб’ектывізму. Бо іх галоўнай задачай была прапаганда пэўных поглядаў, выхаванне спажыўца інфармацыі, фарміраванне грамадскай думкі. Адметна, што ў нямецкай мове гэты жанр носіць назву „журналістыка меркаванняў”. Публіцыстычны твор базуецца на цвёрдай адназначнай пазіцыі па пэўным пытанні. У ім няма плюралізму думак, поглядаў, меркаванняў. Адметнасцю публіцыстычных твораў з’яўляецца іх стварэнне „на злобу дня”, адсюль хуткая страта актуальнасці іх зместу. Яркім прыкладам з’яўляюцца публіцыстычныя дакументальныя фільмы „Ад імя дзяцінства”, „Барацьба не спыняецца”, „Дарога ў пастку”, за якія ў 1984 годзе рэжысёр і аператар Віктар Шаталаў атрымаў Дзяржаўную прэмію. Як адзначаў Максім Танк — „ягоныя фільмы вызначаюцца палітычнай страснасцю, яны непрымірымыя да вайны, гнеўныя і патрыятычныя”[17].

Ацэньваючы творы, адзначаныя Дзяржаўнай прэміяй БССР, з пазіцый сённяшняга дня, відавочны нізкі ўзровень асобных з іх. Напрыклад, аб хроніка-дакументальным фільме „Генерал Пушча”, за які рэжысёр, лаўрэат Сталінскай прэміі другой ступені 1943 года Іосіф

[16] Центр хранения современной документации, ф. 4, оп. 19, д. 131, л. 2-6: *О повышении ответственности руководителей органов печати, радио, телевидения, кинематографии, учреждений культуры и искусства за идейно-политический уровень публикуемых материалов и репертуара*, Постановление секретариата ЦК КПСС от 7 января 1969 г., № 64/1с.

[17] М. Танк, *Здабыткі нашай культуры*, „Літаратура і мастацтва”, 4.01.1985.

Вейняровіч і аўтар сцэнарыя Анатоль Вялюгін атрымалі Дзяржаўную прэмію БССР 1968 года, мастацтвазнаўца Канстанцін Рэмішэўскі піша: „Змест і лексіка закадравага каментарыя гранічна спрошчаны, стыль перадачы інфармацыі — прамалінейны і недвухсэнсоўны. Інтэлектуальная і эстэтычная планка вобразаў, выдуманых сітуацый і метафар зніжана да такога ўзроўню, што гэта ставіла ў нязручнае становішча нават кіназнаўцаў савецкага часу”[18].

Яркімі прыкладамі прапагандысцкіх твораў эпохі з’яўляецца кніга нарысаў „Рабочы: сацыяльны партрэт”, за якую аўтары Наталля Конанава, Мікалай Кярнога і Аляксандр Сафроненка атрымалі Дзяржаўную прэмію імя П. Лепяшынскага 1974 года і кнігі нарысаў Васіля Праскурава „Пакланіся зямлі-карміцельцы”, „Чорны хлеб” (Дзяржпрэмія БССР 1986 года).

Аднак такіх твораў хапала і ў іншых намінацыях. З’явай часу стала публіцыстычная паэзія. У замежным цыкле Кастуся Кірэенкі (Дзяржпрэмія БССР 1972 года), які склаў у яго «Кнізе ста песень» эмацыянальна насычаны раздзел «Далёка ад дому», вельмі востра крытыкуецца капіталістычны свет, паэт выступае палымяным патрыётам сваёй сацыялістычнай Радзімы.

Значную частку кнігі вершаў Генадзя Бураўкіна „Варта вернасці” (Дзяржпрэмія БССР 1980 года) займае цыкл публіцыстычных вершаў „Амерыканскія эскізы”, напісаны па выніках удзелу ў 1976 годзе ў складзе дэлегацыі БССР у рабоце XXXI сесіі Генеральнай Асамблеі ААН, і паэма „Ленін думае пра Беларусь”. У той жа час сярод лірычных вершаў выдзяляецца „Снежная імпрэсія”, якая была пакладзена на музыку Эдуардам Ханком і стала адной з візітовак ансамбля „Верасы” (песня „Завіруха”).

За „патрыятычныя песні, створаныя ў апошнія гады” ў 1972 годзе быў адзначаны Дзяржаўнай прэміяй БССР кампазітар Юрый Семяняка[19]. У 1988 годзе Анатоль Вярцінскі стаў лаўрэатам за кнігу „Нью-йоркская паэма”.

У 1989 годзе з фармуліроўкі, за якія творы магла прысуджацца прэмія, знікла вызначэнне „сацыялістычны рэалізм”. Цяпер прэмія магла быць прысуджана за „атрымаўшыя грамадскае прызнанне таленавітыя, высокаідэйныя творы літаратуры і мастацтва, якія вызначаліся сваёй

[18] К. Ремишевский, *История, ожившая в кадре*, [у:] *Белорусская кинолетопись: испытание временем: в 3 кн.*, кн. 2: *1954-1969*, Минск 2017, с. 75.

[19] *Аб прысуджэнні Дзяржаўных прэмій 1972 года ў галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры*: пастанова ЦК КПБ і Савета Міністраў Беларускай ССР, „Звязда”, 31.12.1972.

навізной у мастацкім даследаванні рэчаіснасці, арыгінальныя архітэктурныя збудаванні, якія мелі асаблівую эстэтычную каштоўнасць, навуковыя даследаванні, якія ўносілі значны ўклад у развіццё марксісцка-ленінскай эстэтыкі, тэорыі і практыкі мастацкай творчасці”[20].

На працягу існавання прэміі змянялася і працэдура разгляду работ і іх адбору да ўдзелу ў конкурсе. Для гэтых мэт была створана Камісія па Дзяржаўных прэміях (далей — Камісія). Творы і работы павінны былі быць прадстаўлены ў Камісію да 20 красавіка наступнага каляндарнага года. З 1968 года на конкурс сталі прымацца работы, апублікаваныя, публічна паказаныя ці выкананыя (у галіне архітэктуры — аб’екты, уведзеныя ў эксплуатацыю) на працягу апошніх трох гадоў, але не пазней за 31 снежня папярэдняга года. Камісія праводзіла прыём работ штогод да 1 ліпеня[21]. З 1971 года ўжо Камітэт па дзяржаўных прэміях у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры (далей — Камітэт) на працягу двух гадоў да 1 лютага года, у якім прысуджаецца прэмія, прымаў да ўдзелу ў конкурсе работы і творы, якія былі закончаны на працягу чатырох апошніх гадоў, што папярэднічаюць году, у якім прысуджаецца прэмія[22]. З 1989 года Камітэт на працягу двух гадоў да 31 снежня года, які папярэднічаў году прысуджэння, прымаў творы літаратуры, журналістыкі, публіцыстыкі, выяўленчага мастацтва, архітэктуры, навуковыя працы, якія былі апублікаваны (выстаўлены для публічнага паказу, узведзены) не больш чым за пяць гадоў, а кіна- і тэлефільмы, тэатральныя, радыё- і тэлеспектаклі, канцэртныя праграмы публічна выкананы (паступіўшыя ў пракат) не больш чым за тры гады да даты прысуджэння прэміі[23].

У Пастанове 1965 года адзначалася, што „Дзяржаўныя прэміі БССР, як правіла, паўторна не прысуджаюцца”. У Палажэнні 1968 года ўдакладнялася: „У асобных выпадках лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі БССР

[20] *Палажэнне аб Дзяржаўных прэміях Беларускай ССР у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры*: зацверджана пастановай ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР ад 27 лістапада 1989 г., № 305.

[21] *Палажэнне аб Дзяржаўных прэміях Беларускай ССР*: зацверджана пастановай ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР ад 8 ліпеня 1968 г., № 201.

[22] *Палажэнне аб Камітэце па Дзяржаўных прэміях БССР у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры*: зацверджана пастановай ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР ад 27 мая 1971 г., № 160, „Збор законаў, Указаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, пастаноў і распараджэнняў Савета Міністраў Беларускай ССР”, 1971, № 15, арт. 211.

[23] *Палажэнне аб Дзяржаўных прэміях Беларускай ССР у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры*: зацверджана пастановай ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР ад 27 лістапада 1989 г., № 305.

другая прэмія можа быць прысуджана толькі пры наяўнасці новых выдатных дасягненняў і не раней чым праз пяць гадоў пасля першага прысуджэння прэміі"[24]. Па палажэнню 1971 года — не раней чым праз шэсць гадоў пасля папярэдняга прысуджэння[25]. У тым жа годзе з'явілася ўдакладненне аб недапушчэнні ўключэння ў састаў калектыву спаборнікаў асоб толькі па прыкмеце адміністрацыйнай і арганізацыйнай работы. З 1989 года паўторнае прысуджэнне Дзяржаўнай прэміі магло адбыцца не раней чым праз сем гадоў пасля папярэдняга прысуджэння[26].

З 1982 года не дапускалася прадстаўленне на атрыманне Дзяржаўнай прэміі работ альбо твораў, аўтары якіх раней удастоены за іх дзяржаўных узнагарод[27]. У тым жа годзе было ўведзена абмежаванне па колькасным складзе аўтарскага калектыву — „восем чалавек па работах у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры"[28].

У 1989 годзе было дазволена ўдзельнічаць ў конкурсе на суісканне Дзяржаўнай прэміі БССР работам, якія ўдзельнічалі ў конкурсе на суісканне Ленінскай ці Дзяржаўнай прэмій СССР, былі ўхвалены грамадскасцю, але ў выніку галасавання не былі адзначаны. З'явілася дапаўненне, што ў склад аўтарскага калектыву можна было ўключаць асоб, якія не з'яўляліся грамадзянамі Беларускай ССР і СССР[29].

Першапачаткова прэмія прысуджалася Урадам рэспублікі. Але ўжо з 1968 года — рашэннем Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі (далей — ЦК КПБ) і Савета Міністраў Беларускай ССР (далей — СМ БССР) па прадстаўленню Камісіі па Дзяржаўных прэміях

[24] *Палажэнне аб Дзяржаўных прэміях Беларускай ССР*: зацверджана пастановай ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР ад 8 ліпеня 1968 г., № 201.

[25] *Палажэнне аб Дзяржаўных прэміях БССР*: зацверджана пастановай ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР ад 27 мая 1971 г., № 160.

[26] *Палажэнне аб Дзяржаўных прэміях Беларускай ССР у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры*: зацверджана пастановай ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР ад 27 лістапада 1989 г., № 305.

[27] *Аб дзяржаўных прэміях Беларускай ССР*: пастанова ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР ад 26 мая 1982 г., № 187 „Збор законаў, Указаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, пастаноў і распараджэнняў Савета Міністраў Беларускай ССР", 1982, № 20, арт. 406.

[28] *Палажэнне аб Дзяржаўных прэміях Беларускай ССР*: зацверджана пастановай ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР ад 26 мая 1982 г., № 187 „Збор законаў, Указаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, пастаноў і распараджэнняў Савета Міністраў Беларускай ССР", 1982, № 20, арт. 406.

[29] *Палажэнне аб Дзяржаўных прэміях Беларускай ССР у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры*: зацверджана пастановай ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР ад 27 лістапада 1989 г., № 305.

(пункт 2 Пастановы ЦК КПБ і СМ БССР ад 14 студзеня 1968 г. № 14[30] і п. 6 Палажэння аб Дзяржаўных прэміях БССР 1968 г.[31]).

У 1971 годзе з заснаваннем Дзяржаўнай прэміі БССР у галіне навукі і тэхнікі палажэнне аб прысуджэнні Дзяржаўных прэмій было істотна перагледжана. Прэміі сталі прысуджацца раз у два гады (кожны цотны год)[32].

Першае ўручэнне Дзяржаўных прэмій адбылося ў 1966 годзе, калі было пысуджана пяць прэмій (прэмія за творы жывапісу, скульптуры, графікі, манументальна-дэкаратыўнага і прыкладнога мастацтва не была прысуджана), а лаўрэатамі сталі дзевяць чалавек. Усяго з 1966 па 1990 гг. было праведзена 15 конкурсаў работ на атрыманне Дзяржаўнай прэміі ў галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры. Лаўрэатамі сталі 194 асобы (пісьменнікі Іван Шамякін і Іван Новікаў, мастак Міхаіл Савіцкі — двойчы). Самы высокі паказчык па колькасці лаўрэатаў прэміі па выніках аднаго конкурсу быў у 1980 годзе — 26 чалавек. Самыя малыя — у 1969 і 1978 гг. (па чатыры лаўрэаты).

Як ужо адзначалася вышэй, для разгляду работ, вылучаных на атрыманне прэмій была створана адмысловая Камісія[33]. Першапачаткова на пленарным пасяджэнні Камісія тайным галасаваннем простай большасцю галасоў прымала рашэнне аб рэкамендацыях па прысуджэнню Дзяржаўных прэмій БССР і ўносіла свае прапановы ў Савет Міністраў БССР. З 1968 года неабходна была большасць не менш за 2/3 галасоў прысутных. Пры гэтым пасяджэнне лічылася правамоцным пры наяўнасці не менш за 2/3 складу Камісіі[34].

У 1971 г. замест Камісіі былі заснаваны два асобныя камітэты па Дзяржаўных прэміях. У структуры кожнага Камітэта быў створаны

[30] Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва (далей: БДАМЛіМ), ф. 78, воп. 1, спр. 160, арк. 3: *О присуждении Государственных премий БССР 1967 года*, Постановление ЦК КПБ и Совета Министров БССР от 12 января 1968 г., № 14.

[31] *Палажэнне аб Дзяржаўных прэміях Беларускай ССР*: зацверджана пастановай ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР ад 8 ліпеня 1968 г., № 201.

[32] *Аб Дзяржаўных прэміях БССР*, Пастанова ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР ад 7 мая 1971 г., № 160.

[33] *Камісія па Дзяржаўных прэміях Беларускай ССР*: дадатак да пастановы Савета Міністраў БССР ад 18 лістапада 1965 г., № 540, „Збор законаў, Указаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, пастаноў і распараджэнняў Савета Міністраў Беларускай ССР”, 1965, № 36, арт. 423.

[34] *Палажэнне аб Камісіі па Дзяржаўных прэміях БССР*: зацверджана пастановай ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР ад 8 ліпеня 1968 г., № 201, „Збор законаў, Указаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, пастаноў і распараджэнняў Савета Міністраў Беларускай ССР”, 1968, № 21, арт. 306.

Прэзідыум (старшыня, намеснік, старшыні секцый, адказны сакратар). Пасяджэнні Камітэта лічыліся правамоцнымі пры наяўнасці 2/3 яго саставу. Рашэнні аб рэкамендацыях па прысуджэнню прэмій прымалася тайным галасаваннем, большасцю не менш як 2/3 галасоў ад ліку прысутных[35].

Першапачаткова Камітэт у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры налічваў 50 членаў (уключна з адказным сакратаром). У 1971 годзе яго старшынёй быў прызначаны Пятрусь Броўка. Намеснікам — міністр культуры БССР Міхаіл Мінковіч[36].

Камісіі (Камітэту) было прадстаўлена права ўтвараць секцыі і экспертныя камісіі па асобных галінах для папярэдняга разгляду твораў і работ. У 1967 годзе былі створаны творчыя секцыі: літаратуры і журналістыкі (старшыня Пётр Глебка), тэатральнага мастацтва і кіно (старшыня Ларыса Александроўская), выяўленчага мастацтва (старшыня Андрэй Бембель), музыкі (старшыня Уладзімір Алоўнікаў)[37]. У далейшым у сувязі з ростам колькасці прэмій расла і колькасць секцый.

Адзначым адну істотную акалічнасць у працэдуры прыняцця рашэння аб прысуджэнні Дзяржаўнай прэміі БССР. Рашэнне Камісіі аб прысуджэнні Дзяржаўных прэмій мела рэкамендацыйны характар. Адпаведна п. 7 Палажэння аб Дзяржаўных прэміях БССР 1965 года па выніках тайнага галасавання Камісія ўносіла свае прапановы ў СМ БССР[38], а з 1968 года — у ЦК КПБ і СМ БССР, якія выдавалі сумесную пастанову. Такім чынам апошняе слова заставалася за кіраўніцтвам партыі і ўрада рэспублікі.

Хіба што ўмяшаннем вышэйстаячых органаў можна патлумачыць унясенне ў самы апошні момант карэктываў у спіс прэтэндэнтаў. Так адбылося ў 1968 годзе, калі 21 кастрычніка Прэзідыум Саюза пісьменнікаў БССР на сваім пасяджэнні разгледзеў пытанне аб дадатковым вылучэнні твораў сучаснай беларускай літаратуры на Дзяржаўную прэмію БССР. Адзначым, што да гэтага, у ліпені 1968 года да ўдзелу ў конкурсе

35 *Палажэнне аб Камітэце па Дзяржаўных прэміях БССР у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры*: зацверджана пастановай ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР ад 27 мая 1971 г., № 160.

36 *Састаў Камітэта па Дзяржаўных прэміях БССР у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры*: зацверджаны Пастановай ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР ад 7 мая 1971 г., № 160 „Збор законаў, Указаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, пастаноў і распараджэнняў Савета Міністраў Беларускай ССР", 1971, № 15, арт. 211.

37 БДАМЛіМ, ф. 971, воп. 1, спр. 4, арк. 5: *Пратакол № 1 пасяджэння Камісіі па Дзяржаўных прэміях БССР*. 9 жніўня 1967 г.

38 *Палажэнне аб Дзяржаўных прэміях Беларускай ССР*: зацверджана пастановай Савета Міністраў БССР ад 18 лістапада 1965 г., № 540.

былі дапушчаны такія празаічныя творы, як раман „Вогнены азімут” Алеся Асіпенкі, раманы „Сасна пры дарозе” і „Вецер у соснах” Івана Навуменкі, аповесць Уладзіміра Дубоўкі „Жоўтая акацыя”[39].

Прэзідыум праўлення Саюза пісьменнікаў БССР адзначаў, што „Беларуская ССР знаходзіцца напярэдадні вялікага свята — 50-годдзя свайго існавання. Сустракаючы гэтае радаснае свята, беларускі народ падагульвае пройдзены слаўны год, свае здабыткі ў развіцці эканомікі, культуры, духоўнага жыцця. На вялікі жаль, Саюз пісьменнікаў БССР пры вылучэнні твораў беларускай літаратуры на Дзяржаўныя прэміі не ўлічыў некаторых твораў, якія заваявалі шырокую папулярнасць у народзе і з'яўляюцца каштоўным здабыткам нашай літаратуры”[40]. Такім творам быў раман Міхася Лынькова „Векапомныя дні” ў новай рэдакцыі (па выданні 4-томніка «Збору твораў»)[41]. Ужо 24 кастрычніка на сваім пасяджэнні Камісія разглядзела пытанне аб дадатковым уключэнні яго ў конкурсны спіс[42]. Па выніках абмеркавання Камісіяй у спіс для тайнага галасавання на атрыманне прэміі імя Якуба Коласа быў унесены толькі гэты твор, за які станоўча выказаліся ўсе 43 удзельнікі галасавання[43], што здаралася вельмі рэдка.

Былі выпадкі, калі на ўзроўні ЦК КПБ і СМ БССР зацвярджаліся не ўсе прапановы Камітэта. Напрыклад, па выніках тайнага галасавання Камітэт рэкамендаваў прысудзіць прэмію ў галіне архітэктуры за 1974 год Льву Пагарэлаву і Аляксандру Кішчанку за распрацоўку праекта і мастацкае афармленне гасцініцы „Турыст” у г. Мінску[44].

39 БДАМЛіМ, ф. 971, воп. 1, спр. 9, арк. 7: *В комиссии по Государственным премиям БССР*, без даты.

40 БДАМЛіМ, ф. 971, воп. 1, спр. 16, л. 1-2: *Ліст праўлення Саюза пісьменнікаў БССР у Камісію па дзяржаўных прэміях БССР.* 22 кастрычніка 1968 г.

41 БДАМЛіМ, ф. 971, воп. 1, спр. 16, арк. 4: *Выпіска з пратакола № 7 сумеснага пасяджэння Прэзідыума і партбюро Саюза пісьменнікаў БССР.* 21 кастрычніка 1968 г.

42 БДАМЛіМ, ф. 371, воп. 1, спр. 9, арк. 10-11: *Пратакол № 2 пасяджэння Камісіі па Дзяржаўных прэміях БССР.* 24 кастрычніка 1968 г.

43 БДАМЛіМ, ф. 971, воп. 1, спр. 9, арк. 15: *Протокол № 2 заседания счетной комиссии о результатах тайного голосования по присуждению Государственных премий Белорусской ССР 1968 года*, без даты.

44 БДАМЛіМ, ф. 971, воп. 1, спр. 38, арк. 32: *Пратакол № 2 пасяджэння падліковай камісіі Камітэта*. 20 снежня 1974 г.; БДАМЛіМ, ф. 371, воп. 1, спр. 38, арк. 43: *Письмо Комитета по Государственным премиям БССР в области литературы, искусства и архитектуры секретарю ЦК КПБ П. М. Машерову и Председателю Совета Министров БССР Т. Я. Киселеву об итогах проведенного конкурса на соискание Государственных премий БССР в области литературы, искусства и архитектуры за 1974 г.,* без даты; БДАМЛіМ, ф. 371,

Аднак у выніковай пастанове ЦК КПБ і СМ БССР ад 27 снежня 1974 года пазіцыі аб прысуджэнні прэміі ў галіне архітэктуры няма[45].

Падобная сітуацыя паўтарылася і ў 1976 годзе, калі не была прынята рэкамендацыя Камітэта прысудзіць Дзяржаўную прэмію ў галіне кінематаграфіі стваральнікам поўнаметражнай дакументальнай стужкі „Пра матак можна гаварыць бясконца" сцэнарысту Міхаілу Фрайману, рэжысёрам Іосіфу Вейняровічу, Пятру Аліферанку, Рышарду Ясінскаму, аператарам Анатолю Алаю і Феліксу Кучару[46]. Змянілася і фармуліроўка прысуджэння прэміі Івану Мележу. Камітэт прапаноўваў прысудзіць пісьменніку прэмію імя П. Лепяшынскага (у галіне журналістыкі). Але ў сумеснай пастанове ЦК КПБ і СМ БССР Івану Мележу пасмяротна была прысуджана прэмія ў галіне літаратуры, якая не мела ніякага імя. Гэта парушала п. 7 Палажэння аб Дзяржаўных прэміях БССР[47].

У 1980 годзе Камітэту тэрмінова трэба было перагледзець сваё рашэнне аб рэкамендацыі на прысуджэнне прэмій. 25 снежня сабраўся прэзідыум Камітэта. На ім выступіў загадчык сектара мастацкай літаратуры аддзела культуры ЦК КПБ Сяргей Законнікаў. Ён інфармаваў прысутных аб тым, „што ў ЦК КПБ паступілі матэрыялы, якія кампраметуюць маральнае аблічча Уладзіміра Хацяноўскага, вылучанага на Дзяржаўную прэмію БССР 1980 года [у галіне журналістыкі за кнігу „Вектор четвёртый"[48] — Д. К.] (непрыстойныя маніпуляцыі з аўтамабілямі і інш.). Аб меркаванні, што прысуджэнне Дзяржаўных прэмій

воп. 1, спр. 38, арк. 45: *О присуждении Государственных премий БССР [1974 г.] в области литературы, искусства и архитектуры*, Проект постановления ЦК КПБ и Совета Министров БССР.

45 *Аб прысуджэнні Дзяржаўных прэмій БССР [1974 г.]*, Пастанова ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР ад 27 снежня 1974 г., № 363 „Збор законаў, Указаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, пастаноў і распараджэнняў Савета Міністраў Беларускай ССР", 1974, № 2, арт. 37.

46 БДАМЛіМ, ф. 371, воп. 1, спр. 49, арк. 122: *Письмо Комитета по Государственным премиям БССР в области литературы, искусства и архитектуры секретарю ЦК КПБ П. М. Машерову и Председателю Совета Министров БССР Т. Я. Киселеву об итогах проведенного конкурса на соискание Государственных премий БССР в области литературы, искусства и архитектуры за 1976 г.*, без даты; *Аб прысуджэнні Дзяржаўных прэмій [1976 г.] у галіне літаратуры і мастацтва,* Пастанова ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР, „Звязда", 31.12.1976.

47 *Палажэнне аб Дзяржаўных прэміях БССР*: зацверджана пастановай ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР ад 27 мая 1971 г., № 160.

48 БДАМЛіМ, ф. 371, воп. 1, спр. 67, арк. 104: *Письмо Комитета по Государственным премиям БССР в области литературы, искусства и архитектуры первому секретарю ЦК КПБ Т .Я. Киселёву и председателю Совета Минист-*

БССР тром ткачыхам з камбіната мастацкіх вырабаў выкліча разлад сярод калектыву ткачых, бо ўсіх іх працавала над габеленам 18 чалавек”[49]. Пасля абмену думкамі было вырашана накіраваць ліст у ЦК КПБ з прапановай не раіць прысуджаць Дзяржаўныя прэміі журналісту У. Хацяноўскаму і ткачыхам Т. Сініцы, Ж. Бакалінскай, Н. Шарковай[50].

У выніку кандыдатура У. Хацяноўскага была выключана са спісу. Адносна ткачых у ЦК КПБ меркаванне змянілася. 30 снежня 1980 года прэзідыум Камітэта зноў сабраўся. На ім С. Законнікаў інфармаваў аб тым, „што ў ЦК КПБ паступіла прапанова Барысаўскага гаркама КПБ у сувязі з вылучэннем на Дзяржаўную прэмію работніц мастацкага ткацтва Барысаўскага камбіната мастацкіх вырабаў. Каб не ўносіць разладу ў калектыў ткачых-выканальніц габеленаў, Барысаўскі гаркам КПБ прапануе вылучыць на Дзяржаўную прэмію БССР не трох чалавек, як гэта было зроблена раней, а сем, самых адказных і высокакваліфікаваных ткачых”[51]. Прэзідыуму Камітэта не заставалася нічога іншага, як пагадзіцца з такой прапановай. На наступны дзень была прынята сумесная пастанова ЦК КПБ і СМ БССР[52].

Насуперак Палажэнню не аднаразова прысуджаліся адразу дзве прэміі па адной намінацыі. Напрыклад, у 1972 годзе былі прысуджаны дзве прэміі за творы для дзяцей. Пры гэтым Янка Маўр (Іван Фёдараў) атрымаў яе пасмяротна за творы, якія былі напісаны намнога раней, чым за чатыры гады, што папярэднічалі году, у якім праводзіўся конкурс. У 1976 годзе былі прысуджаны адразу дзве прэміі імя Янкі Купалы, у гадах 1980, 1982 і 1984 — па дзве прэміі імя Янкі Купалы і імя Якуба Коласа, у 1990 годзе — дзве прэміі імя Якуба Коласа. У 1978 годзе — дзве прэміі імя Якуба Коласа (прэмія імя Янкі Купалы не прысуджалася).

*ров БССР А. Н. Аксёнову о работе Комитета и итогах тайного голосования*, без даты.

49 БДАМЛіМ, ф. 371, воп. 1, спр. 67, арк. 92: *Пратакол № 10 пасяджэння прэзідыума Камітэта па Дзяржаўных прэміях БССР у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры.* 25 снежня 1980 г.

50 БДАМЛіМ, ф. 371, воп. 1, спр. 67, л. 93: *Ліст прэзідыума Камітэта па Дзяржаўных прэміях БССР у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры ў ЦК КПБ*, без даты [паміж 25 і 29 снежня 1980 г.].

51 БДАМЛіМ, ф. 371, воп. 1, спр. 67, арк. 94: *Пратакол пасяджэння прэзідыума Камітэта па Дзяржаўных прэміях БССР у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры*. 30 снежня 1980 г.

52 *Аб прысуджэнні Дзяржаўных прэмій [1980 г.] у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры.* Пастанова ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР, „Звязда”, 31.12.1980.

Часам уручэнне другой прэміі адбывалася за кошт сродкаў, вылучаных на прэміі па іншай намінацыі, па якой па выніках конкурсу не атрымалася вызначыць кандыдатуру. Напрыклад, у 1976 годзе Камітэт хадайнічаў перад першым сакратаром ЦК КПБ Пятром Машэравым і старшынёй СМ БССР Ціханам Кісялёвым: „Комитет убедительно просит Вас присудить в этом году по поэзии две премии. Одну из них тов. Бородудину Григорю Ивановичу, как получившему абсолютное большиство голосов, и вторую премию тов. Сипакову Ивану Даниловичу, также получившему необходимое количество голосов. [...] В этом году не использованы по Комитету две премии: одна в области театральной деятельности и вторая в области архитектуры”[53].

Але былі і іншыя сітуацыі. Напрыклад, у 1980 годзе Дзяржаўная прэмія БССР імя Якуба Коласа была прысуджана калектыву аўтараў двухтомнага даследавання па гісторыі беларускай літаратуры і паэту, пісьменніку і перакладчыку Якаву Хелемскаму за пераклады на рускую мову твораў беларускіх аўтараў. У Пратаколе пасяджэння прэзідыума Камітэта за 30 чэрвеня адзначана: „4. Вылучэнне прэміі за пераклады ўключыць у спісак па рубрыцы „у галіне літаратуры”, як звыш устаноўленую, паводле вуснай дамоўленасці ў ЦК КПБ нябожчыка П. У. Броўкі”[54].

Непасрэдна ў тэксце пастановы ЦК КПБ і СМ БССР аб прысуджэнні Дзяржаўных прэмій БССР у галіне літаратуры, мастацтва і літаратуры 1980 года адзначалася: „[...] у сувязі з тым, што ў сёлетнім годзе была прадстаўлена вялікая колькасць работ па літаратуры высокай ідэйна-мастацкай вартасці, якія выклікалі шырокі водгук у рэспубліцы і далёка за яе межамі, прысудзіць у парадку выключэння дзве прэміі імя Янкі Купалы і дзве прэміі імя Якуба Коласа”[55].

Пытанне аб колькасці літаратурных прэмій і кандыдатурах у 1982 годзе было вырашана на ўзроўні ЦК КПБ. На пасяджэнні прэзідыума Камітэта 4 лістапада прысутнічаў загадчык аддзела культуры ЦК КПБ Іван Антановіч. Ён вымушаны быў прасіць, „каб пісьменнікі трошкі

53 БДАМЛіМ, ф. 371, воп. 1, спр. 49, арк. 123: *Письмо Комитета по Государственным премиям БССР в области литературы, искусства и архитектуры секретарю ЦК КПБ П. М. Машерову и Председателю Совета Министров БССР Т. Я. Киселеву*, без даты.

54 БДАМЛіМ, ф. 371. воп. 1, спр. 67, арк. 29: *Пратакол № 2 пасяджэння прэзідыума Камітэта па Дзяржаўных прэміях БССР у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры*. 30 чэрвеня 1980 г.

55 *Аб прысуджэнні Дзяржаўных прэмій [1980 г.] у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры. Пастанова ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР*, „Звязда”, 31.12.1980.

паправілі саміх сябе. Вы маеце тры законныя прэміі, а просіце сем. Гэта вельмі неабдумана. Мы параіліся ў сябе ў ЦК і хочам папрасіць вас прыняць такі выхад. У сувязі са стагоддзем з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа мы мяркуем прысудзіць не па адной, а па дзве прэміі Янкі Купалы і Якуба Коласа. Значыцца, у вас будзе пяць прэмій. Дзве ж лішнія — трэба зняць. Вам цяжка называць сваіх таварышаў? Тады і ў гэтым мы можам вам памагчы. Толькі летась Пятрусь Макаль атрымаў літаратурную прэмію імя Аркадзя Куляшова, і яго можна перанесці на наступны Камітэт. Уладзімір Караткевіч нядаўна ўзнагароджаны ордэнам Дружбы народаў, яго раман „Чорны замак Альшанскі" — выйшаў толькі ў часопісным варыянце. Прапанаваць таксама перанесці на наступны Камітэт. Паколькі прэміі за пераклады пакуль што няма, будзе законна перанесці кандыдатуру Семяжона на прэмію Янкі Купалы"[56]. У выніку членам прэзідыума заставалася толькі пагадзіцца з такой прапановай. У тым годзе лаўрэатамі літаратурных прэмій сталі пяць чалавек, як і прапаноўваў ЦК КПБ.

На тым жа пасяджэнні Іван Антановіч паўплываў і на прыняцце рашэння па кандыдатурах на атрыманне прэміі ў галіне тэатральнага мастацтва, кінематаграфіі, радыё і тэлебачання. Ён падтрымаў рашэнне секцыі тэатра, кіно, тэлебачання і радыёвяшчання аб унясенні ў спіс для галасавання тэлеспектакляў рэжысёра Уладзіміра Забелы „Крыло цішыні" і „Завеі, снежань", а таксама творчай групы кінафільма „Вазьму твой боль". І. Антановіч параіў пакінуць абедзве пазіцыі і адзначыў, што „ў ЦК на гэты конт параяцца, і, калі не знойдуць магчымасці адзначыць кожны з іх асобнай прэміяй, то, можа, мэтазгодна будзе даць іх абодва пад адной фармуліроўкай на адну прэмію"[57].

У сувязі з тым, што на прэзідыуме Камітэта былі ўнесены папраўкі па кандыдатурах пісьменнікаў, Іван Антановіч прапанаваў правесці пасяджэнне партгрупы Камітэта, бо „трэба заручыцца, каб усе камуністы на сесіі Камітэта прагаласавалі за іх"[58]. Партгрупа сабралася ў той жа дзень. Абмеркаванне было гарачым. Супраць пераносу кандыдатуры Уладзіміра Караткевіча на Камітэт 1984 года выказаўся Анатоль Анікейчык. На яго думку, з ліку прэтэндэнтаў на Дзяржаўную прэмію можна было б выключыць кандыдатуру Барыса Сачанкі. Генадзь Бураўкін прапанаваў пакінуць кандыдатуру Караткевіча, не назваўшы

[56] БДАМЛіМ, ф. 371, воп. 1, спр. 76, арк. 87: *Пратакол № 2 пасяджэння прэзідыума Камітэта па Дзяржаўных прэміях БССР у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры*. 4 лістапада 1982 г.

[57] Там сама, арк. 88-89.

[58] Там сама, арк. 89.

замест каго. З рэзкай нязгодай супраць пераносу на наступны Камітэт Уладзіміра Караткевіча выступіў Ніл Гілевіч. Ён адзначыў, што „Караткевіч адзіны, хто распрацоўвае ў нас гістарычную тэму, гэтым пераносам ён будзе надоўга траўміраваны”[59].

Іван Антановіч вымушаны быў зноў адзначыць, што „куды разумней і карысней для літаратуры, калі Дзяржаўная прэмія БССР будзе прысуджана і Караткевічу, і Сачанку, толькі Караткевічу трэба пачакаць да наступнага Камітэта, а з Сачанкам зрабіць гэтага нельга, бо ён ужо чакаў. Немалаважная прычына і ў тым, што Сачанкава кніга напісана пра наш, савецкі час”[60]. У выніку за кандыдатуры Васіля Зуёнка, Язэпа Семяжона і Янкі Брыля партгрупа прагаласавала адзінагалосна. Супраць Барыса Сачанкі прагаласавала восем чалавек[61]. Нягледзячы на такі супраціў кандыдатура Б. Сачанкі была ўнесена ў спісак для тайнага галасавання Камітэта і атрымала 33 галасы за і 5 супраць. Гэта добры вынік. Напрыклад, за кандыдатуру Івана Шамякіна як аўтара сцэнарыя мастацкага фільма „Вазьму твой боль” было атрымана толькі 28 галасоў і 10 супраць[62]. Можа гэта тлумачыцца тым, што пісьменнік ужо быў лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі імя Якуба Коласа 1967 года.

У сумеснай пастанове ЦК КПБ і СМ БССР ад 27 снежня 1982 года адзначалася: „Улічваючы, што на суісканне Дзяржаўных прэмій Беларускай ССР у галіне літаратуры і ў галіне тэатральнага мастацтва, кінематаграфіі, радыё і тэлебачання была прадстаўлена вялікая колькасць твораў высокага ідэйна-мастацкага ўзроўню, і ў сувязі з 60-годдзем утварэння СССР, 100-годдзем з дня нараджэння народных паэтаў Беларусі Янкі Купалы і Якуба Коласа прызнаць мэтазгодным прысудзіць, у выглядзе выключэння, замест адной дзве прэміі імя Янкі Купалы і дзве прэміі імя Якуба Коласа, замест дзвюх прэмій у галіне тэатральнага мастацтва, кінематаграфіі, радыё і тэлебачання — тры прэміі”[63]. Разам было прысуджана адзінаццаць прэмій.

59 БДАМЛіМ, ф. 371, воп. 1, спр. 76, арк. 91: *Пратакол пасяджэння партгрупы Камітэта па Дзяржаўных прэміях БССР 1982 года*. 4 лістапада 1982 г.

60 Там сама.

61 Там сама.

62 БДАМЛіМ, ф. 371, воп. 1, спр. 76, л. 102: *Пратакол № 2 падліковай камісіі па тайнаму галасаванню Камітэта па Дзяржаўных прэміях БССР [у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры]*. 4 лістапада 1982 г.

63 *Аб прысуджэнні Дзяржаўных прэмій Беларускай ССР 1982 года ў галіне літаратуры і мастацтва* (вытрымка), Пастанова ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР ад 27 снежня 1982 г., № 402, „Збор законаў, Указаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, пастаноў і распараджэнняў Савета Міністраў Беларускай ССР”, 1982, № 2, арт. 55.

Такім чынам, усе прапанаваныя ЦК КПБ кандыдатуры атрымалі дыпломы лаўрэатаў. Кандыдатуры Уладзіміра Караткевіча і Петруся Макаля былі перанесены на Камітэт 1984 года[64] і па выніках конкурсу сталі лаўрэатамі. У. Караткевіч ужо пасмяротна[65].

Калі гаварыць аб ідэйным змесце твораў-лаўрэатаў Дзяржаўнай прэміі БССР, то можна вызначыць некалькі асноўных тэматычных блокаў.

На першым месцы творы, галоўнай тэмай якіх з'яўляецца Вялікая Айчынная вайна. За ўсю гісторыю прысуджэння толькі ў 1980 і 1988 годзе сярод лаўрэатаў не было твора на гэту тэму. У 1986 годзе (у 1985 г., калі адзначалася 40-годдзе Перамогі, прэмія не прысуджалася) адразу па чатырох намінацыях з васьмі лаўрэатамі сталі творы на ваенную тэматыку. Наколькі гэта тэма была актуальнай, сведчыць поспех творчай дзейнасці пісьменніка і журналіста Івана Новікава, які двойчы за сем гадоў атрымаў Дзяржаўную прэмію: у 1968 годзе — за дакументальную аповесць «Тварам да небяспекі» пра герояў Віцебскага падполля; у 1974 годзе — за сцэнарый шасцісерыйнага тэлефільма «Руіны страляюць...», пастаўлены па матывах яго кнігі. Заўважым, што І. Новікаў быў лаўрэатам прэміі імя Якуба Коласа 1965 года за дакументальную аповесць «Дарогі скрыжаваліся ў Мінску» аб Мінскім падполлі.

Другой важнай тэмай твораў-лаўрэатаў Дзяржаўнай прэміі БССР стала тэма Беларусі, яе слаўная гісторыя, народныя традыцыі. Аналіз прысуджэння прэміі па гадах паказаў, што толькі ў 1968 годзе не былі адзначаны творы на гэту тэму. Пачынаючы з 1980 года яна стала дамінаваць. У тым годзе ёй былі прысвечаны творы-лаўрэаты па трох з сямі намінацый. Але рэкордным, што і не дзіўна, стаў 1990 год, калі ў чатырох з васьмі намінацый прэмію атрымалі творы нацыянальнай тэматыкі.

Вывучэнне спісаў лаўрэатаў і іх твораў дазваляе таксама вызначыць асобныя постаці з гісторыі Беларусі, пра якіх у савецкі час не толькі можна было, але і трэба было пісаць. У першую чаргу гэта Янка Купала і Якуб Колас. У год іх 90-гадовага юбілею (1972 год) прэміяй былі адзначаны даследаванні Івана Навуменкі „Янка Купала: духоўны воблік героя" і „Якуб Колас: духоўны воблік героя" і серыя графічных лістоў Арсена Кашкурэвіча па матывах твораў Янкі Купалы. У 1974

[64] БДАМЛіМ, ф. 371, воп. 1, спр. 76, арк. 152: *Письмо Комитета по Государственным премиям БССР в области литературы, искусства и архитектуры первому секретарю ЦК КПБ Т. Я. Киселёву и председателю Совета Министров БССР А. Н. Аксёнову о работе Комитета и итогах тайного голосования*, без даты. Не раней за 4.11.1982 г.

[65] М. Танк, *Здабыткі нашай культуры*, „Літаратура і мастацтва", 4.01.1985.

годзе — Алесь Якімовіч за аповесці сярод якіх „Кастусь Каліноўскі”; Анатоль Анікейчык, Леў Гуміleўскі, Андрэй Заспіцкі — за помнік Янку Купале ў г. Мінску. У 1976 годзе лаўрэатам стаў Аляксей Глебаў (пасмяротна) за стварэнне статуі помніка Францыску (Георгію) Скарыне ў г. Полацку. У 1984 годзе прэміяй была адзначана група дзеячаў культуры за пастаноўку радыёспектакляў „Хамуціус” па паэме Аркадзя Куляшова пра Кастуся Каліноўскага і „Рыбакова хата” па паэме Якуба Коласа. У 1986 годзе прэміяй былі адзначаны вакальна-сімфанічная паэма „Янка Купала”, сюіта „Батлейка” для аркестра народных інструментаў кампазітара Віктара Помазава і цыкл біяграфічных тэлевізійных фільмаў Ігара Казлоўскага („Янка Купала. Паклон мой народу за песні”, „Я не самотны... Максім Багдановіч”, „Пятрусь Броўка. Голас сэрца”, „Максім Гарэцкі. Прысады жыцця”). У 1990 годзе — раман-эсэ Алега Лойкі „Францыск Скарына, або Сонца маладзіковае” і даследаванне Генадзя Кісялёва „Спасцігаючы Дуніна-Марцінкевіча”.

Нельга гаварыць аб тым, што фаварытамі былі творы, напісаныя на рэвалюцыйную тэматыку, раскрываючыя падзеі станаўлення савецкай улады, вобраз Леніна. Такое адбылося ўсяго некалькі разоў. У 1968 годзе Дзяржаўнай прэміяй БССР быў адзначаны спектакль «Шостае ліпеня» па п’есе Міхаіла Шатрова Беларускага дзяржаўнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа (рэжысёр-пастаноўшчык Саламон Казіміроўскі, мастак Яўген Нікалаеў). Цікава, што ў тым годзе адзначалася 50 год з дня падаўлення мяцяжу левых эсэраў ў Петраградзе, аб чым і была п’еса. Наступнае прысуджэнне прэміі па гэтай тэматыцы адбылося толькі ў 1980 годзе, калі лаўрэатамі сталі мастакі Аляксандр Кішчанка і Міхаіл Савіцкі разам з групай ткачых за стварэнне габеленаў „Ленінізм” і „Этапы вялікага шляху”. Яны былі размешчаны ў будынку ЦК КПБ. Як адзначалася на прэзідыуме Камітэта, „секцыя [выяўленчага мастацтва і архітэктуры] аддала перавагу працы А. Кішчанкі і М. Савіцкага не толькі таму, што стварэнне габеленаў новы і вельмі складаны від мастацтва, а яшчэ і таму, што гэтая праца нясе высакародныя сацыяльныя ідэі”[66].

У 1986 годзе Дзяржпрэмію атрымалі Юрый Цвяткоў, Уладзімір Няхамкін і Вадзім Купрыянаў за цыкл дакументальных фільмаў „Рэвалюцыя дае нам права...”, „Мост”, „Чарвякову, спешна... Ленін”, „Гісторыя адной тэлеграмы”, і мастак Васіль Шаранговіч — за ілюстрацыі да „Маніфеста Камуністычнай партыі” (выдавецтва „Беларусь”, 1982).

[66] БДАМЛіМ, ф. 371, воп. 1, спр. 67, арк. 78: *Пратакол № 8 пасяджэння прэзідыума Камітэта па Дзяржаўных прэміях БССР 1980 года*. 4 снежня 1980 г.

Сярод іншых тэм, творы па якой атрымалі Дзяржаўную прэмію, была тэма славянскага братэрства. Яна з’яўляецца асноўнай у кнізе паэзіі Янкі Сіпакова „Веча славянскіх балад” (Дзяржпрэмія БССР 1976 года). У 1978 годзе Дзяржпрэміяй імя П. Лепяшынскага была адзначна кніга нарысаў „Сказанне аб балгарскім браце” Аляксандра Сімурава. У паэтычным зборніку Ніла Гілевіча „У добрай згодзе” (Дзяржпрэмія БССР 1980 года) дружбе народаў-братоў прысвечаны нізкі вершаў „З балгарскага сшытка” і „Славенскія дзівосы”.

Нягледзячы на значную ідэалагізаванасць твораў-лаўрэатаў, нельга гаварыць аб тым, што лірычныя творы былі па-за ўвагай Камітэта. Так, у 1968 годзе Дзяржаўную прэмію БССР атрымаў зборнік вершаў і паэм Аляксея Пысіна „Твае далоні”, у 1976 годзе — кніга вершаў Рыгора Барадуліна „Рум”, у 1984 годзе — зборнік вершаў Дануты Бічэль-Загнетавай „Дзе ходзяць басанож”, а ў 1986 годзе — кніга лірыкі Яўгеніі Янішчыц „Пара любові і жалю”, у 1988 года — кніга вершаў Міхася Стральцова „Мой свеце ясны”.

Такім чынам, гісторыя прысуджэння Дзяржаўных прэмій БССР яскрава сведчыць аб значнай увазе кіраўніцтва рэспублікі да літаратуры і мастацтва. Безумоўна лідзіруючая роля ва ўмовах ідэалагічнай барацьбы дзвюх сістэм адводзілася літаратуры і публіцыстыцы. Калі ў пачатку сваёй гісторыі прэміі прысуджаліся за выдатныя творы, то ўжо з 1971 года — за высокаідэйныя. Пры гэтым яны павінны былі садзейнічаць камуністычнаму выхаванню працоўных, адпавядаць прынцыпам сацыялістычнага рэалізму. Толькі ў 1989 годзе палажэнні аб сацыялістычным рэалізме і выхаванні былі замены на навізну ў мастацкім даследаванні рэчаіснасці.

Узмацненне ролі партыі ў жыцці грамадства адлюстравалася ў змене працэдуры прысуджэння Дзяржаўных прэмій. Калі першапачаткова рашэнне аб прысуджэнні Дзяржаўных прэмій прымалася на ўзроўні органа выканаўчай улады, то з 1968 года стала прымацца сумесная пастанова СМ БССР і ЦК КПБ. Паступова рос уплыў на канчатковае рашэнне аб прысуджэнні прэмій з боку ЦК КПБ. Існавалі выпадкі не зацвярджэння на ўзроўні ЦК асобных вынікаў конкурсу.

Сярод тэматычнай накіраванасці твораў-лаўрэатаў на першым месцы знаходзіцца тэма Вялікай Айчыннай вайны. На другім — тэма Беларусі, яе гісторыі і традыцый. У 1980-х гадах яна стала дамінуючай.

**Summary**

**State Awards as an Element of Cultural Policy in the Byelorussian Soviet Socialist Republic**

The article considers the evolution of the mechanism of awarding State Prizes of the Belarusian SSR in the fields of literature, art and architecture. The author draws attention to the change of wording, for which the prizes were awarded, determines the main thematic focus of the awarded works, and notes a gradual strengthening of the role of the Communist Party in the development and decision-making of awards.

**Keywords:** State Prizes, Belarusian SSR, Committee on State Prizes, literature, art, architecture, journalism.

**Streszczenie**

**Nagrody państwowe jako część polityki kulturalnej w BSSR**

W artykule omówiono ewolucję mechanizmu nominowania utworów do nagród państwowych w Białoruskiej SRR w dziedzinie literatury, sztuki i architektury oraz procedury ich przyznawania. Autor zwraca uwagę na zmianę sformułowań, uzasadniających przyznanie nagrody, wyznacza obszary tematyczne nagrodzonych prac, wskazuje na stopniowy wzrost wpływu organów partyjnych na proces nominowania kandydatów i na podejmowania decyzji o przyznaniu nagród.

**Słowa kluczowe:** Nagroda Państwowa, Białoruska SRR, Komitet Nagród Państwowych, literatura, sztuka, architektura, dziennikarstwo.

**Dzmitry Kryvashei —** doktor, sekretarz naukowy Białoruskiego Centrum Naukowo-Badawczego Dokumentacji Elektronicznej, autor trzech monografii i ponad 150 artykułów. Zainteresowania badawcze: historia kultury Białorusi w XX i XXI wieku, dyplomacja kulturalna.

**Гужалоўскі Аляксандр**
(Мінск)
ORCID: https://orcid.org/0000-0002-9743-8724

# Спроба нацыяналізацыі афіцыйнага гістарычнага наратыву ў БССР у перыяд хрушчоўскай „адлігі”

Адліга ў беларускай гістарычнай навуцы складалася пад уплывам розных, супярэчлівых, часта цяжкаўлоўных тэндэнцый. Крытыка культу Сталіна і яго наступстваў зрабіла выбух у грамадскай свядомасці, узняла пытанне аб свабодзе даследчай дзейнасці, прынамсі, аб пашырэнні рамак, якія абмяжоўвалі гэтую свабоду. Гістарычная навука ў гады адлігі развівалася пад знакам пераходнага стану ідэалогіі камуністычнай партыі, што зрабіла магчымым праявы несанкцыянаваных ёю грамадскіх поглядаў.

Гістарыёграфы аднадушныя ў аднясенні гэтага перыяду развіцця савецкай гістарычнай навукі да пераломных[1]. З усяго спектра меркаванняў, прапанаваных беларускімі гісторыкамі найбольш узважаным нам уяўляецца характарыстыка гістарычнай навукі ў гады «адлігі», дадзеная Генадзем Сагановічам[2]. Ён звярнуў увагу на істотныя змены партыйнай дактрыны, выводзячы з іх навацыі ў гістарычнай навуцы. Г. Сагановіч таксама паказаў важнае значэнне пашырэння распрацоўкі нацыянальнай праблематыкі, што дазваляла хаця б часткова вярнуцца да гістарычных рэалій. Тым не менш, сутнасць этапу «адлігі» ў беларускай гістарыяграфіі не вызначана. Усе развагі абарочваюцца вакол спробы даць пазітыўную ці негатыўную ацэнку гістарычным даследаванням тых гадоў[3].

Пачатак эпохі «адлігі» быў адзначаны з'яўленнем першага афіцыйнага марксісцкага наратыву беларускай гісторыі ў выглядзе двухтомнай «Гісторыі Беларускай ССР»[4]. Важнасць гэтай падзеі было цяжка

[1] Л. Сидорова, *Оттепель в исторической науке: Советская историография первого послесталинского десятилетия*, Москва 1997, с. 6.

[2] Г. Сагановіч, *Хрушчоўская адліга ў беларускай гістарыяграфіі*, „Гадавік Цэнтра Беларускіх Студыяў”, 2016, № 2, с. 248-267.

[3] Гл.: Р. Ліндនэр, *Гісторыкі і ўлада. Нацыятворчы працэс і гістарычная палітыка ў Беларусі XIX-XX ст.*, Мінск 2005, с. 376-388.

[4] *История Белорусской ССР*, т. 1, ред. В. Перцев, К. Шабуня, Л. Абецедарский, Минск 1954, 502 с.

перабольшыць — на аснове падрыхтаванага ў Інстытуце гісторыі АН БССР вялікага гістарычнага наратыву выбудоўвалася ўся афіцыйная палітыка памяці — у падручніках гісторыі і белетрыстыцы, СМІ і музейных экспазіцыях, візуальных мастацтвах і рытуалах. Нягледзячы на ідэалагічную важнасць праекта, пошук гісторыкамі кампрамісу паміж класавым і нацыянальным, які адбываўся на фоне вялікага тэрору, вайны, а таксама ідэалагічных кампаній другой паловы 1940-х — пачатку 1950-х гг., заняў амаль два дзесяцігоддзі[5]. Бясконцыя абмеркаванні і дапрацоўкі рукапісу спыніла смерць Сталіна, якая вызваліла ад татальнага страху прадстаўнікоў як гістарычнага цэху, так і партыйных куратараў праекта на чале з сакратаром ЦК КПБ па ідэалогіі Цімафеем Гарбуновым.

Першы том «Гісторыі Беларускай ССР» прапанаваў цэласную сістэму базавых ідэалагічных канструктаў, у якія былі змешчаны ключавыя падзеі беларускай гісторыі. У падмурку марксісцкага бачання беларускай гісторыі знаходзілася канцэпцыя «старажытнарускай народнасці», якая складалася з «трох братэрскіх усходнеславянскіх народаў». Не менш важнае месца ў новым наратыве займала «змаганне з літоўскімі феадаламі», «барацьба за ўз'яднанне з Расіяй (1648-1667 гг.)», «уз'яднанне беларускіх зямель з Расіяй у 1772-1795 гг.», «сумесная барацьба эксплуатуемых працоўных» Беларусі і Расіі супраць уласных і іншаземных прыгнятальнікаў і г.д. Яго аўтары прызнавалі існаванне асобнай беларускай нацыянальнасці, але яна была гістарычна наканавана адыгрываць ролю малодшага брата Расіі.

Першы том «Гісторыі Беларускай ССР» быў прызнаны састарэлым у сувязі са «слабой вывучанасцю фарміравання і развіцця беларускай нацыі» ужо ў 1957 годзе[6]. Незадаволенасць айчыннай гістарычнай супольнасці сталінскай версіяй вялікага беларускага гістарычнага наратыву засведчыла нарада беларускіх гісторыкаў, якая адбылася 23 сакавіка 1957 года. Адкрываючы яе, дырэктар Інстытута гісторыі АН БССР Іван Краўчанка паведаміў, што калектыў яго інстытута актыўна ўключыўся ў вывучэнне гісторыі гарадоў, сялянства, а таксама праблемы фармавання беларускай нацыі[7]. Не менш складанай у паўсталым пасля ХХ з'езду новым сацыяльна-палітычным клімаце была падрыхтоўка другога

[5] Цэнтральны навуковы архіў НАН Беларусі (далей: ЦНА НАНБ), ф. 1, воп. 1, спр. 519, т. 1, арк. 86.

[6] А. Короткевич, П. Савочкин, К. Шабуня, *О некоторых вопросах развития исторической науки в республике*, „Коммунист Белоруссии", 1957, № 2, с. 17.

[7] ЦНА НАНБ, ф. 3, воп. 1, спр. 289, арк. 4.

тома «Гісторыі Беларускай ССР», прысвечанага гларыфікацыі КП(б)Б па кіраўніцтве сацыяльна-эканамічным развіццём рэспублікі. Акрамя пераліку перамог, у ім былі ўсё ж згаданы, зразумела ў негатыўным кантэксце, Першы Усебеларускі з'езд і Беларуская Народная Рэспубліка[8].

З'яўленне афіцыйнага гістарычнага наратыву зрабіла магчымым падрыхтоўку падручніка па гісторыі Беларусі для школьнікаў, якія былі пазбаўлены магчымасці даведацца пра падзеі і герояў беларускай мінуўшчыны на ўроках гісторыі. У пасляваенны час гісторыя Беларусі вывучалася ў школах толькі на так званых «краязнаўчых уроках», якімі канчалася вывучэнне кожнага раздзела праграмы па гісторыі СССР. Выступаючы ў лютым 1958 года на рэспубліканскай нарадзе работнікаў ВНУ, дацэнт гістарычнага факультэта БДУ Лаўрэнцій Абэцэдарскі казаў пра 78 радкоў, прысвечаных гісторыі БССР у падручніку па гісторыі для 10 класа. На гэтым фармальная гістарычная адукацыя для большасці жыхароў БССР канчалася[9].

Фактычна ўрокі гісторыі з'ўляліся інструментам адчужэння дзяцей ад уласнага мінулага і фармавання савецкай ідэнтычнасці на пераважна рускім гістарычным падмурку. Гэта засведчыла завочная канферэнцыя чытачоў газеты «Піянер Беларусі» пад назвай «Мой любімы герой». Большасць удзельнікаў канферэнцыі аддалі перавагу агульнасаюзным героям — этнічным рускім Паўку Карчагіну, Паўліку Марозаву, Валодзю Дубініну. Ім саступаў у папулярнасці адзіны згаданы чытачамі беларус Марат Казей[10].

Сітуацыя змянілася да лепшага пасля з'яўлення 4 лістапада 1959 года пастановы ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР «Аб некаторых зменах у выкладанні гісторыі ў школах БССР». У БДУ паўстала кафедра гісторыі БССР. Замест краязнаўчых урокаў, у адпаведныя раздзелы праграмы па гісторыі СССР 7-10 класаў было ўключана 30 асобных тэм па гісторыі БССР[11]. Дадатковы час на іх вывучэнне не вылучаўся — настаўнік сам вызначаў колькасць урокаў, на якіх трэба было засвойваць новы падручнік па гісторыі БССР[12] і навучальна-метадычныя матэрыялы[13].

8 *Гісторыя Беларускай ССР*, т. 2, рэд. І. Краўчанка, Н. Каменская, Мінск 1958, с. 71, 93.

9 Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (далей: НАРБ), ф. 4п, воп. 73, спр. 176, арк. 65.

10 Хв. Жычка, *Мой любімы герой*, „Піянер Беларусі", № 23, 5.06.1959, с. 3.

11 *Пастанова ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР „Аб некаторых змяненнях у выкладанні гісторыі ў школах Беларускай ССР"*, «Збор законаў, указаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, пастаноў і распараджэнняў Савета Міністраў Беларускай ССР», 1959, № 15, лістапад, с. 334-335.

12 Л. Абецадарскі, М. Баранава, Н. Паўлава, *Гісторыя БССР: Вучэбны дапаможнік для вучняў сярэдніх школ*, Мінск 1960, 195 с.

На хвалі непаслядоўнай дэсталінізацыі канца 50-х — пачатку 60-х гг. XX ст. адбылася часавая лібералізацыя інтэрпрэтацый падзей гісторыі савецкіх народаў. Гэта засведчыла ўсесаюзная нарада, прысвечаная паляпшэнню падрыхтоўкі навукова-педагагічных кадраў па гістарычных навуках, якая праходзіла 18-21 снежня 1962 года ў Маскве. Яе ўдзельнікаў заклікалі пазбягаць выключна негатыўных ацэнак нацыянальна-вызвольных рухаў на тэрыторыі Расійскай імперыі. Даследчыкам і выкладчыкам дазвалялася ўказваць на рэакцыйныя матывы імперскіх «далучэнняў», крытыкаваць каланіяльную палітыку царызму. У прынятых на нарадзе рэкамендацыях рускі народ ужо не лічыўся «вялікім» — асноўным заданнем савецкіх гісторыкаў стала «раскрыццё глыбокіх каранёў дружбы народаў Савецкай сацыялістычнай дзяржавы»[14].

Змякчэнне ідэалагічнага курсу партыі дазволіла ўключыцца ў канструяванне нацыянальнага гістарычнага наратыву прадстаўнікам новага пакалення беларускіх гісторыкаў. У адрозненні ад папярэдняга часу, калі гэтай справай займаліся старанна адабраныя Ц. Гарбуновым асобы, цяпер да айчыннага гісторыяпісання далучыліся маладыя прафесіяналы, якія, паводле выказвання Іагана Дройзена, імкнуліся «выразна давесці свайму народу... яго сапраўдную сутнасць, яго ідэю, вобраз». Задача гэта лічылася «тым высакародней і карысней, чым слабейшай і безаблічнейшай была дзяржаўная і нацыянальная свядомасць»[15].

Вынікам вяртання да навуковых, творчых падыходаў да вывучэння айчыннай гісторыі стала вялікая колькасць публікацый, якія сведчылі не толькі пра навуковую кваліфікацыю і здольнасці іх аўтараў, але таксама імкненне падчас даследавання сюжэтаў айчыннай гісторыі выйсці за межы савецкага марксісцкага дыскурсу. Усё больш прадстаўнікоў маладога пакалення гуманітарнай інтэлігенцыі асуджалі «лакіроўку» гісторыі на карысць палітычнай кан'юнктуры. На старонках перыядычных выданняў і манаграфій з'явіліся асобы, падзеі і працэсы беларускай гісторыі, якія замоўчваліся на працягу апошняй чвэрці стагоддзя.

Навуковаму абгрунтаванню ключавога кампанента нацыянальнага наратыву пра Полацкае княства, як першую форму беларускай дзяржаўнасці паспрыяла абароненая ў 1965 годзе Георгіем Штыхавым дысертацыя «Старажытны Полацк (IX-XIII стст.)»[16], а таксама манаграфія звязанага

13 В. Вольскі, *Старонкі нашай гісторыі: кніга для чытання па гісторыі БССР у пачатковай школе*, Мінск 1966, 164 с.

14 *Всесоюзное совещание о мерах улучшения подготовки научно-педагогических кадров по историческим наукам. 18-21 декабря 1962 г.*, Москва 1964, с. 311, 507.

15 И. Дройзен, *Историка*, Санкт-Петербург 2004, с. 411.

16 Г. Штыхов, *Древний Полоцк (IX-XIII вв.): автореф. дис. ... канд. ист. наук: 07.00.02*, Минск 1965, 40 с.

з Беларуссю навуковай і педагагічнай дзейнасцю супрацоўніка Інстытута археалогіі АН СССР Леаніда Аляксеева[17]. Загадчык кафедры тэорыі і гісторыі дзяржавы і права БДУ Язэп Юхо распачаў даследаванне заканадаўства Вялікага Княства Літоўскага як неабходнага атрыбута старажытнай дзяржаўнасці[18]. Важную ролю ў даследаванні ўзнікнення беларускага нацыянальнага руху адыграў выпускнік Маскоўскага гісторыка-архіўнага інстытута Генадзь Кісялёў. Працуючы ў шэрагу архіўных устаноў Літоўскай ССР, на мяжы 1950-1960-х гг. ён выступіў з шэрагам важных прац, прысвечаных ключавым постацям беларускага адраджэння. Гэтыя працы былі пакладзены Г. Кісялёвым у аснову двух зборнікаў, якія значна ўзбагацілі гісторыю айчыннай культуры[19]. У рэчышча еўрапейскага цывілізацыйнага працэсу беларускі этнас змясцілі навуковыя супрацоўнікі Інстытута гісторыі АН БССР Зіновій Капыскі[20] і Анатоль Грыцкевіч[21], якія даследавалі працэсы даіндустрыяльнай урбанізацыі. Апошні да таго ж высунуў тэзіс пра беларускае этнічнае паходжанне шляхты ВКЛ[22]. Умацаванню суб'ектнасці Беларусі паспрыялі працы Валянціна Грыцкевіча, прысвечаныя гісторыі міжнародных кантактаў яе ўраджэнцаў[23].

Вяртанне нацыянальнага дыскурсу ў гістарычныя даследаванні ўзняла пытанні аб рэпрэзентатыўнасці першакрыніц, навуковасці і яе крытэрыях, нарэшце, аб карэкціроўцы марксісцкай метадалогіі ў яе сталінскім разуменні. Знайсці адказы на гэтыя пытанні дапамагло частковае раскрыццё спецсховаў бібліятэк і рассакрэчванне архіўных фондаў. Высокія стандарты прафесійнай дзейнасці гісторыка задавалі навуковыя працы супрацоўніка Інстытута гісторыі АН СССР Мікалая Улашчыка[24]. Выкладчык БДУ Вадзім Жучкевіч распачаў стварэнне

17 Л. Алексеев, *Полоцкая земля. Очерки истории северной Белоруссии*, Москва 1966, 294 с.

18 Я. Юхо, *Статут Вялікага княства Літоўскага*, „Полымя", 1966, № 11, с. 125-137; той жа, *Грамадскія і прававыя погляды Скарыны*, „Полымя", 1967, № 6, с. 175-180 і інш.

19 Г. Кісялёў, *Сейбіты вечнага*, Мінск 1963, 301 с.; той жа, *З думай пра Беларусь*, Мінск 1966, 316 с. і інш.

20 З. Копысский, *Экономическое развитие городов Белоруссии (XVI — первая половина XVII в.)*, Минск 1966, 225 с.

21 А. Грицкевич, *Слуцк: исторический очерк*, Минск 1963, 61 с.; А. Грицкевич, В. Поссе, *Минск, средневековье... К 900-летию Минска*, „Нёман", 1966, № 10, с. 170-176 і інш.

22 А. Грыцкевіч, *Беларусь у канцы XV — першай палове XVI ст. (Да 450-годдзя беларускага кнігадрукавання)*, „Весці Акадэміі навук БССР", 1967, № 3, с. 14-22.

23 В. Грицкевич, *Путешествия наших земляков: из истории страноведения Белоруссии*, Минск 1968, 231 с.

24 Н. Улащик, *Предпосылки крестьянской реформы 1861 г. в Литве и Западной Белоруссии*, Москва 1965, 478 с.

беларускай тапанімічнай школы, навукова-педагагічная дзейнасць якой аб'ектыўна супрацьстаяла савецкім тапанімічным практыкам[25]. Супрацоўнік Інстытута гісторыі АН БССР Яфрэм Карнейчык давёў, што беларусы мелі не толькі Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага, Лаўрэнція Зізанія, але таксама нацыянальны рынак, нацыянальную буржуазію і нацыянальны пралетарыят[26].

Адным з першых станаўленне беларускага нацыянальнага руху ў кантэксце гісторыі грамадска-палітычнай думкі распачаў даследаваць філосаф Іван Лушчыцкі[27].

Асаблівую ролю ў даследаванні гісторыка-культурных сюжэтаў у разглядаемы час адыгралі філолагі, у прыватнасці гісторыкі беларускай літаратуры. Вывучэнне творчасці Адама Міцкевіча, Уладзіслава Сыракомлі, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча прывяло навуковага супрацоўніка Інстытута літаратуры АН БССР Сцяпана Александровіча да думкі аб неабходнасці надання гістарычнаму тэрміну «Літва» беларускіх канатацый[28]. У рамках афіцыйна ўхваленай кіраўніцтвам Інстытута літаратуры тэмы беларуска-польскіх літаратурных сувязей, Адам Мальдзіс распачаў вывучэнне ліцьвінскага магнацка-шляхецкага культурнага асяроддзя і ўключэнне яго ў беларускі нацыянальны кантэкст[29]. У 1966 годзе выкладчык беларускай літаратуры Маладзечанскага настаўніцкага інстытута Мікола Ермаловіч скончыў рукапіс знакамітай кнігі «Па слядах аднаго міфа: Ці было літоўскае заваяванне Беларусі?»[30].

Важным сродкам легітымацыі існавання беларускай нацыі, а таксама яе самаабароны, захавання ва ўмовах асіміляцыйных працэсаў з'яўлялася культурная спадчына. Як і афіцыйны гістарычны наратыў, помнікі архітэктуры, матэрыяльнай культуры і мастацтва былі доказам існавання беларускай нацыі, не падобнай ні на якую іншую. Галоўным цэнтрам вывучэння нацыянальнай культурнай спадчыны з'яўляўся створаны ў 1957 годзе пад кіраўніцтвам Пятра Глебкі Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Адразу пасля стварэння, яго супрацоўнікі пачалі актыўную экспедыцыйную дзейнасць.

25 В. Жучкевич, *Происхождение географических названий (топонимика) Белоруссии*, Минск 1961, 77 с.

26 Я. Карнейчык, *Беларуская нацыя. Гістарычны нарыс*, Мінск 1969, 308 с.

27 І. Лушчыцкі, *Нарысы па гісторыі грамадска-палітычнай і філасофскай думкі ў Беларусі ў другой палове XIX ст.*, Мінск 1958, 364 с.

28 С. Александровіч, *Недакладнасць ці састарэлыя погляды?*, „Літаратура і мастацтва", № 6, 18.01.1958, с. 2-3.

29 А. Мальдзіс, *Творчае пабрацімства: беларуска-польскія літаратурныя ўзаемасувязі ў XIX ст.*, Мінск 1966, 157 с.

30 М. Ермаловіч, *Выбранае*, Мінск 2010, с. 517.

Экспедыцыі далі вялікую колькасць узораў народнай культуры, якія супрацоўніца інстытута Лідзія Малчанава прадставіла шырокай публіцы ў выглядзе манаграфіі[31].

Адначасова супрацоўнікі інстытута праводзілі даследаванні па розных аспектах нацыянальнай культуры. Пачуццё годнасці, патрыятызму, паводле задумы ўкладальнікаў, павінен быў выклікаць збор беларускіх эпічных твораў, выдадзеных пад рэдакцыяй П. Глебкі ў 1959 годзе[32]. Тады ж Уладзімір Няфёд выдаў першую абагульняючую працу па гісторыі тэатральнага мастацтва Беларусі[33]. Неўзабаве з'явілася падобная праца, прысвечаная гісторыі беларускага кіно[34]. Майсей Грынблат, абагульніўшы археалагічныя, этналагічныя і філалагічныя даследаванні, прапанаваў канцэпцыю этнагенезу беларусаў[35]. Вялікі розгалас у асяроддзі беларускай інтэлігенцыі выклікаў выдадзены намаганнямі кіраўніцтва інстытута альбом, у якім былі сабраны выявы слуцкіх паясоў, што захоўваліся ў зборах расійскіх музеяў[36].

Сведчаннем паслаблення дзяржаўнага кантролю за працэсам канструявання гістарычнай памяці былі змены ў дзейнасці мнеманічных актараў па-за межамі Акадэміі наук, найперш, архіваў, бібліятэк і музеяў.

У 1960 годзе, калі Архіўнае ўпраўленне было выведзена з падпарадкавання Міністэрства ўнутраных спраў і падпарадкавана Савету Міністраў БССР, сетка дзяржаўных архіваў рэспублікі склала 5 цэнтральных, 6 абласных, 8 гарадскіх і 161 раённы архіў. У іх знаходзілася каля 5-6 млн. спраў. Тады ж быў створаны Цэнтральны дзяржаўны архіў літаратуры і мастацтва, а філіял гістарычнага архіва пераўтвораны ў самастойны Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў у Гродне. У 1963 годзе Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў быў пераведзены з Магілёва ў Мінск[37].

Пасля XX з'езду пачалося масавае рассакрэчванне архіўных фондаў, якое суправаджалася інфарміраваннем навуковай грамадскасці пра іх змест і склад. На працягу наступных двух гадоў у дзяржаўных архівах было рассакрэчана 224 523 справы. Адначасова рэзка павялічылася

[31] Л. Молчанова, *Материальная культура белорусов*, Минск 1968, 232 с.

[32] *Беларускі эпас*, Мінск 1959, 316 с.

[33] У. Няфёд, *Беларускі тэатр. Нарыс гісторыі*, Мінск 1959, 399 с.

[34] А. Красінскі, В. Смаль, Г. Тарасевіч, *Беларускае кіно: кароткі нарыс*, Мінск 1962, 216 с.

[35] *Белорусы: очерки происхождения и этнической истории*, Минск 1968, 258 с.

[36] Л. Якуніна, *Слуцкія паясы. Альбом*, Мінск 1960, 237 с.

[37] С. Жумарь, Д. Карев, М. Шумейко, *Очерки истории архивного дела в Беларуси (XV в. — 1991 г.)*, Минск 1999, с. 167-177.

колькасць даследчыкаў у дзяржаўных архіўных установах БССР. Калі ў 1956 г. там працаваў 331 чалавек, то ў 1957 г. іх было ўжо 565[38].

У 1962 годзе буйнейшае ў рэспубліцы кнігасховішча — Дзяржаўная бібліятэка БССР імя У. І. Леніна атрымала новы корпус, дзе працавалі пераважна вучоныя-гуманітарыі. Акрамя Дзяржбібліятэкі БССР, каштоўныя фонды па гістарычных дысцыплінах змяшчалі Фундаментальная бібліятэка АН БССР, Урадавая бібліятэка імя А. М. Горкага, бібліятэка БДУ. Адначасова з пачаткам рэабілітацыі «ворагаў народа» распачаўся перагляд спісаў «састарэлых выданняў», складзеных на працягу другой паловы 1930-х — першай паловы 1950-х гг. Кнігі рэабілітаваных аўтараў пачалі вяртацца са спецсховаў у адкрытыя фонды буйнейшых рэспубліканскіх бібліятэк БССР. Толькі на працягу другой паловы 1956 года Галоўліт БССР выдаў 12 загадаў, якія змяшчалі спісы на болей за 800 кніг беларускіх аўтараў, што выводзіліся са спецсховаў. Сярод іх былі працы Мікалая Азбукіна, Дзяніса Дудкова, Канстанціна Кернажыцкага, Вацлава Ластоўскага, Аляксандра Сержпутоўскага, Адама Станкевіча, Аляксандра Шлюбскага, Васіля Шчарбакова. У 1959 годзе у навуковы зварот вярнуліся творы Іосіфа Воўк-Левановіча, Васіля Дружчыца, Аляксандра Ляўданскага, Сцяпана Некрашэвіча, Аляксандра Цвікевіча, у 1964 годзе — працы Дзмітрыя Даўгялы, Мікалая Касьяровіча і інш.[39]

Важнай падзеяй культурнага жыцця БССР эпохі «адлігі» стала аднаўленне галоўнага даваеннага музея рэспублікі — Беларускага дзяржаўнага музея ў Мінску, які з’яўляўся буйнейшым цэнтрам вывучэння і папулярызацыі рухомай гісторыка-культурнай спадчыны ў рэспубліцы. З сярэдзіны 1940-х гг. у Савет Міністраў БССР з падобнай прапановай неаднаразова звяртаўся Камітэт па справах культасветустаноў. Ідэя аднаўлення музея, які б адлюстроўваў гістарычны шлях развіцця беларускага народа была падтрымана Акадэміяй навук БССР у асобе яе прэзідэнта Мікалая Грашчанкава[40]. Аднак кожны раз гэтыя прапановы адхіляліся з-за адсутнасці сродкаў на ўзвядзенне будынка ў цэнтры Мінска. Нарэшце ў 1956 годзе беларускі ўрад прыняў рашэнне аб стварэнні «арганізацыйнай групы па стварэнні Дзяржаўнага музея БССР», сябры якой на чале са Станіславам Сапешкам на працягу дзесяцігоддзя сфармавалі каштоўныя калекцыі. На іх аснове ў 1967 годзе адкрылася першая экспазіцыя музея, прысвечаная гісторыі Беларусі са старажытных часоў да нашых дзён[41].

[38] НАРБ, ф. 249, воп. 5, спр. 645, арк. 19.
[39] НАРБ, ф. 1195, воп. 1, спр. 33, арк. 1-68; воп. 2, спр. 62, арк. 2-8; спр. 79, арк. 25.
[40] НАРБ, ф. 7, воп. 4, спр. 3014, арк. 111.
[41] НАРБ, ф. 974, воп. 2, спр. 178, арк. 171.

Планамерную экспедыцыйную работу па выяўленні, вывучэнні і ахове культурнай спадчыны праводзіў Дзяржаўны мастацкі музей БССР. На гады «адлігі» прыпалі найбольш плённыя экспедыцыі, якія праводзіліся пад кіраўніцтвам Алены Аладавай. Толькі экспедыцыя 1958 года ў заходнія вобласці Беларусі ўзбагаціла збор музея больш 200 творамі, у тым ліку двума абразамі XVI ст., фрагментам слуцкага пояса, узорамі барочнай разьбы. Лепшае са знойдзенага дэманстравалася ў экспазіцыі, якая з 1957 года знаходзілася ў новым будынку музея. У 1960-я гг. А. Аладава расшукала ў музеях Масквы, Ноўгарада, Паўлаўска, Вільнюса прадметы з даваеннай Дзяржаўнай карціннай галерэі БССР і дамаглася іх вяртання ў Мінск[42].

Нягледзячы на ўсе намаганні «шасцідзясятнікаў», вяртанне нацыянальнага дыскурсу ў гуманітарныя даследаванні было абмежаванае і супярэчлівае. У акадэмічным асяроддзі па-ранейшаму чакалі партыйнага «благаслаўлення» на абмеркаванне праблем айчыннай культуры, асуджалі залішнюю самастойнасць у выбары тэм і каралі парушальнікаў няпісаных правіл. Пра гэта сведчыла акадэмічная дыскусія 1966 года, справакаваная літаратуразнаўцам, крытыкам і перакладчыкам Мікалаем Прашковічам. Яго рэцэнзія[43] на кнігу Аляксандра Каршунава «Афанасій Філіповіч: Жыццё і творчасць», у якой ён фактычна адстойваў нацыянальны погляд на гісторыю Беларусі раннемадэрнага часу, выклікала абурэнне загадчыка кафедры гісторыі БССР БДУ Л. Абэцэдарскага. Ён даручыў падрыхтаваць адпаведны адказ М. Прашковічу сваім аспірантам — Уладзіміру Люкевічу і Якаву Трашчанку[44]. Іх тэзе аб прагрэсіўнай ролі Расіі для быццам бы культурна адсталай у XV-XVII стст. Беларусі ў сваю чаргу запярэчыў супрацоўнік Інстытута філасофіі АН БССР Мікалай Алексютовіч[45]. Пасля такой палемікі публікацыя М. Прашковіча атрымала шырокі грамадскі рэзананс і зрабілася падставай для навуковай дыскусіі 8 красавіка 1966 года ў АН БССР па пытаннях беларускай дзяржаўнасці, ролі царкоўнай уніі і інш. Дыскусія, у якой узяла ўдзел каля 150 супрацоўнікаў Інстытута гісторыі, Інстытута літаратуры АН БССР, Міністэрства культуры, а таксама выкладчыкаў БДУ, засведчыла перамогу аднадумцаў М. Прашковіча[46].

42 Н. Высоцкая, *Вклад Е. В. Аладовой в собирание, изучение и реставрацию произведений древнего искусства Беларуси*, „Паведамленні Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь”, 2007, вып. 6, с. 123-125.

43 М. Прашковіч, *Слова пра Афанасія Філіповіча*, „Полымя”, 1965, № 12, с. 174-177.

44 В. Люкевич, Я. Трещенок, *Истине вопреки*, „Советская Белоруссия”, № 44, 22.02.1966, с. 3.

45 М. Алексютовіч, *А дзе ж ісціна аб’ектыўная*, „Полымя”, 1966, № 5, с. 179-185.

46 У. Конан, *Пра Лявона-рыцара ды Лаўрэнція-аглабельніка*, „Veritas”, 2003, № 1, с. 26-27.

Гэтая перамога не магла не застацца без адказу. У чэрвені 1966 года мінскі гаркам партыі накіраваў правяраючых у Інстытут літаратуры імя Я. Купалы АН БССР, дзе працавалі галоўныя парушальнікі спакою. Падчас яе высветлілася, што навуковы супрацоўнік інстытута Віктар Каваленка «...актыўна адстойвае няслушную думку пра тое, што 30-40-я гады з'яўляюцца перыядам культу асобы, калі літаратура нібыта амаль не развівалася і на гэтай падставе адмаўляе выхаваўчае і эстэтычнае значэнне многіх мастацкіх твораў таго перыяду». Правяраючым не падабаліся публікацыі маладых навукоўцаў Міколы Прашковіча і Алеся Яскевіча, у якіх уздымаліся пытанні культуры беларускага народа часоў Вялікага Княства Літоўскага: «У іх артыкулах назіраецца адыход ад прынцыпаў класавага аналізу ў ацэнцы з'яў літаратуры і культуры і выпінанне нацыянальных момантаў. З прэтэнзіяй на навуковую аб'ектыўнасць робіцца спроба паставіць у адзін шэраг з прагрэсіўнымі дзеячамі прадстаўнікоў пануючага феадальнага класа, буйных магнатаў — Льва Сапегу, Рыгора Хадкевіча і польскую каралеву Бону Сфорца». У Вячаслава Чамярыцкага былі выяўлены «...недакладныя фармулёўкі пра характар Вялікага Княства Літоўскага і этнічны склад старажытнарускай дзяржавы»[47].

Выклік, кінуты беларускімі гуманітарыямі — «шасцідзясятнікамі» аўтарам і замоўцам сталінскай версіі афіцыйнага гістарычнага наратыву, грунтаваўся не толькі на публікацыях новага эмпірычнага матэрыялу, але і на канцэптуальным узроўні. Разам з зігзагамі дзяржаўнай палітыкі дэсталінізацыі гэта надоўга затрымала працу над другой афіцыйнай версіяй беларускага гістарычнага наратыву, праца над якім распачалася ў 1960 годзе. Напружаную атмасферу гэтай працы перадае стэнаграма абмеркавання першага тома пяцітомнай «Гісторыі Беларускай ССР», якое адбылося 15 сакавіка 1967 года ў Інстытуце гісторыі АН БССР з удзелам маскоўскіх калег.

Супрацоўнік Інстытута археалогіі АН СССР В. В. Сядоў не пагадзіўся з прапанаванай аўтарамі рукапісу тэорыяй этнагенезу беларусаў, патлумачыўшы асаблівасці беларускай лінгваэтнічнай супольнасці ўздзеяннем балцкага субстрату. Мікалай Улашчык узняў праблему паходжання назвы «Беларусь», прапанаваўшы мінскім калегам патлумачыць, чаму ў крыніцах на працягу некалькіх стагоддзяў замест слова «Беларусь» ужывалася «Літва», а замест «беларус» казалі «ліцьвін». Вучоны быў незадаволены асвятленнем у рукапісе падзей Лівонскай вайны, ігнараваннем федэратыўнага характару Рэчы Паспалітай, а таксама

[47] НАРБ, ф. 4п, воп. 73, спр. 264, арк. 200-201.

значэння Статута ВКЛ 1588 года. Улашчык таксама не знайшоў доказаў палажэння аб збавенні беларусаў ад нацыянальна-рэлігійнага прыгнёту пасля іх уваходжання ў склад Расійскай імперыі і выказаў сумнеў адносна «айчыннага» характару вайны 1812 года ў Беларусі. Супрацоўнік Інстытута гісторыі АН СССР Кацярына Індава выступіла супраць люстэркавага пераносу падзей, якія адбываліся на тэрыторыі Расіі на беларускія рэаліі. Яна ўпікала Л. Абэцэдарскага: «З канца XVI ст. праводзіцца думка пра далучэнне да Расіі як выключна станоўчай з'явы. Але ж у Расіі ва ўладзе былі такія ж прыгоннікі-феадалы. Расія актыўна змагалася за тэрыторыю Беларусі, руская знешняя палітыка ўсё рабіла, каб атрымаць гэтыя землі, апора ішла на вярхі, а не на народ»[48].

Праца над новай версіяй афіцыйнага наратыву скончылася выданнем у 1972-1975 гг. пяцітомнай «Гісторыі Беларускай ССР», якая выконвала функцыю афіцыйнага наратыву да канца савецкага перыяду. Другая марксісцкая версія беларускай гісторыі была ў большай ступені, чым першая насычана старанна адабранымі фактамі, якія не пакідалі месца для альтэрнатыўных версій і крытычнага аналізу. Набор знакавых падзей, якія вызначалі ход беларускай гісторыі не змяніўся: складванне старажытнарускай народнасці ў Кіеўскай Русі, уз'яднанне з Расійскай імперыяй, Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, перамога ў Вялікай Айчыннай вайне. Аўтары па-ранейшаму лічылі класавую барацьбу галоўнай рухаючай сілай грамадскага прагрэсу.

Разам з тым, у пяцітомніку былі зроблены пэўныя саступкі нацыянальнаму прачытанню беларускай гісторыі, што было вынікам навуковай дзейнасці вучоных — «шасцідзясятнікаў». На падмурку новага эмпірычнага матэрыялу археолагі высунулі гіпотэзу аб этнічнай прыналежнасці насельніцтва беларускіх зямель жалезнага веку. Медыявісты паказалі палітычныя і сацыяльныя змены, якія адбыліся ў Вялікім Княстве Літоўскім пасля ўваходжання ў яго склад беларускіх зямель. Новыя сюжэты, прысвечаныя сацыяльна-эканамічнаму развіццю гарадоў, рэфармацыйны рух, брацтвы, тайныя таварыствы першай паловы XIX ст. размывалі міф пра беларусаў — гаротных сялян, якія шукалі паратунку на Усходзе[49]. У другім томе быў змешчаны параграф пра нацыянальна-вызваленчы рух, прадстаўнікамі якога былі названы Янка Купала, Якуб Колас і Цётка. У параграфе «Грамадская думка», у кантэксце стварэння БСГ, з'явіліся імёны «буржуазных нацыяналістаў» братоў Луцкевічаў, Вацлава Іваноўскага, Аляксандра

[48] ЦНА НАНБ, ф. 3, воп. 1, спр. 548, арк. 12-61.

[49] *Гісторыя Беларускай ССР*, т. 1, К. Шабуня (гал. рэд.), Мінск 1972, 632 с.

Уласава, Ядвігіна Ш. Важнай саступкай было прызнанне «некаторых прагрэсіўных элементаў» у дзейнасці „Нашай нівы”[50].

Разам з гэтымі важнымі зменамі, характарыстыка нацыянальных поглядаў К. Каліноўскага абмяжоўвалася лаканічнай фразай пра «ідэалізацыю мінулага Польшчы і абарону ўніяцкай царквы»[51]. Першы Усебеларускі з'езд быў па-ранейшаму «контррэвалюцыйным» і нацыяналістычным»[52], а ўрад БНР спрабаваў у 1918 г. прадаць Беларусь не толькі немцам, але таксама ЗША[53].

Такім чынам, за гады першага паслясталінскага дзесяцігоддзя айчынная гістарычная навука ўключыла ў свой арсенал вялікую колькасць новага крыніцавага матэрыялу, пачала яго засваенне, у якасці метадалагічнай асновы выкарыстоўваючы працы Леніна. Канцэптуальнага перафарматавання афіцыйнага наратыву беларускай гісторыі ў выніку «адлігі» не адбылося. Аўтары пяцітомнай «Гісторыі Беларускай ССР» яшчэ больш трывала змясцілі беларускую гісторыю ў савецкі кантэкст. Марксісцкая метадалогія вымагала ад іх паказу прыярытэту класавага над нацыянальным, а апошняе разглядалася як з'ява другарадная і апасродкаваная класавай барацьбой. Меўшыя ўласную рэспубліку, беларусы з'яўляліся найперш савецкімі людзьмі і грамадзянамі СССР. Разам з тым, адыход ад сталінскай сацыялагізацыі гісторыі, увядзенне ў навуковы зварот вялікага аб'ёму новага эмпірычнага матэрыялу непазбежна нацыялізавала асобныя фрагменты афіцыйнага наратыву. Даробак гуманітарыяў — «шасцідзясятнікаў» стаў падмуркам, на якім працягнулася канструяванне вобраза мінулага Беларусі ўжо ў часы гарбачоўскай «перабудовы».

**Summary**

**Attempts to Nationalize the Official Historical Narrative in Soviet Belarus During the Khrushchev's Thaw**

The article discusses the development of Belarusian official historical narrative during the „thaw" period. The transitional state of the Communist Party ideology of the period made possible unauthorized national interpretation of key historical process and events as well as the usage of new historical sources. However the reformatting of Belarusian official narrative at the conceptual level did not occur during the 1950-1960s.

**Keywords:** official historical narrative, Soviet Belarus, the Khrushchev „thaw", Belarusian historians, national and social class discourse.

50 *Гісторыя Беларускай ССР*, т. 2, К. Шабуня (гал. рэд.), Мінск 1972, с. 551-559.
51 Там жа, с. 54.
52 *Гісторыя Беларускай ССР*, т. 3, І. Марчанка (гал. рэд.), Мінск 1973, с. 83.
53 Там жа, с. 117.

**Streszczenie**

**Próba nacjonalizacji oficjalnej narracji historycznej w BSRR w okresie odwilży politycznej Chruszczowa**

Artykuł omawia rozwój białoruskiej oficjalnej narracji historycznej podczas odwilży politycznej w okresie sprawowania władzy przez Nikitę Chruszczowa. Przejściowy stan ideologii Komunistycznej Partii Związku Radzieckiego tamtego okresu umożliwiał narodową interpretację kluczowych procesów i wydarzeń historycznych oraz korzystanie z nowych źródeł historycznych. Jednak w latach 1950-1960 przeformatowanie białoruskiej oficjalnej narracji na poziomie konceptualnym okazało się niemożliwe.

**Słowa kluczowe:** oficjalna narracja historyczna, Białoruś Radziecka , odwilż polityczna, historycy białoruscy, dyskurs klasowy i narodowościowy.

**Alaksandr Hużałouski** — profesor Katedry Etnologii, Muzeologii i Historii Sztuk Wydziału Historycznego Białoruskiego Uniwersytetu Państwowego. Zainteresowania badawcze — historia Białorusi XX wieku, muzeologia historyczna i teoretyczna. Autor ponad 250 publikacji naukowych, w tym sześciu monografii.

**Сяргей Молькаўскі**
(Віцебск)

## Беларускі нацыянальны сцяг у пачатку XX ст.

**Уводзіны ў праблему, актуальнасць**

Беларускі народ сёння, пакручаста і павольна, але праходзіць шлях свайго нацыянальнага сталення. На гэтым шляху непазбежным становіцца асэнсаванне і пераасэнсаванне ўласнага гістарычнага шляху, сваіх гістарычных нацыянальных страт і набыткаў. Сярод асабліва важных набыткаў беларускага народу на першы план выходзяць нацыянальныя сімвалы, што толькі пацвярджаюць апошнія грамадска-палітычныя падзеі, прычым найбольшую колькасць спрэчак выклікае беларускі нацыянальны сцяг і наступныя праблемныя пытанні датычна яго:

— аб часе і абставінах з’яўлення сцяга;
— аб часе з’яўлення эталону сцяга;
— аб наяўнасці альтэрнатыўных варыянтаў сцяга;
— аб наяўнасці гістарычнага грунту пад сцягам.

Па праблематыцы беларускага нацыянальнага сцяга напісана ўжо багата навуковых і навукова-папулярных артыкулаў, разам з тым, дасюль не быў праведзены комплексны крытычны аналіз крыніц з пункту гледжання навукі аб сцягах. У дадзеным артыкуле будзе зроблены аналіз крыніц па праблематыцы беларускага нацыянальнага сцяга, а таксама выкладзеныя адшуканыя аўтарам матэрыялы, што могуць дапамагчы ў высвятленні праблемы яго паходжання.

**Праблема крыніц**

Праблема крыніц палягае, з аднаго боку, у малой іх колькасці, перш за ўсё з 1917-18 гг. Маем параўнальна малую колькасць фотаздымкаў і друкаванай прадукцыі з графічнаю выявай беларускага нацыянальнага сцяга гэтага перыяду, невялікую колькасць дакументаў і тагачаснай перыёдыкі з апісаннем сцяга з рознай ступенню адлюстравання дэталяў і вялікую колькасць успамінаў ды мемуарных твораў, складзеных праз гады ад апісваных падзей. Іншым бокам праблемы ёсць тое, што найбольшая па інфарматыўнасці група крыніц (успаміны і мемуары) з’яўляецца найбольш супярэчліваю, прычым супярэчанне мы сустракаем як унутры групы, гэтак і паміж успамінамі і мемуарамі ды іншымі групамі крыніц, напрыклад, з паведамленнямі ў перыядычных выданнях. Да праблем, бадай, яшчэ можна дадаць блытаніну

сярод версій, выкладзеных па заяўленай тэме ў публікацыях пры часта немагчымасці адшукаць першакрыніцы, на якія спасылаецца аўтар, і значыць немагчымасці тыя крыніцы пацвердзіць ці абвергнуць.

Усё вышэйпералічанае прыводзіць да патрэбы ў комплексным крытычным аналізе крыніц і версій, у адпаведнасці з іх дакладнасцю. У гэтай сувязі крыніцы на 1910-я гг. маюць падзяляцца на наступныя тыпы: аўтэнтычныя сцягавыя палотнішчы (на дадзены момант такіх палотнішчаў не захавалася ці не выяўлена); кіна-, фотадакументы; тэкставыя і графічныя дакументы; перыядычныя выданні з графічнымі выявамі, тэкставымі апісаннямі ці проста згадкамі; успаміны сведак падзей.

## 1. Час і абставіны з'яўлення беларускага нацыянальнага сцяга

### 1.1. Найранейшы зафіксаваны акт вывешвання сцяга

Найранейшую, з вядомых на сёння, выяву з вывешваннем беларускага нацыянальнага сцяга (далей па тэксце, часам скарочана — б.н.с.) мы знаходзім у часопісе „Варта", дзе падзея датуецца 19-22 лютага 1918 г.[1] Дадзеная выява з'яўляецца ілюстрацыяй да артыкула Кастуся Езавітава „Освобождение Минска" (артыкул распавядае пра падзеі ў Менску ў лютым 1918 году, калі на ўсход збеглі бальшавікі). Пры канцы артыкула знаходзім крайне важнае апісанне датычна вывешвання б.н.с.: „[...] Легкій предразсветный ветерокъ ласково шевелилъ полотнища двухъ нашихъ національныхъ флаговъ, развевавшихся на балконе дома Губернатора. Въ светломъ сумраке, на громадномъ полотнище одного изъ нихъ, я прочелъ гордый лозунгъ, за которымъ шли все наши солдаты: «Ніхай жыве Вольная Беларусь!..»

На другомъ полотнище — маленькомъ и скромномъ, едва заметно сильное, смелое, готовое на самоотреченіе и самопожертвованіе, — чемъ жили и для чего все приносили въ жертву члены Белорусской Центральной Войсковой Рады: «За Родный Край, за Вольную Беларусь!..»"[2].

[1] К. Езовитовъ, *Освобожденіе Минска. 19 и 20 февраля 1918 года въ Минске. Записки Коменданта*, «Варта», № 1, 10.1918, с. 33, 36-38.

[2] Там жа, с. 38.


Бѣлорусская Народная Республика. 33

Дни учрежденія Народнаго Секретаріата Бѣлоруссіи.
19, 20, 21, 22 февраля 1918 года передъ домомъ Бѣлорусской Рады (б. домомъ Губернатора). На балконѣ спущенъ бѣлорускій національный флагъ.

**Іл. 1.** Вывешванне беларускага нацыянальнага сцяга (сцягоў) на гаўбцы дома Беларускай Рады 19 лютага 1918 г. (з часопіса „Варта”)

З параўнання выявы з прыведзеным тэкстам можам вывесці наступнае:

1) на гаўбцы дома Беларускай Рады 19 лютага 1918 г. было вывешана два сцягі, адзін з якіх — большага, другі — меншага памеру, пры гэтым, як найхутчэй, на фотаздымку меншы сцяг схаваны за большым (ці будзе вывешаны пазней);
2) на кожным з палотнішчаў сцягоў быў змешчаны дэвіз („Ніхай жыве Вольная Беларусь!” — на большым; „За Родный Край, за Вольную Беларусь!” — на меншым);
3) на галоўным баку большага сцяга не відаць дэвізу, а значыць дэвіз на ім (і, верагодна, на другім, меншым, сцягу) змешчаны на баку адваротным;
4) размяшчэнне розных дэвізаў на двух ідэнтычных палотнішчах не сведчыць пра існаванне двух розных сцягоў, але з’яўлялася даволі распаўсюджанай, можна сказаць, традыцыйнай, практыкай для нашага рэгіёна. Насамрэч, традыцыя змяшчаць менавіта на адваротным баку палотнішча дэвіз — вельмі старая, вядомая яшчэ з часоў паўстання 1830 г. і паўстання Каліноўскага, калі на адваротным баку сцягоў маглі змяшчаць нават цэлыя вершы. Згадайма таксама сцяг Першага слуцкага палка стральцоў БНР, на адваротным баку якога таксама быў змешчаны дэвіз: „Тым, што пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына”.




**Іл. 2.** Варыянты беларускага нацыянальнага сцяга, вывешаныя 19.02.1918 г. на гаўбцы Дома Беларускай Рады ў Менску

Важныя звесткі датычна ўжывання бел-чырвона-белых сцягоў з дэвізамі знаходзім ва ўспамінах Радаслава Астроўскага, запісаных і выдадзеных ягоным сынам Віктарам у 1971 г. У публікацыі за 1995 год у газеце „Наша ніва" са спасылкаю на кнігу Віктара Астроўскага „Старажытныя назвы і ранняя картаграфія Беларусі. Перапрацаванае выданне з 50 рэпрадукцыямі" чытаем: „Камітэт даручыў Вандзе Ляціцкай (дачцэ пісьменніка Ядвігіна Ш.) пашыць некалькі такіх (беларускіх нацыянальных — аўт.) сьцягоў, якія пасьля былі разасланыя ва ўсе паветы Менскай губэрні. У Слуцку я (маецца на ўвазе Радаслаў Астроўскі) атрымаў такі сьцяг зь Менску ў траўні 1917 году, на ім залатымі літарамі быў вышыты надпіс „Няхай жыве вольная Беларусь!" Гэты сьцяг быў вывешаны над сядзібай павятовага камісара, а ягоная копія лунала над Гарадзкой Управай аж да 15 лістапада 1917 году, калі ўладу захапілі бальшавікі. Тады сьцягі былі зьнятыя й захоўваліся ў Слуцкай гімназіі"[3].

[3] Р. Астроўскі, *Нацыянальны герб і сьцяг Беларусі*, «Наша ніва», 1995, № 5, с. 8.

Яшчэ цікавейшыя звесткі ў кнізе Віктара Астроўскага мы сустракаем датычна даты і акалічнасцей прыняцця б.н.с.: „На адным з сваіх пасяджэнняў 25 сакавіка 1917 году Беларускі Нацыянальны Камітэт разглядаў пытанне нацыянальнага герба і нацыянальнага сцяга для Беларусі, і пасля стараннага разгляду і абмеркавання прыйшлі да наступнага: [...] 2. Паколькі ў беларускім народным мастацтве белыя і чырвоныя ўзоры пераважаюць, здавалася мэтазгодным выкарыстоўваць гэтыя колеры ў беларускім нацыянальным сцягу. У сувязі з гэтым Камітэт прыняў рашэнне аб трох гарызантальных палосах аднолькавай шырыні: белай — чырвонай — белай, даўжыня сцяга роўная дзвюм шырыням.

Такое рашэнне Беларускага Нацыянальнага Камітэта было аднагалосна зацверджана на гэтай сустрэчы прадстаўнікамі ўсіх існуючых беларускіх арганізацый.

На Першым Усебеларускім сходзе (зараз вядомы як Першы Усебеларускі кангрэс) пытанне не ўздымалася. Аднак бел-чырвона-белыя сцягі былі выстаўлены па абодва бакі ад трыбуны падчас пасяджэння Кангрэсу.

На больш познім этапе Рада Беларускай Народнай Рэспублікі прыняла рашэнне Беларускага Нацыянальнага Камітэта ў Мінску без агаворак, і Пагоня стала дзяржаўным гербам, і бел-чырвона-белы сцяг стаў дзяржаўным сцягам Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР)”[4].

Як бачым, звесткі, пададзеныя ва ўспамінах, надзвычай каштоўныя, бо распавядаюць пра дэталі прыняцця спачатку Беларускім нацыянальным камітэтам, а пасля і Радай Беларускай Народнай Рэспублікі эталону беларускага нацыянальнага сцяга, разам з тым, як ужо сказана вышэй, успаміны, запісаныя праз гады ад апісваных у іх падзей, мусяць верыфікавацца з дапамогаю іншых крыніц, але ніводная іншая крыніца не падае звесткі пра тыя падзеі нагэтулькі падрабязна.

Часам успаміны ўтрымліваюць зусім неверагодныя паведамленні, як, напрыклад: „Паводле ўспамінаў віднага дзеяча беларускага адраджэння пачатку XX стагоддзя Я. Сушынскага, гербам «Пагоня» і бел-чырвона-белым сцягам карысталася дэмакратычнае беларускае студэнцтва ў Пецярбургу, наладжваючы ў 1909-1912 гады культурнаасветніцкія вечары. [...] нацыянальны сцяг яшчэ ў канцы XIX стагоддзя выкарыстоўвалі пецярбургскія студэнты — урадзімцы Беларусі і Літвы

4 W. Ostrowski, *The Ancient Names and Early Cartography of Byelorussia. A revised edition with 50 reproductions. Published by the author*, London 1971, p. 2; *Старажытныя назвы і ранняя картаграфія Беларусі*, http://imago.by/images/stories/Articles/17/astrouski/ancient-names-and-early-cartography-1970.pdf [доступ: 10.05.2021].

— удзельнікі нацыянальна-вызваленчага руху супраць самаўладдзя. [...] беларускае Таварыства імя Францішка Скарыны каля 1915 году выдала паштоўку і друкавала афішы з партрэтам славутага першадрукара, аблямаваныя стужкаю з нацыянальных колераў. У 1916 годзе гербам «Пагоня» і бел-чырвона-белым сцягам карысталася арганізацыя «Сувязь незалежнай Беларусі», якая ставіла задачу барацьбы за незалежную народную рэспубліку”[5]. Усю вышэйпрыведзеную інфармацыю ніякія іншыя крыніцы не пацвярджаюць, не ўдалося адшукаць і вышэйзгаданую паштоўку 1915 году з выяваю Францыска Скарыны і „стужкаю з нацыянальных колераў” (што праўда, пад „стужкаю нацыянальных колераў” можна разумець не толькі бел-чырвона-белую стужку, але і, напрыклад, белую стужку з чырвоным беларускім народным арнаментам, які зусім неабавязкова меў дачыненне да бел-чырвона-белага сцяга). Аналізуючы гэты ўспамін беларускі гісторык Вячаслаў Насевіч наўпрост кажа: „Дакументамі гэта не пацвярджаецца, таму не выключана, што адбылося наслаенне пазнейшых успамінаў на больш ранніяˮ[6].

Выпадак з фрагментарным апісаннем стужкі, прыведзеным вышэй, з’яўляецца прыкладам больш шырокай праблемы даволі фрагментарных апісанняў б.н.с. у публікацыях, напрыклад: „Народзе Беларускі, [...] сам, над сваім **беларускім сьцягам**, куй сваю долю, твары свае шчасьце, будуй сваю будучыну! [...] „Каля Усебеларускаго Зьезду. [...] А 8-й гадзіні оркестр ваеннай музыкі граў марсельезу. Потым выступіў беларускі хор у нацыянальных вопратках. Над іх галовамі красаваліся **беларускія нацыянальныя сьцягі**”[7]. „19 лютага г.г. (то-бок, 1922 — аўт.) у студэнтаў беларусаў Віленскага Унівэрстэту было вялікае сьвята. [...] Даволі пpасторная саля Беларускага Музыкальна Драматычнага Гуртка прыгожа была прыбрана **нацыянальнымі сьцягамі** [...]”[8]. Гэтак жа, лапідарна, беларускі нацыянальны сцяг апісвалі і яго ворагі — бальшавікі: „Донесеніе г. Ландера въ Смольный [...] СовѢтъ Народныхъ Комиссаровъ Западной области и фронта [...] приступилъ къ ликвидаціи кадетскихъ организацій, нашедшихъ пріютъ подъ

5 М. Ткачоў, *Нацыянальныя сімвалы: народ і гісторыя*, https://library.by/portalus/modules/belarus/readme.php?subaction=showfull&id=1143150048archive=1291800676&start_from=&ucat=& [доступ: 08.12.2020].

6 В. Насевіч, *Гэты сцяг пачынаўся так*, «Чырвоная змена», № 42 (13 900), 20.04.1995, с. 3.

7 З. Б., *Каля Усебеларускага зьезду*, «Вольная Беларусь», № 34, 15.12.1917, с. 1.

8 А. П., *Першы беларускі студэнцкі вечар у Вільні*, «Наш шлях», № 1, 03.1922, с. 20.

**флагомъ Бѣлорусскаго Національнаго движенія**"[9]; Отклики печати о всебѣлорусскомъ съѣздѣ. [...] „Совѣтская Правда" № 19 пишетъ: [...] Крестьянские съѣзды бѣлорусскихъ губерній Минской и Могилевской — высказались противъ всякой бѣлоруссизаціи, и между прочимъ, и бѣлорусскихъ войскъ... [...] За то помѣщикамъ нужны бѣлорусскіе солдаты, которыхъ, одурачивъ **національными лоскутами**, можно было-бы послать на совѣтскіе полки. Вотъ зачѣмъ настойчиво высовываютъ **бѣлорусскій флагъ**"[10].

Нашмат радзей мы сустракаем хаця б якіясь дэталі ў такім апісанні:

„Пад свой **сьцяг чырвоны-белы**
Пасклікай усіх сыноў
Параскіданых па сьвеці,
Каб вярталіся дамоў"[11].

З аднаго боку такая манера згадваць беларускі нацыянальны сцяг без апісання дэталяў відавочна сведчыць пра яго распаўсюджанасць і пазнавальнасць як сярод беларусаў, гэтак і сярод іншых народаў, перш за ўсё з былой Расійскай імперыі. З іншага боку такая недэталізаванасць можа складаць праблему для даследчыкаў, як тое мы бачым у публікацыі ў часопісе „Homan" за кастрычнік 1917 г.: „Sioleta wiasnoj hetaje tawarystwo dastało (вядзецца пра вясну 1917 г. і пра Беларускае таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны — аўт.) na pradmieści Pieciarburha wialiki dom z harodam. Nad domam razwiewajecca **biełaruski fłah**"[12]. Справа тут у тым, што, верагодна, пад беларускім сцягам тут мог разумецца як беларускі нацыянальны бел-чырвона-белы сцяг, гэтак і белы сцяг Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны, пра які будзе сказана ніжэй.

### 1.2. Дзень беларускага значка (12 сакавіка 1917 г.)

Найранейшым дакументальна зафіксаваным фактам публічнага выкарыстання бел-чырвона-белай гамы з'яўляецца Дзень беларускага значка ў Менску, калі „[...] у гэты дзень на вуліцах горада прадаваліся значкі нацыянальных колераў Беларусі — чырвонага з белым"[13]. У сувязі з гэтаю падзеяй вызываюць цікавасць дзве акалічнасці: акцэнт

9 *Обзоръ печати к Всебѣлорусскому съѣзду*, «Белорусская Рада», № 3, 23.01.1918, с. 2.
10 Там жа, с. 3.
11 І. Дварчанін, *Покліч*, «Вольная Беларусь», № 28, 11.08.1917, с. 3.
12 J. Stankiewič, *Biełarusy uciekačy u Rasei*, «Homan», № 82 (174), 12.10.1917, s. 1.
13 «Минская газета», 13.03.1917 паводле: С. Рудовіч, *Час выбару: Праблема самавызначэння Беларусі ў 1917 годзе*, Мінск 2001, с. 79.

у паведамленні на каляровай гаме значкоў, а таксама адсутнасць якіх бы то ні было металічных значкоў з 1917 г. Удакладніць пытанне наконт таго, што мелася на ўвазе пад значкамі ў тагачаснай перыёдыцы дазваляе больш падрабязнае апісанне, прыведзенае ў сваім артыкуле Сяргеем Харэўскім са спасылкаю на газету „Беларускі шлях" за 1917 год, нумар якой, паводле яго слоў, выявіў архівіст Віталь Скалабан: „Дакладна, 12 сакавіка 1917 году. У гэты дзень у Менску адбылося масавае свята — Дзень беларускага значка. У гэты дзень бела-чырвона-белыя значкі, кукарды і сцяжкі можна было пабачыць паўсюль на вуліцах"[14]. Тут ужо гаворыцца не проста пра значок, але пра „бел-чырвона-белыя сцяжкі, значкі і кукарды", разбярэмся больш падрабязна:

а) Сцяжкі. Пад сцяжкамі відавочна меліся на ўвазе невялічкія бел-чырвона-белыя сцяжкі. Падобныя сцяжкі зафіксаваныя на фотаздымку з банкета ў гонар угодкаў абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі ў 1919 г.



**Іл. 3.** Банкет у Горадні, прысвечаны першым угодкам абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі. 25 сакавіка 1919 г. Фрагмент

б) Кукарды (какарды), ад франц. *cocardes*, „пер'е пеўня" — бант, стужка, складзеная петлямі і аборкамі, сабраная ў кружок тасьма і інш. Відавочна, што какарды падчас дня беларускага значка меліся быць выкананыя з бел-чырвона-белай стужкі.

[14] С. Харэўскі, *Вышэй сцяг!*, «Наша ніва», № 9 (607), 04.03.2009, с. 11.

в) Значкі. Пад значкамі, як найхутчэй, разумеліся не тыя металічныя значкі, што пазначаюцца гэтым словам сёння (акурат, як ужо сказана вышэй, ніякіх значкоў у сучасным сэнсе з 1-й паловы 1917 г. нідзе не выяўлена), але гэтак званыя катыльёны (ад франц. *cotillion* — фігурны вальс, пары ў якім фармаваліся адпаведна з аднолькавымі, загадзя раздадзенымі, адзнакамі, якія ў сваю чаргу таксама называліся катыльёнамі[15]. У XX стагоддзі словам катыльён называлася адзнака, значок, што пазначае пэўны статус і г.д. На карысць таго, што пад словам значок выступаў катыльён ускосна паказвае таксама тое, што пералічаныя там жа сцяжкі і кукарды былі выраблены з паперы ці, хутчэй, тканіны, а таксама тое, што значкі выразна акрэсліваліся як „значкі нацыянальных колераў Беларусі — чырвонага з белым".



**Іл. 4.** Выдуманы персанаж Рады БНР (князь Сапега, у выкананні Іллі Пахітонава) з бальшавіцкай прапагандысцкай стужкі рэж. Уладзіміра Корш-Сабліна „В огне рожденная" (1929 г.), паказаны на фоне бел-чырвона-белага сцяга і з бел-чырвона-белым жа катыльёнам

Важна таксама адзначыць, што менавіта з какарды пачынаецца гісторыя французскага і польскага нацыянальных сцягоў — гэтак падмурак для польскага сцяга заклала ўхвала сейма Каралеўства Польскага ад 7 лютага 1831 г., што зацвердзіла Какарду Нацыянальную: „Artykuł 1. Kokardę Narodową stanowić będą kolory herbu Królestwa Polskiego i Wielkiego Księstwa Litewskiego, to jest kolor biały z czerwonym"[16]. То-бок,

[15] *Kotylion*, [w:] *Nowa Encyklopedia Powszechna, PWN*, Warszawa 1997, https://encyklopedia.pwn.pl/encyklopedia/kotylion.html [доступ : 10.05.2021].

[16] Uchwała Sejmu Królestwa Polskiego z 7 II 1831 r. Artykuł 1.

зацвярджэнне беларускага нацыянальнага сцяга адбывалася ў рэчышчы агульнаеўрапейскага працэсу, але на ўласным нацыянальным грунце. Цікава, што нават бальшавікі ў сваіх прапагандысцкіх матэрыялах паказвалі дзеячаў БНР з бел-чырвона-белымі катыльёнамі, бо, відавочна, такія значкі-катыльёны былі адметнымі і пазнавальнымі.



**Іл. 5.** Іван Луцкевіч. Фотаздымак з 1910-х гг. Леваруч на лацкане пінжака відаць, магчыма, варыянт катыльёна, чырвонага на белым



**Іл. 6.** Рэканструкцыя (злева-направа) беларускіх сцяжка, какарды і катыльёна (у двух варыянтах), 1910-я гг.

### 1.3. Нацыянальная бел-чырвона-белая стужка

Найранейшы вядомы дакументальна прапісаны абавязак для беларусаў насіць бел-чырвона-белы элемент змешчаны ў пункце 19 „Статуту Беларускіх Нацыанальных Культурна-Прасьветных Гурткоў у Войску”, які прадпісваў: „Кожны член Беларускай Грамады ў войску павінен насіць беларускі нацыанальны знак — белая стужка с чырвонай палоскай па сярэдзіні; усе тры палоскі белая, чырвоная і белая аднэй шырыні”[17].

Гэтыя звесткі ўдакладняюцца ў кнізе Ф. Турука „Белорусское движение", выдадзенай у Маскве ў 1921 г.[18], а менавіта, там удакладняюцца дата і месца прыняцця Статуту — 5 жніўня ў Менску, на першай сесіі Беларускай Цэнтральнай Рады; то-бок, прынялі статут 5-га, а надрукавалі ў газеце — 17-га жніўня 1917 г. У лютым наступнага, 1918-га, году гэтая пастанова паўтараецца зноў: „Резолюція по вопросу организаціи національныхъ войскъ, вынесенная 2-ой сессіей БѢлорусской Войсковой Центральной Рады. [...] 8) Отличительнымъ знакомъ національныхъ бѢлорусскихъ войскъ является національная ленточка во второй сверху петличкѢ"[19].

Аналіз фотаздымкаў паказвае, што, нягледзячы на прапісаны абавязак насіць беларускую нацыянальную стужку менавіта для вайскоўцаў, насілі яе не толькі шматлікія вайскоўцы (як на кіцелі і ў пятліцы палітона (ад'ютант К. Дуж-Душэўскага капітан Корд), а таксама на нагруднай кішэні (Мікола Дзямідаў), але і цывільныя беларускія дзеячы: (Язэп Варонка — на вайсковым кіцелі); Янка Чарапук, д-р. К. Бялецкі і Лявон Заяц — на лацкане пінжака, протаіерэй І. Корчынскі — на нагруднай кішэні; у пазнейшыя часы — нават на гальштуку (чальцы Беларускага Студэнцкага Саюзу ў Вільні ў 1920-я, чальцы Беларускага народнага аб'яднання ў Вільні ў пачатку 1930-х гг.) і на форменным капелюшы (чальцы Беларускага Студэнцкага Саюзу з 1934 г.). З прыведзеных прыкладаў вынікае, што, па-першае, традыцыя прыжылася і надоўга (перажыўшы БНР і працягнуўшыся на выгнанні), па-другое, прыжылася не па загадзе і выйшла па-за межы групы вайскоўцаў-беларусаў, для маркавання якіх першапачаткова задумвалася.

Цікавым момантам для высвятлення ёсць пытанне аб вырабе бел-чырвона-белых стужак. Як паказваюць аўтэнтычныя экспанаты з таго часу, бел-чырвона-белыя стужкі выраблялiся шляхам сшывання з некалькіх вузейшых стужак, а таксама, магчыма меркаваць, і шляхам фарбавання чырвонай паласы на белай стужцы.

[17] *„Статут Беларускіх Нацыянальных Культурна-Прасьветных Гурткоў у Войску"*, «Вольная Беларусь», № 14, 17.08.1917, с. 3, 4.

[18] Ф. Турук, *Белорусское движение: Очерк истории национального и революционного движения белоруссов*, Москва 1921, с. 94.

[19] *Резолюція по вопросу организаціи національныхъ войскъ, вынесенная 2-ой сессіей Бѣлорусской Войсковой Центральной Рады*, «Белорусская Рада», № 3, 23.01.1918, с. 3.



**Іл. 7.** Экспанат з выставы „1918: БНР — Ідэя. Край. Дзяржава (Крок да Незалежнасці)" у Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь, падпісаны „Стужка — знак адрознення вайскоўцаў-беларусаў 1917-1918"

Зазначым яшчэ, што пры аналізе чорна-белых фотаздымкаў з пачатку XX ст. вельмі важна верыфікаваць даныя, каб пазбягаць памылак. Гэтак, для прыкладу, пры адсутнасці аналізу фотакрыніцы існуе магчымасць паблытаць бел-чырвона-белую беларускую нацыянальную стужку з кайзераўскай ордэнскай стужкай да Прускага крыжа 1870-1918 гг., якая мае некаторае вонкавае падабенства з першаю. Разам з тым, ордэнская стужка мела бела-чорна-белую каляровую гаму, палоскі былі рознай шырыні (цэнтральная, чорная, палоска — амаль удвая шырэйшая за белыя) і ў дадатак па краях стужкі (у адрозненне ад беларускай) меліся дзве тонкія чорныя палоскі. Нарэшце, невядома пра аніводнага беларускага дзеяча-кавалера прускага крыжа любой ступені, да таго ж ордэнская стужка без крыжа насілася на нямецкім вайсковым кіцелі, якія беларускія цывільныя дзеячы і вайскоўцы не апраналі зусім.

Такім чынам, атрымліваем наступную храналогію з'яўлення беларускага нацыянальнага сцяга: 12.03.1917 г. — найранейшая зафіксаваная публічная акцыя з бел-чырвона-белымі сцяжкамі, пры тым, што, відавочна, на той момант гэты сцягавы матыў ужо існаваў і быў пашыраны прынамсі сярод нацыянальнага актыву; 25.03.1917 г. — верагодная дата зацвярджэння стандарту б.н.с. (што праўда, толькі на падставе ўспамінаў); 05.08.1917 г. — з'яўляецца юрыдычны дакумент, што абавязвае насіць стужку ў колерах б.н.с.; падчас Першага Усебеларускага з'езду, 07.12.1917 г., бел-чырвона-белы сцяг ужо быў прыняты беларусамі і суседзямі за нацыянальны беларускі сцяг (пра гэта — ніжэй); 19.02.1918 г. — найранейшы зафіксаваны на фотаздымку акт вывешвання б.н.с. на ўрадавым будынку. Таксама можна сказаць, што беларускі нацыянальны сцяг меў у сваім падмурку такія вырабы, як какарда, катыльён, стужка ў нацыянальных колерах, што яднае яго з іншымі еўрапейскімі нацыянальнымі сцягамі.

**2. Праблема стандарту беларускага нацыянальнага сцяга**

У кнізе Аляксандра Басава і Івана Куркова „Флагі Беларусі” (а таксама ў шэрагу іншых публікацый, што бескрытычна ўспрынялі паведамленне са згаданай кнігі) было надрукаванае, без прывядзення якіх бы то ні было аргументаў, сцвярджэнне, быццам пасля зацвярджэння беларускага нацыянальнага сцяга яшчэ доўгі час не існавала ані эталону, ані палажэння аб сцягу: „Пасля абвяшчэння а шостай раніцы 25 сакавіка 1918 года Беларускай радай незалежнасці ўраду БНР пэўна не было калі абмяркоўваць заканадаўчыя акты аб сімволіцы. [...] І сімволіка — герб „Пагоня” і бела-чырвона-белы флаг — існавалі самі па сабе. Нікім не зацверджаныя, не меўшы стандартнага ўзору для тыражыравання, яны адвольна мяняліся, захоўваючы толькі агульную канцэпцыю”[20]. Далей разбярэмся, ці гэта было так.

**2.1. Эталон**

Для пачатку зазначым ужо прыведзеныя вышэй факты, а менавіта традыцыю змяшчаць на адваротным (а часам і на галоўным) баку сцягавага палотнішча дэвізаў. Такою з’яўлялася даўняя мясцовая традыцыя, і гэта не сведчыць пра адсутнасць эталону, наадварот, у артыкуле К. Езавітава пра два сцягі з featured дэвізамі на іх кажацца: „полотнища двухъ нашихъ національныхъ флаговъ”[21], маючы на ўвазе два асобнікі беларускага нацыянальнага сцяга. Няведанне ж спадароў Басава і Куркова пра такую традыцыю, лішнім разам сведчыць аб актуальнасці развязванай тут тэмы.

Датычна ж стандарту кампазіцыі самога бел-чырвона-белага сцяга варта звярнуцца да дакументальных крыніц, перш за ўсё друкаваных і фатаграфічных.




**Іл. 8.** Беларускія паштоўкі „Гербы беларускіх ваяводстваў” (1918) (праваруч), „Беларускі нацыянальны штандар” (1919) (леваруч)

[20] А. Н. Басаў, І. М. Куркоў, *Флагі Беларусі ўчора і сёння,* Мінск 1994, с. 19.

**Аналіз друкаваных крыніц**

**Паштоўкі.** Важнаю крыніцай з'яўляюцца дзве паштоўкі, выдадзеныя, першая, пад назваю „Гербы беларускіх ваяводстваў" у 1918 г. у Берліне; другая, — „Беларускі нацыянальны штандар", — у 1919 г. у Каўнасе[22] ў выдавецтве Марголіна. Прычым, калі на першай паштоўцы мы бачым сцяг, рэпрэзентаваны праз колер страўсіных пёраў на шаломе аб'яднанага герба са сцягамі беларускіх ваяводстваў, сімвалізуючы такім чынам вяршэнства нацыянальнага сцяга над мясцовымі ваяводскімі, дык на другой — непасрэдна сам бел-чырвона-белы сцяг з мінімальнымі перспектыўнымі скажэннямі.

**Картка для галасавання.** Картка была знойдзеная на гарышчы будынка тэатра імя Янкі Купалы ў Менску ў 2013 г. падчас рэканструкцыі будынка. Картка ўяўляе сабой простакутны аркуш паперы з аддрукаваным на ім з дапамогай чырвонага атраманту бел-чырвона-белым сцягам і дэвізам пад ім: „Нехай жыве Вольная Беларусь!". Сляды тыпаграфскай разметкі ў левым верхнім і левым ніжнім кутах карткі сведчаць аб масавым вырабе карткі тыпаграфскім спосабам. Месца знаходжання карткі (у будынку Купалаўскага тэатра праходзіў Першы ўсебеларускі з'езд), а таксама спадарожныя знаходкі, датаваныя пачаткам XX ст. дазволілі атрыбутаваць знаходку як картку ўдзельнікаў З'езду, з дапамогай якой, верагодна, адбывалася галасаванне дэлегатаў[23]. Рабіліся спробы высунуць меркаванне, быццам тое была картка для галасавання не падчас Першага, але падчас Другога Усебеларускага з'езду ў 1944 г., які таксама адбываўся ў будынку Купалаўскага тэатра. На гэта можна адназначна адказаць, што падчас з'езду ў 1944 г. галасаванне адбывалася пры дапамозе выдадзеных удзельнікам мандатаў, адзін з якіх захаваўся[24] і не мае аніякага падабенства да знойдзенай на гарышчы тэатра карткі.

[21] К. Езовитовъ, *Освобожденіе Минска. 19 и 20 февраля 1918 года въ Минске. Записки Коменданта*, «Варта», № 1, 10.1918, с. 38.

[22] *Новая почтовая пісулька „Беларускі штандар" (у фарбах)*, «Часопісь Міністэрства беларускіх спраў», № 3-4, 11-12.1919, с. 4 абгорткі.

[23] І. Карней, *Унікальныя знаходкі, датычныя абвяшчэньня БНР*, http://www.svaboda.org/content/article/24936831.html [доступ: 08.10.2021].

[24] Мандат Міколы Дзямідава на 2-гі Ўсебеларускі з'езд у 1944 г., [у:] З архіва Міколы Дзямідава, https://ic.pics.livejournal.com/jurkesha/44547385/3212/3212_900.jpg [доступ: 08.10.2021].




**Іл. 9.** Картка, верагодна, для галасавання падчас Першага ўсебеларускага з’езду, 1918 г.

**Улёткі.** Парную выяву з двума палотнішчамі бел-чырвона-белага сцяга, паабапал дэвізу „Братья — Белорусы, объединяйтесь!”, знаходзім таксама на ўлётцы (надрукаванай чырвоным атрамантам па белым аркушы) беларускай арганізацыі Адэсы „Беларускі гай”; арганізацыя была ўтвораная ў снежні 1917 году ў Адэсе пры Беларускай Вайсковай Радзе Румынскага Фронту[25]. Улётка была выяўленая архівістам Віталем Скалабанам у Нацыянальным архіве Беларусі ў Менску[26].



Братья—Бѣлорусы, объединяйтесь!

Много вѣковъ гнетъ царствовалъ надъ нами. Много вѣковъ мы не могли сплотиться, не могли свободно обсудить своихъ національныхъ нуждъ, не могли строить свою хату такъ, какъ мило нашему сердцу—цѣпи экономическаго и политическаго гнета связывали насъ по рукамъ и ногамъ. Но взошло солнце свободы. Это солнце согрѣло всѣхъ угнетенныхъ; воспрянули они духомъ и взялись за работу строительства родной земли по новому, по своему. Такъ Украина, Донъ, Уралъ, Бессарабія, Грузія, Татары и даже Башкиры объединились и взялись за строительство своей родины. Только Бѣлорусія, несчастная, растоптанная врагами, залившими поля ея кровью, едва начинаетъ думать о возрожденіи и взываетъ къ сынамъ своимъ, распыленнымъ по всѣмъ угламъ,—**объединяйтесь.** Всѣ становитесь плечомъ къ плечу на защиту изгнанныхъ изъ родныхъ полей и лѣсовъ и заброшенныхъ на чужбину, чтобы голосъ Вашъ звучалъ мощно, какъ чистая мѣдь и слышенъ былъ всюду.

БРАТЬЯ—БѢЛОРУСЫ, **ОБЪЕДИНЯЙТЕСЬ.**

**Іл. 10.** Улётка беларускай арганізацыі „Беларускі гай” у Адэсе, 1917-18 гг.

[25] С. Харэўскі, *Сто твораў XX стагодзьдзя. Клаўдзі Дуж-Душэўскі. Сьцяг*, http://chareuski.livejournal.com/110994.html#cutid2 [доступ: 08.10.2021].

[26] *Хто прыдумаў бел-чырвона-белы сцяг? | Кто придумал бело-красно-белый флаг?*, [у:] Белсат Гісторыя, https://www.youtube.com/watch?v=uPJayH5FjXk [доступ: 08.10.2021].

**Фатаграфічныя крыніцы.** Сярод фотаздымкаў згадаем, найперш, ужо апісаны вышэй з вывешваннем беларускага нацыянальнага сцяга (сцягоў) на гаўбцы дома Беларускай Рады 19 лютага 1918 г. (з часопіса „Варта”), як найранейшы з вядомых.

Далей трэба прывесці цэлую нізку з 4 фотаздымкаў (фота Л. Гелгара) з уваходам у Беларускую акруговую камендатуру ў Горадні на пачатак 1919 г., дзе на гаўбцы над галоўным уваходам вывешвалася ад трох да пяці сцягоў: па цэнтры — гістарычны сцяг з белаю Пагоняй на чырвоным полі, названы ў публікацыі „дзяржаўны штандар” (падрабязна пра яго будзе сказана ніжэй), праваруч — беларускі нацыянальны бел-чырвона-белы сцяг і іншыя[27]. На зямлі пры галоўным уваходзе зафіксаваныя конныя і пешыя байцы Першага беларускага швадрону, дзе кавалерыстыя — пад бел-чырвона-белым сцягам[28]. Найважным на гэтых фотаздымках з’яўляецца тое, што, як відаць, на той момант дзейнічаў унармаваны сцягавы пратакол, паводле якога беларускі нацыянальны сцяг заўжды вывешваўся з правага, ганаровага, боку нават тады, калі на гаўбцы вывешваліся сцягі Вялікабрытаніі і Францыі пры наведванні Горадні іх дыпламатычнымі місіямі (сцягі вывешваліся знізу, як сцягі гасцей, і, верагодна, у адпаведнасці з тым жа пратаколам)[29], [30].




**Іл. 11.** Схема вывешвання сцягоў на гаўбцы Беларускай акруговай камендатуры ў Горадні ў 1919 г.: 1. Гістарычны беларускі сцяг („беларускі дзяржаўны штандар”); 2. Беларускі нацыянальны сцяг; 3. Нацыянальны сцяг Літоўскай Рэспублікі; 4. Нацыянальны сцяг Францыі; 5. Цывільны сцяг Вялікабрытаніі; 6. Шыльда „Упраўленьне войскового начальніка Гродзенскаго вокругу. Камэндант м. Городно”

[27] *Городзенская Беларуская вакружная камэндатура ў сакавіка-красавіку 1919 г.*, «Часопісь Міністэрства беларускіх спраў», 1919, № 2, с. 8.

[28] З. Герасімовіч, У. Арлоў, *Краіна Беларусь. Вялікае Княства Літоўскае. Ілюстраваная гісторыя*, Bratislava 2012, с. 357.

Важнымі фотасведчаннямі з’яўляюцца таксама фотаздымкі са святкаваннямі ўгодкаў абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі, з якіх мы згадаем перш за ўсё ўжо прыведзены вышэй здымак са святочным банкетам 25.03.1919 г., на якім мы бачым шматлікія сцяжкі на святочным стале (гл. іл. 3), а таксама групавы здымак пад тою ж датай з Горадні, на якім мы бачым сцяг з дэвізам „Нехай жыве Вольная Беларусь!”[31].

Асобна трэба сказаць пра сцягі, вывешаныя падчас правядзення Беларускай канферэнцыі ў Вільні (25-28.01.1918 г.) над прэзідыумам паабапал чырвонага шчыта з белаю Пагоняй і подпісам „Wilenski”[32]. Справа ў тым, што на бел-чырвона-белым палотнішчы паміж чырвонаю і белымі палосамі змешчаныя тонкія, як відаць паводле кантрасту, чорныя стужкі. Басаў і Куркоў у сваёй кнізе трактуюць такія стужкі як знак смутку на чужыне па акупаванай бальшавікамі Айчыне[33], зблытаўшы 1918 год правядзення канферэнцыі з 1919-м, калі ўрад БНР сапраўды апынуўся на выгнанні; у дадатак яны сцвярджаюць, быццам так выглядалі і іншыя сцягі БНР, хаця насамрэч такі варыянт сцяга вядомы толькі падчас правядзення згаданай канферэнцыі. Больш дарэчным змяшчэнне дадатковых элементаў да стандартнага бел-чырвона-белага сцяга выглядае на знак адрознення сітуацыйнага сцяга ад беларускага нацыянальнага. Такі сімвалічны крок мог азначаць, што ўдзельнікі канферэнцыі не вывешваюць у Вільні нацыянальны сцяг, каб пазбегнуць пытання аб прэтэнзіях на Віленшчыну і зазначыць менавіта сітуацыйнасць сцяга. У любым разе, па-за межамі Віленскай канферэнцыі 1918 г. мы гэты сцяг нідзе і ніколі не сустракаем.

Нарэшце, згадаем пра сцяг Беларускага асобнага батальёну ў войску Літоўскай Рэспублікі, падараваны батальёну 23.04.1920 г.: „Батальённае сьвята ў беларусоў. Батальённым сьвятам у беларускім войску назначаецца дзень Св. Юрага (23 красавіка старога стылю), у які Батальёну

29 *Падарожжа Надзвычайнай літоўскай місыі ў Варшаву. Праезд праз Городно 18 красавіка 1919 г.*, «Часопісь Міністэрства беларускіх спраў» № 1, 09.1919, с. тытульная.

30 С. Кабрусёў, *Беларускія вайсковыя фармацыі ў Летуве ў 1918-23 гг. Знакі рознасці, строй*, https://bka.ucoz.ru/publ/belaruskija_vajskovyja_farmacyi_w_letuve_w_1919_23_gg_znaki_roznasci_stroj/1-1-0-26 [доступ: 09.10.2020].

31 У. Ляхоўскі, *Беларускім сцягам мог стаць трыкалор, але вайскоўцам спадабаўся бел-чырвона-белы*, «Наша гісторыя», 2018, № 2, с. 46.

32 *Удзельнікі Беларускай канфэрэнцыі 25-27 студзеня 1918 году, Вільня*, http://www.arche.by/by/page/ideas/14358 [доступ: 09.10.2020].

33 А. Н. Басаў, І. М. Куркоў, *Флагі Беларусі ўчора і сёння*, с. 20.

будзе дарован прыгожы нацыянальны штандар"[34]. На фотаздымку відаць бел-чырвона-белы сцяг, у крыжы якога змешчаны чырвоны квадрат з белаю Пагоняй[35]. Тут мы бачым яшчэ адзін спосаб стварэння новага тыпу сцяга на падставе стандартнага — з дадаваннем да яго гістарычнага беларускага сцяга („дзержаўнага штандара"), пра які будзе сказана ніжэй. Зазначым толькі, што справа тут у тым, што белую Пагоню на чырвоным полі сваім нацыянальным сімвалам лічылі і беларусы, і літоўцы, а з улікам таго, што дадзены батальён уваходзіў у войска Літоўскай Рэспублікі, праз дадаванне новага элементу да беларускага нацыянальнага сцяга вырашалася адразу дзве задачы: 1) ствараўся новы тып сцяга на падставе нацыянальнага (агулам у беларусаў і іх суседзяў пры пачатку XX ст. вайсковыя штандары часта значна адрозніваліся ад нацыянальных сцягоў, згадайма тут палкавыя штандары войска Літоўскай Рэспублікі, а таксама штандар Першага слуцкага палка стральцоў БНР); 2) праз дадаванне агульнага для беларусаў і літоўцаў элементу падкрэслівалася гістарычная сувязь абодвух нацый. Тут мы атрымліваем яшчэ адзін спосаб стварэння новых тыпаў сцягоў на падставе стандартнага — з дадаваннем нацыянальнага герба. У гэтым жа рэчышчы можам прывесці згадку пра бел-чырвона-белы сцяг з выявай Пагоні на адным баку ў промнях узыходзячага сонца[36], а таксама шыльду дыпламатычнага прадстаўніцтва БНР у Латвіі: простакутную бел-чырвона-белую з чырвоным шчытом з белаю Пагоняй пасярэдзіне і надпісам: „Вайскова-Дыплёматычная місыя Беларускай Народнай Рэспублікі"[37]. Сама шыльда, відавочна, сцягам не з'яўлялася, але яна адлюстроўвае той жа прынцып сімбіёзу беларускага нацыянальнага сцяга і герба Пагоня, апісаны вышэй.

[34] *Батальённае сьвята ў беларусоў*, «Часопісь Міністэрства беларускіх спраў», № 1, 01.1920, с. 3 абгорткі.

[35] Atskirojo Baltgudžių bataliono kariai Nepriklausomybės kovų metu netoli Daugpilio. 1919 m. LCVA fotografija, https://pries100metu.kaunomuziejus.lt/wp-content/uploads/2021/07/07-28-2.png [доступ: 25.01.2022].

[36] В. Насевіч, *Гэты сцяг пачынаўся так*, «Чырвоная змена», № 42 (13 900), 20.04.1995, с. 3.

[37] З. Герасімовіч, У. Арлоў, *Краіна Беларусь. Ілюстраваная гісторыя*, Martin 2003, с. 315.



**Іл. 12.** Жаўнеры Беларускага асобнага батальёну са сваім сцягам, 1919 г.

Падсумоўваючы аналіз выяў з бел-чырвона-белымі сцягамі можна зазначыць, што ўсе яны ствараліся паводле адзінага эталону: „**Простакутнае палотнішча з суадносінамі бакоў 1:2, падзеленае на тры роўнашырокія гарызантальныя белую, чырвоную і белую палосы**", выключэнне складае толькі сцяг, што выкарыстоўваўся падчас святкавання першых угодкаў абвяшчэння БНР у Горадні 25.03.1919 г.[38], у якога суадносіны бакоў палотнішча складалі 1:1,5, але гэта, бадай, — адзінае такое выключэнне.

Падрабязнае апісанне б.н.с. знаходзім у артыкуле Вацлава Ластоўскага „Што трэба ведаць кожнаму беларусу?", выдадзеным газетай «Вольная Беларусь» 11.08.1918 г., дзе ў падраздзеле VII *Адзнакі Беларусі* чытаем: „Адзнака Беларускае дзяржавы — гэта гэрб даунейшага Вялікаго Князства Беларуска-Літоўскаго: віцязь на белым каню ў чырвоным полі. Гэтым гэрбам адзначаліся дауней усе беларускія землі, або — як іх пазьней звалі — ваеводзтвы. [...] Нацыянальны беларускі колер — бела-чырвоны. З гэтых колераў зложан і беларускі флаг, які складаецца с трох, удоўжкі, палосак — белай, чырвонай і зноў белай"[39].

38 У. Ляхоўскі, *Беларускім сцягам мог стаць трыкалор, але вайскоўцам спадабаўся бел-чырвона-белы*, «Наша гісторыя», 2018, № 2, с. 46.

39 Закон Литовской Республики от 1 апреля 2008 г. № X-1472 (Вильнюс) „О внесении изменений в статьи 1, 2 Закона о Государственном флаге и других флагах, а также о дополнении Закона статьей 101 (Žin., 1991, №. 20-517; 2004, № 115-4274)". Статьи 1, 2, https://e-seimas.lrs.lt/portal/legalAct/lt/TAD/TAiS.336255 [доступ: 08.10.2020].

## 2.2. Колеравая гама сцяга

Трэба таксама сказаць пра наяўную ў сённяшнім свеце практыку дакладнага прапісання адценняў колераў на сцягах. Справа ў тым, што на пачатак XX ст. такая практыка з'яўлялася хутчэй выключэннем, чым правілам, і колеры беларускага нацыянальнага былі прапісаныя проста: „с трох, удоўжкі, палосак — белай, чырвонай і зноў белай"[40]. Такое апісанне лічылася цалкам дастатковым як у Беларускай Народнай Рэспубліцы, гэтак і ў суседніх дзяржавах, пры тым, што дыскусіі датычна адценняў колераў сцяга весціся маглі, ніяк не перашкаджаючы практыцы яго выкарыстання. Для прыкладу прывядзем дыскусію пра колеры ўкраінскага нацыянальнага сцяга ва ўкраінскай газеце „Нова Рада": „Прапор України. Вже давно перед революцією в Росії вважали за український прапор ясноголубу і ясножовту фарбу. Одначе з погляду наукового та практичного — це зовсім неправильно. [...] На снастях корабля, напр., серед державних і національних прапорів ріжних країн, що розвіватимуться в якийсь урочистий день, теперішній український прапор блідих тонів безперечно загубиться і зіллеться в один блідий тон. Українськими фарбами проте, згідно з геральдикою і практикою, мають бути яркі й густі синій і жовтий (золотий), яких вживають в Галичині і (неразборліва — аўт.) инї"[41]. Як бачым з прыведзенага, ва Украінскай Народнай Рэспубліцы дыскусія аб адценнях нацыянальных колераў ніяк не перашкаджала выкарыстанню, пазнаванню і папулярызацыі ўкраінскага нацыянальнага сцяга на практыцы.

## 2.3. Палажэнне аб сцягу

Палажэнне аб сцягу, то-бок, дакумент, дзе б быў прапісаны сцягавы этыкет (дзе, як, калі, па якой схеме вывешваць сцяг і г.д.), а таксама санкцыі за яго невыкананне на дадзены момант не адшуканы і, як сказана вышэй, выказваецца меркаванне, быццам такога дакументу не існавала[42]. На гэта можна адказаць, што: па-першае, практыка ўсё дэталізавана прапісваць на паперы ў дысцыпліне тэорыя права носіць назву нарматывізм і ўласцівая, напрыклад, для Прускай імперыі XIX — пачатку XX стст. (чаму спрыяў даволі працяглы перыяд палітычнай стабільнасці ў гэтай дзяржаве), але не зусім уласцівая для Усходняй Еўропы і асабліва для тэрыторый былой Расійскай імперыі ў пачатку XX ст. з іх вялікай палітычнай валатыльнасцю. Па-другое, прынамсі

[40] В. Ластоўскі, *„Што трэба ведаць кожнаму беларусу?"*, «Вольная Беларусь», № 28, 11.08.1918, с. 3.

[41] В. Щавинський, *Прапор України*, «Нова Рада», № 150, 30.09.1917, с. 2.

[42] А. Н. Басаў, І. М. Куркоў, *Флагі Беларусі ўчора і сёння*, с. 19.

часткова сустракаем у публікацыях з пачатку XX ст. элементы норм, што юрыдычна прадпісваюць практыкі выкарыстання беларускага нацыянальнага сцяга (прыгадайма прапісаны абавязак для вайскоўцаў насіць нацыянальную стужку, і менавіта ў другой згары пятліцы). Патрэцяе, аналіз крыніц сведчыць пра наяўную практыку вывешвання беларускага нацыянальнага сцяга над будынкамі выканаўчай улады: у Менску (паводле фотадакументаў і публікацыі ў часопісе „Варта"), у Слуцку (паводле ўспамінаў Р. Астроўскага), у Горадні (паводле фотаздымкаў і публікацый) і інш.; да таго ж мела месца цэнтралізаваная рассылка бел-чырвона-белых сцягоў, выробленых паводле адзінага эталону, у дзяржаўныя ўстановы (зноў у Астроўскага). Па-чацвёртае, аналіз крыніц паказвае, што сама практыка вывешвання сцягоў адбывалася паводле пэўнага пратаколу, чаму найлепшым прыкладам ёсць прынцып вывешвання сцягоў на гаўбцы Беларускай акруговай камендатуры ў Горадні ў сакавіку-красавіку 1919 г. (гл. іл. 8)[43], цікавым таксама ёсць некаторае падабенства схемы вывешвання сцягоў на гаўбцы Беларускай акруговай камендатуры ў Горадні ў 1919 г. да схемы вывешвання сцягоў на будынку Беларускай Рады ў Менску ў 1918 годзе.

Такім чынам, у дадатак да таго, што бел-чырвона-белы сцяг, раней (паводле ўспамінаў Р. Астроўскага) ці пазней, але зацверджаны быў, ён меў стандартны ўзор для тыражавання і адвольна не змяняўся. Да таго ж неаспрэчна, што, дэ-факта, вывешванне сцяга, як і яго элементаў (напрыклад, нацыянальнай стужкі ў колерах сцяга) адбывалася на грунце пэўнай прынятай да ўжытку юрыдычнай пратакольнай нормы, пры тым, што дасюль невядома, ці была тая норма аформленая ў выглядзе юрыдычнага дакументу на паперы, патрабуюцца дадатковыя даследаванні. І да ўсяго, натуральна, гэты сцяг не існаваў сам па сабе, але рэпрэзентаваўся ды прызнаваўся як беларусамі, гэтак і замежнікамі, за беларускі нацыянальны сцяг.

### 3. Аб наяўнасці альтэрнатыўных варыянтаў і праектаў беларускага нацыянальнага сцяга

Перад пачаткам развязання дадзенага пытання найперш прывядзем фрагмент з аўтабіяграфіі Клаўдыюша Дуж-Душэўскага, напісанай ім па-літоўску і выяўленай беларускім даследчыкам С. Рудовічам у фондах (Фонд 3, вопіс 1, справа 241, аркуш 117[44]) Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва (далей па тэксце — БДАМЛіМ).

[43] *Городзенская Беларуская вакружная камэндатура*, с. 8.
[44] С. Рудовіч, *Час выбару: Праблема самавызначэння Беларусі ў 1917 годзе*, Мінск 2001, с. 80.

У згаданым фрагменце Душэўскі прызнаецца ў аўтарстве беларускага нацыянальнага бел-чырвона-белага сцяга (дакумент цытуецца ў перакладзе Я. Войніча): „Цікава адзначыць, [...] што беларусы ўважалі сваім дзяржаўным сцягам той, што і літоўцы, г.зн. белую Пагоню на чырвоным полі, але нацыянальнага сцяга не было. Мне давялося зрабіць некалькі праектаў нацыянальнага сцяга, і адзін з іх быў прыняты, менавіта: бел-чырвона-белы. Ад таго часу гэты сцяг і лічыцца за беларускі нацыянальны сцяг"[45].

Трэба сказаць, што, нягледзячы на адсутнасць пацвярджэння прыведзеных звестак у іншых крыніцах, яны не ўступаюць і ў супярэчнасць ні з якімі крыніцамі, у выніку, звесткі, указаныя ў аўтабіяграфіі К. Дуж-Душэўскага, прынята лічыць адпаведнымі да рэчаіснасці. Гэты фрагмент аўтабіяграфіі дае нам адразу два важныя факты: 1) аўтарам праекта бел-чырвона-белага беларускага нацыянальнага сцяга быў Клаўдыюш Дуж-Душэўскі; 2) К. Дуж-Душэўскі зрабіў некалькі праектных варыянтаў для беларускага нацыянальнага сцяга, адзін з якіх, бел-чырвона-белы, быў прыняты і зацверджаны.

Праблемнае пытанне датычна беларускага нацыянальнага сцяга, аб магчымых альтэрнатыўных яго варыянтах у 1900-1910-я гг. можна падзяліць на тры падпытанні:

— якімі маглі быць альтэрнатыўныя праектныя прапановы Клаўдыюша Дуж-Душэўскага;

— ці былі зусім іншыя, альтэрнатыўныя бел-чырвона-беламу, варыянты нацыянальнага сцяга;

— ці маглі існаваць альтэрнатыўныя да выкладзенага ў аўтабіяграфіі К. Дуж-Душэўскага, канцэпцыі стварэння бел-чырвона-белага сцяга.

### 3.1. Беларускі гістарычны сцяг („дзержаўны штандар")

Для пачатку звернемся зноў да выпіскі з аўтабіяграфіі К. Дуж-Душэўскага, у якой сказана пра яшчэ адзін сцяг: „Цікава адзначыць, [...] што беларусы ўважалі сваім **дзяржаўным сцягам** той, што і літоўцы, г.зн. белую Пагоню на чырвоным полі"[46]. Гэтае паведамленне пацвярджаецца ў публікацыях у тагачасных беларускіх перыядычных выданнях: „Мусім мы, беларуская дэмакратыя, падняць стары наш **штандар Пагоні** — вялікі сымвол незалежнасьці. Гісторыя нашага народу дае нам навучаючы прыклад. Нашую народную культуру, якой выракліся паны і інтэлігенцыя, перахаваў наш сялянскі народ. Таксама перахаваў ён і традыцыі старой сваей незалежнасьці і няхто іншы, верым мы,

[45] С. Рудовіч, *Белы, чырвоны, белы...*, «Звязда», № 61 (21 839), 25.03.1992, с. 2.

[46] Там жа, с. 2.

а ён высака падыме **штандар Пагоні** і адбудуе Бацькаўшчыну для сябе і сваіх народаў супольнікаў"[47]. Важным таксама ёсць згадка, што апісваны тут сцяг сваім лічылі і беларусы, і літоўцы.




**Іл. 13.** Плакат руху за незалежнасць Літоўскай Рэспублікі ў ЗША з пач. XX ст., на якім выразна відаць два сцягі: літоўскі нацыянальны і літоўскі гістарычны

Літоўская Рэспубліка вялікую ўвагу надавала нацыянальнай сімволіцы, да таго ж, да нашага часу захавалася вялікая частка дакументаў з пачатку XX ст. і ў цэлым праблема дзяржаўнай і нацыянальнай сімволікі Літоўскай Рэспублікі распрацаваная даволі падрабязна. Агулам, 21-22.11.1905 г. Ёнасам Басанавічусам было прапанавана зрабіць чырвонае палотнішча з белаю Пагоняй літоўскім нацыянальным сцягам, што не знайшло падтрымкі праз „манархічны" характар герба Пагоня; у чэрвені 1917 г. ім жа была паўторна высунутая тая ж прапанова, але яна зноў не знайшла падтрымкі з той жа прычыны, а таксама з прычыны цяжкасці для масавага вырабу такога варыянту сцяга. У выніку было вырашана шукаць іншы варыянт для нацыянальнага сцяга і створаная спецыяльная камісія пад кіраўніцтвам усё таго ж Басанавічуса, якая 19.04.1918 г. адзначыла ў сваім пратаколе, што нацыянальным сцягам з'яўляецца жоўта-зялёна-чырвоны трыкалор. Зацверджаны ён

[47] *Пад старым штандарам*, «Беларускі звон», № 1, 22.03.1921, с. 2.

быў 25.04.1918 г.[48] Чырвонае палотнішча з белаю Пагоняй у якасці дзяржаўнага сцяга ўсё ж такі выкарыстоўвалася ў кароткі перыяд з 04.06.1918 г. па 02.11.1918 г., калі ў краіне была абвешчаная канстытуцыйная манархія, але пры вяртанні да рэспублікі дзяржаўным больш не стаў і ў Канстытуцыю Літоўскай Рэспублікі, прынятую 01.08.1922 г. не трапіў[49]. На сённяшні дзень дзяржаўным і нацыянальным сцягам Літоўскай Рэспублікі з'яўляецца жоўта-зялёна-чырвоны трыкалор, але 01.04.2008 г. Законам Літоўскай Рэспублікі № X-1472 да афіцыйнага выкарыстання вяртаецца і чырвоны сцяг з белаю Пагоняй пад назваю „Гістарычны (гербавы) сцяг Літоўскай Дзяржавы"[50].

На выявах з пачатку XX ст. можна пабачыць, як выглядалі абодва вышэйапісаныя сцягі; вельмі добра адлюстраваныя яны, напрыклад, на плакаце руху за незалежнасць Літоўскай Рэспублікі ў ЗША з пачатку XX ст., дзе мы бачым Летуву ў выглядзе жанчыны ў фрыгійскім каўпаку з жоўта-зялёна-чырвонаю какардай, а за ёй двух мужчын, што трымаюць нацыянальны і гістарычны сцягі, ды па цэнтры выявы — амерыканскую статую Свабоды з дэвізам на пастаменце: „Lai gyvuoja laisva Lietuva" („Няхай жыве Вольная Летува"), аналагічным беларускаму „Няхай жыве Вольная Беларусь!"[51]

Як відаць, літоўскі нацыянальны трыкалор быў зацверджаны як мінімум на месяц пазней за беларускі нацыянальны трыкалор, прапановы ж аб чырвоным палотнішчы з белаю Пагоняй гучалі ў літоўцаў яшчэ пры канцы 1905 г., калі пра выкарыстанне такога ж сцяга беларусамі мы маем звесткі з 1910-х гг. Разам з тым, па-першае, ужыванне гербу Пагоня на тэрыторыях будучых Беларускай Народнай Рэспублікі і Літоўскай Рэспублікі за часамі Расійскай імперыі не перапынялася, бо сама Пагоня як герб была ўключаная ў вялікі герб расійскіх імператараў ды выкарыстоўвалася ў зямельнай сімволіцы, сімволіцы ўстаноў і г.д. Па-другое, калі звярнуцца да ўспамінаў Я. Сушынскага, „гербам «Пагоня» і бел-чырвона-белым сцягам карысталася дэмакратычнае

48 *Литовская Республика*, http://www.vexillographia.ru/litva/gosflag.htm [доступ: 08.10.2021].

49 Там жа.

50 Закон Литовской Республики от 1 апреля 2008 г. № X-1472 (Вильнюс) „О внесении изменений в статьи 1, 2 Закона о Государственном флаге и других флагах, а также о дополнении Закона статьей 101 (Žin., 1991, №. 20-517; 2004, № 115-4274)". Статьи 1, 2, https://e-seimas.lrs.lt/portal/legalAct/lt/TAD/TAiS.336255 [доступ: 08.10.2020].

51 Плакат са збораў музея Балзекаса ў Чыкага падчас выставы „Views of the Native Land: Early 20th Century Lithuanian Americans Celebrate the Land, the Past, and Freedom" (04.05–30.10.2017), https://balzekasmuseum.org/en/wp-content/uploads/2017/03/Screen-Shot-2017-05-03-at-12.18.38-PM-866x1024.png [доступ: 08.10.2021].

беларускае студэнцтва ў Пецярбургу, наладжваючы ў 1909-1912 гады культурна-асветніцкія вечары. [...] нацыянальны сцяг яшчэ ў канцы XIX стагоддзя выкарыстоўвалі пецярбургскія студэнты — ураджэнцы Беларусі і Літвы [...]. У 1916 годзе гербам Пагоня і бел-чырвона-белым сцягам карысталася арганізацыя «Сувязь незалежнай Беларусі»"[52] і пры гэтым высунуць версію, што ён насамрэч меў на ўвазе не бел-чырвона-белы, але чырвоны сцяг з белаю Пагоняй, дык такія паведамленні ўжо не гучаць фантастычна. Але гэта — пытанні для будучых даследчыкаў. Да ўсяго, нягледзячы на запісанае ва ўспамінах Радаслава Астроўскага абгрунтаванне колераў бел-чырвона-белага трыкалору („Паколькі ў беларускім народным мастацтве белыя і чырвоныя ўзоры пераважаюць"[53]) нельга выключаць, што сам К. Дуж-Душэўскі пры стварэнні прапаноў для сцяга за аснову ўзяў, напрыклад, колеры герба Пагоні, транслюваныя на беларускі гістарычны сцяг.

Вяртаючыся да беларускага гістарычнага сцяга (гэтая назва для яго пасуе больш, чым „дзержаўны штандар"[54], бо дэ-факта дзяржаўным сцягам БНР быў яе ж нацыянальны, бел-чырвона-белы, сцяг) можна падсумаваць, што такі сцяг, як найхутчэй, быў варыянтам № 1 у праектнай прапанове Клаўдыюша Дуж-Душэўскага, нездарма ён апісвае яго як такі, які беларусы ўжо „ўважалі сваім дзяржаўным сцягам"[55]. І, як і ў выпадку з прапановаю аналагічнага сцяга для Літоўскай Рэспублікі Ёнасам Басанавічусам, гэты сцяг не быў прыняты, па-першае, праз складанасць для масавага вырабу; па-другое, магчыма, праз „манархічнасць" яго вобразу.

Тым не менш, нам вядомая практыка вывешвання чырвонага сцяга з Пагоняй у 1919 г. над дзяржаўнымі ўстановамі БНР з трактаваннем яго як агульнай спадчыны беларусаў і літоўцаў — спадкаемцаў ВКЛ, што падкрэслівалася змяшчэннем штандара Пагоні пасярэдзіне між

52 М. Ткачоў, *Нацыянальныя сімвалы: народ і гісторыя*, https://library.by/portalus/modules/belarus/readme.php?subaction=showfull&id=1143150048&archive=1291800676&start_from=&ucat=& [доступ: 08.12.2020].

53 W. Ostrowski, *The Ancient Names and Early Cartography of Byelorussia. A revised edition with 50 reproductions. Published by the author*, London 1971, p. 2; *Старажытныя назвы і ранняя картаграфія Беларусі*, http://imago.by/images/stories/Articles/17/astrouski/ancient-names-and-early-cartography-1970.pdf [доступ: 10.05.2021].

54 *Городзенская Беларуская вакружная камэндатура ў сакавіка-красавіку 1919 г.*, «Часопісь Міністэрства беларускіх спраў», 1919, № 2, с. 8.

беларускім і літоўскім нацыянальнымі сцягамі. Таксама можна згадаць, што дадаванне чырвонага сцяга з Пагоняй як элемента на штандар Беларускага асобнага батальёну ў войску Літоўскай Рэспублікі мела служыць тым жа мэтам — падкрэсліванню агульных каранёў беларусаў і літоўцаў.

### 3.2. Белы сцяг

Дзеля высвятлення загадкі датычна наступнага сцяга, які ў шэрагу паведамленняў згадваецца як альтэрнатыўны для бел-чырвона-белага звернемся да наступнай згадкі: „Па ўспамінах удзельніцы Першага беларускага кангрэса ў Мінску (маецца на ўвазе Першы ўсебеларускі з'езд 5-18 снежня 1917 г. — аўт.) Зоські Верас, над будынкам быў вывешаны чыста белы флаг, што з'яўлялася дакладнай графічнай транскрыпцыяй назвы „Белая Русь". Аднак многія дэлегаты кангрэса ўсумніліся: белы флаг — гэта сімвал контррэвалюцыі і рэакцыі. Каб адмежавацца ад гэтага падабенства, Беларускі нацыянальны камітэт змясціў пасярэдзіне палотнішча сімвал рэвалюцыі — чырвоную паласу. Атрымалася бела-чырвона-белае палотнішча"[56].

У газеце «Беларуская Рада» за 7 снежня 1917 г. мы таксама знаходзім згадку пра ўжыванне сцяга з белым палотнішчам падчас З'езду: „8 ч. 45 минут вечера. Взвивается занавес. Впереди стол президиума. Сзади совет старейшин. В центре стоитъ белый стяг, на котором написано: «Нехай жыве вольная Беларусь». Слева национальное красно-белое знамя с надписью: «За родный край, за вольную Беларусь». Справа красное знамя Белорусской Социалистической Грамады"[57]. Як бачым, згодна з другой крыніцаю, якая вызывае нашмат больш даверу, белы сцяг не вывешвалі над будынкам, а выстаўлялі ў залі ля стала прэзідыума З'езду, і адразу побач з бел-чырвона-белым сцягам. Таксама маем фотаздымак, датаваны 15-м кастрычніка 1917 г. з удзельнікамі Вялікай Беларускай Рады і апісаным у газеце белым сцягам з дэвізам „Нехай жыве вольная Беларусь"[58].

55 С. Рудовіч, *Белы, чырвоны, белы...*, «Звязда», № 61 (21 839), 25.03.1992, с. 2.
56 А. Н. Басаў, І. М. Куркоў, *Флагі Беларусі ўчора і сёння*, с. 19.
57 *Всебѣлорусскій съѣзд*, «Белорусская рада», № 7, 10.12.1917, с. 1.
58 «Беларускі гістарычны часопіс», 1993, № 1 (1), с. 63.




**Іл. 14.** Выява белага сцяга з дэвізам „Нехай жыве вольная Беларусь". Фрагмент фотаздымка ад 15.10.1917 г.

Праблему паходжання і значэння белага сцяга развязвае яшчэ адна крыніца з апісаннем падзей за 6 сакавіка 1917 г. з газеты „Беларускі звон": „Урачысты дзень 6 сакавіка 1917 г., у які адбылася агульная, небывалая дасюль, маніфэстацыя ў Менску, быў адсьвяткованы й беларусамі, аб'яднанымі ў „камітэце помачы ахвярам вайны". Беларускі штандар, тады яшчэ чыста белы, відаць было сярод чырвонага мора рэвалюцыйных штандараў нялічаных арганізацый, што паўсталі дзякуючы рэвалюцыі. На беларускім штандары з аднаго боку былі толькі два моцныя, мнагазначныя словы „Жыве Беларусь" (гражданкаю) і з другога боку — „Witajma Wolu narodu" (лацінкаю)"[59].

Такім чынам, белым сцягам, як відаць з прыведзенай вышэй цытаты, пазначалі сябе беларусы, аб'яднаныя ў Беларускі камітэт дапамогі ахвярам вайны, дзе такі сцяг можна разглядаць як сімвалічнае супрацьпастаўленне вайне, бо белы сцяг, як вядома, сімвалізуе перамір'е і перамовы. 6-га сакавіка Камітэт і яго прыхільнікі прымаюць удзел у мітынгу ў цэнтры Менска, а ўжо 7-га снежня белы сцяг быў выстаўлены пасярэдзіне залі З'езду, з чырвоным, рэвалюцыйным сцягам Беларускай Сацыялістычнай Грамады і Нацыянальным

[59] М. Краўцоў, *Усебеларускі Зьезд 1917 г. (Рэфэрат чытаны ў Лодзі для афіцэраў Беларускіх Вайсковых Аддзелаў і служачых Беларускай Вайсковай Камісіі 27 кастрычніка 1920 г.)*, «Беларускі звон», № 11, 09.09.1921, с. 4.

бела-чырвона-белым сцягам паабапал. Відавочна, што белы сцяг нейтральнага ў палітычным плане Камітэту, што меў шырокую падтрымку сярод усіх жыхароў Беларусі, меў сімвалізаваць кампраміс паміж прыхільнікамі нацыянальнага самавызначэння беларускага народу і прыхільнікамі сусветнага рэвалюцыйнага інтэрнацыяналу.

Але жаданага кампрамісу дасягнуць не атрымалася, адзін з дэлегатаў З'езду, латышскі бальшавік Людвіг Рэзаўскі (які пасля разганяў З'езд) зрабіў палемічны выпад на адрас бел-чырвона-белага сцяга, прапанаваўшы выкінуць яго і замяніць на яшчэ адзін чырвоны: „В грубой, не тактичной форме оратор, показывая на белорусский стяг, сказал: «уничтожьте его, а повесте красный — (там висел и красный). Смешно, до чего наивен подобный господин. Неужели социалисты, которые проповедуют самоопределение нации вплоть до отделения, могут позволять подобные предложения'[60]; „Представитель Латышей. Мы стоим за братство всех народов. Не должно быть деления на нации. Указывая на национальное белорусское знамя, говорить: Бросьте этот флаг, (шум. крики: вон! долой! Многие бросаются к оратору. Крики не смолкают, пока его не вывели за сцену). [...] Мамонько. Латыши за самоопределение народов, а это какие-то отщепенцы. Я служил на фронте рядом с латышами и знаю, как они смотрят на самоопределение. Какое имеют они право требовать бросить наше знамя? (Крики: гнать его). [...] Шантер. Я понимаю левых соц.- революционеров, но когда нам говорят забыть свою родину — вот этого я уже не понимаю. Ассимиляция — это рабство. Почему вы собрались сюда? Вас привело сюда, братья, национальное чувство. Национальное возрождение никогда не погибнет (бурн. аплодисменты). [...] Ген. Алексеевский подходитъ и целует знамя'[61]. „Рэзаўскаму да канца дагаварыць не ўдалося. Калі ў часе прамовы ён узяў за ражок вісеўшага над аратарскай трыбунай (на сцэне Гарадзкога Тэатра) нацыянальнага беларускага штандару, назваў гэты штандар «национальной тряпкой» і заклікаў замяніць яе «красным знаменем Интернационала», дык на сцэну выйшлі два здаравяцкія матросы (адзін зь іх вядомы ўсяму Зьезду сваім грымотным голасам левы эсэр Дулін), узялі фігуру наркома Рэзаўскага пад рукі і вывелі вон'[62].

60 І. Красовскій, *Открытіе Всебѣлорусскаго съѣгзда*, «Белорусская рада», № 8, 12.12.1917, с. 3.

61 *Всебѣлорусскій съѣзд*, «Белорусская рада», № 7, 10.12.1917, с. 2.

62 М. Краўцоў, *20 гадоў назад (Успамін пра Усебеларускі зьезд 1917 г.)*, «Шлях моладзі», № 5, 26.02.1938, http://pawet.net/library/history/bel_history/_bnr/10201/%D0%9C%D0%B0%D0%BA%D0%B0%D1%80_%D0%9A%D1%80%D0%B0%D1%9E%D1%86%D0%BE%D1%9E_%D0%BF%D1%80%D0%B0_%D0%8E%D1%81%D0%B5%D0%B1%D0%B5%D0%BB%D0%B0%D1%80%D1%83%D1%81%D0%BA%D1%96_%D0%B7%D1%8C%D0%B5%D0%B7%D0%B4.html [доступ: 03.08.2021].

З прыведзеных цытат відаць, што, па-першае, бел-чырвона-белы сцяг на момант адкрыцця З'езду ўжо існаваў, быў усім вядомы (у тым ліку і па-за межамі Беларусі) і меў статус адзінага нацыянальнага; па-другое, бальшавік, хаця і ў зняважлівай форме, прызнаў гэты сцяг беларускім нацыянальным і супрацьпаставіў бел-чырвона-белы нацыянальны сцяг інтэрнацыянальнаму рэвалюцыйнаму чырвонаму, сімвалічна звязаў нацыянальны сцяг з самавызначэннем беларускай нацыі; па-трэцяе, белы сцяг ніяк не зацікавіў бальшавіка; па-чацвёртае, бальшавіка абсалютна ніхто з дэлегатаў не падтрымаў і наадварот адразу ж было зладжанае ўганараванне нацыянальнага сцяга.

Таксама відаць, што бела-чырвона-белы сцяг не ствараўся ў адказ на сумневы дэлегатаў З'езду (а ўжо не толькі існаваў, але і быў шырокавядомы) і чырвоная рэвалюцыйная паласа не мае да яго ніякага дачынення.




**Іл. 15.** Варыянты белага сцяга Камітэту дапамогі ахвярам вайны (згары леваруч — падчас маніфестацыі 06.03.1917 г., а таксама здолу праваруч, пасярэдзіне — падчас Усебеларускага з'езду 07.12.1917 г.)

Гаворачы пра першакрыніцы, трэба зазначыць, што ў кнізе „Зоська Верас. Я помню ўсё: Успаміны, лісты" аўтару не ўдалося адшукаць згадкі пра вывешванне белага сцяга над будынкам і дадавання да яго чырвонай паласы ані падчас Першага ўсебеларускага з'езду ў снежні 1917, ані падчас З'езду беларускіх арганізацый у сакавіку таго ж году, ані падчас З'езду беларусаў-вайскоўцаў у кастрычніку. Наадварот

63 Зоська Верас, *Я помню ўсё: Успаміны, лісты*, уклад. М. Скоблы, Горадня 2013, с. 49.

Людвіка Сівіцкая, чыім псеўданімам была Зоська Верас, апісвае наступную сітуацыю: „Метлін (старшыня з'езду, расійскі сацыяліст — аўт.) выступіў з прамовай, што цяпер не час падымаць нацыянальнае пытанне, а трэба ўмацаваць атрыманую свабоду, злучыўшыся разам з усімі для склікання Учредительного Собрания. Па яго разуменню, наш рух нацыянальны не натуральны, бо пад ім німа цьвёрдага фундамэнту народных нізоў"[63]. Далей Зоська Верас дадае, што падчас прамовы І. Метлін дазволіў сабе „грубіянскія выкрыкі: „Далой эту тряпку!" — гэта наш беларускі сьцяг!!! (абураецца аўтарка — аўт.)"[64]. На гэта прамоўца атрымаў цвёрдую адмову ад дэлегатаў З'езду „і старэнькага сівога селяніна, які, сказаўшы некалькі простых, але моцных слоў, укленчыў і пацалаваў сьцяг!"[65]. З кантэксту відаць, што, па-першае, згаданая падзея адбылася 25 сакавіка 1917 г., у першы дзень З'езду; па-другое, размова ішла менавіта пра беларускі нацыянальны бел-чырвона-белы сцяг; па-трэцяе, гэты сцяг ужо быў вядомы і беларускім арганізацыям і іх апанентам; па-чацвёртае, апаненты беларускага нацыянальнага руху ўжо тады, як і пазней, падчас Першага ўсебеларускага з'езду, карысталіся аднолькаваю тактыкай. Тактыка была ў супрацьпастаўленні беларускай нацыі сацыялістычнаму інтэрнацыяналізму ды ў абразе беларускага нацыянальнага сцяга.

Нарэшце, у той жа крыніцы знаходзім успаміны Сівіцкай пра З'езд беларусаў-вайскоўцаў і прадстаўнікоў беларускіх арганізацый пры войску (адбыўся 18-24.10.1917): „Я пры помачы Рэні Бядулькі (дачка пісьменніка Змітрака Бядулі) прыгатавала цэлую масу чырвона-белых сьцяжкоў для дэлегатаў. Здаецца, усё... Заўтра з раніцы пачнуць зьязджацца, увечары зьезд адкрываецца"[66]. Гэта яшчэ раз падкрэслівае, што прынамсі на кастрычнік 1917 г. пытанне аб выглядзе беларускага нацыянальнага сцяга было ўжо вырашана.

### 3.3. Міф пра чырвона-сіні сцяг

Вельмі дзіўную згадку пра яшчэ адзін варыянт беларускага нацыянальнага сцяга знаходзім ва ўжо згаданай кнізе Басава і Куркова: „Але былі і іншыя меркаванні адносна нацыянальнай сімволікі. Сведчаннем таму з'яўляецца прапанаваны з'езду праект беларускага флага з блакітнай белай і чырвонай гарызантальнымі палосамі. У гэтай сувязі цікавая заметка, якая была надрукавана ў газеце „Вольная Беларусь" ад 12 снежня 1917 года пад назвай „Мара", дзе аўтар паэтычна апісвае

[64] Там жа, с. 50.
[65] Там жа, с. 50.
[66] Там жа, с. 55.

Беларусь, услаўляючы яе блакітныя азёры, неба, вочы беларусаў, а таксама белыя дарогі, хаты, валасы старых і г.д.”[67]

Насамрэч, у газеце „Вольная Беларусь” 8 снежня 1917 г. выйшаў 33-ці нумар, а наступны, 34-ты — ужо 15 снежня таго ж году. Нумару гэтай газеты ад 12 снежня папросту не існуе і вышэйзгаданага допісу пад назвай „Мара” аўтару адшукаць не атрымалася. Праліць святло тут можа наступны ўрывак з прапагандысцкай савецкай кнігі Сцяпана Пачаніна „Историей обреченные”: „Съезд (Першы ўсебеларускі з’езд — аўт.), надо отдать ему справедливость, хлопал всем, кто бы ни говорил: меньшевикам, кадетам и другим. И только однажды, когда выступил оратор латышской с.-д. партии, предложивший заменить **алоголубое** знамя знаменем Интернационала, „делегаты” подняли такой гвалт, такую суматоху, что упаси только мать-царица небесная!”[68]. Тут мы бачым адцэнзураванае С. Пачанiным апісанне вядомай падзеі на З’ездзе з бальшавікам Рэзаўскім, які прапанаваў кінуць бел-чырвона-белы сцяг, але атрымаў адпор. Пры гэтым апісанне беларускага нацыянальнага сцяга Пачанін перарабіў на выдуманае чырвона-блакітнае, і менавіта гэтае апісанне, а не неіснуючы нумар газеты, як выглядае, магло стаць першакрыніцай. Нарэшце, мы не маем у наяўнасці гістарычных крыніц ані пра такі праект сцяга, ані пра яго выкарыстанне перад, падчас і пасля З’езду, што і не дзіўна, бо яшчэ з сакавіка ў якасці нацыянальнага выкарыстоўваўся бел-чырвона-белы сцяг, ён жа быў выстаўлены на З’ездзе, падтрыманы ўсімі і незразумела, навошта было б прапаноўваць яшчэ якіясь варыянты.

### 3.4. Беларускі сцяг і латышскі рух

„У некаторых газетах і ўспамінах сцвярджаецца, што бальшавік (згаданы вышэй бальшавік Рэзаўскі — аўт.) параіў беларусам выкінуць іх сцяг. Але, напрыклад, у «Аршанскім весніку» за 14 снежня 1917 г. прыводзяцца такія словы прамоўцы: «Кіньце наш сцяг». У сувязі з гэтым варта прыгадаць, што адначасова з беларускім адбывалася афармленне і латышскага нацыянальнага сцяга. Прапаноўваліся розныя варыянты. У 1915 г. мастак Я. Гросвалдс зрабіў эскіз бела-чырвона-белага сцяга, які павінны былі ўзняць латышскія стралкі ў выпадку вызвалення ад немцаў Мітавы. Магчыма, менавіта гэты факт і меў на ўвазе латышскі бальшавік”[69]. У прыведзенай цытаце мы бачым ужо неаднакроць

[67] А. Н. Басаў, І. М. Куркоў, *Флагі Беларусі ўчора і сёння*, с. 19.
[68] С. Почанин, *Историей обреченные*, Мінск 1977, с. 167.
[69] В. Насевіч, *Гэты сцяг пачынаўся так*, «Чырвоная змена», № 42 (13 900), 20.04.1995, с. 3.

згадануую вышэй падзею з латышскім бальшавіком і бел-чырвона-белым сцягам, але з новаю трактоўкай; дэталі ж самой падзеі паказваюць на неадпаведнасць такога трактавання да рэчаіснасці. Сапраўды, тагачасныя перыядычныя выданні акцэнтавалі і падкрэслівалі пратэст бальшавіка менавіта супраць бел-чырвона-белага сцяга як супраць беларускага нацыянальнага, а таксама ўскосна засведчылі факт яго пазнавальнасці менавіта ў якасці нацыянальнага беларускага як беларускімі дзеячамі, гэтак і бальшавікамі. Засведчана з некалькіх крыніц, што латышскі бальшавік не заяўляў ніякіх правоў на бел-чырвона-белы сцяг, але заклікаў замяніць яго „красным знаменем Интернационала”[70]. Паведамленне ж у «Аршанскім весніку» не даказвае нічога, больш за тое, як найхутчэй, тут мы маем справу з банальнай абдрукоўкай: „наш” заміж „ваш”.

Нарэшце, ідэя аб тым, што латышы маглі сур’ёзна разглядаць у якасці свайго нацыянальнага сцяга бел-чырвона-белы, не адпавядае рэчаіснасці, бо ад пачатку ў гістарычны падмурак для свайго сцяга імі было пакладзенае паведамленне аб чырвона-бела-чырвоным сцягу лэттаў-вендаў у нямецкамоўнай Рыфмаванай хронікі („Livländische Reimchronik”): „[...] mit einer banier rot gevar, daz, was mit wize, durch gesniten hute nach wendischen siten”[71] ([...] пад сцягам чырвоным, што белую меў паласу паводле вендскага звычаю”).

**3.5. Уяўны праект Лявона Вітан-Дубейкаўскага**

Нарэшце, зусім нядаўна беларускім даследчыкам Уладзімірам Ляхоўскім у папулярным выданні „Наша гісторыя” была высунутая ідэя, паводле якой існавалі альтэрнатыўныя праектныя прапановы для беларускага нацыянальнага сцяга за аўтарствам Лявона Вітан-Дубейкаўскага: „На падставе выяўленых на сёння дакументальных сведчанняў можна лічыць, што першая спроба стварыць праект нацыянальнага сцяга была зроблена вядомым беларускім архітэктарам Лявонам Дубейкаўскім

70 М. Краўцоў, *20 гадоў назад (Успамін пра Усебеларускі зьезд 1917 г.)*, «Шлях моладзі», № 5, 26.02.1938, http://pawet.net/library/history/bel_history/_bnr/10201/%D0%9C%D0%B0%D0%BA%D0%B0%D1%80_%D0%9A%D1%80%D0%B0%D1%9E%D1%86%D0%BE%D1%9E_%D0%BF%D1%80%D0%B0_%D0%8E%D1%81%D0%B5%D0%B1%D0%B5%D0%BB%D0%B0%D1%80%D1%83%D1%81%D0%BA%D1%96_%D0%B7%D1%8C%D0%B5%D0%B7%D0%B4.html [доступ : 03.08.2021].

71 *Livländische Reimchronik*, herausgegeben von Franz Pfeiffer, Stuttgart 1844, p. 249.

72 У. Ляхоўскі, *Беларускім сцягам мог стаць трыкалор, але вайскоўцам спадабаўся бел-чырвона-белы*, «Наша гісторыя», 2018, № 2, с. 43.

у 1916 годзе. [...] Свой варыянт сцяга архітэктар зрабіў у снежні 1916 года, калі знаходзіўся ў Петраградзе і кароткі час працаваў у Беларускім таварыстве дапамогі ахвярам вайны”[72]. Тут размова ідзе пра замалёўкі, змешчаныя на адвароце друкаванай анкеты беларуса-бежанца Івана Тумаша ад 18.09.1917 г., выяўленай у фондах Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь (НАРБ, ф. 672, оп. 1, д. 1, л. 761 аб)[73]. Датычна гэтай крыніцы адразу кідаецца ў вочы наступнае: анкета запоўненая толькі ў верасні 1917 г. (то-бок, нашмат пазней за снежань 1916 г.) — цяжка ўявіць, што супрацоўнікі Таварыства размалёўвалі дзеля сваіх патрэб пустыя бланкі анкет, а пасля раздавалі іх для запаўнення беларусам-бежанцам; як найхутчэй, малюнкі на адвароце анкеты належаць руцэ самога Івана Тумаша і ў любым разе зробленыя не раней за верасень 1917 г., калі Л. Вітан-Дубейкаўскі ў Таварыстве дапамогі ахвярам вайны ўжо не працаваў. Да таго ж, ужо самы першы погляд на выявы не дазваляе назваць іх гучным словам „праект” — гэта звычайныя замалёўкі на палях, прычым нават на прыведзеным маленькім фрагменце відаць, што там маюцца замалёўкі трох розных сцягоў (рознай ступені завершанасці). Ідэя ж аб аўтарстве гэтых малюнкаў Вітан-Дубейкаўскага толькі на падставе таго, што ён таксама працаваў у Беларускім таварыстве па аказанні дапамогі пацярпелым ад вайны выглядае зусім несур’ёзна. У любым разе гэтая замалёўка нікому не была вядомая і праляжала ў архіве да 2000-х гг., калі была знойдзена супрацоўнікамі-архівістамі; зрэшты і сам У. Ляхоўскі прызнае гэта: „Увогуле, складваецца ўражанне, што дадзены малюнак не быў да канца завершаны аўтарам. Пра яго тады, відаць, ніхто так і не даведаўся ці ведала толькі вузкае кола людзей”[74].



**Іл. 16.** Замалёўкі на адвароце анкеты Івана Тумаша

[73] *Белорусское общество в Петрограде по оказанию помощи пострадавшим от войны. 1916-1918 гг.: межархив. справ.*, сост.: Н. Е. Калесник [и др.]; предисл. В. В. Скалабан; науч. ред. С. В. Жумарь; редкол.: В. И. Адамушко [и др.], Минск 2008, с. 53, 61.

[74] У. Ляхоўскі, *Беларускім сцягам мог стаць трыкалор, але вайскоўцам спадабаўся бел-чырвона-белы*, «Наша гісторыя», 2018, № 2, с. 43.

Далей у сваім тэксце аўтар піша наступнае: „Таксама мы ведаем, што менавіта ў лістападзе 1917 года, напярэдадні правядзення Усебеларускага з'езда, кіраўніцтва ВБР (Вялікая беларуская рада — аўт.) замовіла праект такога сцяга згаданаму вышэй Лявону Дубейкаўскаму"[75]. Тут ужо вядзецца пра рэальны малюнак, што захоўваецца ў архіўнай справе разам з іншымі замалёўкамі Дубейкаўскага[76], інтрыгі дадае тое, што на адвароце аркуша маецца надпіс: „Рыс. Дубейкаўскага. Узор Дзяржаўнага сцяга Беларусі 1917-1918 гг."[77] Але і тут ніяк нельга пагадзіцца з допісам У. Ляхоўскага, бо, па-першае, насамрэч, ніякіх крыніц і звестак, быццам Вялікая беларуская рада замаўляла такі праект у Дубейкаўскага, — няма; па-другое, як і пра вышэйпрыведзеныя замалёўкі апроч самога іх аўтара, як найхутчэй ніхто з сучаснікаў не ведаў, прынамсі ніякіх дакументальных сведчанняў пра адваротнае мы не маем; па-трэцяе, ужо ў жніўні 1917 г., то-бок, на тры месяцы раней, існаваў усімі прымальны бел-чырвона-белы нацыянальны сцяг, сведчанне аб чым сустракаем сярод іншага ў Статуце Беларускіх нацыянальных культурна-прасветных гурткоў у войску, і навошта тады замаўляць яшчэ якісь праект; па-чацвёртае, аналізаваны малюнак таксама ніяк не з'яўляецца праектам (сцяг мае перспектыўныя скажэнні, частка палотнішча заходзіць за межы малюнка, поле для назвы на малюнку — незапоўненае, сам сцяг мае зусім нетыповыя для еўрапейскіх сцягоў прапорцыі палотнішча (1:4 ці нават больш) і, адпаведна, гэта ўвогуле не сцяг, але — вымпел). Тое, як зроблены малюнак моцна кантрастуе менавіта з праектам Лявона Вітан-Дубейкаўскага — праектам Крыжа Пагоні, дзе маецца тытул, рамка, дата (07.01.1921 г.) і віды з памерамі[78]. Нарэшце, па-пятае і па-галоўнае, сам Вітан-Дубейкаўскі на сваіх жа малюнках уласнаручна засведчыў, які сцяг лічыў беларускім нацыянальным: у сваёй праектнай прапанове для калодак да праекту Крыжа Пагоні па цэнтры ўсіх калодак аўтар змясціў бел-чырвона-белую стужку (мастацкая манера гэтага малюнка — ідэнтычная да малюнка з невядомым сцягам-вымпелам, што паказвае на аўтарства Л. Вітан-Дубейкаўскага і цалкам верагодна, што выкананыя тыя малюнкі былі блізка па часе — у 1920-21 гг.)[79].

[75] Там жа, с. 44.
[76] БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 239, арк. 17.
[77] БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 239, арк. 17 адв.
[78] БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 236, арк. 49.
[79] БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 239, арк. 10.

**Іл. 17.** Малюнак Л. Вітан-Дубейкаўскага з невядомым сцягам-вымпелам. Галоўны і адваротны бакі

Што ж датычыцца подпісу на адвароце прыведзенага архіўнага малюнка („Рыс. Дубейкаўскага. Узор Дзяржаўнага сцяга Беларусі 1917-1918 гг.”), дык яго, гледзячы па почырку і згадванні Вітан-Дубейкаўскага ў трэцяй асобе, выканаў дакладна не сам Дубейкаўскі, але, як найхутчэй, супрацоўнік архіва пры парадкаванні архіўнай справы праз дзесяцігоддзі ад апісваных падзей, прычым без разумення, што за сцяг там намаляваны. Нарэшце, нацыянальным сцягам Беларусі, самае позняе з 12.03.1917 г., мог быць толькі бел-чырвона-белы, дзяржаўны ж сцяг Беларусі з’явіцца мог не раней за 25.03.1918 г., калі такім мог быць зноў жа толькі бел-чырвона-белы.

**Іл. 18.** Праект Крыжа Пагоні Л. Вітан-Дубейкаўскага (леваруч), праектная прапанова для калодак да Крыжа Пагоні таго ж аўтара (праваруч)

**3.6. Чырвона-бела-чырвоны сцяг даўняй Рэчы Паспалітай**

Такі сцяг згадвае ў сваім інтэрв'ю з дадаткам фотаздымка Уладзімір Ляхоўскі: „Кресовые поляки в 1917-1918 годах активно популяризировали в Беларуси и Украине старый красно-бело-красный флаг Речи Посполитой, претендуя на создание польского национального государства в границах 1772 года (с включением белорусских, литовских и украинских земель). Но эта инициатива не имела успеха и вскоре канула в Лету"[80].



**Іл. 19.** Сцягі „старой" Рэчы Паспалітай над 1-м польскім корпусам ген. Ю. Доўбар-Мусніцкага 03.05.1917 г., Быхаў

На прыведзеным фотаздымку мы бачым імправізаваны мітынг з нагоды ўгодкаў Канстытуцыі Рэчы Паспалітай 3 траўня 1791 г., над удзельнікамі бачныя: польскі нацыянальны сцяг, штандары польскіх легіёнаў і ў тым ліку два чырвона-бела-чырвоныя сцягі-вымпелы. Такія імправізаваныя публічныя акцыі пад копіямі гістарычных сцягоў, часта ў выкананні актораў у копіях гістарычных строяў, былі даволі распаўсюджанаю з'явай. Тут мы бачым, верагодна, нейкую падобную падзею, а значыць, як паказваюць фотадакументы, рэканструкцыі чырвона-бела-белага сцяга Рэчы Паспалітай маглі выкарыстоўвацца падчас публічных падзей. Разам з тым, па-першае, адлюстраваная на фота акцыя не мела ніякага дачынення да Беларусі, беларусаў і беларускага руху; па-другое, такія чырвона-бела-чырвоныя сцягі дэ-факта не маглі мець ані шырокага распаўсюджання, ані

[80] *Поступки, флаги и как это все разделить. Разговор с историком о старой и новой национальной символике*, https://people.onliner.by/opinions/2020/08/28/postupki-i-flagi [доступ: 03.08.2021].

афіцыйнага статусу, бо на той час чырвона-бела-чырвоны сцяг з'яўляўся дэ-юрэ (і з'яўляецца дасюль) дзяржаўным сцягам Аўстрыі ды вывешваўся падчас Першай сусветнай вайны ў тым ліку ў Беларусі — над будынкамі аўстрыйскіх вайсковых устаноў. Афіцыйны статус чырвона-бела-чырвонага сцяга як дзяржаўнага сцяга Аўстрыі мусілі ўлічыць і латышы, якія скарэктавалі свой праект нацыянальнага трыкалору, звузіўшы цэнтральную паласу і наблізіўшы чырвоны колер дзвюх іншых да брунатнага.

Пры канцы ж зацемім: цалкам верагодна, што адным з праектных варыянтаў К. Дуж-Душэўскага для беларускага нацыянальнага сцяга мог быць і чырвона-бела-чырвоны трыкалор, але такі варыянт, у такім разе, меў быць адкінуты з прычыны ідэнтычнасці яго з аўстрыйскім дзяржаўным трыкалорам.




**Іл. 20.** Сцягі Аўстрыі на былым палацы Храптовічаў у 1916 г., Горадня



**Іл. 21.** Плакетка з гербам беларускай акадэмічнай карпарацыі „Скарынія" ў 1931-34 гг. пры Універсітэце імя Стэфана Баторыя ў Вільні. Аўтар плакеткі — Язэп Драздовіч, 1932 г. (леваруч); праект форменнага капелюша з бел-чырвона-белаю стужкай Беларускага студэнцкага саюзу, 1934 г. (праваруч)

Пры канцы трэба згадаць яшчэ пра адзін сцяг — чорна-золата-чырвоны трыкалор Беларускай акадэмічнай карпарацыі „Скарынія" ў 1931-34 гг. пры Універсітэце імя Стэфана Баторыя ў Вільні. Пабачыць, як той трыкалор выглядаў мы можам на плакетцы з гербам „Скарыніі", выкананай мастаком Язэпам Драздовічам у 1932 г., якая захоўваецца ў зборах Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі[81]. Трыкалор складаўся з гарызантальных роўнашырокіх чорнай, залатой і чырвонай палос і з'яўляўся выключна сцягам арганізацыі, не прэтэндуючы на статус сцяга беларусаў, беларускіх студэнтаў і г.д.

Наадварот, сцягам Беларускага студэнцкага саюза з'яўляўся беларускі бел-чырвона-белы трыкалор, які ў выглядзе стужкі адпаведных колераў насіўся на форменным капелюшы чальцоў, аб чым захаваўся адпаведны праект[82]. Чальцы ж „Скарыніі" насілі на форменных капелюшах чорна-золата-чырвоныя стужкі.

Такім чынам, як відаць з прыведзеных вышэй матэрыялаў, нягледзячы на вялікую колькасць паведамленняў аб магчымых альтэрнатыўных варыянтах беларускага сцяга, дакументы, сведчанні і храналогія падзей паказваюць, што рэальных альтэрнатыў праектным прапановам за аўтарствам Клаўдыюша Дуж-Душэўскага для беларускага нацыянальнага сцяга не існавала. Тыя ж варыянты, якія прыводзяцца, — гэта альбо сцягі паасобных арганізацый (сцягі Таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны і карпарацыі „Скарынія"), альбо сітуацыйныя сцягі (чырвона-бела-чырвоны сцяг „старой" Рэчы Паспалітай ад 03.05.1917 г.), альбо сцягі з іншым статусам (беларускі гістарычны сцяг, ён жа — штандар Пагоні), альбо проста замалёўкі на палях ці яўныя маніпуляцыі ды памылкі.

Не маецца пацвярджэнняў і пра шляхі стварэння беларускага нацыянальнага сцяга, альтэрнатыўныя апісанаму ў аўтабіяграфіі К. Дуж-Душэўскага. Разам з тым, пытанне аб колькасці і выглядзе праектных варыянтаў для беларускага нацыянальнага сцяга, апроч двух вядомых і апісаных вышэй, застаецца адкрытым.

## 4. Праектныя прапановы Клаўдыюша Дуж-Душэўскага для беларускага нацыянальнага сцяга. Гістарычны падмурак і новыя адкрыцці

[81] *Язэп Драздовіч. Альбом-манаграфія*, Мінск 2002, с. 152.
[82] У. Ляхоўскі, *Ад гоманаўцаў да гайсакоў. Чыннасць беларускіх маладзёвых арганізацый у 2-й палове XIX ст. — 1-й палове XX ст. (да 1939 г.)*, навук. рэд. А. М. Сідарэвіч. — 2-е выданне, папраўленае і дапоўненае, Смаленск 2015, с. 12 каляровай уклейкі.

Пасля разгляду наяўных гістарычных крыніц датычна праблемы стварэння беларускага нацыянальнага сцяга ў пачатку ХХ ст. застаецца яшчэ шэраг неразвязаных пытанняў: адкуль у Дуж-Душэўскага з'явіўся праектны варыянт сцяга № 2 (з трыма гарызантальнымі белай, чырвонай і белай палосамі) у дадатак да варыянту № 1 з белай Пагоняй на чырвоным палотнішчы, пры тым, што мы ведаем, што № 1 ужо існаваў ды прызнаваўся беларусамі за свой.

Датычна пытання аб колерах прапанаванага трыкалору мы можам высунуць версіі для тлумачэння (ад колераў беларускіх народных строяў, ад колераў герба Пагоні), патлумачыць жа чляненне сцяга на гарызантальныя палосы можна вялікай папулярнасцю трыкалораў на той час.

Праліць святло на праблему паходжання праектнага варыянту з бел-чырвона-белым трыкалорам (ці, прынамсі, прапанаваць дадатковыя матэрыялы для дыскусіі), а таксама на пытанне аб магчымым выглядзе іншых праектных варыянтаў, можа знойдзены аўтарам архіўны дакумент з калекцыі былога Беларускага віленскага музея імя Івана Луцкевіча[83].

Адшуканы дакумент уяўляе сабой простакутны белы аркуш паперы з гарызантальна разлінаванага сшытка, на аркушы намаляваныя два сцягавыя палотнішчы: зверху — амаль квадратнае з дзвюма трыкутнымі касіцамі, падзеленае на чатыры гарызантальныя роўнашырокія белую, чырвоную, белую і чырвоную палосы; знізу — простакутнае, падзеленае на шэсць гарызантальных роўнашырокіх палос (тры белыя і тры чырвоныя папарна). Пры малюнках палотнішчаў напісаныя памеры: верхняе палотнішча мае памеры 95 x 80 (вышыня) сантыметраў, даўжыня цэнтру — 52½ сантыметра; ніжняе палотнішча — 102 x 76 (вышыня) сантыметраў. Малюнкі і надпісы выкананыя чорным атрамантам ад рукі, колеры пазначаныя словамі па-польску: „białe", „biał", „czerwone", „czer".

[83] БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 1, арк. 104.




**Іл. 22.** Абмерны малюнак з фондаў былога Беларускага віленскага музея імя Івана Луцкевіча (леваруч, друкуецца ўпершыню), прамалёўка выяў у маштабе (праваруч)

Інвентарная кніга Беларускага віленскага музея імя Івана Луцкевіча паведамляе наступнае: „Р. Вопратка, тканіны, царкоўныя апараты. [...] 1. Уланская шапка (чако) з белай кітай з пер'я — 19-га уланскага палка, утворанага ў часе французскае акупацыі Беларусі і Літвы ў 1812 годзе. Полк адбыў пад Напалеонам кампаніі 1812, 13 і 14 гг. Злучаны пасьля з 17-ым палком вярнуўся да краю ў 1815 годзе. Шапка належала да паручыка 19-га палка Грэгаровіча. [...] **13. Уланскі эскадронны флажок, бела-чырвоны, 17-га ул. п. 1812 г.** (Vide P-9). **14. Тое-ж, што і 13**"[84].

Да таго ж даследчыкам Аўдрыюсам Слапсінскасам у 2003 г. апісаны і намаляваны швадронны сцяжок 19-га палка ўланаў літоўскіх паводле асабіста ім бачанага экспаната з выставы ў Нацыянальным музеі Літоўскай Рэспублікі ў Вільні «Napoleonas ir Lietuva» („Напалеон і Літва")[85].



**Іл. 23.** Швадронны сцяжок 19-га палка ўланаў літоўскіх. Перамалёўка А. Слапсінскаса (са скажонымі прапорцыямі)

84 *Інвэнтарная кніга Музэю ім. Ів. Луцкевіча Беларускага Навуковага Таварыства ў Вільні. № 1. Пачата 3 чэрвеня 1922 г.*, «Спадчына», 1995, № 3, с. 14, 15.

85 A. Slapsinskas, *Lithuania — Historical Military Flags. 19th Regiment of Lithuanian Uhlans*, http://fotw.fivestarflags.com/lt%5Ehist.html [доступ: 06.10.2021].

Нарэшце, фотаздымак экспазіцыі з той выставы з публікацыі Відаса Пош-куса „Napoleonas ir Lietuva" выразна дэманструе апісаны вышэй сцяжок[86].



**Іл. 24.** Фрагмент экспазіцыі выставы „Напалеон і Літва" ў Вільні

З усяго вышэйпрыведзенага можам зрабіць наступныя вывады: 1) у зборах Беларускага віленскага музея імя Івана Луцкевіча захоўваліся ўланскія рэчы паручніка Грэгаровіча з 19-га (пасля злучанага з 17-м) палка ўланаў літоўскіх, што ваявалі ў 1812-14 гг. на баку Напалеона; 2) сярод уланскіх рэчаў захоўваліся два швадронныя бела-чырвоныя сцяжкі 17-га палка ўланаў літоўскіх, якія, верагодна, як і іншыя ўланскія рэчы, раней належалі ўланскаму паручніку Грэгаровічу; 3) як сведчаць экспанаты з экспазіцыі выставы, праведзенай у Вільні ў пачатку 2000-х гадоў, прынамсі адзін з двух вышэйапісаных сцяжкоў з фондаў былога Беларускага музея імя Івана Луцкевіча захаваўся і, як найхутчэй, знаходзіцца ў фондах Нацыянальнага музея Літоўскай Рэспублікі ў Вільні; 4) параўнаўчы аналіз абмернага малюнка са сцяжком 17-га палка ўланаў літоўскіх на фотаздымку дазваляе казаць, што гэта — адзін і той жа сцяжок.

### 4.1. Пытанне аб аўтарстве абмернага малюнка

Параўнанне почыркаў, а таксама даволі характэрнай манеры малявання арла (перш за ўсё, арлінай галавы) на аркушы 105 з разгляданай архіўнай справы з почыркамі супрацоўнікаў Беларускага віленскага музея дазваляе вельмі асцярожна высунуць меркаванне, што аўтарам і абмерных малюнкаў, і замалёвак на іншых аркушах мог быць Іван Луцкевіч, і, калі б гэта пацвердзілася, тады дакумент можна было б датаваць не пазней за жнівень 1919 г., але гэта — пытанне для будучых даследчыкаў.

[86] V. Poškus, *Napoleonas ir Lietuva*, „Muziejininkystės biuletenis", 2002, № 5-6, http://www.muziejai.lt/prev_vers/informacija/napoleonas_lietuva.htm [доступ: 06.10.2021].



**Іл. 25.** Параўнанне малюнкаў арла: архіўная справа (леваруч), уласнаручны малюнак Івана Луцкевіча (праваруч)

У любым разе, аналіз архіўнай справы, у якой быў адшуканы прыведзены абмерны малюнак дазваляе высунуць меркаванне, што аўтарам малюнка мог быць адзін з адміністратараў, ці нават дырэктар музея. Аб гэтым, сярод іншага, сведчыць змест наступных двух аркушаў разгляданай архіўнай справы, дзе занатаваныя захады па гаспадарчым забеспячэнні музейнай экспазіцыі, а таксама пытанні супрацы музея з прыватнымі асобамі і дзяржаўнымі ўстановамі (Дадатак 1). Аркуш жа 106 той жа справы змяшчае замалёўкі і нататкі на бланку Упраўлення Літоўска-беларускай акругі за 1902 г., а гэта таксама ўскосна сведчыць пра датаванне нататак і замалёвак пачаткам XX ст.

### 4.2. Спроба рэканструкцыі праектных варыянтаў К. Дуж-Душэўскага

З прыведзенага вышэй можна пабачыць, што, па-першае, у фондах Музея імя Івана Луцкевіча захоўваліся прынамсі два палотнішчы з чляненнем на гарызантальныя роўнашырокія чырвоныя ды белыя палосы, якія гістарычна адносіліся да Вялікага Княства Літоўскага; па-другое, гэтыя палотнішчы, як і іншыя матэрыялы з калекцыі Івана Луцкевіча былі даступныя беларускім даследчыкам. Разам з тым, на дадзены момант не адшукана доказаў, што К. Дуж-Душэўскі паклаў у аснову сваіх праектных прапаноў для беларускага нацыянальнага сцяга матывы з менавіта гэтых музейных экспанатаў.



**Іл. 26.** Рэканструкцыя праектных варыянтаў К. Дуж-Душэўскага

Разам з тым, калі прыпусціць, што ў аснову праектных прапаноў для беларускага нацыянальнага сцяга былі пакладзены гэтыя два ці іншыя падобныя захаваныя сцягі, дык у дадатак да варыянту № 1 з белаю Пагоняй на чырвоным палотнішчы і № 2 з бел-чырвона-белым трыкалорам маглі мець месца такія варыянты: чырвона-бела-чырвоны трыкалор (згаданы вышэй і адкінуты з прычыны падабенства са сцягам Аўстрыі); чырвона-бела-чырвона-белы сцяг (на падставе швадроннага сцяжка ўланаў ВКЛ, адкінуты праз несіметрычнасць); нарэшце, варыянты з большаю колькасцю гарызантальных чырвоных з белымі палос (адкінутыя праз кампазіцыйную перагружанасць дэталямі).

Такім чынам, можам зрабіць асцярожныя высновы, што праектныя варыянты К. Дуж-Душэўскага, што не былі прыняты і засталіся невядомыя сёння, як найхутчэй, былі выкананыя ўсе ў бела-чырвонай каляровай гаме (аб гэтым ускосна сведчыць бела-чырвоная гама двух вядомых нам сёння праектных варыянтаў); таксама, што ў аснову такіх варыянтаў, вельмі верагодна, былі пакладзены сцягі з чляненнем на гарызантальныя белыя ды чырвоныя палосы, звязаныя гістарычна з Вялікім Княствам Літоўскім (гэтаму магло паспрыяць азнаямленне Клаўдыюша Дуж-Душэўскага з захаванымі аўтэнтычнымі палотнішчамі сцягоў, што ўвайшлі ў калекцыю Музея імя Івана Луцкевіча ці з іншымі, а таксама яго праца па вывучэнні старажытных гістарычных помнікаў яшчэ ў студэнцкія гады[87]).

**Заключэнне**

Беларускі нацыянальны сцяг з’явіўся не пазней за сакавік 1917 г., найранейшая зафіксаваная публічная акцыя з бел-чырвона-белымі сцяжкамі — 12.03.1917 г.; найранейшы юрыдычны дакумент, што абавязвае насіць стужку ў колерах сцяга — 05.08.1917 г.; найранейшая

[87] *Пад старым штандарам*, «Беларускі звон», № 1, 22.03.1921, с. 2.

масавая прадстаўнічая палітычная падзея з прызнаннем сцяга як сярод беларусаў, гэтак і сярод замежнікаў — 07.12.1917 г.; найранейшы зафіксаваны на фотаздымку акт вывешвання сцяга на ўрадавым будынку — 19.02.1918 г.

Гістарычныя крыніцы сведчаць, што беларускі нацыянальны сцяг быў прыняты і зацверджаны ў выніку разгляду праектнай прапановы Клаўдыюша Дуж-Душэўскага з некалькіх варыянтаў. Два з тых варыянтаў нам вядомыя, а менавіта: прыняты і зацверджаны бел-чырвона-белы трыкалор, а таксама сцяг з белаю Пагоняй на чырвоным палотнішчы (у крыніцах апошні называецца „дзяржаўны штандар", „штандар Пагоні"). Паводле крыніц, нацыянальны сцяг ад пачатку прымаўся з дэтальна прапісаным стандартным эталонам для тыражавання, і хаця сам такі эталон не захаваўся ў выглядзе дакументу, але яго наяўнасць даказваецца на падставе аналізу тагачасных выяў са сцягам. Даслоўна эталон меў гучаць наступным чынам: „Прастакутнае палотнішча з суадносінамі бакоў 1:2, падзеленае на тры роўнашырокія гарызантальныя белую, чырвоную і белую палосы". Аналагічным чынам склалася сітуацыя з Палажэннем аб сцягу: дакументаў не знойдзена, але на падставе аналізу крыніц можна сцвярджаць, што Палажэнне існавала ды рэалізоўвалася на практыцы.

З гістарычных жа крыніц вядома, што адначасова з беларускім нацыянальным сцягам існавалі і функцыянавалі іншыя сцягі, якія памылкова трактуюцца як альтэрнатыўныя беларускія нацыянальныя сцягі. Аналіз гістарычных крыніц пераканаўча даказвае, што ніякія іншыя сцягі, апроч бел-чырвона-белага трыкалору, не мелі статусу нацыянальнага і на такі статус не прэтэндавалі.

Сёння застаецца адкрытым пытанне аб паходжанні беларускага нацыянальнага сцяга, прычым падпытанне аб паходжанні колераў мае дзве найбольш пашыраныя версіі: ад колераў беларускага народнага строю (паводле ўспамінаў Р. Астроўскага), ад колераў герба Пагоня (таксама ад колераў „штандара Пагоні", выкананага ў яе гербавых колерах). Гарызантальнае чляненне палотнішча магло быць проста данінаю еўрапейскай модзе на трыкалоры, пры гэтым і сам шлях з'яўлення нацыянальнага сцяга — праз нацыянальную стужку і нацыянальную какарду (катыльён) — ляжыць цалкам у рэчышчы еўрапейскай традыцыі. Нядаўна выяўленыя і апісаныя аўтарам швадронныя сцяжкі 17 (19) палка ўланаў літоўскіх, што захоўваліся ў фондах Беларускага віленскага музея імя Івана Луцкевіча ды маглі трактавацца беларускімі дзеячамі як спадчына Вялікага Княства Літоўскага, даюць новыя падставы для дыскусіі аб паходжанні праектнага варыянту К. Дуж-Душэўскага.

Пераемнасць паміж ВКЛ і беларускім нацыянальным сцягам праз спадчыну XIX ст. можа паказваць на ўключанасць беларускай нацыянальнай традыцыі ў традыцыю еўрапейскую ды больш за тое, можа даваць магчымасць рэканструяваць іншыя праектныя варыянты К. Дуж-Душэўскага для беларускага нацыянальнага сцяга. Трэба сказаць, што і беларусы, і літоўцы, і палякі стваралі свае нацыянальныя сцягі ў розны спосаб інтэрпрэтуючы спадчыну Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай.

Дадатак 1

**БДАМЛіМ, фонд 3, вопіс 1, справа 1, арк. 105**
(фонд 3: „Калекцыя дакументаў аддзела рукапісаў Беларускага музея імя І. Луцкевіча ў г. Вільня")

*[105]* Tow.(arzystwo) opieki n.(arodowych) zabytków przeszłosci był wyst.(awa) hist.(oryczna)[1] |

Dział pamiątek narodowych | uporządkuję po(łą)czeniu mi z | inst.(ytutem) Rząd.(owym)|

~~102~~[2] |

~~34~~[3] |

*Robią Sta[...]o o Cechach rob.(otniczych) w Wilnie[4] |

108[5] |

pa[...]la 15/i dostarczy |

pani Sta[...]icz zadeklarawała |

~~31~~[6] |

Stałe depozyta[7] Kontusz. — |

Župan. — |

Konfederatka. — |

1 pas. — |

2 pasy prosi aby umieścić z | nadp.(isem) że są doz[...]eła. — |

Co do sprzedarzy zabytków, to [...]ym | za odłożeniem tej sprawy na czasy | dalsze. — |

Co do komissii : pana Ru[...][8]kiego |

1. Brzegi dla katalogów hist.(orycznych) obycz(ajowych) | działa[9] | a dla tego jest potrzebna | kancelarja [...] miejska[10] |

2. teki. — [11] |

(1+4) 3. gobloty. — 5[12]

4. Srodki przeciwko | mola. — [13] |

Ro[14] |

[15]

[1-6, 9-14] — строкі напісаныя алоўкам

[6] — страка напісаная пад вуглом

[7] — страка напісаная вертыкальна

[8] — прозвішча напісанае неразборліва, падобна да „Rusznickiego” ці „Ruzniskiego”

[15] — у ніжняй частцы аркуша, пад тэкстам і часткова паверх яго маюцца замалёўкі алоўкам ад рукі: кароны, шастапёра, нерасчытанай манаграмы з лічбаю „3”, крылатага гусара, чалавечага пальца ў натуральную велічыню (магчыма, пальца аўтара), двух сцягоў, адзін з гербам „Калюмны”, другі — з падвойным крыжом, фрагмента мундыра (каўнер, эпалет, частка рукава), геральдычны шчыт з гербам „Калюмны”, недамаляваны падвойны крыж.

**Summary**

**Belarusian National Flag in the Beginning of Twentieth Century**

The paper is concerned with the the problem of creating the Belarusian flag at the beginning of the twentieth century. On the basis of historical sources, the author refines the chronology of the appearance of different proposals for the flag. The following issues are presented: the flag’s pattern, the legal norms connected with it and the ways in which they were implemented. The question of alternative versions of the flag preceding the Belarusian national flag, as well as those which existed simultaneously with it. The status of these alternative flags is clarified. Relying on the archival sources found by the author, a hypothesis is put forward about the creation of the Belarusian national flag in the twentienh century on the basis of nineteenth-century museum exhibits, which had originated in the Grand Duchy of Lithuania.

**Keywords:** Belarusian People’s Republic, flag, standard, competition, reference.

**Streszczenie**

**Białoruska flaga narodowa na początku XX wieku**

Artykuł poświęcony jest okolicznościom powstania flagi na początku XX wieku. Na podstawie źródeł historycznych autor uściśla chronologię pojawienia się projektów flagi. Następnie autor koncentruje się na wzorcu flagi, regulacjach prawnych i praktyce ich stosowania. Szczegółowo przedstawiono problem alternatywnych wariantów poprzedzających pojawienie się flagi narodowej, istniejących równolegle i ich status. Na podstawie znalezionych przez autora źródeł archiwalnych przedstawiono hipotezę o stworzeniu białoruskiej flagi narodowej w XX wieku na podstawie XIX-wiecznych eksponatów muzealnych, wywodzących się z okresu Wielkiego Księstwa Litewskiego.

**Słowa kluczowe:** Białoruska Republika Ludowa, flaga, sztandar, wzorzec.

**Siarhiej Molkauski** — historyk, badacz historii Białorusi na początku XX wieku w kontekście symboliki narodowej. Zajmuje się badaniem nauk pomocniczych historii.

**Андрэй Катлярчук**
(Універсітэт Сёдэрторн, Швецыя)

# Вайна сцягоў. Да гісторыі канфлікту вакол палітычных сімвалаў сучаснай Беларусі[1]

У сусветнай акадэмічнай навуцы Беларусь застаецца малавядомай. Галоўнай прычынай бачыцца тое, што ў мадэрны перыяд яна не існавала як самастойная палітычная адзінка. Нягледзячы на сяброўства БССР у ААН, Беларусь была паглынута Савецкім Саюзам. Халодная вайна спрычынілася да знікнення краіны з „заходняга" акадэмічнага і палітычнага поля. У адрозненне ад суседніх Літвы і Латвіі Беларусь не мела ні незалежнасці ў міжваенны перыяд, ні вялікай дыяспары на Захадзе пасля 1945 года. У выніку толькі невялікая колькасць навуковых кніг і артыкулаў аб Беларусі была апублікавана на Захадзе да 1991 года[2].

На перадавіцы сусветных медыя Беларусь трапіла амаль упершыню за ўсю сваю гісторыю толькі ў жніўні 2020 г. Абвешчаныя вынікі прэзідэнцкіх выбараў прывялі да масавых пратэстаў па ўсёй краіне. Міжнародная аўдыторыя была ў захапленні ад мірнага характару пратэстаў і тысяч бел-чырвона-белых сцягоў як іх сімвала.

### Нацыянальныя сцягі на вуліцах Менска ў жніўні 2020 г.

Гісторыя нацыянальных сцягоў сягае ў даўніну. Ад пачатку сцягі служылі эфектыўным сродкам дэманстрацыі і перадачы палітычнай

[1] Гэты тэкст з'яўляецца пашыранай версіяй артыкула: A. Kotljarchuk, *The Flag Revolution: Understanding the Political Symbols of Belarus*, [у:] *Constructions and Instrumentalization of the Past: A Comparative Study on Memory Management in the Region*, ed. by N. Mörner, Södertörn University Press, 2020, s. 45-54. Даследаванне выканана ў межах праекта „Memory Politics in Far Right Europe: Celebrating Nazi Collaborationists in Post-1989 Belarus, Romania, Flanders and Denmark", падтрыманага *The Foundation for Baltic and East European Studies*.

[2] Гл., напр.: N. Vakar, *Belorussia: the making of a nation: a case study*, Harvard Univ. Press, Cambridge, Mass., 1956; I. Lubachko, *Belorussia under Soviet rule 1917-1957*, Lexington 1972. Першая шведская акадэмічная праца, прысвечаная гісторыі Беларусі і беларускага руху, была апублікавана ў 1997 г.: B. Tornquist-Plewa, *Sprak och identitet i Vitryssland: en studie i den vitryska nationalismens historia*, Lund 1997.



прыналежнасці, сродкам, які не патрабаваў пэўнага ўзроўню пісьменнасці. У эпоху нацыяналізмаў у Еўропе новыя палітычныя нацыі стваралі новыя сцягі. З'яўляючыся магутнымі палітычнымі сімваламі, сцягі мабілізавалі нацыянальныя рухі, ядналі розныя станы нацыі вакол агульнапрызнанага сімвала. Сітуацыя не змянілася і сёння. Як адзначыла Габрыэла Эльгеніус, у сучасным свеце нацыянальныя сцягі па-ранейшаму выкарыстоўваюцца як магутныя публічныя сімвалы, як інструменты мабілізацыі насельніцтва, прапаганды і кантролю, а таксама як сродак уключэння розных сацыяльных, рэлігійных і этнічных груп у склад адзінай нацыі[3].

Чаму пратэстуючыя і ўлада сучаснай Беларусі выкарыстоўваюць розныя сцягі? Што сімвалізуюць нацыянальны бел-чырвона-белы і дзяржаўны чырвона-зялёны сцягі для беларускага грамадства? Чаму беларуская міліцыя палюе на бел-чырвона-белы сцяг? Чаму масіраваная кампанія дзяржаўнай прапаганды пасля падзей жніўня 2020 года засяродзілася на бел-чырвона-белым сцягу і ягонай гісторыі часоў Другой сусветнай вайны? У гэтым артыкуле я імкнуся паказаць, як даследаванне палітычных сімвалаў Беларусі дапамагае больш глыбока зразумець цяперашнюю сітуацыю ў краіне.

[3] G. Elgenius, *Symbols of nations and nationalism: celebrating nationhood*, Basingstoke 2011, s. 59-60.

## Гістарычны кантэкст

Беларускі нацыянальны рух быў адным з самых запозненых у Еўропе. Ён сфармаваўся падчас рэвалюцыі 1905-1907 гадоў у Расійскай імперыі. Першая беларуская палітычная партыя, Беларуская сацыялістычная грамада, была створана ў Менску ў 1902 годзе. Першая газета на беларускай мове была заснавана ў Вільні (цяперашні Вільнюс) у 1906 годзе. Першая гісторыя Беларусі, напісаная беларускім аўтарам па-беларуску, была надрукавана ў Вільні ў 1910 годзе[4]. Першая школьная граматыка беларускай літаратурнай мовы была апублікавана ў Вільні ў 1918 годзе[5]. Першая сетка беларускамоўных школ была створана падчас Першай сусветнай вайны ў нямецкай акупацыйнай зоне[6].

Як і паўсюль у Еўропе, студэнты прымалі самы актыўны ўдзел у нацыянальным руху. Улетку 1917 года студэнт Петраградскага горнага інстытута Клаўдзій Дуж-Душэўскі распрацаваў праект нацыянальнага беларускага бел-чырвона-белага сцяга. Дуж-Душэўскі нарадзіўся ў 1891 годзе ў Глыбокім на Віцебшчыне ў сялянскай сям'і рыма-каталіцкага веравызнання. У сталічны Петраград ён прыехаў, каб атрымаць вышэйшую адукацыю, бо пасля закрыцця царскімі ўладамі ў першай палове XIX стагоддзя езуіцкай акадэміі ў Полацку і Віленскага ўніверсітэта ў беларускіх губернях не існавала ўніверсітэта. Створаны Дуж-Душэўскім бел-чырвона-белы сцяг грунтаваўся на традыцыйных колерах беларускага народнага строю і вайсковых сцягах Вялікага Княства Літоўскага. Гістарычна бел-чырвона-белыя палоскі аздаблялі святочны строй беларускіх праваслаўных і ўніяцкіх біскупаў.

Новы сцяг хутка заваяваў папулярнасць сярод жаўнераў-беларусаў, палітыкаў і шырокага грамадства. Першы Усебеларускі з'езд, які адбываўся ў Менску ў снежні 1917 года, працаваў пад бел-чырвона-белым сцягам, называючы яго нацыянальным. Гэты першы сход дэмакратычнай Беларусі, на які прыехалі 1872 дэлегаты — прадстаўнікі розных палітычных арганізацый, быў гвалтоўна разагнаны бальшавіцкім войскам. Заўважым, што падчас працы Усебеларускага з'езда нацыянальны бел-чырвона-белы сцяг мірна суіснаваў на трыбуне з чырвоным сцягам Беларускай сацыялістычнай грамады. Нагадаем таксама, што Клаўдзій

[4] В. Ластоўскі, *Кароткая гісторыя Беларусі*, Вільня 1910.
[5] Б. Тарашкевіч, *Беларуская граматыка для школ*, Вільня 1918.
[6] D. Michaluk, P. A. Rudling, *From the Grand Duchy of Lithuania to the Belarusian Democratic Republic: the Idea of Belarusian Statehood during the German Occupation of Belarusian Lands, 1915-1919*, „The Journal of Belarusian Studies", 2014, nr 7, s. 3-36.

Дуж-Душэўскі быў адным з заснавальнікаў Беларускай Народнай Рэспублікі, Рада якой 25 сакавіка 1918 года абвясціла ў Менску незалежнасць пад нацыянальным бел-чырвона-белым сцягам.

Пасля Рыжскай дамовы 1921 года, якая падзяліла Беларусь паміж савецкай Расіяй і Польшчай, Дуж-Душэўскі жыў у эміграцыі ў Літве, дзе працаваў архітэктарам. Падчас нацысцкай акупацыі Літвы ён быў арыштаваны немцамі за дапамогу мясцовым яўрэям і адпраўлены ў лагер. Пасля вайны быў арыштаваны ўжо савецкай спецслужбай як „беларускі нацыяналіст" і пасаджаны ў турму. Памёр К. Дуж-Душэўскі ў Коўне ў 1959 годзе[7].

У міжваеннай Польшчы бел-чырвона-белы сцяг выкарыстоўваўся левымі і правымі палітычнымі партыямі, markрознымі дзяржаўнымі і няўрадавымі арганізацыямі беларускай меншасці. Сярод іх Віленская беларуская гімназія, Беларускі студэнцкі саюз пры Віленскім універсітэце, Таварыства беларускай школы, Беларуская сялянска-работніцкая грамада і Беларуская хрысціянская дэмакратыя.

У той час бел-чырвона-белы сцяг аб'ядноўваў беларусаў Польшчы, Латвіі і Літвы, якія мелі розныя палітычныя перакананні. Напрыклад, паэт і сябра Камуністычнага саюза моладзі Заходняй Беларусі Максім Танк (Яўген Скурко) апублікаваў у 1930 годзе знакаміты верш „Ты чуеш, брат". У вершы бел-чырвона-белы сцяг прадстаўлены як магутны яднаючы сімвал беларускай нацыі:

*Глядзіце ў будучыню смела!*
*Настаў доўгачаканы час,*
*Пад сцягам бел-чырвона-белым*
*Чакае перамога нас*[8].

Толькі на пачатку 1930-х гг. кампартыя Заходняй Беларусі ў Польшчы атрымала дырэктывы ад кіраўніцтва Камуністычнага інтэрнацыяналу ў Маскве змагацца супраць бел-чырвона-белага сцяга як „буржуазна-нацыяналістычнага"[9]. Нягледзячы на загады Камінтэрна, менавіта на абшарах Заходняй Беларусі адбылося ўсведамленне бел-чырвона-белага сцяга як „нацыянальнага". Пра гэта сведчаць факты шырокага

[7] Гл.: Д. Гурневіч , *„Мы заўсёды будзем яму ўдзячны". Як стваральнік бел-чырвона-белага сьцяга ўратаваў габрэйскую дзяўчынку ад Галакосту,* https://www.svaboda.org/a/30980213.html [доступ: 12.07.2021].

[8] М. Танк, *Збор твораў у 13 тамах*, т. 1: *Вершы (1930-1939)*, Мінск 2006, с. 193.

[9] А. Вашкевіч, *„Нашы сцягі над Заходняй"*, „Arche", 2007, № 4, с. 78-90.

выкарыстання сцяга і бел-чырвона-белых стужак не толькі ў палітычных і адукацыйных мэтах, але і падчас прыватных цырымоній.

Як і паўсюль у акупаванай нацыстамі Еўропе, нацыянальны сцяг выкарыстоўваўся беларусамі ў часы Другой сусветнай вайны. Заўважым, што сцяг перш за ўсё быў атрыбутам цывільнай адміністрацыі Генеральнай акругі Беларусь (*Generalbezirk Weißruthenien*). Зазначым таксама, што ў 1941-1944 гг. бел-чырвона-белы сцяг не выкарыстоўваўся на значнай тэрыторыі Беларусі. Насельніцтва Берасця, Пінска, Гародні, Беластока, Мазыра, Магілёва, Бабруйска, Гомеля, Віцебска ды многіх іншых гарадоў не магло бачыць бел-чырвона-белы сцяг у афіцыйнай прасторы і тым больш падчас антыпартызанскіх акцый, бо гэтыя гарады і прылеглыя да іх паветы знаходзіліся па-за межамі Генеральнай акругі Беларусь[10].

Выкарыстанне нацыянальных сцягоў вайсковымі адзінкамі калабарантаў на акупаваных тэрыторыях патрабуе далейшага вывучэння. Вядома, што ў часы акупацыі Беларусі савецкія партызаны выкарыстоўвалі чырвоны сцяг, а польскі падпольны рух супраціву — польскі нацыянальны сцяг. У першыя гады акупацыі нацысты ўвялі на тэрыторыю Беларусі шэраг паліцэйскіх частак, сфармаваных на тэрыторыі балтыйскіх краін і Украіны, бо мелі праблемы з наборам дапаможных сіл сярод тутэйшага насельніцтва. Гэтыя фармаванні выкарыстоўвалі нацыянальныя сцягі сваіх краін. Сведчанняў наконт выкарыстання бел-чырвона-белага сцяга мясцовай дапаможнай паліцыяй няма.

Вядома, што нацыянальны сцяг выкарыстоўваўся Беларускай краёвай абаронай (*Weißruthenische Heimwehr*). Аднак гэта паліцэйскае фармаванне было створана ў красавіку — чэрвені 1944 года за лічаныя тыдні да адступлення вермахта з Беларусі і пасля фінальнага этапу Галакосту і генацыду цыганоў. З гэтай нагоды Васіль Быкаў, выбітны пісьменнік і ветэран Чырвонай Арміі, іранічна адзначыў: „Бел-чырвона-белы сцяг ім, бачыце, ненавісны за тое, што яго насілі паліцаі. Дык паліцаі ж насілі і штаны, што ж тады вынікае з вашых вучоных высноў, шаноўныя панове?”[11].

Трэба таксама заўважыць, што ў часы панавання Гітлера ў Еўропе пранямецкія вайсковыя фармаванні розных краін, якія былі накіраваны ў Беларусь, выкарыстоўвалі свае нацыянальныя сцягі. Да прыкладу,

[10] Гл.: Е. Гжыбоўскі, *Выкарыстанне беларускай нацыянальнай сімволікі падчас Другой сусветнай вайны*, «Гадавік Цэнтра беларускіх студыяў», 2021, № 7, с. 63-86.

[11] Цыт. паводле: С. Шапран, *Іншага сцяга ў нас няма. Што гаварылі пра бел-чырвона-белы сцяг Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін і Генадзь Бураўкін,* „Новы час”, 28.08.2020.

дацкі добраахвотніцкі корпус СС (*Frikorps Danmark*), вучэбная база якога была ў Бабруйску, выкарыстоўваў сцяг Дацкага каралеўства. Пасля вайны шэраг жаўнераў корпуса былі асуджаны ў Капенгагене за ўдзел у Галакосце ды іншых злачынствах на тэрыторыі Беларусі[12].

Дзяржаўны сцяг РФ (трыкалор), які сёння можна ўбачыць на парадах у гонар перамогі над нацызмам, выкарыстоўваўся ў 1941-1944 гг. брыгадай СС РОНА (*Russische Volksbefreiungsarmee*). Гэта пранямецкае фармаванне ўзначальваў брыгадэнфюрэр СС Браніслаў Камінскі. Выхадзец з асяродка былой шляхты Рэчы Паспалітай, ён свядома стаў на шлях супрацы з Гітлерам. *Русская освободительная народная армия* здзейсніла шэраг злачынстваў супраць мірнага насельніцтва Расіі, Беларусі, Польшчы і Славакіі.

У чэрвені 1944 года з дазволу нямецкіх улад нацыянальны рускі сцяг быў узняты на будынку менскага *Дома Национал-социалистической трудовой партии России*. Дэлегаты з’езда *Союза русской молодёжи* адзначалі, што „впервые в столице Белоруссии развевается русский национальный трехцветный флаг. Его подняла русская молодежь, собравшаяся на слёт, чтобы выразить свою солидарность с солдатами и офицерами РОА”[13].

Нягледзячы на цёмныя старонкі гісторыі Другой сусветнай вайны, ніхто ў сучаснай Расіі ці Даніі не ставіць пад сумнеў легітымнасць старажытных сцягоў сваіх краін. Нацыянальны сцяг якраз таму і завецца нацыянальным, бо належыць усяму грамадству і яго выкарыстоўваюць прадстаўнікі розных палітычных хваль, у тым ліку радыкальных і злачынных арганізацый. І толькі ў Беларусі ўлада стала на рэйкі шальмавання беларускага нацыянальнага сцяга, ускладаючы на яго фантомную „віну” за злачынствы гітлераўскай Германіі. Гэты цалкам агістарычны падыход ёсць унікальным у найноўшай палітычнай гісторыі еўрапейскіх краін.

У пасляваенны час бел-чырвона-белы сцяг папулярызаваўся беларускай дыяспарай на Захадзе як сцяг Беларускай Народнай Рэспублікі 1918 года. Гэты сцяг яднаў розныя палітычныя і культурныя суполкі беларусаў. Яго можна было таксама ўбачыць на парадах і імпрэзах беларускіх ветэранскіх арганізацый. Цікава, што яны ўключалі ў свой склад як былых жаўнераў БКА, так і ветэранаў-беларусаў, якія ваявалі супраць нацыстаў у польскіх частках брытанскай арміі і французскім

[12] D. Larsen, T. Stræde, *En skole i vold: Bobruisk 1941-44: Frikorps Danmark og det tyske besættelsesherredømme i Hviderusland*, Gyldendal 2014.

[13] *Патриотический слёт русской молодежи*, „Руль”, 21.06.1944.

руху супраціву. Апошняя сітуацыя была нетыповай для іншых усходнееўрапейскіх дыяспар.

Сённяшні дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь з'яўляецца мадыфікацыяй савецкага беларускага сцяга, распрацаванага пры Сталіне. Канцэпцыя гісторыі Беларускай ССР была прынята ў 1948 годзе, а ў 1953 годзе калектыўная двухтомная манаграфія *История Белорусской ССР* была здадзена да друку Інстытутам гісторыі Акадэміі навук БССР[14]. Паводле прапанаванай канцэпцыі, палітычная гісторыя Беларусі пачалася ў 1919 годзе, калі была абвешчана БССР. Аўтары падкрэслівалі, што ў 1922 годзе Беларуская ССР стала адной з чатырох рэспублік-сузаснавальніц СССР. Пад савецкім сцягам Беларусь падвоіла сваю тэрыторыю ў выніку ўз'яднання. Пад чырвоным сцягам беларусы разам з рускімі і іншымі савецкімі нацыямі перамаглі нацысцкую Германію і паспяхова адбудавалі краіну пасля вайны. Таксама сцвярджалася, што міжнароднае прызнанне БССР як суверэннай рэспублікі было засведчана сяброўствам у ААН. Насамрэч гэтае сяброўства было вынікам сталінскай дыпламатыі, а не ініцыятывы ўрада ў Менску.

Тым не менш новаму сябру ААН патрабаваўся сцяг. Даваенны сцяг БССР быў амаль ідэнтычны з чырвоным сцягам Савецкага Саюза. Адзінай рысай адрознення была скарочаная назва рэспублікі залатой фарбай у верхнім левым куце сцяга. Дэкрэт Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР *Аб дзяржаўных сцягах саюзных рэспублік* ад 20 студзеня 1947 года дазваляў выкарыстанне іншых колераў і дадаванне сімвалаў для адлюстравання нацыянальнага характару рэспублік. Сцяг Беларускай ССР, ухвалены ў 1951 годзе, быў распрацаваны як кампраміс паміж камуністычнымі і нацыянальнымі сімваламі. Белыя і чырвоныя палоскі былі размешчаны ўздоўж народнага арнаменту, які таксама быў выкананы ў бел-чырвоных колерах. Беларускі арнамент быў размешчаны на вертыкальнай паласе ў дрэўкавай частцы побач з камуністычнымі сімваламі. Сцяг быў распрацаваны групай навукоўцаў і мастакоў на чале з мастацтвазнаўцам з Акадэміі навук БССР Міхаілам Кацарам і мастаком Мікалаем Гусевым. Паводле статута 1956 года, сцяг рэпрэзентаваў як савецкія, так і нацыянальныя традыцыі беларусаў. Белы і чырвоны арнамент названы ў статуце „беларускім нацыянальным арнаментам"[15].

[14] *История Белорусской ССР в двух томах*, т. 1, ред. В. Н. Перцев, К. И. Шабуня, Л. С. Абецедарский. Минск 1954; т. 2, Минск 1961.

[15] Указ от 8 мая 1956 г. „Об утверждении Положения о Государственном флаге Белорусской ССР, [у:] *Сборник законов Белорусской ССР и указов Президиума Верховного Совета Белорусской ССР. 1938-1973 гг.*, Минск 1974, с. 30-31.

Нацыянальныя элементы сцяга 1951 года фактычна легітымізавалі выкарыстанне бел-чырвона-белых колераў у афармленні публічнай прасторы БССР. У 1950-1980-х гг. бел-чырвона-белая гама была папулярнай у Беларусі. Яна прысутнічала на плакатах да Дня перамогі і вызвалення Менска, на прадукцыі дзяржаўных выдавецтваў, значках Беларускай вайсковай акругі і Міністэрства культуры БССР.

## Два сцягі, адна нацыя

Памяць пра беларускі нацыянальны сцяг захоўвалася ў колах інтэлігенцыі і гуртках патрыятычнай моладзі БССР. Напрыклад, у кастрычніку 1984 года два бел-чырвона-белыя сцягі былі вывешаны на будынку Менскай мастацкай вучэльні імя Глебава. Па справе, распачатай КДБ СССР, праходзіла шэсць навучэнцаў гэтай установы. Два з іх (Сяргей Харэўскі і Юры Макееў) былі вымушаны спыніць вучобу[16]. Перабудова, якая распачалася ў 1985 годзе, адкрыла шлях да хуткага вяртання нацыянальнага сцяга ў публічную прастору. Гэты сцяг папулярызаваўся сябрамі першай няўрадавай моладзевай арганізацыі беларусаў Майстроўня. Канфедэрацыя беларускіх суполак распаўсюджвала веды пра бел-чырвона-белы сцяг, гістарычныя сімвалы і сцягі даваенных беларускіх арганізацый[17].

Невыпадкова бел-чырвона-белы сцяг залунаў на першай масавай апазіцыйнай дэманстрацыі сучаснай Беларусі, падчас шэсця ў Курапаты на Дзяды 1988 года. У Курапацкім лесе пад Менскам НКВД БССР стварыў сакрэтны расстрэльны палігон. Тут з 1937 па 1941 гады было забіта без суда каля 30 тыс. жыхароў Беларусі, а таксама грамадзян Прыбалтыйскіх краін і Польшчы[18].

Мірная дэманстрацыя 1988 года была жорстка разагнана савецкай міліцыяй, якая канфіскавала сцягі апазіцыі. Тым не менш адкрыццё дагэтуль засакрэчанага месца масавых забойстваў і выбарачная эксгумацыя трупаў прывялі да хуткай дэсаветызацыі беларускага грамадства і дэлегітымізацыі сімвалаў савецкай улады. Эксгумацыйную каманду ўзначальваў археолаг Зянон Пазьняк, лідар Беларускага Народнага Фронту і антыкамуністычнага руху. Пазьняк з'яўляўся лідарам апазіцыі да

16 Ліст Сяргея Харэўскага да аўтара артыкула, 10 сакавіка 2021 г.

17 Гл., напр.: „Супольнасьць", 1989, № 4, с. 5.

18 A. Kotljarchuk, *World War II Memory Politics: Jewish, Polish and Roma Minorities of Belarus*, „The Journal of Belarusian Studies", 2013, nr 1, s. 7-40; А. Дюков, *К вопросу о численности расстрелянных органами НКВД в Куропатах*, „Международная жизнь", 2017, № 7, с. 149-162.

1996 года, калі ён мусіў пакінуць краіну і эміграваць у ЗША. Распад СССР і нарастанне ўсведамлення грамадствам трагедыі сталінскага тэрору ў Беларусі прывялі да дыскрэдытацыі савецкіх сімвалаў уключна з зялёна-чырвоным сцягам.

У выніку ў верасні 1991 года рашэннем Менскага гарадскога савета народных дэпутатаў нацыянальны сцяг і герб „Пагоня" пачалі выкарыстоўвацца нароўні з сімволікай БССР. У тым самым месяцы пасля рашэння парламента і экспертнай ацэнкі Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук бел-чырвона-белы сцяг быў абвешчаны дзяржаўным сцягам. Як падкрэсліла Г. Эльгеніус, гэта цалкам натуральная практыка, калі змена ідэалагічнага рэжыму вядзе да прыняцця „старага-новага сцяга"[19].

Аляксандр Лукашэнка стаў прэзідэнтам Беларусі ў 1994 годзе. Гэта былі першыя прэзідэнцкія і адзіныя сапраўды канкурэнтныя выбары, якія праводзіліся ў Беларусі пасля распаду СССР. Іх вынікам стала перамога для Лукашэнкі, які атрымаў 80,6 % галасоў у другім туры. Яго выбарчая кампанія праводзілася пад бел-чырвона-белым сцягам. Менавіта пад ім абраны прэзідэнт прымаў прысягу, а пазней прымаў афіцыйныя дэлегацыі краін свету.

У 1995 годзе Лукашэнка выйграў першы супярэчлівы рэферэндум, які даў яму паўнамоцтвы распускаць парламент. У 1996 годзе ён перамог у яшчэ адным рэферэндуме, які ўзмацніў яго аўтарытарную ўладу і дазволіў кіраваць краінай, паступова ствараючы дыктатарскі палітычны рэжым. У 1995 годзе бел-чырвона-белы сцяг быў заменены зялёна-чырвоным сцягам з некаторымі мадыфікацыямі. З гэтага моманту бел-чырвона-белы сцяг стаў сімвалам дэмакратычнай апазіцыі і яго можна было пабачыць на ўсіх пратэсных акцыях. Улады пачалі называць яго „незаконным сімвалам" і загадалі міліцыі арыштоўваць людзей за яго выкарыстанне.

Затое ў няўрадавых сродках масавай інфармацыі галоўнай навіной сталі звесткі пра *Мірона* ці беларускага *Zorra*, як называла яго прэса. Гэта была мянушка невядомай асобы, якая вывешвала бел-чырвона-белыя сцягі на вяршынях вышак і дахах высокіх дамоў па ўсёй краіне. У ліпені 1995 года Мірон размясціў вялікі бел-чырвона-белы сцяг на саракаметровай фабрычнай трубе ў Лёзне, родным горадзе Марка Шагала. Да сцяга была прымацавана запіска: „Вярніце народу гістарычную памяць". Гэта быў толькі пачатак. Паміж 1995 і 2010 гадамі Мірон развесіў дзясяткі бел-чырвона-белых сцягоў па ўсёй краіне. Гэты

19 G. Elgenius, *Symbols of nations and nationalism*, s. 61.

палітычны перформанс быў падтрыманы маладымі паслядоўнікамі. На працягу 15 гадоў міліцыя і КДБ палявалі на Мірона. Яго злавілі толькі ў 2010 годзе пасля вывешвання бел-чырвона-белага сцяга на галоўнай каляднай ялінцы Віцебска. Легендарным Міронам аказаўся Сяргей Каваленка, рабочы-будаўнік і актывіст Кансерватыўна-хрысціянскай партыі. Суд даў яму тры гады зняволення ўмоўна за „незаконную дзейнасць". У 2014 годзе Каваленку арыштавалі зноў і прыгаварылі да турэмнага зняволення[20]. Аднак бел-чырвона-белыя сцягі працягвалі з'яўляцца ў публічнай прасторы і шмат сіл міліцыі і КДБ было кінута на дзікае паляванне за сцягам. Такім чынам, пераслед бел-чырвона-белага сцяга ў сучаснай Беларусі налічвае па меншай меры 25-гадовую гісторыю.

Сучасны выгляд дзяржаўнага чырвона-зялёнага сцяга быў зацверджаны ў 1995 годзе[21]. Камуністычныя сімвалы былі прыбраны, таксама як і белыя і чырвоныя палоскі ўздоўж нацыянальнага арнаменту. Афіцыйная прапаганда пачала прасоўваць гэты сцяг як сімвал шчаслівага савецкага мінулага. Насамрэч чырвона-зялёны сцяг мае ўласную „цёмную" гісторыю. Пад гэтым сцягам сталінскі рэжым здзейсніў гвалтоўную калектывізацыю ў Заходняй Беларусі (частка Польшчы да 1939 года). Тысячы людзей на хутарах былі вымушаны пакінуць свае гаспадаркі і перасяліцца ў цэнтры калгасаў, а нязгодныя з гвалтам былі высланы ў ГУЛАГ. Пад гэтым сцягам МДБ знішчала патрыятычныя моладзевыя арганізацыі і апошнія звязы антысавецкіх партызан.

У 1947 годзе МДБ БССР арыштавала ў Паставах 17-гадовую Ангеліну Бароўку, сяброўку моладзевай арганізацыі Саюз беларускіх патрыётаў. Уся яе „віна" заключалася ў тым, што Ангеліна пашыла для суполкі бел-чырвона-белы сцяг. Чэкісты палічылі знойдзены ў час вобшуку сцяг рэчавым доказам антысавецкай дзейнасці. Ангеліна была асуджана на 10 гадоў зняволення. Зняволенне яна адбывала спачатку ў дзіцячай калоніі пад Менскам, а потым у лагерах Мардовіі. Пасля заключэння вяртанне на Бацькаўшчыну ёй было забаронена. Ангеліна Бароўка памерла пасля доўгай хваробы ў Латвіі[22].

У чэрвені 1947 года ў Менску былі асуджаны 34 падлеткі як сябры Саюза беларускіх патрыётаў. У праграме гэтай юнацкай арганізацыі была запісана незалежнасць Беларусі і дзяржаўнасць беларускай мовы. Васіль Мядзелец, Антон Фурс, Мікола Асіненка былі асуджаны

[20] С. Печанко, *Мірон. Легенда*, „Наша Ніва", 13.01.2010.

[21] У 2012 г. адбылася рэдакцыя арнаменту дзяржаўнага сцяга (заўвага рэд.).

[22] Л. Маракоў, *Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі, 1794-1991*, Мінск 2004, с. 154.

да расстрэлу, але ў сувязі з часовай адменай смяротнага пакарання былі адпраўлены на 25 гадоў у ГУЛАГ. У Полацку ў 1947-1948 гг. былі асуджаны Леанід Казак, Пётр Спіркові́ч, Марыя і Іван Бабічы, Алена і Ларыса Барсук, Мікола Конан, Стась Савік і Алеся Умпіровіч. Адзінкам з арыштаваных пашанцавала выжыць у ГУЛАГу і вярнуцца дадому. Двое бацькоў, Лявон Умпіровіч і Ганна Бабіч, „за неданясенне" на ўласных дзяцей былі асуджаны на 10 і 6 гадоў зняволення. Лявон Умпіровіч памёр у менскай турме МДБ „Амерыканка". Такім чынам, для шмат якіх беларусаў савецкая сімволіка асацыявалася з дзяржаўным гвалтам і палітычнымі рэпрэсіямі.

Малавядомым з'яўляецца факт, што аўтар праекта сцяга 1951 года Мікалай Гусеў супрацоўнічаў з нацыстамі. Падчас акупацыі Менска Гусеў аказаўся адным з найбольш запатрабаваных мастакоў. Менавіта ён маляваў вялікія партрэты Гітлера, якія вывешваліся на вуліцах Менска падчас святочных дзён Першамая і свята Дажынак[23]. Пасля вайны Гусеў хутка вярнуўся да мастацтва сацыялістычнага рэалізму. Зрабіць гэта было нескладана, бо сталінская і гітлераўская эстэтыка публічнага мастацтва мела шмат падабенстваў[24].

Для маладога пакалення, якое вырасла падчас 25-гадовага прэзідэнцтва Лукашэнкі, чырвона-зялёны сцяг паволі зрабіўся нацыянальным сімвалам. Пад гэтым сцягам спартоўцы краіны перамагалі на міжнародных спаборніцтвах. Пад ім праводзіліся афіцыйныя святы і цырымоніі ў Беларусі. З сярэдзіны 1990-х гг. дзяржаўны сцяг, герб і партрэт Лукашэнкі вісяць у кожным класе, казарме і адміністрацыйным будынку. Адбылася нармалізацыя чырвона-зялёнага сцяга, які стаў успрымацца як сцяг Рэспублікі Беларусь.

Адміністрацыйны і крымінальны пераслед людзей з бел-чырвона-белымі сцягамі прывёў да наступнага феномена. З пачатку XXI ст. бел-чырвона-белы сцяг пачалі асацыіраваць выключна з дэмакратычнай апазіцыяй. Згадваючы бел-чырвона-белы сцяг, афіцыйная прапаганда апісвае лідараў сучаснай дэмакратычнай апазіцыі як нашчадкаў нацысцкіх калабарантаў. Факт абвяшчэння Беларуссю незалежнасці пад гэтым сцягам у 1918 годзе замоўчваецца. Фіксацыя прапагандыстамі ўвагі на памяці пра Другую сусветную вайну невыпадковая. Нацысцкая акупацыя была самай буйной катастрофай, якую перажыло

23 Я. Ціхановіч, *Партрэт стагоддзя*, Мінск 2015, с. 119. Аўтар выказвае падзяку В. Корбуту за інфармацыю.

24 I. Golomstock, R. Chandler, *Totalitarian art: in the Soviet Union, the Third Reich, Fascist Italy and the People's epublic of China*, New York 2011.

насельніцтва Беларусі. Паводле шведскага даследчыка Пера Рудлінга, менавіта Другая сусветная вайна стала падмуркам для стварэння мадэрнай беларускай ідэнтычнасці. Ніякая іншая гістарычная падзея не мела такога ж велізарнага ўплыву на сённяшнюю Беларусь.

Лукашэнкаўскі праект будавання нацыі ў значнай ступені абапіраецца на памяць аб Другой сусветнай вайне[25]. Выкарыстанне міфалогіі вайны і акупацыі, безумоўна, мае канкрэтнае палітычнае значэнне для рэжыму не толькі ў яго прэтэнзіях на асаблівае месца Лукашэнкі як апошняга абаронцы Еўропы ад „фашызму", але таксама ў падтрыманні міфа аб дэмакратычнай апазіцыі як „нашчадках" калабарантаў з Гітлерам і „лёкаях" сучаснага Захаду. Напрыклад, прамаўляючы ў 2010 годзе на ўрачыстым сходзе, прысвечаным перамозе ў Другой сусветнай вайне, Лукашэнка адзначыў: „А если и есть кучка таких нравственных уродов (иначе их нельзя назвать) [дэмакратычная апазіцыя], которым близка идея „незалежнай Беларусі ў новай Эўропе Адольфа Гітлера", они нам известны. Мы знаем, кому служили их кумиры в годы Великой Отечественной войны, и совершенно понятно, чьими лакеями они являются сегодня"[26].

У адрозненне ад большасці постсавецкіх краін рэжым Лукашэнкі палітычна маргіналізаваў такія грунтоўныя прыкметы этнічнасці, як нацыянальная мова і гісторыя, заснаваўшы свой праект на ідэалізаваным міфе савецкага адзінства[27]. У краіне дзве афіцыйныя мовы з 1995 г.: беларуская і руская. Аднак чынавенства і афіцыйныя сродкі інфармацыі ўжываюць пераважна рускую мову, а апазіцыя, гісторыкі, незалежныя газеты і інтэрнэт-рэсурсы — беларускую.

На маю думку, урад свядома папулярызуе чырвона-зялёны сцяг і выкарыстоўвае яго як інструмент кансервацыі *homo sovieticus*. Згадкі бел-чырвона-белага сцяга як „нацыяналістычнага" заўжды суправаджаюцца негатыўнымі эпітэтамі, а ідэалізаваны наратыў чырвона-зялёнага сцяга як „савецкага" пазбягае любых згадак цёмных старонак яго гісторыі[28].

[25] P. A. Rudling, *Lukashenka and the „Red-Browns": National ideology, Commemoration of the Past, and Political Belonging*, „Forum fur Osteuropaische Ideen- und Zeitgeschichte", 2010, nr 15, s. 95-125.

[26] А. Катлярчук, *Палітыка памяці ў Беларусі. Мемарыялы Другой сусветнай вайны і меншасці краіны (яўрэйская, польская ды цыганская)*, «Журнал беларускіх даследаванняў», 2013, № 1, с. 31.

[27] N. Zakharov, A. Lastouski, *Belarus — Another „Iceberg Society"? Class, Memory, Nation-Building and State-formation in European Modernity*, [у:] *Class, Sex and Revolutions: Göran Therborn — a critical appraisal*, ed. by G. Olofsson and S. Hort, Lund 2016, s. 168.

[28] На Дзень Незалежнасці 3 ліпеня 2015 г. газета „СБ — Беларусь сегодня" апублікавала жалю годны артыкул пра Матрону Маркевіч і ўсталяванне помніка

Між іншым, арнамент дзяржаўнага сцяга быў створаны[29] Матронай Маркевіч (дзявочае прозвішчы Кацар), сястрой навукоўца Міхаіла Кацара. Яе муж, селянін Аляксей Маркевіч з вёскі Касцелішча Сенненскага раёна, быў арыштаваны НКВД 10 кастрычніка 1937 года. Праз пяць дзён „тройка" ў складзе афіцэра дзяржбяспекі, мясцовага пракурора і сакратара райкама вырашыла забіць беларускага селяніна за нібыта „антысавецкую агітацыю". Маркевіч быў расстраляны без суда на Дзяды 1937 года. Яго цела было кінута ў роў безыменнай масавай магілы. У вуснай размове чэкісты паведамілі Матроне, што яе муж атрымаў 10 гадоў турмы без права на ліставанне (насамрэч такой нормы не існавала ў заканадаўстве). Дзяржава хлусіла, каб схаваць жахлівае злачынства. Маёмасць беднай сям'і была канфіскавана дзяржавай. Дзеці Маркевічаў галадалі. Матрона гаравала ў калгасе, яе абражалі, называлі „кулачкай" і жонкай „ворага народа". Сям'я даведалася пра жахлівы лёс Аляксея Маркевіча толькі ў 1986 годзе. Сёння сваякі Матроны Маркевіч наведваюць штогод помнік, прысвечаны чырвона-зялёнаму сцягу, які быў усталяваны ў яе гонар у г. Сянно, і масавую магілу ахвяр савецкага тэрору на Кабыліцкай гары паблізу Оршы[30]. Але гэтыя аспекты трагічнага жыцця стваральніцы арнаменту дзяржаўнага сцяга свядома замоўчваюцца прапагандыстамі рэжыму.

Адзначым, што варожае стаўленне да нацыянальнага сцяга як „буржуазна-нацыяналістычнага" існавала ў савецкія часы перш за ўсё ў колах КДБ і партапарату. Але шальмаванне нацыянальнага сцяга як „фашысцкага" — з'ява найноўшай гісторыі Беларусі. Першыя артыкулы падобнай тэматыкі пачалі з'яўляцца ў камуністычнай прэсе (канец 1980-х — пачатак 1990-х гг.). Дыскурс ачарнення нацыянальнага сцяга зрабіўся мэйнстрымам за праўленнем Лукашэнкі і дасягнуў свайго апагея пасля рэвалюцыйных падзей жніўня 2020 года.

ў Сянне. Трагічны лёс яе мужа не згадваўся. Гл.: С. Голесник, *В Сенно открыли памятник Матрене Маркевич, автору орнамента белорусского флага*, „СБ — Беларусь сегодня", 3.07.2015, https://www.sb.by/articles/v-senno-otkryli-pamyatnikmatrene-markevich.html [доступ: 12.07.2021].

29 Гл.: В. Лабачэўская, *Пад знакам арнаменту: да гісторыі стварэння дзяржаўнага сцяга*, «Homo historicus. Гадавік антрапалагічнапй гісторыі», 2022, вып. 6.

## Вайна сцягоў

Пад бел-чырвона-белым сцягам адбываліся працэсы скасавання СССР і дыпламатычнага прызнання суверэннай беларускай дзяржавы. Палітычны сімвалізм бел-чырвона-белага сцяга ўвасабляе беларускія ідэалы незалежнасці і памяць пра дэмакратычнаю прававую дзяржаву, якая існавала ў Беларусі ў 1991-1994 гг. Бел-чырвона-белы сцяг таксама сімвалізуе мірную спадчыну БНР, рэспублікі, што была знішчана савецкай Расіяй і Польшчай, якія падзялілі Беларусь у 1921 годзе. Масавае апазіцыйнае святкаванне стагоддзя БНР у Менску ў сакавіку 2018 года пад бел-чырвона-белымі сцягамі было моцнай дэманстрацыяй фундаментальных прынцыпаў дэмакратыі і суверэннасці, якія парушыў рэжым Лукашэнкі.

Дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі на працягу 25 гадоў канструявалі вобраз чырвона-зялёнага сцяга як сімвала стабільнасці і дабрабыту. Жнівень 2020 года рэзка змяніў сітуацыю. Улада пачала гуляць на існуючых супярэчнасцях вакол сцягоў, каб падзяліць грамадства і распаліць канфлікты. У дні пратэстаў чырвона-зялёны сцяг з'явіўся на міліцэйскіх машынах і аўтазаках у Менску ды іншых гарадах.

Афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі, якія манапалізавалі тэлеканалы і дамінуюць сярод перыядычных выданняў, пачалі масіраваную прапагандысцкую кампанію супраць бел-чырвона-белага сцяга, звязваючы яго з нацызмам. Паводле прапагандыстаў, „у белорусов есть большой исторический счет к нелюдям, которые под бчб-флагом, „погоней" и свастикой с особым рвением уничтожали нас в годы Великой Отечественной войны. Жгли живьем в Хатынях, закапывали заживо в ямах, расстреливали, вешали, вешали, вешали..."[31].

Такім чынам, прапаганда будуе сувязь паміж нацыянальным сцягам і Хатынню — трагічным месцам памяці, вядомым кожнаму беларусу. Выступаючы напярэдадні Дня Волі 2021 года ў мемарыяльным комплексе Хатынь Лукашэнка зноў усклаў на бел-чырвона-белы сцяг

30 Я. Вярбіцкі, *Матрона Маркевіч — аўтарка арнаменту на дзяржаўным сцягу Беларусі і жонка „ворага народу"*, https://belsat.eu/in-focus/matrona-markevich-autarka-arnamentu-na-dzyarzhaunymstsyagu-belarusi-i-zhonka-voraga-narodu [доступ: 12.07.2021].

31 А. Винокуров, *У белорусов есть большой исторический счет к нелюдям, которые под бчб-флагом, погоней и свастикой с особым рвением уничтожали нас в годы Великой Отечественной войны*, „СБ — Беларусь сегодня", 10.09.2020, https://www.sb.by/articles/u-belorusov-est-bolshoy-istoricheskiy-schet-k-nelyudyam-kotorye-pod-bchb-flagom-pogoney-i-svastikoy-.html [доступ: 12.07.2021].

адказнасць за знішчэнне беларускага насельніцтва нямецкімі акупантамі: „Я обращаюсь ко всем, кто убежден, что фашизм ‘нес на нашу землю цивилизацию’; кто героизирует убийц; кто поклоняется БЧБ-флагам под которыми проводился геноцид белорусского народа”[32].

Гэтыя прапагандысцкія прыёмы супярэчаць фактам. Як вядома, насельніцтва Хатыні, беларускай каталіцкай вёскі, было спалена ў 1943 годзе нямецкім батальёнам СС Оскара Дырлевангера і 118-м ахоўным паліцэйскім батальёнам, створаным у Кіеве і накіраваным у Беларусь. Батальён Дырлевангера (пазней брыгада СС) быў спецыяльным праектам Гімлера. Ён набіраўся з нямецкіх крымінальнікаў, якія ў 1941-1945 гг. здзейснілі шэраг злачынстваў і масавых забойстваў грамадзян на тэрыторыі Беларусі, Польшчы і Славакіі. 118-ы паліцэйскі батальён складаўся з немцаў-фольксдойчэ, савецкіх ваеннапалонных ды аднаго ўзвода ўкраінскіх нацыяналістаў[33]. Камандаваў батальёнам нямецкі афіцэр, начальнікам штаба (ключавая пасада ў час карных аперацый) быў былы афіцэр Чырвонай Арміі Грыгорый Васюра. Гэты, як і іншыя карныя аддзелы нацыстаў, ніколі не выкарыстоўваў беларускі нацыянальны сцяг. Дадамо, што шэраг былых паліцэйскіх 118-га ахоўнага батальёна былі асуджаны трыбуналам Беларускай вайсковай акругі ў 1975 і 1986 гг.

20 жніўня 2020 года галоўны дзяржтэлеканал краіны паказаў рэпартаж з Вячаславам Даніловічам, дырэктарам Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Даніловіч сцвердзіў, што выкарыстанне бел-чырвона-белага сцяга з’яўляецца непрымальным, паколькі гэта сцяг калабарантаў, якія імкнуліся стварыць фашысцкую дзяржаву пад пратэктаратам Гітлера[34]. 21 жніўня некалькі дзясяткаў прафесійных гісторыкаў, у тым ліку з Інстытута гісторыі, апублікавалі адкрыты ліст, адрасаваны Даніловічу, пад красамоўным загалоўкам „Дырэктар Даніловіч хлусіць, гэта антымаральны ўчынак”. У лісце гісторыкі пераказвалі чытачам гісторыю паходжання нацыянальнага сцяга ў пачатку

[32] *Иди и смотри! Лукашенко обратился к тем, кто сознательно пытается возродить символы нацизма*, 21.03.2021, https://www.belta.by/president/view/idi-i-smotri-lukashenko-obratilsja-k-tem-kto-soznatelno-pytaetsja-vozrodit-simvoly-natsizma-433677-2021/?fbclid=IwAR3FllM8XUe7oVl938CDeXzCFAfxEZ-doL8Pmk63bnXzosT9rkfp7R1G2b5k [доступ: 12.07.2021].

[33] P. A. Rudling, *Terror and Local Collaboration in Occupied Belarus: The case of Schutzmannschaft Battalion 118. Part Two. War Criminality*, „Historical Yearbook”, 2012, s. 99-121.

[34] *Дырэктар Інстытута гісторыі: Пад бел-чырвона-белым сцягам апрыёры рухаюцца да знешняга пратэктарату*, „Наша Ніва”, 21.09.2020, https://nashaniva.by/?c=ar&i=257527 [доступ: 12.07.2021].

XX ст. і ўказвалі на факт выкарыстання нацыянальнага сцяга Беларусі рознымі палітычнымі сіламі, што было паўсюднай з’явай[35].

Нягледзячы на гістарычныя факты, афіцыйная прапаганда засяродзілася на спробах звязаць гэты сцяг з асобамі, якія супрацоўнічалі з нацыстамі падчас Другой сусветнай вайны. Улады выкарыстоўваюць гэты падыход дзеля ачарнення нацыянальнага сцяга. 23 жніўня 2020 года міністр абароны Віктар Хрэнін адчуў сябе гісторыкам і зрабіў заяву адносна бел-чырвона-белага сцяга. Паводле генерала: „Мы не можам сёння спакойна глядзець, як пад сцягамі, пад якімі фашысты арганізоўвалі масавыя забойствы беларусаў, рускіх, яўрэяў, прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей, у гэтых святых месцах праходзяць акцыі. Мы гэтага дапусціць не можам. Катэгарычна папярэджваю, у выпадку парушэння парадку і спакою ў гэтых месцах вы справу будзеце мець не з міліцыяй, а з арміяй”[36].

Выказванне міністра абароны з’яўляецца яскравым прыкладам г.зв. „паўпраўды”, у якой неадпаведныя характарыстыкі бел-чырвона-белага сцяга дзейнічаюць як інструмент прапаганды, які легітымізуе незаконныя дзеянні беларускай арміі супраць мірных пратэстуючых. Так, нацысцкія злачынцы знішчалі мірнае насельніцтва Беларусі. Але няма сведчанняў аб выкарыстанні бел-чырвона-белага сцяга немцамі ці пранацысцкімі вайсковымі і паліцэйскімі калабарантамі падчас Халакосту і масавых злачынстваў супраць мірнага насельніцтва Беларусі.

Сёння ў Беларусі практычна немагчыма набыць бел-чырвона-белы сцяг, а пандэмія COVID-19 запаволіла міжнародныя пастаўкі. У адказ на дзяржаўную прапаганду супраць нацыянальнага сцяга людзі пачалі масава шыць нацыянальныя сцягі дома. Пасля гэтага ўлады забаранілі продаж белай і чырвонай тканіны ў Менску[37]. Людзі былі вымушаны стаць больш крэатыўнымі. Сотні сцягоў былі вывешаны на высокіх будынках у шматлікіх гарадах Беларусі. Калі міліцыя і ратавальныя службы гвалтоўна здымалі гэтыя сцягі, людзі пачалі рабіць іх з соцень стужак, што абцяжарвала „працу” для міліцыі і МНС.

35 *Даніловіч хлусіць, гэта антымаральны ўчынак. Адказ гісторыкаў дырэктару Інстытута гісторыі*, „Наша Ніва”, 21.08.2020, https://nashaniva.by/?c=ar&i=257595 [доступ: 12.07.2021].

36 *Хрэнін: У выпадку парушэння парадку ў святых месцах пратэстоўцы будуць мець справу з арміяй*, „Звязда”, 23.08.2020, http://zviazda.by/be/news/20200823/1598183433-hrenin-u-vypadkuparushennya-paradku-u-svyatyh-mescah-pratestoucy-buduc-mec [доступ: 12.07.2021].

37 *Дзяржаўныя крамы не прадаюць людзям белую і чырвоную тканіну*, „Новы час”, 6.09.2020.

У першыя тыдні пратэстаў узніклі спантанныя ініцыятывы па стварэнні мясцовых сцягоў на падставе бел-чырвона-белага. На сённяшні дзень Віртуальны музей бел-чырвона-белага сцяга сабраў больш чым 650 сцягоў раёнаў Менска, іншых гарадоў і вёсак Беларусі, а таксама згуртаванняў беларускай дыяспары па ўсім свеце[38].

Беларускія жанчыны, самая актыўная група сярод пратэстуючых, знайшлі спосаб пайсці яшчэ далей. Шмат хто з іх пачаў апранаць белыя і чырвоныя сукенкі, выкарыстоўваць белыя і чырвоныя ўпрыгажэнні і парасоны. Рэакцыя міліцыі была агрэсіўнай, і шмат жанчын было арыштавана толькі па прычыне іх вопраткі[39]. Пераслед людзей з бел-чырвона-белымі сцягамі ў Менску нагадаў старэйшаму пакаленню трагічныя падзеі ў міжваеннай Польшчы. Польскія ўлады ў Заходняй Беларусі канфіскоўвалі бел-чырвона-белыя сцягі як „склад злачынства антыдзяржаўнай дзейнасці". Аналагічна сёння сотні беларусаў былі арыштаваны тады і асуджаны да арыштаў ці штрафаў[40].

Недахоп крэатыўнасці ў колах праўладных прапагандыстаў кампенсуецца тугой па сталінскай эстэтыцы і плагіятах. Так, напрыканцы 2020 і на пачатку 2021 года па каналах афіцыйных прафсаюзаў Беларусі распаўсюджваліся ананімныя плакаты, накіраваныя супраць дэмакратычный апазіцыі і яе галоўнага сімвала бел-чырвона-белага сцяга. Пры бліжэйшым разглядзе плакаты аказаліся грубай падробкай, зробленай на аснове старых савецкіх плакатаў.

У снежні 2020 года аддзел геральдыкі, генеалогіі і нумізматыкі Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук на чале з Аляксеем Шаландам быў закрыты. Кіраўнік аддзела і шмат яго калег былі звольнены новым дырэктарам Інстытута Вадзімам Лакізам. Пасля гэтага некаторыя гісторыкі напісалі заявы аб звальненні ў салідарнасць са звольненымі калегамі. Шмат гісторыкаў з Інстытута гісторыі праявілі актыўную грамадзянскую пазіцыю падчас мірных пратэстаў. Яны прымалі ўдзел у мірных шэсцях, а пяцёра з іх былі арыштаваны. Па запыце беларускага суда А. Шаланда даў шэраг экспертных ацэнак

[38] *У онлайн-музэі сьцягоў гарадзкіх раёнаў, рэгіёнаў, дыяспараў сабралі 650 узораў*, https://www.svaboda.org/a/30985415.html [доступ: 12.07.2021].

[39] *Хроніка пераследу і суды*, „Вясна", 28.08.2020, http://spring96.org/be/news/99272 [доступ: 12.07.2021].

[40] А. Вашкевіч, *„Нашы сцягі над Заходняй"*, „Arche", 2007, № 4, с. 78-90.

адносна бел-чырвона-белага сцяга. Ён даводзіў, што гэта гістарычны палітычны сімвал Беларусі, а не нейкі „незаконны сімвал", як сцвярджала міліцыя.

24 лістапада 2020 года А. Лукашэнка абвясціў пра новы закон супраць гераізацыі нацызму. Ён у прыватнасці падкрэсліў, што „ў бліжэйшы час наш парламент разгледзіць законапраект аб недапушчальнасці гераізацыі нацызму ў Беларусі. Гераізацыяй так званай сёння грашыць вельмі шмат краін, асабліва суседніх з намі. А дарма"[41]. Цікава, што прававыя нормы супраць гераізацыі нацызму ўжо былі прыняты Палатай прадстаўнікоў Беларусі і набылі моц 1 лютага 2020 года як параграф дапрацаванага закона „Аб супрацьдзеянні экстрэмізму"[42].

24 лістапада адначасова са згаданай заявай прапагандысты арганізавалі псеўданавуковы круглы стол «Исторические формы национальной символики: подмена понятий». У г.зв. „дыскусіі" прымалі ўдзел прафесар, старшыня Пастаяннай камісіі па адукацыі, культуры і навуцы Палаты прадстаўнікоў Ігар Марзалюк; дэкан факультэта філасофіі і сацыяльных навук БДУ, галоўны рэдактар праўладнага часопіса „Беларуская думка" Вадзім Гігін і былы дырэктар Інстытута гісторыі, рэктар Акадэміі кіравання, кандыдат гістарычных навук Вячаслаў Даніловіч[43].

Цягам некалькіх гадзін удзельнікі „стала" імкнуліся данесці чытачам думку, што нічога пазітыўнага за бел-чырвона-белым сцягам няма і што яго нельга параўноўваць з чырвона-зялёным сцягам, „ісконным" сцягам беларусаў, сімвалам дабрабыту і стабільнасці. Апрача падтасоўкі фактаў гісторыкі-прапагандысты дапусцілі грубыя фактала-гічныя памылкі. Напрыклад, Вадзім Гігін заявіў, што „уже к 1939 г. по мере того, как освободительное движение попадает под влияние коммунистической партии и комсомола Западной Беларуси, красный флаг становится флагом этого движения". Насамрэч Камуністычная партыя і камсамол Заходняй Беларусі былі па загадзе Сталіна распушчаны Камінтэрнам у 1938 годзе. Практычна ўсё кіраўніцтва партыі

41 *Лукашэнка анансаваў новы закон аб забароне гераізацыі нацызму*, https://euroradio.fm/lukashenka-anansavau-zakon-ab-zabarone-geraizacyi-nacyzmu [доступ: 22.08.2021].

42 *Об изменении Закона Республики Беларусь „О противодействии экстремизму"*, https://online.zakon.kz/Document/?doc_id=36885283#pos=1;-70 [доступ: 12.07.2021].

43 *Круглый стол „Исторические формы национальной символики: подмена понятий"*, https://www.belta.by/roundtable/view/istoricheskie-formy-natsionalnoj-simvoliki-podmena-ponjatij-1300 [доступ: 22.08.2021].

і заходнебеларускага камсамола было знішчана органамі НКВД. Пра якую кампанію пашырэння чырвонага сцяга ў Заходняй Беларусі ў такіх умовах можа ісці гаворка?

Прафесар Марзалюк зазначыў, што „при использовании той или иной символики нужно знать коннотацию, которая с ней связана, опираться на аргументацию и факты. Выбирая символ, поднимая тот или иной флаг, декларируя ему верность, важно понимать, что за этим символом стоит". Здаецца, слушная думка, але ўсе пошукі Марзалюком „канатацыі" былі засяроджаны на тэндэцыйным разглядзе трох гадоў нацысцкай акупацыі з больш чым 100-гадовай гісторыі бел-чырвона-белага сцяга. Пры гэтым сп. Марзалюк з'яўляецца спецыялістам па гісторыі Беларусі XVII ст. і навукова не займаўся перыядам Другой сусветной вайны Адначасова тэмы савецкага тэрору, прымусовай калектывізацыі і палітычных рэпрэсій, непасрэдна звязаных з сімволікай чырвона-зялёнага сцяга, ігнараваліся ўдзельнікамі гэтага „застолля".

6 снежня 2020 года флагман афіцыйнай прапаганды газета „СБ — Беларусь сегодня" арганізавала новы „круглы стол" пад загалоўкам «Карычневы сэнс бела-чырвоных сцягоў». У маналагічнай па змесце размове (якую СБ памылкова назвала дыскусіяй) прымалі ўдзел дэпутат парламента Сяргей Клішэвіч, выкладчык гісторыі Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта Барыс Ляпешка і дацэнт Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта Уладзімір Ягорычаў. Размова мела тэндэнцыйны характар і нізкую навуковую вартасць. Яе ўдзельнікі заклікалі абвясціць бел-чырвона-белы сцяг „экстрэмісцкім": „В белорусском обществе активно обсуждается тема запрета фашистской и околофашистской символики во всех её формах. Ранее бчб-флаг и его производные пребывали, по сути, в серой зоне: они не были зарегистрированы, но и в список экстремистских не входили. Но так продолжаться больше не может, сегодня проблема явно требует решения"[44]. Тым не менш для прыняцця новага закона супраць нацыянальнага сцяга патрэбна экспертная ацэнка Інстытута гісторыі. Гэтым тлумачыцца ліквідацыя аддзела геральдыкі, генеалогіі і нумізматыкі на чале з А. Шаландам.

10 снежня 2020 года пракурор Гомельскай вобласці Віктар Марозаў заявіў, што „бело-красно-белый флаг это фашистская символика, которую нужно приравнять к запрещенным сегодня в Беларуси свастике

44 М. Осипов *Круглый стол в СБ. Коричневый смысл красно-белых знамен*, http://www.house.gov.by/ru/interview-ru/view/korichnevyj-smysl-krasno-belyx-znamen-kruglyj-stol-v-sb-kak-protivostojat-geroizatsii-natsizma-i-simvoliki-ego-prispeshnikov-6842/ [доступ: 22.08.2021].

и другой нацистской символике и атрибутике. Наказание тоже должно быть соответствующим: как минимум административная ответственность"[45]. У той жа дзень менская міліцыя выступіла з заявай, што вывешванне бел-чырвона-белых сцягоў на прыватных вокнах і балконах будзе расцэньвацца як незаконны пікет, за што пагражае 15 сутак арышту[46].

29 студзеня 2021 года Генпракуратура Беларусі зрабіла заяву, што бел-чырвона-белы сцяг хутка прызнаюць экстрэмісцкім. Ведамства спасылалася на „волю народа", маўляў, у Генпракуратуру паступіла больш за сотню зваротаў ад грамадзян з просьбай прыраўняць бел-чырвона-белы сцяг, які „ў гады вайны стаў сімвалам зверстваў на беларускай зямлі", да экстрэмісцкай сімволікі[47]. У адказ петыцыя Кардынацыйнай рады супраць прызнання бел-чырвона-белага сцяга экстрэмісцкім сабрала толькі за два першыя дні пасля заявы Генпракуратуры больш як 50 тыс. подпісаў[48]. Адначасова беларускія гісторыкі даслалі генеральнаму пракурору, старшыні Палаты прадстаўнікоў і дырэктару Інстытута гісторыі НАН Беларусі заяву, у якой асудзілі спробы ўлад забараніць нацыянальны сцяг. Цягам лютага 2021 года гэтую заяву падпісалі 887 прафесійных гісторыкаў, выкладчыкаў і настаўнікаў гістарычных дысцыплін[49].

Нечакана рэжым змяніў сваю думку пра заканадаўчую кваліфікацыю нацыянальнага сцяга як „экстрэмісцкага". Згадкі пра бел-чырвона-белы сцяг зніклі з тэксту новага „Закона о недопущении героизации нацизма". Ці прыслухаўся рэжым да *vox populi*? Адказ на гэтае пытанне

45 *Бчб-символика себя скомпрометировала. Какие вопросы должны прозвучать на Всебелорусском народном собрании?*, http://vdobrushe.by/articles/bchb-simvolika-sebya-skomprometirovala-kakie-voprosy-dolzhny-prozvuchat-na-vsebelorusskom [доступ: 22.08.2021].

46 *За вывешванне бел-чырвона-белай сімволікі прадугледжана адміністрацыйная адказнасць*, https://zviazda.by/be/news/20201210/1607618503-guus-mingar-vynkama-za-vyveshvanne-nezaregistravanay-simvolik [доступ: 22.08.2021].

47 *Генпракуратура: Бел-чырвона-белы сцяг прызнаюць экстрэмісцкім*, https://bel.sputnik.by/20210131/Bel-chyrvona-bely-stsyag-pryznayuts-ekstremstskm-Genprakuratura-1046777067.html [доступ: 22.08.2021].

48 *Ужо 50 тысяч чалавек падпісаліся супраць прызнання бел-чырвона-белага сцяга экстрэмісцкім*, https://belsat.eu/news/31-01-2021-uzho-50-tysyach-chalavek-suprats-pryznannya-bel-chyrvona-belaga-stsyaga-ekstremistskim [доступ: 22.08.2021].

49 *887 беларускіх гісторыкаў даслалі ўладам ліст у абарону бел-чырвона-белага сьцяга*, https://zbsb.org/news/belarus/887-belaruskikh-gistoryka-daslali-ladam-list-u-abaronu-bel-chyrvona-belaga-stsyagu/ [доступ: 22.08.2021].

— не. Насамрэч адэпты рэжыму зразумелі негатыўныя для іх юрыдычныя наступствы забароны нацыянальнага сцяга і далі ход назад. Абвяшчэнне нацыянальнага сцяга па-за законам прывядзе да дэлегітымізацыі першай прэзідэнцкай прысягі Лукашэнкі 1995 года, замацаванай бел-чырвона-белым сцягам. Невыпадкова скептычныя думкі адносна забароны нацыянальнага сцяга публічна выказалі найбольш адукаваныя чальцы дзяржаўнага апарату[50]. У выніку замест забароны нацыянальнага сцяга сучасны рэжым выкарыстоўвае неправавы пераслед выкарыстання сцяга і яго каляровых узораў як у публічнай, так і ў прыватнай прасторы.

***

Паляванне на бел-чырвона-белыя сцягі ілюструе калапс дыялогу паміж дзяржавай і грамадзянскай супольнасцю. У адрозненне ад рэвалюцыйных падзей у Грузіі і Украіне дэманстранты ў Менску амаль не выкарыстоўвалі сцягі Еўрапейскага Саюза і не выступалі супраць палітычных сімвалаў Расіі. Больш за тое, расійскія сцягі прысутнічалі на апазіцыйных шэсцях. Некаторыя пратэстуючыя выкарыстоўвалі адначасова бел-чырвона-белы і чырвона-зялёны сцягі без негатыўных рэакцый з боку апазіцыі.

Спробы ўлады падзяліць грамадства паводле колераў сцягоў асуджаны на паражэнне. Сімвалізм і эстэтычная сіла бел-чырвона-белага сцяга ўвасабляюць веру беларускай нацыі ў *Свабоду, Роўнасць, Братэрства*, як гэта было ў часы Французскай рэвалюцыі. Як адзначалі Дэвід Гаунт і Тура Лане, сёння „мы маем справу са старым феноменам — рэінтэрпрэтацыяй гістарычных падзей па палітычных матывах”[51].

Акадэмічная супольнасць гісторыкаў у Беларусі раскалолася. Частка гісторыкаў, якая супрацоўнічае з дыктатурай, ператварылася ў прапагандыстаў сталінскіх часоў. Іншая частка, якая засталася вернай навуковым прынцыпам, моцна пацярпела і страціла працу ў дзяржаўных установах, але выйшла на міжнародную аўдыторыю і працягвае асветніцкую дзейнасць сярод беларускага грамадства. Гісторыкі зноў граюць важную ролю ў перафармаванні палітычнай гісторыі Беларусі.

*Пераклад з англійскай мовы Аляксандра Пагарэлага*

50 Гл. напр.: *Макей пра бел-чырвона-белы сцяг: Гісторыкі павінны сесці і правесці маштабнае абмеркаванне*, belarus.shafaqna.com/BY/AL/946337 [доступ: 22.08.2021]; *Дэпутат Варанецкі супраць забароны бел-чырвона-белага сцяга: Недапушчальна таптацца па сваім мінулым*, https://gazetaby.media/post/deputat-varaneczki-supracz-zabarony-bel-chyrvona-b/173012/ [доступ: 22.08.2021].

51 *Constructions and Instrumentalization of the Past: A Comparative Study on Memory Management in the Region*, s. 10.

**Summary**

**The War of the Flags**
**Conflicting Political Symbols of Contemporary Belarus**

Belarus made headlines in global media, for the first in its modern history, in August 2020. The rigged elections, after twenty five years of authoritarian rule by President Lukashenka, led to the mass protests across the country for the right to vote in free and fair elections. The world became fascinated by peaceful nature of the protests and by thousands of white-red-white flags carried by protestors.

The tradition to have a national flag is old. In modern world the national flags continue to be used as political symbols, as tools of propaganda and control, as devices for inclusion and exclusion of different social groups within the entire nation. Why do then the protestors and officials in Belarus use different national flags? What do the white-red-white and red-green flags symbolize for the people in Belarus? Why is the police hunting the white-red-white flag? Why is the massive state-run propaganda against peaceful protests focusing on the white-red-white flag and its history during World War II? This study shows how an analysis of political symbols of Belarus can contribute to a more detailed understanding of the present situation in the country.

**Streszczenie**
**Wojna flag**
**Przyczynek do historii konfliktu wokół symboli politycznych współczesnej Białorusi**

Białoruś po raz pierwszy we współczesnej historii pojawiła się na pierwszych stronach światowych mediów w sierpniu 2020 r. Sfałszowane wybory po 25 latach autorytarnych rządów prezydenta Łukaszenki doprowadziły do masowych protestów w całym kraju o prawo do wolnych i uczciwych wyborów. Świat był zafascynowany pokojowym charakterem protestów, a także tysiącami biało-czerwono-białych flag będących ich symbolem. Tradycja posiadania flagi narodowej jest stara. We współczesnym świecie flagi narodowe są nadal używane jako potężne symbole publiczne, jako narzędzia mobilizacji ludności, propagandy i kontroli, jako narzędzie integracji różnych grup społecznych, religijnych i etnicznych w jeden w naród. Dlaczego więc opozycja i władze na Białorusi używają różnych flag narodowych? Co symbolizują biało-czerwono-białe i czerwono-zielone flagi dla mieszkańców Białorusi? Dlaczego milicja poluje na biało-czerwono-białą flagę? Dlaczego propaganda państwowa po wydarzeniach z sierpnia 2020 roku skupia się na biało-czerwono-białej fladze i jej historii okresu II wojny światowej? W artykule staram się pokazać, w jaki sposób badanie symboli politycznych Białorusi może przyczynić się do lepszego zrozumienia bieżącej sytuacji w tym kraju.

**Andrej Katliarczuk** — PhD (doktor historii), pełniący obowiązki dyrektora Instytutu Historii Współczesnej Uniwersytetu Södertörn (Institute of Contemporary History, Södertörn University) w Szwecji. Zainteresowania badawcze: polityka pamięci, mniejszości etniczne, propaganda, terror sowiecki, ludobójstwo Cyganów.

**Najważniejsze publikacje:**

*In Forge of Stalin. Swedish colonists of Ukraine in the totalitarian experiments of the twenties century* (Stockholm Studies in History 100, 2014);

*Ethnic and Religious Minorities in Stalin's Soviet Union New Dimensions of Research*, (Södertörn Academic Studies 2017, co-editor Olle Sundström);

*Babi Yar and the Nazi Genocide of Roma. Memory narratives and memory practices in Ukraine*, Nationalities Papers, 2021:2;

*The Flag Revolution: Understanding the Political Symbols of Belarus*, i: CBEES State of the Region Report 2020: Constructions and Instrumentalization of the Past. A Comparative Study on Memory Management in the Region, ed. Ninna Mörner Stockholm: Elanders, 2021), 45-54;

*Norden och nordiska minoriteter i den sovjetiska pressen, Propaganda – en antologiom påverkan*, red. Oscar Österberg. Stockholm: Forum för levande historia, 2020, s. 50-76.

## Прафесар Аляксей Пяткевіч (30.03.1931 – 12.03.2022)

На Гродзеншчыне і суседнім Падляшшы значная колькасць адукаваных людзей ведаюць імя прафесара Аляксея Міхайлавіча Пяткевіча. Для адных ён Настаўнік, для іншых навуковец і вядомы літаратурны крытык, няспынны змагар за беларускую мову і культуру. Такіх асоб называюць МАРАЛЬНЫМІ АЎТАРЫТЭТАМІ.

Аляксей Пяткевіч нарадзіўся 30 сакавіка 1931 г. у мястэчку Новы Свержань Стаўбцоўскага павета Навагрудскага ваяводства. Пачатковую адукацыю з перапынкамі атрымаў у родным мястэчку: з 1938 г. вучыўся ў польскай школе, у 1939–1940 гг. і 1944–1945 гг. наведваў беларускую школу. Пры саветах і пад час нямецкай акупацыі быў вучнем беларускай школы. Сярэднюю адукацыю атрымаў у Стоўбцах, у адзінай на той час у горадзе сярэдняй школе № 1, рускай паводле мовы навучання. У 1949 г., пасля заканчэння школы, паступае на аддзяленне беларускай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. На той час гэта была самая прэстыжная і салідная вышэйшая навучальная ўстанова ў рэспубліцы. Сярод выкладчыкаў вылучаліся Міхаіл Рыгоравіч Ларчанка, Юльян Сяргеевіч Пшыркоў, Давід Яўсеевіч Фактаровіч, Іван Васільевіч Гутараў, Фёдар Іванавіч Куляшоў. Сапраўдным навуковым кіраўніком на доўгія гады для маладога філолага стаў дацэнт Ю. С. Пшыркоў. Ён кіраваў курсавым праектам на IV курсе – «Характар драматычнага канфлікту ў пасляваенным беларускім рамане», дыпломнай работай – «Праблема тыповага і пасляваенны беларускі раман» і, нарэшце, кандыдацкай дысертацыяй на тэму «Псіхалагічны аналіз і праблема характару ў прозе Кузьмы Чорнага», якую А. М. Пяткевіч паспяхова абараніў у 1963 г. па спецыяльнасці «літаратуразнаўства».

З 1957 г. лёс звязаў Аляксея Пяткевіча з Гроднам. Міністэрства адукацыі БССР пераразмеркавала выпускніка аспірантуры БДУ ў Гродзенскі педагагічны інстытут. *«З той пары прайшло па сутнасці цэлае жыццё ў горадзе над Нёманам. Я тут не проста прыжыўся. Я стаў гарадзенцам, для якога кожная драбніца старых вуліц і вулачак, унікальных помнікаў архітэктуры, старажытных каштанаў і ліпаў значная і дарагая. Тут выраслі ўжо мае ўнукі»*[1], – пісаў у свой час Аляксей

[1] Прафесар Аляксей Міхайлавіч Пяткевіч, *Бібліяграфічны агляд навукова-педагагічнай дзейнасці*, складальнік Ю. В. Пацюпа, Гродна 2001, с. 4.

Міхайлавіч. Так супала, што ў тым жа 1957 г. Гродзенскі педінстытут атрымаў імя Янкі Купалы. Пазней, у 1978 г., калі педінстытут быў ператвораны ва ўніверсітэт, Аляксей Пяткевіч ініцыяваў і дамогся, каб імя славутага беларускага песняра засталося на шыльдзе Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта.

Першапачаткова малады выкладчык працаваў на кафедры літаратуры, а калі ў педінстытуце ў 1968 г. была створана асобная кафедра беларускай літаратуры, стаў першым яе загадчыкам. На пасадзе знаходзіўся да 1974 г., калі вымушаны быў пад ціскам КДБ яе пакінуць. Аляксея Пяткевіча пачалі абвінавачваць у антысавецкай дзейнасці на падставе так званай справы Міколы Прашковіча.

На кафедры беларускай літаратуры Аляксей Міхайлавіч чытаў розныя курсы – вусную народную творчасць, гісторыю беларускай літаратуры, уводзіны ў літаратуразнаўства, тэорыю літаратуры, спецкурс «Беларускае мастацтва. Пытанні тэорыі і культуры». У 1969 г. атрымаў званне дацэнта, а ў 1994 г. – званне прафесара кафедры беларускай культуры. У 1971 г. А. М. Пяткевіч быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў СССР як крытык і літаратуразнаўца.

З сярэдзіны 80-х гадоў мінулага стагоддзя Аляксей Пяткевіч усё больш настойліва падымаў пытанне аб стварэнні ў Гродзенскім універсітэце кафедры беларускай культуры. Ён быў перакананы, што без ведання духоўнай спадчыны свайго народа ва ўніверсітэце не зможа сфармавацца сапраўды адукаваная асоба, інтэлігент. Нарэшце, у 1990 г. ідэя адкрыцця кафедры беларускай культуры ажыццявілася. Спачатку часова яе ўзначаліў прафесар доктар філалагічных навук Павел Уладзіміравіч Сцяцко (выпускнік Гродзенскага педінстытута), які ў гэты час перавёўся ў Гродна, не без дапамогі А. Пяткевіча, з Гомельскага ўніверсітэта. А праз год загадчыкам кафедры беларускай культуры ў Гродзенскім універсітэце стаў Аляксей Пяткевіч, і знаходзіўся на дадзенай пасадзе да 2001 г.

Мы верым, што гісторыя Кафедры беларускай культуры ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы часоў, калі ёй кіраваў праф. Аляксей Пяткевіч (1991–2001), дачакаецца свайго адмысловага манаграфічнага даследавання. Са свайго боку адзначым некалькі momantaў, сведкамі якіх былі асабіста. У тыя складаныя пераломныя часы распаду СССР і паўставання суверэннай Беларусі, дзякуючы энергіі, самаадданасці і ўпартасці прафесара Пяткевіча, дадзеная кафедра нарадзілася як першая рэальная арганізацыйная структура ў тагачаснай універсітэцкай сістэме, дзе БЕЛАРУСКАСЦЬ зрабілася нормай і каштоўнасцю. Шматлікія перашкоды ворагаў (свядомых і іх памагатых прыстасаванцаў), толькі ўзмацнялі Прафесара і яго сталых

і маладых паплечнікаў і аднадумцаў, супрацоўнікаў кафедры. Унікальнай з'явай трэба лічыць, што калектыў кафедры беларускай культуры за ўвесь час кіравання Аляксея Пяткевіча быў трывалым, не змяняўся раптоўна, што дазваляла верыць адзін аднаму і разам змагацца са шматлікімі выпрабаваннямі.

Праф. Аляксей Пяткевіч змог геніяльна спалучыць на Кафедры сталасць і маладосць, філолагаў, гісторыкаў, мастацтвазнаўцаў. Вопытныя і дасведчаныя Мікола Янкоўскі, Сяргей Габрусевіч дыскутавалі і павучалі маладых і задзірыстых Генадзя Семянчука, Янку Трацяка, Юрася Пацюпу, Эдуарда Мазько, Сяргея Токця. Мы адчувалі падзяку з боку старэйшых за энергію і няўрымслівасць. Яны падтрымлівалі нас ва ўсім. Карыснай і вельмі плённай была праца на Кафедры Аляксандра Краўцэвіча.

Асобна трэба адзначыць жаночую прысутнасць на нашай Кафедры. З першых дзён існавання Кафедры на ёй працавала Таццяна Маліноўская, прафесійны мастацтвазнаўца, на пачатку 90-х гадоў XX ст. вядомая беларуская палітычная дзяячка ў Гродне, пазней далучылася Альбіна Семянчук, спецыяліст па гісторыі і культуры Беларусі XV–XVI ст., і нарэшце, доктар гістарычных навук Святлана Куль-Сяльверстава, аўтарытэтны даследчык беларускай культуры канца XVIII – XX стст. Справа ў тым, што Аляксей Пяткевіч быў вельмі высакародным чалавекам і прывучыў нас, маладых, да шляхетных паводзін адносна жанчын, асабліва калі яны былі носьбітамі і распаўсюджвальніцамі беларускай нацыянальнай культуры.

Прафесар Аляксей Пяткевіч, як навуковы кіраўнік, падрыхтаваў двух кандыдатаў навук, якія напісалі свае працы на тэмы дагэтуль не распрацаваныя ў беларускай навуцы, абсалютна навацыйныя і нават у чымсьці антысістэмныя. Янка Трацяк абараніў дысертацыю, прысвечаную месцу і ролі Каталіцкага касцёла ў развіцці і станаўленні беларускай нацыянальнай ідэі і культуры ў 20-30-я гады XX ст., Эдуард Мазько – адну з першых у Беларусі дысертацыю, прысвечаную культурніцкай і асветніцкай дзейнасці партыі Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя ў міжваеннай Польшчы.

У навуковым плане прафесар Аляксей Пяткевіч спалучаў літаратуразнаўчыя, культуралагічныя даследаванні з рэгіяналістыкай. Ён аўтар больш за 420 навуковых, энцыклапедычных, навукова-папулярных тэкстаў і рэцэнзій. Як літаратуразнаўца А. М. Пяткевіч апублікаваў першую фундаментальную і адзіную на сённяшні дзень манаграфію *Сюжэт. Кампазіцыя. Характар: Аб прозе Кузьмы Чорнага* (Мінск, 1981), прысвечаную творчасці найбольш глыбокага беларускага празаіка сярэдзіны XX ст. Ён быў сярод аўтараў актуальных яшчэ і зараз

калектыўных манаграфій *Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры* (Мінск, 1969); *Гісторыя беларускай літаратуры XIX – пачатак XX ст.* (Мінск, 1981; 2-е выданне – Мінск, 1998), *Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя. Том 4. Кніга 2* (Мінск, 2003).

Асабліва, шмат часу праф. Аляксей Пяткевіч прысвячаў рэгіяналістыцы, у першую чаргу гісторыі культуры і літаратуры Гродзеншчыны. Фундаментальным можна назваць яго даведнік *Людзі культуры з Гродзеншчыны* (Гродна, 2000). Менавіта, у дадзенай кнізе аўтар разбурыў традыцыйныя ўяўленні пра культуру як мастацкую, тэатральную ці літаратурную дзейнасць. Ён змог сабраць звесткі пра ўсіх нараджэнцаў Гродзеншчыны, якія працавалі і працуюць у галіне адукацыі, гуманітарных, тэхнічных, медычных і біялагічных і, нават, агранамічных ведаў (маецца на ўвазе біяграфіі дактароў і кандыдатаў навук у розных сферах дзейнасці).

Праявай рэгіяналістычных даследаванняў Аляксея Пяткевіча было складанне штогадовых настольных календароў, прысвечаных асобам і гістарычным падзеям Гродзеншчыны. Для нас гэта своеасаблівыя архівы ведаў. Вельмі каштоўнымі застаюцца для распаўсюджвання беларускай культуры яго маленькія кнігі *Літаратурная Гродзеншчына. Мясціны. Людзі. Кнігі* (Мінск, 1996), *Маршруты кніжнага слова: з гісторыі кнігі, друку на Гродзеншчыне* (Варшава, 2002), *Старонкі спадчыны. Культурнае памежжа Гродзеншчыны: працэсы, з'явы, асобы* (Мінск, 2006), *Слова і кніга Прынёмання. Зборнік навуковых артыкулаў* (Гродна, 2016).

І як сапраўдны выкшталцоны чалавек Аляксей Пяткевіч пакінуў кнігу сваіх успамінаў *Водгулле з маёй дарогі* (Гродна, 2021). Гэта сапраўдная нарацыйная крыніца доўгага ўласнага жыцця аўтара, а таксама грамадска-палітычнага і культурнага жыцця Беларусі, горада Гродна і Гродзенскага дзяржаўнага педінстытута/універсітэта імя Янкі Купалы.

Праф. Аляксея Пяткевіча шмат хто ведае таксама як актыўнага грамадскага дзеяча на Гродзеншчыне, асабліва ў пытаннях адраджэння і пашырэння ўжывання беларускай мовы ў адукацыйных працэсах і штодзённым жыцці. У 1989–2002 і 2004–2020 гадах ён быў старшынёй Гродзенскай гарадской рады Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны, сябрам Рэспубліканскай рады ТБМ імя Ф. Скарыны (2002–2021), Міжнароднага камітэта беларусістаў (1990–2000), Міжнароднага камітэта славістаў (1990–1995), Міжнароднага Купалаўскага фонду (з 1991 г.), а таксама ўзначальваў гродзенскую гарадскую суполку «Ветэраны Адраджэння» (2004–2013).

